Пераклад Васіля Раманава 2014 г.

Мітрафан Доўнар-Запольскі

# Ідэалы дзекабрыстаў.

Гістарычны нарыс напісаны на аснове следчай справы.
Выдавецтва Таварыства Я. Д. Сыціна, Пятніцкая вуліца, свой дом. Масква – 1907 г.

Вялікая руская рэвалюцыя, якая праходзіць на нашых вачах, у нашым гістарычным мінулым у руху дзекабрыстаў мела адну сур’ёзную спробу вызваліцца ад іга самаўладдзя. Таемнае таварыства, сябры якога атрымалі назву дзекабрысты, на працягу амаль дзесяці гадоў рыхтаваліся да знішчэння самадзяржаўна-бюракратычнага рэжыму. Гэты рух не быў выпадковым успleскам лібералізму. Ён абапіраўся на глыбокае незадавальненне думаючай часткі рускага грамадства і меў на мэце вызваленне ўсіх станаў грамадства ад цяжкага рабства. Дзекабрысты дастаткова сур’ёзна ставіліся да належачай ім задачы. Яны ўважліва вывучалі стан сучаснай ім Расіі і імкнуліся высветліць, пры якой форме кіравання руская дзяржава зможа дасягнуць найбольшага працвітання. Такім чынам, дзекабрысты побач з крытыкай самадзяржаўнага ўладкавання, займаліся планаваннем будучага дзяржаўнага будаўніцтва. Той рэжым, супраць якога ўзнялі сцяг барацьбы дзекабрысты, з’яўляецца тым жа самым з якім змагаецца наша пакаленне. Крытыкуючы гэты рэжым з тэарэтычнага боку, дзекабрысты імкнуліся падрыхтаваць сучаснае ім грамадства да перавароту і самі рыхтаваліся да рэвалюцыі.

Погляды дзекабрыстаў на сучасны ім дзяржаўны і грамадзкі лад выклікаюць глыбокі інтарэс: апроч зацікаўленасьці, якую выклікае



ўсякая спроба вызваленчага руху, нельга забывацца і пра такі значны факт, што асяроддзе дзекабрыстаў складалася з красы тагачаснай інтыллігэнцыі, што не можа не павялічыць цікавасць да іх ідэалаў. Гэтаму пытанню, г. зн. агляду дзяржаўных і грамадзкіх поглядаў дзекабрыстаў і прысвечана наша кніга. Яна натуральна падзяляецца на дзве часткі: дзекабрысты ўважліва вывучалі тагачасны лад і, крытыкуючы яго, выказвалі сва станоўчыя погляды. Гэта – адна частка пытання. Крытыка прыводзіла дзекабрыстаў да думкі аб неабходнасьці ўсталявання ў Расіі рэспубліканскай ці канстытуцыйна-манархічнай формы кіравання. І некаторыя з іх выказалі сва погляды па гэтаму пытанню. Агляд праектаў канстытуцый складае другую частку кнігі. У якасьці ўвядзення да яе мы змяшчаем нарыс рэакцыйных паводзін урада, натуральна садзейнічаўшых руху.

Шмат якія абставіны прывялі да безпасяховасьці рэвалюцыі, наканаваная выпадковасць разбіла ўсе планы падрыхтоўваючагася перавароту. Але

наступныя пакаленні не могуць не ацаніць гэтай спробы, не могуць не аднесьціся да яе з павагай.

Усе гэтыя ўмовы ў асяродзі наступных пакаленняў выклікалі вялікі інтарэс да дзеячоў снежаньскай рэвалюцыі. Гэта, між іншым, адлюстравалася і на з'яўленні дастаткова значнай колькасьці артыкулаў і звестак, якія маюць дачыненне да гэтага руху. У апошні час гэтая цікавасць, з вельмі зразумелай нагоды, павялічылася. Але ў дастаткова шматлікай літаратуры пра дзекабрыстаў цяжка знайсьці агульны нарыс пра гэты рух: гэта асобныя артыкулы, біяграфіі, эскізы, сведчанні ці запіскі сучаснікаў. Гэта цалкам



зразумела: і цэнзурныя ўмовы нядаўняга мінулага і недасягальнасць самай галоўнай крыніцы для вывучэння снежаньскай рэвалюцыі – следчай справы аб дзекабрыстах – перашкаджалі грунтоўнаму вывучэнню гэтага руху.

Задачай гэтай кнігі як двух другіх непасрэдна з ёю звязаных, з'яўляецца жаданне даць агульны нарыс, які б характэрызаваў усе бакі гэтай выдатнай з'явы ў рускім мінулым. Пры гэтым, аўтарам была прыянята да ўвагі як існуючая літаратура пра дзекабрыстаў, так і, галоўным чынам, вывучана следчая справа, якая знаходзіцца ў дзяржаўным архіве.

Згодна з нашым поглядам, усё пытанне пра дзекабрыстаў разбіваецца на тры часткі, якія заслугоўваюць асабістага вывучэння: на *гісторыю таемных таварыстваў*, якія ладкаваліся дзекабрысты, на *гісторыю снежаньскай рэвалюцыі* і на пытанне аб *дзяржаўных і грамадзкіх ідэалах* дзекабрыстаў. Згодна такому падзелу намі будуць друкавацца тры кнігі, цесна звязаныя паміж сабой: гэтая кніга "Ідэалы дзекабрыстаў", адначасова з ёй надрукаваная "Таемныя таварыствы дзекабрыстаў" і "Снежаньская рэвалюцыя 1825 г.", якая хутка пабачыць свет.

М. Д.-З.

Масква.
5 чэрвеня 1906 г.

# Змест

Частка першая.

Перыяды рэакцыі.



Частка другая

Рускі дзяржаўны лад у асьвятленні дзекабрыстаў.

Частка трэццяя
Свабода і канстытуцыя



# Частка першая.

## Перыяды рэакцыі.

## I.
## Аракчэеў і становішча адміністрацыі.

Другая палавіна царавання імператара Аляксандра I з'яўляецца перыядам змрочнай рэакцыі. Яна пачынаецца пасьля 1812 г., хаця першыя яе адзнакі можна знайсьці і ў папярэднія гады. Праўда, і пасьля 1812 г. яшчэ часам і гучаць апошнія акорды ліберальнай палітыкі пачатку царавання, нападобе прамовы імператара пры адкрыцці польскага сойму 1818 г., нападобе праекта статутнай расійскай граматы, складзенай па даручэнню імператара Навасільцавым. Але побач з ліберальнымі заявамі, імператар усё часьцей і часьцей гаворыць аб неабходнасьці барацьбы "з сатанінскім духам", "з язвай рэвалюцыі", "з духам зла", які лунае над Яўропай. Фактычна імп. Аляксандр I стаў на чале еўрапейскай рэакцыі, паставіўшы на мэце задавіць усё тое, што было выпрацавана французкай рэвалюцыяй. Але сам кіраўнік еўрапейскай рэакцыі знаходзіўся пад вельмі вялікім уплывам разумнейшых із рэакцыянераў – Меттэрніха і Талейрана. У жыцці і ў палітыцы, нават у дачыненні да Расіі, ён ім давяраў, як асобам і яны абодва хлусілі яму, як дыпламаты. У рэлігійным стаўленні імп. Аляксандр I звярнуўся да змрочнага містытызму, выявіўся пад моцным уплывам англійскіх квакераў і асабліва

вядомай у свой час – Круднер. Аляксандр I цалкам стараніўся спраў унутранага кіравання, знайшоўшы для гэтага адданыя прылады ў асобах Аракчэева і князя А. М. Галіцына. Сам ён рэдка наведваў Пецярбург, будучы ўвесь час у паездках і усё кіраванне дзяржавай апынулася ў руках дачасніка. Пагарда да Расіі і рускіх, якая заўважалася ў Аляксандры яшчэ з маладосьці, дасягнула зараз поўнага развіцця: гаспадар ужо не саромеўся выказваць такое стаўленне да ўсяго народу

Аляксандр I быў вельмі задаволены сваёй еўрапейскай палітыкай і цалкам уцугнуўся ў яе, з уласьцывымі яму палкасьцю і настойлівасьцю. Але яго палітыка як раз і была пачаткам той нянавісьці, якая выпрацавалася ў народаў Яўропы да Расіі, якая дасягнула свайго вышэйшага напружання пры яго пераемніку і якой прасякнуты народы Яўропы амаль да апошняга часу.

Еўрапейская рэакцыя ахапіла не толькі ўрадавыя ўстановы, яна далёка зайшла ў глыбіню грамадстваў; шэраг філосафаў, публіцыстаў прысвяцілі ёй свае здольнасьці. Ліберальная думка з цяжкасьцямі прабівалася і вяла заўзятую барацьбу з рэакцыяй. Для Расіі, для рускага грамадства дванаццаты год меў такое ж значэнне як і для астатняй Яўропы, магчыма, нават больш значнае. Із вайны дванаццатага года рускае грамадства выйшла са значна павялічыўшымся нацыяльным пачуццём. Яно зрабіла із гэтай вайны і наступнага знаёмства з Заходняй Яўропай дваякія высновы. Адна частка грамадства, пры гэтым больш шматлікая, пабачыла ў Напалеоне, у “ашуканцы Буонапартэ” таго самага духа злосьці, якога сатварыла еўрапейская рэвалюцыя. Гэтая частка грамадства пачала барацьбу з праявамі рэвалюцыйнага духу, здзейсніўшы такім чынам значную падтрымку ўраду. Другая частка грамадства


зрабіла са знаёмства з еўрапейскай рэвалюцыяй іншыя высновы – менавіта: павага да ліберальных ідэй і цягаснае адчуванне таго адрознення, той прорвы, якія існавалі ў дзяржаўным уладкаванні Расіі і краін Заходняй Еўропы. Гэтая частка грамадства і склала асноўнае ядро дзекабрыстаў.

Але куды б не схіляліся ідэалы той і другй часткі грамадства, можна канстатаваць у ім адну галоўную рысу – пад’ём нацыянальнага самавызначэння. Бяспрэчна, ідэал народнасьці як у рэакцыянераў, так і ў лібералаў быў неаднолькавы. Рэакцыянеры былі задаволены мінулым і сучаснасьцю і імкнуліся толькі да знішчэння рэвалючыйнага духу. Людзі ліберальнага напрамку, з павагай адносячыся да рускай мінуўшчыны, разумелі недахопы сучаснасьці, з нянавісьцю ставіліся да усталяваўшагася ўладкавання і марылі пра такую будучыню, якая б дазволіла і ў Расіі ўсталяваць ліберальныя ўстановы нападобе заходніх.

Такім быў, у агульных рысах, настрой рускага ўрада і грамадства ў пазначаны перыяд. Спынімся на больш дакладнай характарыстыцы ракцыйнага накрунку. Ён, перш за ўсё, выявіўся ў дзеяннях ураду, затым – у настроі грамадзтва; кульмінацыйнай вышыні развіццё ракцыйнага напрамку дасягнула ў рэлігіі і ў імкненні аб’яднаць “веру з веданнем”, г. зн. імкненні зрабіць із рэлігіі

прыладу для барацьбы з ліберальнымі настроямі ў грамадстве, падпарадкаваць навуку рэлігіі.

Найбольш рэльефным выразнікам урадавай рэакцыі з’яўляецца фігура ўсемагутнага графа Аракчэева. На гэтай фігуры практычна была сканцэнтравана ўся дзейнасць урадавага механізма на працягу амаль 12-ці гадоў. Аракчэеў не вучыўся дзяржаўнай мудрасьці нават на прыкладах рэакцыянераў Заходняй Еўропы. У яго асобе мы сустракаемся з прыкладам рускай рэакцыі свойго гатунку; ён і праводзіў сваю палітыку ў “рускім

-6-

дусе”, без усякій запазычанняў і вычурнасьцей еўрапейскай рэакцыі.

Біяграфічная даведка найлепшым чынам можа растлумачыць нам тую рэчаіснасць, якая ўсталявалася ў дзяржаве пры гэтым фаварыце.

Аляксей Андрэевіч Аракчэеў у перыяд сваёй магутнасьці любіў гаварыць, што ён вучыўся на медныя грошы ў вясковага дзячка: “Я чалавек не вельмі адукаваны, бедны дваранін”. Гэта не зусім адпавядае рэчаіснасьці. Аракчэеў паходзіў із асяроддзя сярэдніх па свайму дастатку дваран Наўгародзкай губерніі. Ён сапраўды пачаў навучанне ў вясковага дзячка, як гэта было і ў сем’ях большасьці сярэдніх рускіх дваран. Ў 1873 годзе ён паступіў у артылерыйскі і інжынерны шляхецкі корпус. У той час корпус узначальваў вядомы генерал Масселіно, які зрабіў шмат карыснага як для рускай артылерыі, так і для росквіту самаго корпусу. На той час корпус мог даць дастаткова добрую адукацыю. Але ў сферы выхавання корпусная педагогіка прытрымлівалася нязменнага прынцыпу – падпарадкаванне начальству; і пры мяккім Масселіно дубцы і іншыя суровыя пакаранні лічыліся найлепшым сродкам для выхавання.

Ужо ў корпусе Аракчэеў уразіў сваіх выхаўнікоў тымі якасьцямі, якія ў далейшым дапамаглі зрабіць яму дзяржаўную кар’еру: дакладнасць, выканаўчасць і звярынае стаўленнае да кадэтаў, якіх ён узначальваў у якасьці старэйшага. У 1787 годзе мы бачым Аракчэеева афіцэрам і настаўнікам арыфметыкі і геаметрыі ў тым жа корпусе.

У Аракчэева быў моцны заступнік у асобе Салтыкова; па рэкамендацыі апошняга ён станавіцца адзьютантам Мессаліно. Але кіраўнік корпусу быў свецкім чалавекам, і імкнуўся падабраць сабе такіх жа адзьютантаў; пагэтаму надуты служака яму не вельмі падабаўся.

-7-

Прыдумваючы найлепшы сродак з дапамогай якога ён мог бы пазбавіцца ад навязанага яму адзьютанта, Мессаліно рэкамендуе Аракчэева вялікаму князю Паўлу Пятровічу ў яго Гатчынскае войска. Туды вельмі часта прызначаліся афіцэры якіх патрэбна было выдаліць з вачэй нейкага кіраўніка пад прыкрыццём ганаровай нагоды.

Тут таленты Аракчэева знайшлі сабе шматбаковае прымяненне: ён хутка разумеў загады, хутка выконваў іх, не спыняючыся перад самымі жорсткімі захадамі. Ні з кім асабліва не сябруючы, Аракчэеў увесь аддаўся служэнню і хутка зрабіўся правай рукой спадкаемцы. Не дарма пазней ён атрымаў мянушку гатчынскі капрал. Бяспрэчна, ён хутка рос у чынах. Яго звыклай тактыкай было

ўвесь час спаганяць з падначаленых і засыпаць спадкаемцу, а потым і імператара шматлікімі дробязнымі данясеннямі. Усе былі дрэннымі, акрамя яго самаго. Яго любімай прымаўкай было: "Толькі тое і робіцца, што із пад палкі". "Вы б хоць мімаходзь каго-небудзь пахвалілі", гаварыў яму Катлабуцкі.

Аракчэеў сам вельмі шмат працаваў і імкнуўся і іншым надаваць як мала больш даручэнняў. Будучы генерал-квартырмейстэрам пры Паўле, ён прымушаў афіцэраў з 7 гадзін раніцы да 7 гадзін вечара перапісваць старыя нікому непатрэбныя планы. Аракчэеў з захапленнем аддаваўся любімаму занятку імператара Паўла – страявому навучэнню. Для жаўнераў гэта было цяжкае навучэнне: не гаворачы ужо пра лаянку, генеральскі бізун безперастанна праходзіў па шэрагах. Пад час вучэнняў Аракчэеў быў не толькі жорсткі, а часта выяўляў адзнакі звярынай лютасьці. Ён вырываў вусы жаўнерам і на першым жа разводзе ў прысутнасьці імператара Паўла адкусіў аднаму жаўнеру вуха. Пры вызначэнні пакаранняў Аракчэеў не ведаў меры. Сотня палак за невыкананне якой-небудзь дробязі ў шыхце ці казарме, прагнанне дзесятак разоў цераз тысячу шпіцрутэнаў – былі звычайнымі пакараннямі.



У дачыненні да афіцэраў грубасць Аракчэева даходзіла да аплявух у шыхце.

Нават імпратар Павел дзівіўся жорстскасьці свайго ўлюбёнца. Пры усім гэтым Аракчэеў быў баязліўцам і за ўсё сваё жыццё ніводнага разу не быў на тэтры ваенных дзеянняў, - амаль адзіны выпадак сярод афіцэраў і жаўнераў таго часу.

Гэты чалавек, здаецца, меў усе якасьцямі, каб адштурхоўваць ад сябе людзей. Нават знешні выгляд графа выклікаў не вельмі прыемныя пачуцці. "Постаць графа, - сведчыць адзін сучаснік, - якога я тады пабачыў, уразіла мяне сваёй непрывабнасьцю. Уявіце сабе чалавека сярэдняга росту, сутулага, з цёмнымі і густымі, як шчотка, валасамі, нізкім хвалепадобным ілбом з невялікімі і халоднымі вачамі, з тоўстым, не вельмі вытанчаным носам, нападобе бата, дастаткова доўгім падбародкам і шчыльна сціснутымі губамі, на якіх здаецца ніхто ніколі не бачыў усмешкі ці ўхмылкі; верхняя губа была чыста аголенай, што надавала яго твару яшчэ больш непрыемны выраз". Другі сучаснік, Лубяноўскі, карацей апісвае постаць графа: ён быў падобны "на маленькую малпу у мундзіры", а ў яго шэрых вачах і ва ўсім выразе твару свяцілася "дзіўная сумесь розуму і лютасьці".

Пры такой не прывабнай знешнасьці Аракчэеў быў вельмі ахвочым да жанчын. У яго бібліятэцы можна было знайсьці кнігі кшталту: "Палюбоўнікі і адружаныя", ці "Мужчыны і жанчыны і тое і гэтае", ці "Чытай, думай і магчыма злюбіцца", " Пяшчотныя абдымкі адружаных і пацехі з палюбоўніцамі"; нават посуд у Грузіне сведчыла аб гусце гаспадара. На ёй сустракаліся малюнкі нападобе наступных: "Каханне ў табакерцы", "Венера ў бойцы", "Каханне прымушае танчыць трох грацый"



і г. д. Дарэчы, побач з кніжкамі лёгкага зместу на палічках бібліятэкі Аракчэева сустракаліся ў вялікай колькасьці і іншыя кнігі: "Сеяцель пабожнасьці да карысьці

жывых сучаснасьці і будучыні, ці высокая хрысьціянская маральнасць", "Шлях да безсмяротнага сужыцця анёлаў", "Аб жалобе галубіцы ці аб карысьці слёз", "Вялікапостны канфект" і г. д.

Не гледзячы на дзіўную цьвёрдасць характару і магутнасць волі, Аракчэеў сам паддаўся ўплыву вядомай Настассі Мінкінай.

Колькі б нам ні паведамлялі цікавых асаблівасьцей складу характару Аракчэева, але мы не высветлім яго сабе без знаёмства з Азакчэевым, як землеўладальнікам Грузінскай вотчыны. Грузіна было падаравана Аракчэеву імператарам Паўлам. Тут у сваёй гаспадарцы Аракчэеў мог праявіць сябе, выявіць усе свае нахільнасьці, густы, яшчэ значна раней таго моманту, калі пачаў кіраваць дзяржавай. Уладкаванне Грузінскай вотчыны – прататып таго ўладкавання (толькі ў значна меншым маштабе), якія Аракчэеў у будучым усталяваў па ўсёй Расіі. Тагачасны памешчык быў маленькім царком у сваёй вотчыне і мог ладзіць сваё заканадаўства ў дачыненні да сваіх рабоў-сялян.

Перш за ўсё, Аракчэеў быў вельмі пуктуальным гаспадаром. Для запімінання ён заўсёды пазначаў у сябе, калі, дзе і якая набыта рэч, нават самая дробязная. Людзі павінны былі даваць яму справаздачу асобнымі рапартамі аб захаванні кажнай рэчы. Аракчэеў быў вельмі скупы, нават ў перыяд росквіту сваёй дзяржаўнай магутнасьці знаходзіў час для продажу свайго старога фрака.

Усё жыццё грузінскага маёнтка і ўсіх вернападданых рабоў графа было строга рэгламентавана. Для сялянскіх пабудоў быў выпрацаваны



аднатыпны праект і ўся вёска была пабудавана згодна гэтага праекту. Жыццё вёскі рэгулявалася мноствам пісьмовых загадаў графа і нават надрукаваным складаным рэгламентам. Згодна гэтага рэгламента, напрыклад, вуліцы павінны былі быць пастаянна прыбранымі і чыстымі. Для дасягнення гэтай мэты згодна графскага загаду ад 1815 году забаранялася сялянам нават трымаць свінней. Пасярод палеткаў і лясоў вотчыны была праведзена шаша. Нават была выдадзена цэлая ўстава пра мяцёлкі, якімі прыбіраліся вуліцы. Загады змяшчалі ў сабе дакладныя пастановы адносна сялянскіх хат, калі і чым фарбаваць дахі, летам забаранялася паліць печ у хаце (летнія печы былі пабудаваны на двары), ложкі павінны былі быць абавязкова з занавескамі, а вокны павінны былі быць адчыненымі толькі ў вызначаныя гадзіны; штодзённа павінны былі падмятацца машчэнні; былі размеркаваны абавязкі ў сялянскай сям'і: старэйшая гаспадыня абавязана была глядзець за быдлам і інш.; сялянская сям'я павінна была трымаць вызначаную графскай пастановай колькасць быдла. Аракчэеў хваляваўся і пра дабрабыт сялян, нават, уладкаваў мірскі банк.

Рэгламнтамі графа былі ахоплены ўсе бакі сялянсканга жыцця. "У мяне ўсякая баба, - піша граф у адным загадзе, - павінна кожны год нараджаць і лепш сына, чым дачку. Калі ў каго народзіцца дачка, то будзе плаціць штраф. Калі народзіцца мёртвае дзіця ці баба выкіне – таксама штраф. А калі ў нейкі год не народзіць, то павінна даць дзесяць аршын точыва (палатна)". Аракчэеў не пераносіў наяўнасць у сваёй вотчыне не жанатых сялян і ўдовых. Штогадова да першага студзеня яму складалі спіс не адружаных сялян і сялянак. Із гэтых спісаў

ён вызначаў каго адружыць, часам і з кім. Калі хто-небудзь із прызначаных адружыцца не згаджаўся, то ішоў кароткі загад “пагадзіць”. Некаторыя яго рэзалюцыі вельмі арыгінальныя; у адным выпадку



на прашэнне аб дазволе адружыцца сустракаем: “не дазваляем праз грубасць брата”. Для грузінскіх сялян адружная павіннасць была не лёгкай. Аракчэеў вельмі не любіў, калі ігнаравалі яго загад аб нараджэнні дзяцей. Сустракаем запіску аб прабачэнні нават ад дварэцкага, так сказаць, першага міністра ў вотчыне, такога зместу: “У мяне, ваша светласць, нарадзілася дачка і я баюся паведаміць аб гэтым, таму што насуперак майму жаданню нарадзілася дачка, а не сын”.

Гру̀зінскі вотчыннік, здаецца, быў задаволены лічбай нараджальнасьці, але з цяжкасьцю змагаўся са смяротнасьцю немаўлят. Ён выдаў “Кароткія правілы для маці-сялянак Грузінскай вотчыны”. Гэта друкаваная кніжка складаецца із уступнай часткі і 36-ці параграфаў павучэнняў, большай часткай элементарных правілаў гігіены дзіцячага ўзросту. Кніжка павінна была быць прачытана ўсім бабам вотчыны, ва ўсякім разе, адзін раз за месяц. Больш таго, святар павінен быў прачытаць бабе гэтую кніжку пры хрышчэнні немаўляці. За выкананнем гэтых настаўленняў назірае старшыня вёскі, абыходзіць хаты, аглядае калыскі і ражкі і, наогул, строга заахвочвае матак выконваць правілы.

Згодна тагачаснага разумення памешчыкаў-прыгоннікаў, Аракчэеў павінен быў лічыцца добрым гаспадаром: ён імкнуўся ўсімі спосабамі здабыць прыбытак са сваіх сялян. Ён навучаў дваровых хлопчыкаў для таго, каб здаваць майстаў у найм за добрыя грошы; без сарамлівасьці паднімаў аброк са сваіх сялян і паспеў за дваццаць гадоў (1797-1818 гады) падвоіць яго, падняўшы з дзевяці да васямнаццаці рублёў з душы.

Складанае заканадаўства Гру̀зінскай вотчыны не было для сялян пустым гукам. У Аракчэева была наладжана



складаная сістэма даносаў і назірання за сялянамі. Усякае парушэнне правілаў каралася з вы танчанай жорсткасьцю, якая нават для таго часу была незвычайнай. Аракчэеў патрабаваў, каб вотчынны галава ў кожнай вёсцы меў надзейных людзей для таемнага назірання за паводзінамі сялян. Ён усімі шляхамі заахвочваў даносы, пры гэтым графскія рэскрыпты былі міласьцівымі да даносчыкаў і тлумачылі ім богаўгоднасць іхных учынкаў. “Патрэбна і заўсёды быць такім, - піша граф аднаму даношчыку, - і пра ўсё даносіць, што ёсць дрэннае. Такая старанная служба і Богу прыемна і мной не будзе пакінута без узнагароды”.

Як ва ўсім, Аракчэеў быў дакладным і ў сістэме пакаранняў, якія запісваліся ў асобны журнал. Акрамя таго, у кожнага із дваровых была ў кармане асобная “вінная кніжка”, у якую запісваліся ўсякія дробныя правіны.

Лаянка і асбістае ўздзеянне графа былі самымі лёгкімі пакараннямі. Ён часта выкарыстоўваў высылку сялян на цэлыя тыдні на кірпічныя заводы, на жанчын і дзевак апранаў самае грубае адзенне, на шыю рагатку і ў такім

выглядзе прымушаў іх маліцца ў царкве перад народам. У Грузіне ў графскім арсенале заўсёды меліся дзежкі з расолам, у які мачыліся дубцы і палкі. Для пакарання дваровых у яго існавала такая градацыя. За першую віну ён караў дваровых на канюшні; за другую ён накіроўваў у Прэабражэнскі полк, дзе вінаватага каралі асобнымі "аракчэеўскімі" палкамі; за трэцюю віну пакаранне выконвалася перад кабінетам графа асобнымі

-13-

спецыялістамі: гэта было самае жудаснае катаванне. Не гледзячы на тое, што градацыя пакаранняў была строга вызначанай і каты не асьмеліліся б яе парушыць, Аракчэеў не забываўся ў кожным асобным выпадку нагадаць, што караемага патрэбна "добра высякці". За фізічным пакараннем ішло маральнае. Пакараны пісаў графу ліст, у якім "нікчэмны злачынец" выказваў смутак з нагоды сваёй віны і даваў абяцанне, што "паскудны і вернападданы раб", выправіцца.

Пры ўсёй сваёй жорсткасьці Аракчэеў выказваў схільнасць да сентыментальнасьці: яму падабалася слухаць спевы салаўя, і для іхнай аховы ў 1817 годзе быў выдадзены загад графа павесіць у Грузінскай вотчыне ўсіх кошак.

Каб зразумець, у якім становішчы знаходзілася тады дзяржава, патрэбна ўявіць, што Аракчэеў з прыёмамі грỳзінскага вотчынніка пачаў кіраваць дзяржавай.

Але, перш за ўсё, выклікае цікавасць пытанне: што набліжала імператара Аляксандра І да свайго дачасніка і што надавала давер да Аракчэева з боку імператара? Тут, перш за ўсё, патрэбна адзначыць старыннае сяброўства абодвух. Яшчэ будучы гатчынскім капралам, Аракчэеў паспеў зрабіць некалькі паслуг Аляксандру Паўлавічу. Лісты апошняга не пакідаюць ніякіх сумненняў у яго сяброўскіх пачуццях: гэта чуллівыя сяброўскія лісты, у якіх вялікі князь называе Аракчэева не інакш як "сябар", выказвае "вялікае нецярпенне" пабачыцца з ім і г. д. Гэта было вельмі інтымнае сяброўства, аб якім ведаў толькі Павел. Ужо пад час агоніі імператрыцы Кацярыны ІІ Павел, аб'яднаўшы рукі Аляксандра і Аракчэева, сказаў абодвум "Будзьце заўсёды сябрамі". Дарэчы, ліберальнічаючы нашчадак пасаду пры гвардзейскіх афіцэрах называў Аракчэева не інакш, як нягоднік. Прадказанне Паўла

-14-

збылося. У 1820 годзе імператар Аляксандр І меў поўнае права пісаць свайму сябру: "Дваццаць пяць гадоў маглі табе даказаць шчырую маю прыхільнасць да цябе і што я не пераменлівы".

Акрамя старыннага сяброўства ў абодвух былі і яшчэ матывы для цеснага зблізкэння. Аракчэеў быў ці не адзіным генералам блізкім да імператарскай сям'і і выявіўшымся "чыстым душой і целам" у дачыненні да начнога здарэння 11 сакавіка 1801 года. Аляксандр І не задавальняўся адданасьцю вернападданых самаўладнага гаспадара: ён шукаў асабістых прыхільнасьцей. Аракчэеў і быў менавіта асабістым сябрам гаспадара, выказваючы "сабачую адданасць", як яе ўжо тады характэрызавалі. Калі ў 1812 годзе шмат хто із саноўнікаў звярнуліся да Аракчэева з прашэннем уздзейнічаць на гаспадара ў сэнсе выдалення імператара із дзейнічаючага войска, даказваючы, што ў адваротным выпадку

айчына будзе знаходзіцца ў вялікай небяспецы, Аракчэеў шчыра ўсклікнуў: “Што мне айчына! Скажыце, ці ёсць небяспека для гаспадара?”

Не толькі характарам сваёй прыхільнасьці, але і іншымі рысамі Аракчэеў адрозніваўся ад натоўпу прыдворных і менавіта тымі якасьцямі, якія шанаваў Аляксандр І. Гаспадара атачалі людзі, якія ў блізкасьці ад гаспадара шукалі задавальнення свайго славалюбства ці карысталюбства. Да такіх прыдворных Аляксандр І ставіўся з пагардай. Аракчэеў не быў карысталюбівым, задавальняючыся параўнальна невялікай Грузінскай вотчынай. Яго нельга абвінаваціць у казнакрадстве, што тады было вельмі распаўсюджана. Кіруючы ўсёй дзяржавай, што бачылі ўсе, ён аднак, не засцілаў асобу імператара. Біяграфія Аляксандра І паўніцца шматлікімі фактамі, што імператар цаніў і шанаваў такія яго адносіны да сябе.

-15-

Але, акрамя таго, сябры мелі шмат агульнага ў сэнсе густаў. Іх аб’ядноўваў перш за ўсё культ імператара Паўла і нянавісць да Кацярыны ІІ. Абодва былі прыхільнікамі муштры жаўнераў і толькі ў ёй адной бачылі задачу ваеннай справы. Яны абодва цанілі дакладнасць, выканаўчасць і самі былі такімі ж. Пры ўсім гэтым, Аракчэеву нельга адмовіць у здольнасьці прыстасавацца да густаў свайго высокага сябра; у першыя гады ліберальнага кіравання Аракчэеў выказвае вялікую пяшчоту да прыгнечаных, нават піша праект, які схіляўся да палягчэння прыгоннага права: у другой палавіне ён схіляецца да містытызму.

Вось тыя якасьці, якія аб’ядноўвалі імператара і дачасьніка. Стаўшы ўсемагутным, гэты, згодна выказвання Карамзіна, “шкоднейшы чалавек у дзяржаве”, затуліў сваёй постаццю Расію ад гаспадара. Нават у рускай гісторыі цяжка знайсьці іншы прыклад такога бязмежнага і працяглага даверу да дачасніка. Аляксандр І цалкам ухіліўся ад кіравання дзяржавай. Дзяржаўная Рада згубіла ўсякае значэнне. Міністры не мелі доступу да гаспадара за выключэннем Несельродэ і кн. Ваўконскага. Толькі паклон перад Аракчэевым мог даць магчымасць міністру прыйсьці з асабістай справаздачай да імператара. Аб прыватных асобах няма чаго  і гаварыць. Сенцы дачасніка сталі цэнтрам куды пачынаючы з чатырох часоў раніцы сходзіліся ўрадавыя асобы і магнаты дзяржавы. Уся дзяржаўная дзейнасць накіроўвалася Камітэтам Міністраў, старшынёй у якім быў граф Аракчэеў. Адзнакі гаспадара на пратаколах паседжанняў Камітэта добра тлумачаць становішча ракчэева. Большая частка артыкулаў, пратаколаў змяшчаюць адзнакі Аракчэеева аб яго згодзе ці не згодзе з пастановамі Камітэта

-16-

Міністраў і над гэтымі адзнакамі сустракаюцца аналагічныя запісы гаспадара.

Уплыў Аракчэева адчуваўся ва ўсім уладкаванні дзяржавы, у падборы ўрадавых асоб і выдаленні тых, хто яму не падабаўся. Аракчэеў дзейнічаў цераз гэтых прызначаных ім асоб. Самай непасрэднай праявай яго дзейнасьці былі ваенныя паселішчы.

Мы пазнаёмімся з гэтым бокам дзейнасьці тагачаснага ўраду, так як яна з’яўляецца характэрным адлюстраваннем усяго рэжыму.

Ідэя ваенных паселішчаў не была цалкам новай. Яна заўважаецца ў розумах шмат якіх асоб канца XVIII ст. і пачатку XIX ст. Асноўныя рысы паселішчаў можна знайсьці ў нататках імператара Паўла, у польскага публіцыста Сташыца, нарэшце, ва ўладкаванні аўстрыйскай ваеннай мяжы. Ў Расіі ваенныя паселішчы былі ўладкаваны згодна ідэі самаго імператара Аляксандра I.

У 1825 годзе з’явілася брашура знакамітага Сперанскага аб ванных паселішчах. У гэтай брашуры пазначаны падставы ўсталявання паселішчаў і выгады, якія вынікаюць ад іх усталявання. Сярод падстаў, якія прывялі да ўладкавання паселішчаў аўтар пазначае: нязручнасць рэкруцкіх набораў, неабходнасць разарвання сям’і пры забіранні ў жаўнеры, непрытульнасць жаўнераў пасьля адбывання службы, шкода, якую робяць земляробству і прамысловасьці наборы, нарэшце, цяжкасьці для дзяржавы ўтрымліваць войска. Сярод пераваг ад паселішчаў пазначаны: змяншэнне дзяржаўных выдаткаў на ўтрыманне войска, павелічэнне сялянскіх дзялянак, пераход гэтых дзялянак ва ўласнасць сялян і, нарэшце, той факт, што жаўнер не адрываецца ад гаспадаркі і сям’і. Аале гэта ідэальны бок справы. Сутнасць была не ў ідэі, а ў той практыцы з дапамогай якой уладкаўваліся ваенныя паселішчы



і якая была ўсталявана для падтрымання парадку ў саміх паселішчах. Паселішчы пачалі стварацца ў 1810 годзе ператварэннем Бабылецкага староства Магілёўскай губерніі ў ваеннае паселішча. З 1816 года ваенныя паселішчы сталі ладкавацца паўсюдна. Галоўным іхным штабам выявілася Наўгародзкая губернія. Уладкаванне паселішчаў праводзілася з вялікай таемнасьцю, што нараджала трывожныя чуткі ў сялянскім асяроддзі. Для апошніх было зразумела толькі адно, што іх забіраюць у жаўнеры. У Халынскай воласьці паспольства вырашыла не выконваць загад Аракчэева і не пускаць у воласць “прэхітраснага чалавека немца Бухмара”. Было напісанна прашэнне на імя гаспадара аб “абароне хрышчонага народу ад Аракчэева”, але яно не мела поспеху і ўся справа закончылася жорсткай расправай. Пры ўладкаванні паселішчаў на поўдні таксама не абышлося без народных бунтаў: вынікам Чугуеўскага непадпарадкавання было 245 асуджаных на смяротнае пакаранне, над якімі Аракчэеў, дарэчы “злітаваўся”, прызначыўшы прагнаць іх дваццаць разоў скрозь тысячу , г. зн. імгненную смерць замяніў на павольнае катаванне, якое для шмат каго із пакараных скончылася смерцю. У 1825 годзе ваенных паселішчаў было: 90 наўгародзкіх батальёнаў, 36 батальёнаў і 249 эскадронаў слабадзкіх украінскіх палкоў.

Галоўнае кіраўніцтва пасяленчаскім войскам было даручана самаму Аракчэеву. Рэгламенты для пасяленчаскага батальёна з’яўляюцца аналогіяй заканадаўства Грўзінскай вотчыны. Ад бліжэйшых сваіх памочнікаў і падначаленых Аракчэеў патрабаваў безумоўнага падпарадкавання. Не кажучы ўжо аб магутнасьці Аракчэева, ён меў асобны сродак для ўздзеяння – бланкі з подпісам гаспадара: на гэтых бланках Аракчэеў, згодна яго асабістага прызнання, мог напісаць як тое што асоба пазбаўляецца ўсіх чыноў і высылаецца ў Сібір, так і тое, што асоба ўзнагароджваецца чынамі і ардэнамі.

Аракчэеў патрабаваў безумоўнай строгасьці ў адносінах паміж кіраўніком і падначаленым. І гэтая строгасць была непахіснай. Панаеў у сваіх успамінах піша: “Галоўным правілам было, што ўсе сродкі добрыя, толькі б было выканана даручэнне кіраўніка. Шпіёнства з аднаго боку і заахвочванне да даносаў ніжэйшых чыноў на бліжэйшых іхных кіраўнікоў, калі было жаданне замяніць іх, з другога – цакам паслабілі ўсю дыстыпліну і сувязь паміж кіраўнікамі і падначаленымі”. Нельга было знайсьці абароны ні ў каго: усюды панавала самавольства. Афіцэры і кіраўнікі былі спутаны шматлікімі рэгламентамі. Аракчэеў самастойна кантраляваў парадак у афіцэрскіх пакоях. Згодна паведамлення тагачаснага лекара, нават была наперад рэгламентавана колькасць захварэшых.

Жыццё сялян і жаўнераў было строга рэгламентавана. Сяляне былі ператвораны ў жаўнераў, атрымалі амуніцыю і зброю. Жаўнеры былі размешчаны сярод сялян і атрымалі земляробчыя прылады. Для першых было цяжкім прыстасавацца да вайсковай муштры, другія ж страцілі ўменне карыстацца сахой. Хлопчыкаў забіралі з сямей і аддавалі ў асобныя школы кантаністаў.

Знешні выгляд вайсковых паселішчаў мог здзівіць сваім добрым ўпарадкаваннем. Вёскі былі пабудаваны згодна асобнага праекта. Хаты былі падобнымі адна на адну, вылучаліся чысьцінёй і нават некаторай прыгажосьцю пабудовы. На вокнах абавязкова былі занавескі. Вуліцы шасіраваны і абавязкова чыста падмецены. У паселішчы былі бульвары, шпіталі, багадзельні, школы, займавыя банкі. Сялянам былі нададзены вялікія дзялянкі зямлі, выдадзена быдла і ваенная амуніцыя. Але гэта была толькі знешнасць. Пры пабудове паселішчаў не бралася да ўвагі якасць мясцовасьці і прыдатнасць яе да земляробства. Згодна апавядання пасяленчаскага афіцэра Мартаса, пад



пасяленні часта аддаваліся не зручныя для земляробства землі. Довадзілася асушваць нізіны і карчаваць зараслі. У мясьцінах, дзе раней магло пракарміцца 720 душ, была паселена яшчэ тысяча. Дзялянкі выявіліся вельмі аддаленымі ад паселішча. У выніку, такія паселішчы не маглі самі сябе пракарміць і не адны жаўнеры, а ўсё насельніцтва апынулася на казённым забеспячэнні.

Сяляне былі падпарадкаваны ваенным правілам і падлягалі кіраванню афіцэраў. “Сяляне былі падпарадкаваны мне, - піша Мартас, - яны выйшлі з якога-небудзь падпарадкавання грамадзкай уладзе: я здзяйсняў як суд так і расправу”. Зямля і рухомая маёмасць аддаваліся ў поўную “ўласнасць”, але пасяленец павінен быў добра сябе паводзіць і абавязкова адружыцца, інакш батальённы камандзір мог забраць маёмасць. Так як было пажаданым як мага больш памножыць будучых пасяленцаў, то справа адружання была пад асобым наглядам Аракчэева. У адным са сваіх загадаў ён піша: “Сабраць звесткі аб усіх дзеўках, якія дасягнулі патрэбнага ўзросту, а таксама аб удовах. Забараніць вяселлі без майго дазволу, а пра ўсе вяселлі даваць мне справаздачы згодна вызначанай формы; дазваляецца дзеўкам і ўдовам адружвацца і без майго

дазвалення з аднымі толькі жаўнерамі, якім даваць на вяселле па 25 рублёў і даваць справаздачу мне".

Усякі крок жаўнера-селяніна быў прадугледжаны нейкай інструкцыяй. Штодзённа унтэр-афіцэры раніцай аглядалі ўсе двары, кантралюючы чысьціню. Вокны павінны былі адчыняцца толькі ў вызначаныя гадзіны. Лучына забаранялася для карыстання. Ложкі павінны былі быць з занавескамі. Усе рэчы пасляніна, гаворыцца ў інструкцыі, павінны знаходзіцца на вызначаных для іх месцах. Прыбіранне вуліц, падмятанне снегу, рамонт бульвараў і тратуараў, нават працэдура выгану быдла ў поле –

-20-

усё было вызначана якім-небудзь правілам. Ноччу вуліцы патрулявалiся.

Сяляне адказвалі за кожны непаладак. Загарэлася праз неасьцярожнасць бабы хата – рэзалюцыя начальніка: "бабу добра пабіць бізунамі".

Знешне ў паселішчах уладарылі аднастайнасць і заліхвастасць: нават пячныя заслонкі былі з амурамі. Пры наведванні імператара ладзіліся парадныя абеды ў хатах: паджаранае парася ці гусак па задворках пераносіліся із адной хаты ў другую. Аракчэеў хацеў уплываць на публіку і зрабіць яе прыхільнай да ваенных песелішчаў і з гэтай мэтай выдаваў журнал "Семідзённы лісток ваеннага пасялення вучэбнага батальёну грэнадзёрскага графа Аракчэева палку".

Вяльможныя асобы, якія паддобрываліся да Аракчэева, ухвалялі яго мудрасць пры ўладкаванні ваенных паселішчаў. Але тагачаснае грамадства і гісторыя зрабілі іншы прысуд. Ваенныя паселішчы былі самым жудасным відам рабства. Наколькі яно было цяжкім, даказваюць вялікія адсоткі смяротнасьці (10%) і самагубстваў у асяроддзі пасяленцаў ("апаплексічныя ўдары" афіцыйных рапартаў), нарэшце, псіхічныя захворванні (меланхалія, згодна рапартаў). Ваенныя пасяленні для дзяржавы каштавалі вельмі дарага і не толькі таму, што патрабавалі вялікіх казённых выдаткаў, але яшчэ і таму, што адрывалі шмат людзей ад земляробства, а жаўнераў – ад ваеннай справы. Ваенныя пасяленні ўтварылі касту, небяспечную для спакою ў дзяржаве. Страшны бунт у ваенных пасяленнях у 1831 годзе, які прывёў да мноства ахвяр як з аднаго, так і з другога боку, быў адказам з боку пасяленцаў на тыя ўціскі і жорскія адносіны, якія яны адчувалі.

Іншыя бакі дзяржаўнай дзейнасьці за час Аракчэеўскага перыяду прыйшлі ў заняпад.

Становішча адміністрацыі і падуладнага ёй насельніцтва былі далёка не самымі лепшымі. Правінцыяльная адміністрацыя

-21-

карысталася амаль поўнай безкантрольнасьцю – хабарніцтва і розныя ўціскі, наогул характэрныя для рускага ўладкавання, дасягнулі непамернай велічыні; такая рэчаіснасць даказваецца не толькі сведчаннямі сучаснікаў, але і афіцыйнымі дакументамі – сенатарскімі рэвізіямі. Гэтыя рэвізіі, напрыклад, далі падставу для выдання Сенацкага Загаду 1814 г. Гэты Загад сведчыць, што губернатары кіруюць губерніямі без ведама губернскай управы "сваёй адной асобай", парушаюць законы, бяруць удзел у судовых справах; цікава, што

Сенацкі Загад забараняе губернатарам весьці прыватнае ліставанне з зацікаўленымі асобамі для таго каб перашкодзіць хабарніцтву.

Асобныя факты ўражваюць. Кастрамскі губернатар Пасынкаў абвінавачваўся па 22 справах; усё гэта хабарніцтва, незаконныя паборы з насельніцтва; тульскі губернатар Багданаў абвінавачваўся па 8 справах, сярод якіх знаходзім перавышэнне ўлады, незаконныя паборы з насельніцтва і розныя крадзяжы. Самавольства і самаўладдзе губернатараў не ведала межаў. Тамбоўскі губернатар Безабразаў патрабаваў паставіць яго выяву ў зале дваранскага сходу, як "збавіцелю горада Тамбова ад злодзеяў". Пры рэвізіі Наўгародзкай губерніі сенатар Мясаедаў знайшоў, што ў рэкруты із казённых сялян аддаваліся людзі хворыя і да службы не прыгодныя. Вышэйшыя загады не выконваліся на працягу 10-ці гадоў; за губерніяй налічвалася шмат недаімак і галоўным чынам за трымальнікамі піцейных збораў; земскія суды хапалі людзей толькі за падазрэнне ў здзяйсненні злачынства і закоўвалі ў кандалы. Той жа сенатар Мясаедаў быў вымушаны быў аддаць пад суд у Курску 300 чыноўнікаў. Горшым за ўсіх было становішча сялян. "Мы зараз, - скардзіліся ніжнегародзкія сяляне, - зрабіліся горш чым жабракі праз нашых сакратароў і загадчыкаў. Хто толькі да нас у вёску ні



заедзе, той што хоча тое і бярэ з нас. А скардзіцца няма каму: адзін другому патакае і нідзе немагчыма знайсьці ні суду ні праўды". Сапраўды, у судах панавалі маруднасць у вырашэнні спраў і вялізнае хабарніцтва.

Гаспадар усю сваю ўвагу – калі ён наведваў Расію – звяртаў на ваенную справу, але яна выяўлалася ў нікому не патрэбнай жаўнерскай маршыроўцы, выцягванні насоў і інш.

Ваенная служба тады была вельмі цяжкай, а пакаранні жаўнерам і афіцэрам раздаваліся з вялікай лёгкасьцю. Барон Розен у сваіх нататках апавядае аб тым, якія тады выяўляліся ведальнікі муштроўкі. Барон Розен, тады малады афіцэр, паказваў сваю роту аднаму такому віртуозу, палкоўніку Люцэ. Ён знайшоў роту Розена добрай, але з недахопамі ў стойцы і даў параду маладому афіцэру: "Пад час стойкі загадайце людзям прыціснуць, сціснуць заднія шчокі і той жа час будзе іншая стойка і выпраўка". Той жа палкоўнік Люцэ знайшоў недахопы пастраення батальёна ваяваўшага генерала Бістрома, таму што, калі батальён стаіць на месцы, "заўважаецца дыханне жаўнераў, відаць што яны дыхаюць".

Нават генералы прыходзілі ў адчай. "Адзін вучэбны крок, - піша генерал Сабанееў, - і амуніцыя задушыла ўсіх, ад камандзіра, да самага ніжэйшага чыну... Якое ж мучэнне простаму жаўнеру... Вось дзе ціранства".

Патрэбна толькі пазнаёміцца з літаваннем генералаў Закрэўскага і Кісялёва, каб пераканацца ў тым наколькі прыгнятаючым чынам дзейнічалі на іх правілы ваеннай муштроўкі. Адным словам, ваенная справа зводзілася да маршыравання, да назірання за дыханнем жаўнераў ці да сціскання імі сківіц. Цікава, што нават такі прыхільнік пастраенняў, як цесарэвіч Канстанцін Паўлавіч, не аднойчы ў лістах да

Сіпягіна, пацяшаўся над той "танчычнай навукай", якая завялася ў Пецярбурзе.

"Зараз я такой думкі аб гвардыі, - пісаў цесарэвіч, - што яе столькі вучаць і нават за дзесяць дзён падрыхтоўваюць загадамі, як праходзіць калонамі, што загадай гвардыі стаць на рукі нагамі ўверх, а галавой уніз і маршыраваць, так і прамаршыруюць і не дзіўна: як жа не вывучыцца ўсяму – ёсць у нас у ліку галоўнакамандуючых танцмейстэры, фехтмейстэры, мабыць Франконі завёўся".

# II.
# Ідэалы рэакцыйнай часткі грамадства.

Мы разледзелі толькі адзін бок рэакцыйнай дзейнасьці ўраду Аляксандр I. Яна праводзілася сваім не запазычаным шляхам і атрымала характэрную назву – Аракчэеўшчына. Але мы ўжо пазначалі. Што ракцыя пусьціла вельмі глыбокія карані: яна выяўлялася не толькі праз дзейнасць урада, яна знаходзілася і ў глыбіні самага грамадства.

Зараз пазнаёмімся з настроем рэакцыйнай часткі грамадства. Найбольш рэльефна ён адлюстроўваўся тагачаснай публіцыстычнай літаратурай. Літаратурным пачынальнікам быў вядомы адмірал Шышкоў. У гэтым дачыненні, перш за ўсё, выклікае цікавасць выказанная ім прамова на паседжанні Аматараў Расійскага Слова у 1811 годзе – "разважанні аб прыхільнасьці да айчыны". Яна была напісана раней 1811 году, але аўтар не адважваўся яе надрукаваць: "Часы здаваліся мне такімі, што я, наслухаўшыся аб панаванні над намі французскага двара і чванстве яго пасланніка Каленкура і ведаючы таксама пра дрэннае стаўленне да мяне імператара, баяўся, каб не абвінавацілі мяне ў якой-небудзь спробе абудзіць гонар народны без волі ўрада".



У асобе Шышкова і іншых рэакцыя набывае, перш за ўсё, нацыянальную афарбоўку і пачынае барацьбу з "разбэшчанымі ідэямі Захаду". Шышкоў абараняе папярэдні літаратурны стыль і нападае на прыхільнікаў навага стылю. Новы стыль ёсць праяўленне разнастайных навін, а пагэтаму прыхільнасьць да яго з'яўляецца адзнакай ненадзейнасьці і адсутнасьці павагі да айчыны. Пагэтаму Шышкоў ганьбіць "разбэшчаныя норавы, якім новейшыя філосафы навучылі род чалавечы і пагібельныя наступствы якіх, пасьля такога праліцця крыві, да гэтага часу яшчэ ў Францыі пераважаюць".

Так, спрэчка аб стылі пераходзіць на палітычны грунт: стары стыль – нацыянальнае і палітычнае наступства рускага народу. "Чаму звычаі і разуменне продкаў нашых здаюцца нам заслугоўваючымі такой пагарды, што вы не можаце падумаць пра іх без крайняй агіднасьці? Мы заўважаем у нашых продкаў прыклады шматлікіх дабрачыннасьцей: яны паважалі сваю айчыну, былі цвёрдымі ў веры, шанавалі гаспадароў і законы (пры гэтым належала думаць, што абаронцы новага стыля не былі цьвёрдымі ў веры і не шанавлі гаспадароў і законы); аб чым сведчаць Гермагены, Філарэты, Пажарскія, Трубяцкія і інш.

Смеласць, цьвёрдасць духу, церпялівае падпарадкаванне законнай уладзе, шанаванне бліжэйшага, роднасная ўлада, адданасць, гасьціннасць і шмат іншых дабрадзейнасьцей іх упрыгожвалі”. Падтрымліваць такія добрыя якасьці неабходна. Для гэтага, згодна меркавання Шышкова, патрэбна падтрымліваць у грамадстве веру, праводзіць выхаванне ў напрамку процідзейнасьці ўсякім новаусталяваннням і асабліва падтрымліваць славянскую мову. Мова адлюстроўвае палітычны настрой народа: мова – душа народа, люстэрка нораваў. Там дзе няма веры ў душы, там адсутнічае ў душы і пабожнасць. “Дзе навучанне заснавана на цемры ілжэразумення, там у мове не можа нарадзіца



ісьціна; там у нахабных і невуцкіх пісаннях уларадаць толькі разбэшчанасць і падман. Карацей: мова ёсць вымярэннем розуму, душы і якасьцей народных”.

У публіцыстыцы з’яўляюцца часопісы, выключная мэта якіх – падтрымка рэкцыйнага накірунку. Такім з’яўляецца, напрыклад, “Дэмакрыт” (1815 г.); яго задача – барацьба з лібральнымі ідэямі і іхнымі крыніцамі. Згодна меркавання Дэмакрыта, найлепшае выхаванне такое, у якім не браў удзел ні адзін із універсітэтаў: для адукацыі дастаткова “ўсяшчодрай” прыроды. Для адукаванага чалавека дастаткова “прыроджанай ціхасьці і памяркоўнасьці ў жаданнях”, адсутнасьці “летуценнага разважлівасьці”.

Дарэчы, самым відным часопісам гэтага накірунку ў той час быў “Рускі Весьнік” Сяргея Глінкі (з 1808 году). У прадмове да першай кніжкі выдавец абяцае даць чыста рускі накірунак: заходне-еўрапейскай філасофіі будуць супроцьпастаўлены “норавы і дабрачыннасьці прашчураў нашых”. Глінка – перакананы прыхільнік рускай старыны. Яго напрамак кансерватыўны, нацыялістычны, але пазбаўлены безсэнсоўных ракцыйных выхадак. Ён размяшчаў у сваім часопісе шмат артыкулаў па рускай гісторыі. На яго старонках руская гісторыя – поўная ідылія. Баярын Мацьвееў разважае пра выхаванне дакладна славамі Локка і Кандыльяка. Кормчую кнігу аўтар параўноўвае з выказваннямі Саламона: “Усе правілы, якія змяшчае Кормчая Кніга, адпавядаюць разважанням усіх знакамітых асьветнікаў усіх краін і ўсіх часоў”. У “Рускім Весніку” мы сустракаем артыкулы, прысвечаныя фактам асаблівага ўздыму духу ў рускім мінулым, напрыклад, артыкулы пра Мініна і Пажарскага, Аўраама Паліцына і інш.

Наогул, выдавец часопіса вельмі высока ставіць стан асветы і звычаі ў старой Расіі.



“Сталеючы ў баязні Божай і прастаце звычаяў, - разважае выдавец, - продкі нашы запазычвалі ўсе свае разуменні ад павучэнняў бацькаўскіх і із святых кніжак. Яны не спрачаліся пра нейкі першабытны прыродны стан, пра бязмежнае ўдасканаленне розуму чалавечага, але імкнуліся выканаць абавязкі чалавека, грамадзяніна і хрысьціяніна”. Глінка даказвае, што ў часы Рурыка ні адна еўрапейская краіна не была больш адукаванай чым Расія ў маральным і палітычным дачыненнях і што наогул яшчэ да Аляксея Міхайлавіча і да Пятра Вялікага “наўрад ці саступала якой-небудзь краіне ў грамадзкіх установах, у

заканадаўстве, чысьціні звычаяў, у сямейным жыцці і ва ўсім тым, чым дабрадзейнічае народ, які шануе звычаі продкаў, айчыну, цара і Бога”.

Цікавую асаблівасць тагачаснай журналістыкі ўяўляе часопіс “Сын Айчыны” Грэча, пачаўшы выдавацца ў 1812 годзе. Яго ваенна-палітычны тон тлумачыцца момантам з’яўлення часопіса: ён прысвечаны барацьбе з Напалеонам і ўсім тым, што тады злучалася з імем вялікага заваёўніка. “У той час, - знаходзім мы на старонках ужо першага нумара выдання, - калі злобны разбуральнік царстваў і пасадаў занёс дзёрзкую нагу сваю ў межы шчаслівай зямлі рускай і гніючым дыханнем сваім распаўсюджвае ўсюды жах, баязлівасць і непаразуменне, кожны расіянін павінен выкарыстаць усю сваю моц і здольнасьці для лепшага заахвочвання мужных, для падбадзёрвання баязлівых, для выкрывання падману і блюзнерства безсаромнага драпежніка”. Супраць Напалеона друкаваліся філіпікі такога зместу: “Прадчувай безсмяротнасць, цябе годную! Прадчувай, як і калі нашчадкі будуць клясьці тваё імя! Ты сядзіш на пасадзе сваім, пасярод бляску і полымя, як сатана пасярод чысцілішча,



перапаясаны смерцю, спусташэннем, злосьцю і полымем”. Але патрэбна памятаць, што тагачасная журналістыка была яшчэ вельмі кволай. Яна была кволай як магутнасьцю так і талентамі і пры гэтым знаходзілася ў абдымках цэнзуры: нават патрыятычнае натхненне было заціснута цэнзурай.

Але грамадства знаходзілася ў вялікім бражэнні. Пра гэта сведчаць шмат хто з асоб, якія перажылі тую эпоху. Вядомы ў далейшым С. С. Увараў у лісьце да знакамітага Штэйна (1813 г.) так характэрызуе настрой навакольнага грамадства: “Стан развважаючых у дадзены момант такі, што перамяшанне разуменняў дайшло да апошняй крайнасьці. Адны хочуць адукацыі без перасьцярог, г. зн. агню, які абпальвае. Другія – і гэта большая частка – звальваюць у адну кучу Напалеона і Мантэск’е, французкае войска і французкія кнігі, Маро і Розенкампфа, мары Ш(ышкова) і вынаходніцтвы Лейбніца. Нарэшце гэта такі хаос лямантаў, запалаў, жорсткіх сварак, захапленняў партыямі, што немагчыма нават вытрымаць гэтае відовішча. Ва ўсіх на языку словы: рэлігія ў небяспецы, парушэнне маральнасьці, прыхільнасць да замежных ідэй, іллюмінат, філосаф, франк-массон, фанацік і г. д. Адным словам, поўнае пазбаўленне розуму”.

На заключэнне спынімся яшчэ на думках аднаго із самых выдатных людзей эпохі – так вядомага М. М. Карамзіна. Карамзін вельмі добры паказчык грамадзкага настрою. Будучы па асноўных сваіх перакананнях чалавекам умеранным і пры гэтым не зусім пастаянным, ён валадаў чуццём пісьменніка і ў сваіх артыкулах і нататках правільна пазначаў грамадзкі настрой, часта ў той момант, калі ён яшчэ далёка не для ўсіх быў зразумелы і сваімі выразнымі, дакладнымі і прыгожымі словамі ён умеў перадаць ідэі, адчуванні, якімі было заклапочана сучаснае яму грамадства; нарэшце, ён сам падзяляў гэтыя настроі, сам іх перажываў і імкнуўся



разабрацца ў акружаючай яго складанай рэчаіснасьці. Цяжка спачуваць ідэям Карамзіна, але нельга не дзівіцца яму як публіцысту эпохі, які мог перадаць

настоі большасьці. Ён умеў прадумаць гэтыя настроі і не даходзіў да тых абсурдных крайнасьцей, да якіх даходзілі сляпыя рэакцыянеры яго эпохі. Не дарма з боку апошніх на добрачыннага Карамзіна сыпаліся даносы аб распаўсюджванні ім якабінскага духу.

Кодэкс палітычных поглядаў Карамзіна выяўляецца ў наступнай цірадзе, якая змяшчаецца ў артыкуле "Прыемныя віды, надзеі і жаданні нашага часу": "Рэвалюцыя растлумачыла ідэі, мы пабачылі, што грамадзянскае ўладкаванне свяшчэнна нават у самых мясцовых ці выпадковых сваіх недахопах; што яго ўлада з'яўляецца для народа не ціранствам, а абаронай ад ціранства, што, разбіваючы гэтую дабрачынную эгіду, народ становіцца ахвярай жудасных бедстваў, якія непараўнальна больш злыя чым усе звычайныя злоўжыванні ўладай; што ўсе смелыя тэорыі розуму, якія із кабінета імкнуцца вызначыць законы маральнаму і палітычнаму свету, павінны застацца ў кніжках, ... што старажытныя ўстановы маюць магічную магутнасць, якая не можа быць заменена ніякай магутнасьцю розуму; і што адзін час і добрая воля законных урадаў павінны выправіць недасканаласць грамадзкага ўладкавання". Згодна пераканням Крамзіна, французкая рэвалюцыя, замест таго каб знішчыць усе ўрады, зацвердзіла іх. з палавіны XVIII ст. усе лепшыя розумы жадалі змены грамадзкага ўладкавання; усе незадаволеныя сучасным злом марылі аб пераменах; усе чакалі буры і калі "грымнуў гром у Францыі, - піша Карамзін, - мы здалёк назіралі за жахамі пажару і кожны із нас вяртаўся дадому дзякаваць неба за непахіснасць нашага даху і памяркоўнасць". Чым жа скончылася гэтая эпоха хваляванняў і палітычных пераваротаў, згодна думак



Карамзіна? Перакананнем, што status quo лепш за ўсё і што ўсякая перамена шкодзіць. "Зараз усе лепшыя розумы стаяць пад сьцягамі ўладароў і гатовы толькі садзейнічаць паспехам існуючага ўладкавання, не думаючы пра навізну. Ніколі іхная згода не была такой відавочнай, шчырай і надзейнай". Такім чынам, згодна слоў Карамзіна, рэвалюцыя была цяжкай эпідэміяй, якая не прынесла ніякай карысьці чалавецтву.

Такія агульныя рысы карамзінскага светапогляду. Але ён быў супраць вызвалення сялян ужо ў 1802 годзе. Ён скардзіцца на гультайства, п'янства сярод сялян і распрацоўвае ідэю аб тым, што галоўнае права рускага двараніна – быць памешчыкам, дадаючы – "добрым памешчыкам". "Сама гэтая ўлада памешчыка, згодна нашых законаў, не ёсць тыранічная і неабмежаваная". Наогул жа, згодна перакананням Карамзіна, памешчык – дабрадзей для сваіх сялян.

Усім гэтым у дастатковай ступені вызначаюцца палітычныя ідэалы Карамзіна. Але, без усякіх ваганняў, лепшым публіцыстычным помнікам эпохі з'яўляецца знакамітая запіска Карамзіна "Аб старой і новай Расіі". Ён чытаў сваю запіску ў Цвяры вялікай княгіне Алене Паўлаўне, з якой сябраваў. У 1811 годзе апошняя перадала гэтую запіску гаспадару.

Запіска Карамзіна шмат у чым мае вельмі вялікае значэнне. Перш за ўсё, у ёй адлюстраваліся ідэі Карамзіна і людзей падобных яму – таго гурта, які стаяў на нацыянальна-кансерватыўнай глебе і не цалкам падзяляў крайнасьці рэакцыі.

Уплыў гэтай запіскі, бяспрэчна, заўважаецца на дзейнасьці Аляксандра I: Аляксандр I доўга ўзважваў выказаныя ў ёй думкі і, спачатку будучы незадаволеным рэзкасьцю яе звароту, потым захаваў добразычлівасць да гісторыка. Запіска Карамзіна была палітычным запаветам эпохі; імператар Мікалай

-30-

Паўлавіч быў, можна сказаць, палітычным вучнем Карамзіна і пазначаныя запіскай Карамзіна ідэалы самаўладнага царства на працягу дзесяцігоддзяў праводзіліся ў жыццё. Нарэшце, запіска Карамзіна, бліскучая па форме, вызначаецца  рэзкасьцю звароту, нагадваючай “стрэчу старых баяраў”. Запіска змагла быць надрукаванай, не гледзячы на яе консерватызм толькі ў 1871 годзе, будучы вядомай да таго часу толькі ва ўрыўках, ці з замежных выданняў.

У сваёй запісцы Карамзін, перш за ўсё, адштурхоўваецца ад таго пераканання, што “сучаснае бывае наступствам былога. Каб меркаваць пра першае, патрэбна ўспомніць пра апошняе”. З гэтай нагоды гісторык спачатку разглядае былое, каб асвяціць сучаснае і знайсьці ў мінулым ідэал будучага. Ён дае кароткую характарыстыку гістарычнага жыцця рускага народа.

Старажытнейшы перыяд, згодна яго выкладання, перыяд поўнага дабрабыту і росквіту. Але вось пачынаецца міжусобная барацьба “маладушных” князёў, следствам чаго была страта князямі народнай павагі. Ад гэтага слабасць дзяржавы і татарскае бедства. Разам з умацаваннем самаўладдзя маскоўскае царства ўмацоўвалася. Маскоўскае царства з’яўляецца менавіта тым перыядам, на якім патрэбна вучыцца як у сучаснасьці так і ў будучым. Пад пяром Карамзіна, маскоўскае самаўладдзе гэта перыяд магутнасьці і народнага добрабыту. “Унутры самаўладдзе ўсталявалася: ніхто, акрамя гаспадара, не мог ні судзіць, ні дараваць, - усякая ўлада была прадаўжэннем манаршай. Жыццё, маёмасць залежыць ад волі цара і самае ганаровае цітло ўжо было не княжае, не баярскае, але цітло слугі царава. Народ, пазбаўлены князямі маскоўскімі ад бедстваў унутраных міжусобіц і знешняга іга, не шкадаваў аб сваіх старажытных вечах і санаўніках, якія абмяжоўвалі ўладу

-31-

гаспадара; задаволены вынікам, не спрачаўся пра правілы”.

Ад ідылічнай выявы маскоўскага царства, у якой самавольства цароў і рабства насельніцтва гісторык прызнае найлепшымі формамі дзяржаўнага ўладкавання, ён пераходзіць да Пятроўскай эпохі. Стаўленне Карамзіна да Пятра Вялікага – недобразычлівае. Да Пятра “перамены (у дзяржаўным уладкаванні) рабіліся паступова, ціха, ледзь заўважальна”. Пятроўская рэформа з’яўляецца гвалтоўным пераваротам. Імкненне Пятра да новаўвядзенняў зняважыла народны дух. Пятро надаваў вельмі вялікае значэнне знешнасьці: барада не перашкаджала ўладкаванню школ. З Пятра пачынаецца разлад паміж станамі грамадства, братэрства знікла. Сацыяльныя дачыненні дапятроўскай эпохі – чыстая ідылія. “На прцягу стагоддзяў, народ прывык шанаваць баяраў, як мужоў, пазначаных годнасьцю, схіляўся перад імі з сапраўднай павагай, калі яны разам

са сваімі годнымі дружынамі, з азіяцкай пышнасьцю, пад гукі бубнаў, з’яўляліся на стогнах, ідучы ў храм Божы ці на раду да гаспадара”.

Пятро знішчыў нават патрыяршаства. А між іншым патрыярх паведамляў ісьціну гаспадару. Перанясенне сталіцы таксама не падабалася Карамзіну. Новая сталіца заснавана на месцы, якое пазначана прыродай як бясплоднае і недахопнае.

Закончыўшы характарыстыку гэтай эпохі мноствам зычных фраз аб згубленні маральнага ўплыву ў грамадстве, гісторык спыняецца на перыядзе паміж Пятром I і Кацярынай II і малюе яго вельмі змрочнымі фарбамі. Цараванне Кацярыны II – бліскучы перыяд рускай гісторыі; яму прысвячае свой панегірык аўтар запіскі. Але і пад час гэтага перыяду былі недахопы: падзенне маральнасьці, распаўсюджванне разбэшчанасьці, “гандаль праўдай і чынамі”, наданне перавагі “прыгожым тварам”.



Часы Паўла – царства жаху і баязлівасьці. Перыяд цірані намаляваны яскравымі фарбамі, якія сведчаць аб цяжкім становішчы, якое перажывала грамадства пад час гэтага царавання. Грамадства поўнілася “вялікадушнай раз’юшанасьцю супраць злоўжыванняў улады”. Аднак, “шкоднае цараванне” было спынена “шкодным чынам”. “Змовы па сутнасьці з’яўляюцца бедствамі, якія парушаюць асновы дзяржаўнасьці, - піша ён, - і служаць небяспечным прыкладам для будучыні. Калі некаторыя вяльможы, генералы, ахоўнікі прысвояць сабе ўладу таемна выбіраць ці змяняць манархаў, што будзе самаўладзе? Гульнёй алігархаў якая хутка ператворыцца ў безуладдзе”. Грамадства павінна чакаць і “бачыць у злым самаўладцы божае пакаранне”. Дарэчы, на заключэнне аўтар суцяшаецца тым, што на Русі было толькі два тыраны (Ян Жахлівы і Павел).

Такі выгляд мае гістарычная частка запіскі.

Другая частка запіскі прысвечана крытыцы ліберальных пачынанняў Аляксандрава царавання. Да ўсіх гэтых захадаў Карамзін ставіцца вельмі адмоўна: выратавальнае самаўладдзе імі ўзрушана. Ён абапіраецца на тую аксіёму, што ўсякае пераўтварэнне ў дзяржаве ёсць зло. Ён незадаволены знешняй палітыкай, крытыкуе ўсталяванне міністэрстваў, якія аддзялілі гаспадара ад народа, незадаволены ўсталяваннем Дзяржаўнай Рады. У прыватнасьці ён вельмі незадаволены міністэрствам “так званай адукацыі”: “У нас няма ахвотнікаў да вышэйшых навук”. Закон 1809 года, які ўсталяваў экзамены для чыноўнікаў, на яго думку, закрыў шлях да службы шмат якім здольным і патрабуе ад чыноўнікаў непатрэбных ім ведаў. Фінансавыя захады прывялі дзяржаву на край пагібелі. Дасланы ў Дзяржаўную Раду Сперанскім праект грамадзянскага кодэксу з’яўляецца перыфразам французкага securities заканадаўства. Карамзін незадаволены і захадамі, якія маюць дачыненне да сялян, напрыклад, загадам, які забараняе



купляць людзей для здавання іх у рэкруты. Адміністрацыя знаходзіцца ў самым безнадзейным становішчы: губернатары неразумныя і рабаўнікі.

У крытыцы Карамзіна асабліва ганаровае месца занімае сялянскае пытанне. Бяспрэчна, ён з’яўляецца ярасным праціўнікам эмансіпацыі. Згодна яго перакананняў, селянін – халопскага паходжання, значыць, уласнасць яго гаспадара, хаця наогул цяжка разабрацца ў паходжанні сялянскага стану. Ва ўсякім разе сяляне ніколі не мелі правоў на валоданне зямлёй. Вызваленне сялян небяспечна і ў фінансавым дачыненні: без дапамогі памешчыка цяжка сабраць падушны падатак. Аўтар задаецца пытаннем: “Што значыць вызваленне сялян у нас?” – і адказвае: “Даць ім волю жыць дзе захочацца, забраць у памешчыкаў усю ўладу над імі, падпарадкаваць іх толькі уладзе ўрада”. Такі крок уяўляецца Карамзіну небяспечным сваімі наступствамі і ён выкарыстоўвае звычайную сістэму доказаў прыгоннікаў – запужванне. “Да гэтага абаранялі яны ў сялянах сваю маёмаць, потым карысталюбівыя ўладальнікі захочуць узяць з іх усё фізічна магчымае.... Вызваленыя ад нагляду ўладальнікаў, якія мелі асабістую земскую паліцыю, значна больш дзейсную чым усе земскія суды, пачнуць яны п’янстваваць, зладзейнічаць – якая багатая жатва для кабакоў і ахвочых да хабару спраўнікаў, але як шкодна для нораваў і дзяржаўнай бяспекі! Адным словам, зараз дваране, раскіданыя па ўсёй дзяржаве, дапамагаюць манарху ў захаванні цішыні і бадрабыту; забраўшы ў іх усю ўладу аберагаючую, ён як Атлас возьме сабе Расію на рамёны.... Ці ўтрымае? Падзенне будзе жудасным!”

Разгледзеўшы мінулае і цяперашняе, Карамзін пераходзіць да выкладання дадатнага боку сваіх поглядаў. Пра яго можна здагадацца сочачы за ходам



папярэдніх яго разважанняў: самаўладная ўлада гаспадара паслабела і яе патрэбна ўзняць да межаў маскоўскага перыяду, наогул, патрэбна пайсьці назад, ва ўсіх адносінах; захаваўшы із цяперашняга толькі тое, што не супярэчыць ідэальнаму мінуламу. У аснове рускага дзяржаўнага ўладкавання знаходзіцца безмежная ўлада самаўладнага гаспадара, якая падтрымліваецца суровымі карамі і выратавальным страхам: “У Расіі гаспадар ёсць жывы закон: добрых мілуе, злых карае і павага першых набываецца баязню апошніх. Не баяцца гаспадара – не баяцца закону. У асобе расійскага манарха аб’ядноўваюцца ўсе ўлады. Наша кіраване ёсць айчыннае, патрыярхальнае. Бацька сямейства судзіць і карае без пратаколаў, так і манарх у некаторых выпадках павінен з неабходнасьцю дзейнічаць адзіна згодна сумлення... Выратавальны страх павінен мець галіны: дзе дзесяць за аднаго баяцца, там дзесяць назіраюць за адным”.

Знакаміты гісторык не заўважым у гэтым вызначэнні, што яно досыць падобна (магчыма запазычана) з вызначэннем царскай улады, якое было дадзена адным із гаспадароў, якога сам Карамзін лічыць тыранам; Ян Жахлівы вызначыў царскую ўладу, як права караць і дараваць сваіх рабоў згодна свайго жадання. Адным словам, у палітычных поглядах Карамзіна “самаўладдзе ёсць палладзіум Расіі: яго цэласнасць неабходна для яе шчасьця”. Такім з’ўляецца знакамітае вызначэнне гісторыка.

Але пры ўсёй сваёй схільнасьці да крайніх формаў адзінаўладдзя Карамзін і яму вызначае некаторыя абмежаванні: будучы адзінай крыніцай улады,

гаспадар не мае нагоды “ганьбаваць дваранства, такое ж старажытнае як і Расія”. Згодна вызначэння Карамзіна “дваранства не што іншае, як брацтва знакамітых служак вылікакняжых ці царскіх. Дрэнна, калі служкі падпарадкоўваюць сабе слабога

-35-

гаспадара, але разумны гаспадар шануе выбраных служак сваіх і ўпрыгожваецца іхным гонарам”.

Такая выснова дастаткова нечаканая і не зусім пагадняецца з бязмежнасьцю самаўладдзя.

Практычна Карамзін рэкамендуе вяртанне да часоў Кацярыны Вялікай з некаторымі папраўкамі. Падданым з дапамогай выратавальнай баязьні павінны быць унушаны пакорнасць і сляпое падпарадкаванне ўладам, яе самавольства неабходна для дзяржавы. Манарх павінен павялічыць асабістую строгасць. У прыватнасьці Карамзін рэкамендуе манарху знайсьці добрых людзей для кіравання; манарх можа мець побач з сабой раду, але яна павінна быць таемным для падданых. Неабходна ўзвысіць дваранства, павялічыць уладу губернатараў, падняць іхны прэстыж, г. зн. узмацніць цэнтралізацыю. Гэтыя парады мелі выключнае значэнне для наступнага царавання. Вельмі цікава, што, выклаўшы свае практычныя прапановы, Карамзін звяртаецца да гаспадара, якому раіць самавольства: “Аляксандр, усталюй закон у Расіі!”

Мы ужо паказалі на тое, што запіска Карамзіна, адлюстроўваючы разуменне цэлага шэрагу людзей, мела дастаткова значны ўплыў на палітыку рускага ўрада. Рэзкасць выразаў і бліскучая форма выкладання заахвочвалі чытача; будучы мала падрыхтаванымі, знаходзячы ў запісцы адлюстраванне сваіх думак і разуменняў, высокія чытачы Карамзіна не заўважалі, бяспрэчна, лагічных супярэчнасьцей запіскі, якія хаваліся пад прыгожымі фразамі і гістарычнай лірыкай. Па сутнасьці, гістарычная частка запіскі малюе безрадасную выяву рускага мінулага. Самаўладдзе выратавала дзяржаву ад татараў, але яно ж павярнула Расію да немцаў. Ідылічны маскоўскі перыяд кароткі, але ў ім тыранія Яна IV, з’яўленне Барыса Гадунова і смута. Усё XVIII ст. у падачы

-36-

Карамзіна з’яўляецца цёмнай плямай у гісторыі самаўладдзя: Пятро Вялікі парушыў аснову народнага жыцця; пры Пятру II – жудасная алігархія; валадаранне жанчын пазначана вялікімі недахопамі: пры Анне быў Бірон, Ялізавета аддавалася вяселлю і ласкавым вершам, а пры ёй Бястужаў гандляваў дыпламатыяй; яе цараванне змянілася насільствамі Пятра III; Кацярына II, не пазбаўленая слабасьцей, падтрымлівала неправасуддзе і карыслівасць сваіх палюбоўнікаў; і яе цараванне змяняецца жахамі Паўла; Аляксандр I сваімі ліберальнымі пачынаннямі зрабіў толькі шкоду. Адным словам, Расія тысячу гадоў жыла пад эгідай самаўладдзя і ў выніку рускі народ – хворы арганізм. І ў канчатковых высновах запіскі рэкамендуецца самаўладдзе ў форме тыраніі.

# III.

# Рэлігійны настрой грамадства.

Із таго што гаварылася вышэй пра настрой рэкцыйнай часткі грамадства, выцякае некалькі вельмі значных высноў. У настроі гэтай часткі грамадства можна падмеціць незадаволенасць ліберальнымі мерапрыемствамі ўрада, жах і агіда да ўсяго таго, што звязвалася з імем Францыі і французкай рэвалюцыяй; нарэшце, пакланенне перад былым жыццём рускага народа і спробы шукаць там ідэалы для сучасьці і будучыні. Калі такі напрамак грамадзкага жыцця параўнаць з некалькі болей раннім перыядам, з канцом XVIII ст. і першымі гадамі XIX ст., то ў настроі абодвух перыядаў можна заўважыць глыбокае адрозненне. Рускае грамадства папярэдняга перыяду было перапоўнена “вальнадумствам і вальтэрыянствам”. Яно было, ў лепшай яго частцы,

-37-

добра адукаваным і крыніца гэтай адукацыі выходзіла з філасофіі асветнікаў. У рэлігійным стаўленні гэтае грамадства было ці індэферэнтным ці задавальнялася прызнаннем філасофскіх пачынанняў. У нацыяльным дачыненні яно было заражана космапалітызмам. Яго палітычныя перакананні выразна схіляліся да “сапраўднай манархіі”, г. зн. да канстытуцыйных форм кіравання: яно ненавідзела “дэспатытства” і шляхам літаратуры ці непасрэднага ўплыву на манарха спрабавала ажыццявіць свае ідэі. Патрэбна нагадаць, як адлюстраванне гэтых поглядаў, публітыстычныя працы князя Шчарбатава, Радзішчава, спробы графа Палена, графа Мардзвінава і іншых увесьці канстытуцыю, нарэшце, знакаміты праект дзяржаўнага пераўтварэння М. М. Сперанскага. З наступленнем рэакцыі заўважаецца пераварот у светапоглядзе грамадства. Ад касмапалітызма яно пераходзіць да нацыяналізма; ад захаплення свабоднымі палітчнымі ідэямі яно пераходзіць да захаплення самаўладдзем. І ў галіне рэлігіі яно імкнецца замяніць філасофію вераю ў Божае слова.

У рэлігійным дачыненні рускае грамадства не адразу перайшло ад вольнадумства да старой рэлігіі. У яго настроях можна назіраць кароткі пераходны перыяд. У Расіі назіраецца такая ж з’ява, як і ў заходне-еўрапейскіх грамадствах, дзе стары каталіцызм атрымаў пераважаючае значэнне толькі пасьля кароткага перыяду захаплення містычным вучэннем.

І ў Расіі грамадства, згубіўшае сувязь са старой рэлігіяй, першапачаткова з энтузіазмам сустрэла іншавернае вучэнне. Тут заўважаецца кароткая перавага каталіцызму і больш сур’ёны ўплыў містычных вучэнняў. Захапленне каталіцызмам звязана з кароткім перыядам уплыву на пецярбургскае грамадства прадстаўнікоў

-38-

іезуіцкага ордэна. Айцы-іезуіты мелі сваіх адэптаў пераважна ў колах вышэйшай арыстакратыі. Яго пачатак адносіцца яшчэ да апошніх гадоў XVIII ст. і звязяны з дзейнасьцю знакамітага патэра Грубера, які пранік у царскую сям’ю ў якасці зубнога лекара і меў сур’ёзны уплыў на імператара Паўла і нават прапанаваў яму праект аб’яднання цэркваў. Пачынаючы ад яго часоў айцы-іезуіты звілі сабе

трывалае гняздо ў Пецярбургу. Пасьля выдалення патэра Грубера, наібольшым поспехам сярод пецярбургскай арыстакратыі карыстаўся патэр Разавена. Ён вёў прапаганду ў асяроддзі арыстакратычных пані. Гэта быў вельмі адукаваны, спрытны, прыгожы чалавек, рабіўшы із арыстакратак не толькі прылады ордэна, але і падпарадкоўваўшы іх асабіста сабе. М. А. Нарышкіна, Таўстая, Батурліна, Галіцына, Распопчына, Шувалава, Куракіна і шмат іншыя выявіліся ў ліку яго адэптаў і прыхільніц. Дарэчы, пры выдаленні паліцыяй патэра Разавены із Пецярбурга, у яго паперах былі знойдзены запісачкі яго прыхільніц, якія сведчылі што духоўнага айца і яго дочак злучала не толькі рэлігійная сувязь.

Іезуіты карысталіся таксама заступніцтвам вышэйшых ўрадаўцаў. Міністр народнай асьветы князь А. М. Галіцын, спрыяе іезуітам, садзейнічае ўладкаванню ў Адэсе іезуіцкай школы, заахвочвае іхную прапаганду; вядомы граф Качубей, міністр унутраных спраў, робіць спробу дазволіць іезуітам адкрыта распаўсюджаваць каталіцызм у асяроддзі іншародцаў Сібіры, Астраханскай і Арэнбургскай губерніях. У Пецярбурзе засноўваецца іезуцкі інстытут, дзе атрымліваюць выхаванне князі Юсупавы, Галіцыны, Арловы, Гагарыны, Ваўконскія і іншыя; некаторыя з іх у далейшым зрабіліся выбітнымі дзеячамі каталіцкай царквы.

Іезуіты былі высланы із Расіі ў 1822 годзе, калі былі забаронены наогул усе таемныя таварыствы.



Уплыў каталіцызму распаўсюджваўся пераважна ў асяроддзі пецярбургскай арыстакратыі, асабліва ў асяроддзі паненак. Значна больш шырокае распаўсюджванне мелі містычныя вучэнні, напрыклад, вучэнне англійскіх квакераў, якія наведалі Пецярбург.

Дарэчы, вельмі вялікім поспехам карысталіся дзве прадстаўніцы містыкі – Юлія Крюднер і Татарынава.

Крюднер, унучка знакамітага Мініха, народжаная баранэса Фіцінгоф, правяла неспакойную маладосць, але смерць блізкай асобы ўскалыхнула яе і яна пачала шукаць ўцеху ў рэлігіі. Спачатку яна трапіла ў таварыства Мараўскіх братоў. Затым у Карлсруэ яна пазнаёмілася з Юнгам Шыллінгам, які пасьвяціў яе ў таямніцы містычных вучэнняў. Яна стала адданай прапаведніцай. Цераз камер-юнкера Струдзу яна мела сустрэчу ў Гейдэльберзе з імператарам Аляксандрам І і вырабіла на яго вялікае ўражанне сваёй захапляльнай пропаведдзю. Некаторыя нават схіляюцца да прыпісання яе навучанням ідэю Свяшчэннага Хаўрусу.

Для распаўсюджвання Духу Божага, Крюднер з’явілася ў Пецярбурзе, але тут была некалькі недобразычліва прынята Аляксандрам І. Але ў грамадстве яна сустрэла жывое захапленне. Усе рэакцыянеры аб’ядналіся вакол яе. Да яе далучыліся Лабзін, Папоў – “лагодны ізувер”, згодна характарыстыкі Вігеля, Кошалеў і шмат іншыя; перайшоў і князь А. М. Галіцын. Дарэчы, Крюднер хутка пачала браць удзел у палітыцы і была выслана згодна загада імператара Аляксандра І.

Гурток Татарынавай, яе духоўны хаўрус, меў яшчэ большае пашырэнне, так як кіраўніца змагла аб’яднаць у сваім хаўрусе разнастайныя элементы

грамадства. Вучэнне Татарынавай мясцовага паходжання. Татарынава, народжаная баранэса Буксгеўдэн, пасьля смерці чалавека пераехала ў

-40-

1825 годзе ў Пецярбург і жыла ў Міхайлаўскім замку. Яна пачала сваю дзейнасць шырокай дабрачыннасьцю. Затым яна пачала наведваць радзенні скапцоў і вынікам яе знаёмства са скапцоўскай ерэссю было ўтварэнне духоўнага хаўруса. Былі наладжаны гутаркі, на якіх спачатку чыталіся кнігі святога пісання, затым праходзілі радзенні, якія суправаджаліся кружэннямі і павольнымі рухамі. Нарэшце, хто-небудзь із прысутных, адчуўшы на сабе наіцце святога духу пачынаў прароцтвы. Часцей за ўсіх прароцтвы рабіла сама Татарынава і вядомы скапец Фёдараў. Радзенні Татарынавай былі вельмі вядомымі ў Пецярбурзе. Іх наведвалі нават духоўныя асобы, а таксама найбольш знакамітыя прадстаўнікі містыкі, Лабзін. Папоў. кн. А. М. Галіцын. Сам імператар Аляксандр І ведаў пра гэтыя радзенні і ставіўся да іх станоўча. Гурток Татарынавай быў прадстаўніком піэтызму, рускім квакерствам.

Калі ў 1822 годзе былі забаронены таемныя таварыствы, Татарынава пераехала за горад і тут працягвала свае радзенні.

Наогул, містычныя вучэнні мелі ў тагачасным Пецярбурзе вялікае пашырэнне. Іхныя прадстаўнікі выдавалі шмат якія творы, пераважна перакладзеныя, напрыклад, пераклады Юнга Шілінга, Экарстгаузена, Бёма і інш. Відным прадстаўніком на ніве містычнай літаратуры быў віцэ-прэзідэнт Акадэміі Мастацтваў Лабзін, які пачаў з 1806 году выданне спецыяльнага часопіса пад назвай “Сіёнскі Веснік”.

На заключэнне гэтага агляду пошукаў рэлігійнага задавальнення, застаецца сказаць некалькі слоў пра массонства. Дарэчы, патрэбна зрабіць абмоўку, што масонства ў дадзены перыяд аб’ядноўвала далёка не

-41-

рэакцыйную частку грамадства. У масонстве шукалі задавальнення людзі, якія не задавальняліся ні філасофіяй ні старой рэлігіяй і па сваіх грамадзкіх і палітычных сімпатыях складаўшыя поўную працілегласць палітычнаму ізуверству містыкаў. Значную чатку дзекабрыстаў мы сустракаем у спісе сябраў і, нават, кіраўнікоў масонскіх лож. Дарэчы, дзекабрысты не знаходзілі паўнага задавальнення ў масонстве і з’яўленне іх у ложах было, можна так сказаць, пераходнай прыступкай да непасрэднай палітычнай дзейнасьці. Патрэбна заўважыць, што новае масонства (пасьля забароны Кацярыны ІІ ложы з’явіліся з 1805 года), засноўвалася пераважна на вучэннях Шрэдэра і Фаслера і значна адрознівалася ад старога масонства Новікаўскага тыпу. У ім незаўважаецца імкненне да адукацыі, дабрачыннасьці. У масонскіх ложах ці схіляліся да выканання масонскіх звычаяў, ці пераходзілі на глебу грамадзкіх патрэбнасьцей, што і прывяло туды дзекабрыстаў.

Масонскія ложы былі забаронены ў 1822 г. разам з усімі таемнымі таварыствамі.

Захапленне грамадства рэлігійнай містыкай самых разнастайных напрамкаў з’яўляецца важным паказчыкам тагачасных настрояў. Рэлігійнае

вальнадумства і вальтэрыянства канца XVIII ст., ахапіўшае рускае грамадства, змянілася другой крайнасьцю – імкненнем да містыцызму і піетызму. Частка рускага грамадства ўжо не задавальнялася філасофскімі поглядамі канца XVIII ст. Індыферантызм у рэлігійных пытаннях замяніўся на экзальтацыю.

Містыцызм, як вядома, супярэчыць аўтарытэту царквы. Сутнасць містыцызма заключаецца ў імкненні да пазнання Бога шляхам непасрэднага ўнутраннага назірання Бога. Ён імкнецца да пастаянных духоўных стасункаў з Богам і



да духоўнага адраджэння магутнасьцю дзейнічаяга ў чалавеку духа благадаці. Шукаючы адкрыцця ў самім сабе чалавек не звяртае ўвагу на знешнія прызнакі царкоўнага аўтарытэту. Царкоўныя звычаі з’яўляюцца толькі сімваламі, знешняй царквой, у процілегласць унутранай. Але гэтае адрозненне паміж царкоўным вучэннем і ўнутранай царквой было не вельмі значным там, дзе містыцызм не паспеў трывала умацавацца.

Па свайму характару распаўсюджвання містыцызму ў Расіі лёгка заўважыць, што ён трапіў на вельмі неустойлівую глебу. Грамадства лёгка кідалася на нешта новае. Адных і тых жа асоб мы заўважаем прысутнічаючымі і пры радзеннях Татарынавай са скапцоўскімі рысамі, і бяручымі ўдзел у ціхай духоўнай малітве англійскіх квакераў, і слухаючымі экзальтыраваныя прамовы Крюднер. І ў той жа час, той жа, напрыклад,  князь Галіцын, не задавальняючыся духоўным самааналізам, унутранай царквой і чытаннем святога пісання, выпрошвае сабе дазвол мець хатнюю царкву і выконваць звычаёвы бок царквы. Ён нават з’яўляецца прыхільнікам прававерната Фоція.

Усе гэтыя меркаванні могуць, як здаецца, падцвердзіць думку аб тым, што захапленне містыцызмам было часовым, і што пасля кароткага перыяду яго валадарання рэлігійны настрой грамадства лёгка ператворыцца ў запал у накірунку афіцыйнай царквы. У сапраўднасьці так і адбылося. У рускім грамадстве выявілася тая ж эвалюцыя, якая заўважалася ў Заходняй Еўропе: кароткачасовае валадаранне містыцызму замянілася імкненнем да каталіцызму.

Гэты паварот да кіруючай царквы пачаў моцна заўважацца каля 1820 г.

Акрамя рэлігійнага і грамадзкага значэння, містыцызм меў яшчэ і больш важнае палітычнае значэнне. Рэлігійнае захапленне, прынесенае містыцызмам,



выявілася рэакцыяй на філасофскую думку. Філасофская думка канца XVIII ст. разбурыла не толькі старыя рэлігійныя ідэалы, але і палітычныя. Бурлівыя падзеі, якія наступілі пасля французкай рэвалюцыі стамілі грамадства. Рэакцыя ў рэлігійнай вобласьці пачала адчувацца і ў палітычнай вобласьці. Больш таго, філасофія XVIII ст. на першае месца ставіла значэнне розуму, яна несла з сабой асьвету і такім шляхам бурыла старыя традыцыйныя аўтарытэты. Рэлігійны містыцызм выяўляецца радыкальна процілеглай з’явай. Відавочна, што ён прыносіў рэакцыйныя настроі як ў дачыненні да асьветы так і ў дачыненні да ліберальных установ, ён заве грамадства да старыны.

Сапраўды, містыцызм выяўляе варожыя адносіны да ліберальных ідэй і імкнецца падпарадкаваць асьвету рэлігійнаму пачатку. У гэтым дачыненні рэлігійны настрой цалкам зліваецца з імкненнямі прапаведнікаў рэакцыйнай палітыкі. У межах Германскай імперыі Меттэрніх вельмі добра выкарыстаў рэлігійны энтузіязм для палітычнай барацьбы. І ў Расіі хутка знайшліся дзеячы, якія накіравалі рэлігію на барацьбу з ліберальнымі ідэямі.

# IV

# Кн. А. М. Галіцын. Біблейскае таварыства. Міністэрства духоўных спраў і народнай асьветы.

Рэакцыйная дзейнасць урада дасягае поўнай магутнасьці, калі на чале яе стаў блізкі да імператара Аляксандра чалавек, князь Аляксандр Мікалаевіч Галіцын і калі рэакцыянеры зладзілі для сябе



трывалае гняздо ў выглядзе Біблейскага таварыства. Неабходна пазнаёміцца бліжэй, як з пазначаным прадстаўніком рэакцыі, так і з установай із якой яна выходзіла.

Князь А. М. Галіцын быў аднагодкам і сябрам Аляксандра І. У маладосьці гэта быў вясёлы хлопец, які вёў бурлівае жыццё. Ён атрымаў павярхоўную энцыклапедычную адукацыю. У 1803 годзе, па настаянню імператара, Галіцын заняў пасаду обер-пракурора Свяцейшага Сіноду. Згодна сваіх перакананняў ён лічыў сябе малападыходзячым для кіравання духоўнай установай; справа ў тым, што ў гэты перыяд ён захапляўся філасофіяй і сур’ёзна лічыў сябе дэістам, але, па сутнасьці, быў невукам, як у філасофіі так і ў рэлігіі.

Сваю пасаду князь Галіцын пачаў з кашчунства над расамі, пасярод якіх яму давялося працаваць. Але ўжо праз некалькі гадоў ён выяўляецца пад моцным уплывам святарства. “Заўважаю, што папы зрабілі над табой сваю справу”, сказаў Аляксандр І пасьля адной размовы, адзначыўшы гэтым здзівіўшую яго перамену ў князі. Захапіўшыся рэлігійнасьцю, Галіцын падпаў пад уплыў містыкаў, асабліва Кошалява і Лабзіна. Адначасова з захапленнем містыкамі, ён то падвяргае сябе аскетычным выпрабаванням, то кідаецца ў неутаймаваную распусту. Дарэчы, із містычных вучэнняў князь Галіцын засвоіў больш іхны знешні бок. Жахлівыя выявы Сатаны, які выкарыстоўвае “хітрэйшыя сродкі” у барацьбе з сапраўдным святлом, “цемра адсутнасьці веры”, “разбурэнне асноў” і г. д. вось прывіды, з якімі змагаўся обер-пракурор Свяцейшага Сінода. Галіцына мы заўважаем на сходах містыкаў самых разнастайных накірункаў, таму што ён аднолькава дрэнна разбіраўся у кожным із іх.



І ў той жа час Галіцын з’яўляецца прававерным сынам афіцыйнай Царквы і любіць “паглынаць хлябцы духоўныя” у прававернага архімандрыта Фоція.

Дарэчы, Галіцын размаўляе з Фоціем часта на розных мовах, што лёгка заўважыць па іхнаму ліставанню: першы мае на ўвазе унутраную царкву, а апошні знешнюю. З цягам часу Галіцын выяўляецца пад моцным уплывам Фоція.

Пры ўсім сваім невуцтве, Галіцын быў чалавекам добрым і мяккім. Будучы сябрам Аляксандра I ён не шукаў даброт. Гэта ці не адзіная вызначаная рыса яго характару. Ва ўсіх іншых дачыненнях ён лёгка падпадаў пад уплыў атачаючых яго людзей і кожны мог накіраваць яго ў свой бок. Атачоны святошамі, Галіцын вылучае А. І. Тургенева, які складаў праект канстытуцыі, жывучы ў казённым доме, над кабінетам рэакцыйнага міністра.

Незаўважна для сябе самаго, накіроўваемымы пранырлівай клікай рэакцыянераў, Галіцын узначальвае самы змрочны абскурантызм. Блізкі да гаспадара, узначальваючы Свяцейшы Сінод, а потым і Міністэрства Народнай Асветы, ён выявіўся вельмі зручнай прыладай у руках рэакцыі. Праз яго рэакцыя накіравала свае дзеянні на народную асвету і друк, прыкрываючыся рэлігіяй.

Актыўны паход супраць асветы пачало Біблейскае таварыства.

Пецярбургскае Біблейскае таварыства было пасынкам вельмі сімпатычнага па сваіх задачах лонданскага Біблейскага таварыства. Мэтай апошняга было распаўсюджванне кніжак святога пісання, уладкаванне школ і філантрапічныя мэты. У 1812 годзе, згодна загаду лонданскага таварыства, у Пецярбурзе з’яўляецца Патэрсон і ўладкоўвае тут пецярбурскае Біблейскае таварыства. Першапачаткова мэтай яго існавання было



распаўсюджванне кніжак святога пісання ў асяроддзі іншародцаў. З 1814 году таварыства вызначае сабе больш шырокія задачы і ператвараецца ў расійскае Біблейскае таварыства. Першапачатковы склад таварыства быў вельмі разнастайным. На яго чале стаялі вельмі значныя вяльможы, вышэйшае святарства.

Сюды ж далучыліся ў вялікай колькасьці і містыкі, на чале з Лабзіным і Паповым. Былі і людзі, якім падабаліся ў таварыстве яго асветніцкія мэты, падобна А. І. Тургеневу і некаторых будучых сябраў таемных таварыстваў, на падобе М. Ф. Арлова.

Першапачаткова дзейнасць таварыства ўзяла дастаткова сімпатычны накірунак: яно імкнулася распаўсюджваць кнігі святога пісання, выдавала яго пераклады на рускую мову, турбавалася аб пашырэнні народных школ згодна метада ўзаемнага навучання, турбавалася аб складанні падручнікаў.

У правінцыі Біблейскае таварыства ўладкавала шмат сваіх адзяленняў і іхная заслуга была ў тым, што яны будзілі правінцыяльную спячку, прывучалі грамадства да грамадзкай дзейнасьці. Праўда, дзейнасць правінцыяльных сябраў не абыходзіліся без кур’ёзаў. Так як на чале цэнтральнай сталічнай установы стаялі магутныя людзі, то і ў правінцыяльных аддзяленнях асабліваю дзейнасць праявілі губернатары, архіярэі і іншыя вышэйшыя чыны. Шмат хто з іх ладзілі аддзяленні таварыства “згодна абавязку звання свайго”, як яны рабілі справаздачу ў Пецярбург. Паўсюдна ў канцылярыях праводзіліся зборы ахвяраванняў, правінцыяльныя чыноўнікі пісалі сваім кіраўнікам – сябрам

таварыства – доўгія рэляцыі аб незвычайнай папулярнасьці біблейскіх кніжак сярод грамадства, што сведчыла аб руплівасьці падначаленых. Лісты перапоўнены ўрыўкамі тэкстаў святога пісання і дабрачыннымі разважаннямі. Наогул тады прамышлялі тэкстамі. Руплівасць

-47-

даходзіла да таго, што калмыцкі князь Цюмень паведамляе Галіцыну, што “адпаведна яго загаду” ён чытае дасланую кніжку (Біблію) і збіраецца прымусіць чытаць усенародна ўсю сваю арду. Рэктар астраханскай семінарыі ў сваім лісьце дзівіцца, што “шмат хто з калмыкаў, верагодна, праз прастату разумення і невуцтва, не зусім ахвотна карыстаюцца гэтым дарам Усебгаснага Бога”.

У гэтай ліслівасьці правінцыяльнага чынавенства шмат камічнага і вартага жалю. Але правінцыя ведала і адданых дзеячоў на гэтым накірунку.

Але справа ў тым, што само пецярбургскае ядро таварыства, якое складалася із ханжэй і крывадушных людзей, хутка перамяніла сваю афарбоўку. У сваёй місіі яно бачыць вялікі подзвіг барацьбы з атрутай адсутнасьці веры, якая разбурае царкву і дзяржаву. Із установы асветніцкай, рэлігійнай таварыства ператвараецца ва ўстанову палітычную. Новыя задачы таварыства пачалі адлюстроўвацца ў прамовах яго асноўных сябраў.

“Зкземпляры божых кніжак, - гаворыць прэзідэнт таварыства, князь Галіцын, на адным із гадавых яго паседжанняў, - разыходзяцца паўсюдна, трыумфуючы і ў самай глухамані далёкіх стэпаў і пасярод нязмерных акіянскіх вод”.

Такія значныя поспехі таварыства садзейнічаюць, згодна перакананням прэзідэнта, вялікім зменам у грамадзкім настроі, яны садзейнічаюць барацьбе з уяўнай асветай: “хуткім пераўтварэнням як духу, так і розуму пагражаюць пакінуць далёка за сабой тых ганарыстых ілжэ-адукаваных, якія, будучы абавязанымі ўсімі перавагамі сваёй асветы і розуму адзіна хрысьціянству, забыліся пра яго і адважыліся прыпісаць гэта самім сабе, магутнасьці свайго розуму. Калі вораг чалавекаў шукае шляхі праз дапытлівыя спрэчкі і тлумачэнні засланіць ісьціну, Біблейскае таварыства не робіць і не выдае ніякіх тлумачэнняў на св.

-48-

пісанне, даючы толькі гэтыя кніжкі ў карыстанне без заўваг і тлумачэнняў. Пагэтаму ісьціна Божая у слове Гасподнім выходзіць із рук таварыства ва ўсёй сваёй чысьціні”.

У больш вызначанай форме веў барацьбу ў таварыстве супраць адсутнасьці веры і асьветы мітрапаліт Серафім. Асьвета, згодна яго ўяўлення, звязана з вольнадумствам, адсутнасьцю веры і распустай. Яна –вынік дзейнасьці Сатаны.

“Між іншым, - гаворыць ён на паседжанні маскоўскага адзялення таварыства. – і вораг роду чалавечага не драмае: і ён таксама з прадвеку пачаў сеяць свае злыя і шкодныя словы свайго семені, - спачатку сам сабаю ў выглядзе змея, а потым праз падобных сабе рабоў і служак сваіх, цераз якіх і да гэтых пор нястомна працягвае сеяць сваё семя на вёскі свету гэтага”. Вынік дзейнасьці

ворага роду чалавечага аратар апісвае такімі рысамі: “Ён паўсюдна сее вальнадумства, адсутнасць веры, ерасі, распусту і, каб хутчэй і больш пэўна паспець у сваім пачынанні, ён сваю чысцілішчную цемру выдае за асвету, за высокі стан духу”. Намаляваўшы вынікі дзейнасьці ворага роду чалавечага, мітрапаліт Серафім задаецца пытаннем: “І якіж мы мы бачым вынік ад яго вучэння, ад гэтай асветы?” І робіць ужо палітычныя высновы: “Мы бачым свавольства, непадпарадкаванне ўладзе, усталяванай самім Богам для агульнай карысьці; бачым крамолы, бунты, міжусобіцы, забойствы, кроў, слёзы, якія цякуць рэкамі; усё гэта бачым мы тут на зямлі; а там, у вечнасьці? – там прыгатавана рабам і паслядоўнікам яго (г. зн. асьветнікам) чарвяк неуміручы, агонь непагасны, плач і скрэжат зубоў, - такім будзе вынік вучэння і мудрасьці бясоўскай!” І так, самы змрочны абскурантызм у самай грубай форме звіў сабе гняздо ў Біблейскім таварыстве. Згодна разумення яго заправіл рэлігія з’яўляецца сродкам палітычнай барацьбы.

-49-

Гэты абскурантызм дасягнуў вышэйшага свайго развіцця, калі на чале Міністэрства Народнай Асветы стаў сам князь А. М. Галіцын, калі гэтая ўстанова была аб’яднана з установай Свяцейшага Сінода. Гэта быў знакаміты перыяд аб’яднання “веры і ведання”, як тады казалі.

Але, перш чым перайсьці да гісторыі “міністэрства цемры” (словы кансерватыўнага Карамзіна), неабходна пазнаёміцца з тым, чым была наша асвета на пачатку XIX ст. Тагачасная асвета была цяплічнай расьлінай, якая патрабавала дагляду. Пры Кацярыне II яна атрымала выдатны пачатак у планах знакамітай камісіі 1786 г. Гэта камісія выпрацавала шэраг здаровых педагагічных пачынанняў, яна імкнулася стварыць шырокую сетку школ, пачынаючы ад вясковых і да ўніверсітэта. Але ўладкаванне школ справа не лёгкая, камісія натыкнулася на шэраг перашкод: адсутнасць настаўнікаў, недахоп сродкаў і галоўнае на перамену палітыкі самой Кацярыны II і затым пад час царавання Паўла I.

У першыя ж гады царавання Аляксандра I клопаты аб адукацыі занялі першае месца, былі перароблены статуты Кацярынінскай камісіі. Статут 1804 г. падзяляе навучальныя ўстановы на прыходзкія, уездныя, губернскія гімназіі; завяршэннем гэтай схемы быў універсітэт. Навучальныя ўстановы ўсёй губерніі утвараюць дырэкцыю пад кіраваннем дырэктара мясцовай гімназіі. Накірунак вучэбных заняткаў быў даручаны ўніверсітэтам. Імперыя падзялася на некалькі вучэбных акруг. На чале кожнай акругі стаяў папячыцель, які жыў дарэчы ў Пецярбургу. Цэнтральная ўстанова складалася із галоўнага вучылішчнага праўлення пад старшынством міністра; у праўленне былі ўключаны і папячыцелі навучальных акруг.

-50-

Схема новых школ адрознівалася большым энцыклапедызмам.[1]

[1] Так, ва ўездных вучылішчах выкладаліся наступныя навукі: закон Божы, аб пасадах чалавека, руская граматыка, правілы складання, усеагульная геаграфія і пачаткі матэматыкі, геаграфія Расіі, усеагульная і

Нановастворанае Міністэрства Народнай Асветы сустрэла такія ж самыя перашкоды, якія не змагла пераадолець Кацярынінская камісія. Так як дзяржава не мела сродкаў, то даводзілася збіраць ахвяраванні, але нават такія захады, як абяцанне ставіць ахвяравальнікам "манументы", пазначаць іхныя імёны залатымі літарамі і інш. мала садзейнічалі прыліву сродкаў.

Навучэнцы ішлі ў школу неахвотна. Іх мала захвочваў нават чын 14 класа, але цяжэй за ўсё было знайсьці настаўнікаў. Невялікая колькасць універсітэцкіх выхаванцаў пазбегла настаўніцкай службы, так што радам універсітэтаў даводзілася прызначаць настаўнікамі нескончыўшых студэнтаў. У тагачасных пастановах універсітэцкіх рад сустракаем часам, напрыклад, такія характэрныя вызначэнні: "Ад студэнтаў казённага ўтрымання Канцэвіча, Галкіна, Шчаўкунова і Сцяпуроўскага нельга чакаць далейшых поспехаў", чаму рада прымае рашэнне: "прызначыць іх настоўнікамі ва ўездныя вучылішчы". Набраны так-сяк персанал настаўнікаў быў малаадукаваны і адрозніваўся звычайнай у той час заганай – п'янствам. Не толькі радам універсітэтаў даводзілася дасылаць па акрузе цыркуляры "аб папярэджанні настаўнікам, каб яны не звярталіся да п'янства", але нават і міністр



народнай асветы, у цыркулярнай паперы 1814 г. заяўляе: "Із даходзячых да мяне звестак, з вялікім жалем заўважаю, што настаўнікі, якія павінны служыць для навучэнцаў прыкладам у паводзінах, часта звяртаюцца да п'янства, так што робяцца непрыдатнымі да выканання сваіх абавязкаў".

П'яныя оргіі часта даводзілі настаўнікаў да буйства, боек, што даводзілася разглядаць універсітэцкім радам.

Невуцтва выкладніцкага стану бянтэжыла само кіраўніцтва. Так, сустракаем цыруляры, якія раілі настаўнікам безперапынна непакоіцца аб удасканаленні ў правапісанні, таму што настаўнікі "не толькі выхоўваюць юнацтва, але і выдаюць пасведчанні для паступлення на грамадзянскую службу", тлумачыць афіцыйная папера. Адзін дырэктар гімназіі прамадушна заяўляе вучылішчнай радзе, што ён не можа весьці запісаў паседжання рады: ён "ніколі не быў знаўцам у навуках і сустракае вялікія цяжкасьці ў апісанні ўсіх бываючых на паседжанні размоваў і дыскусій".

Паказаныя тут факты сведчаць аб тым, што тагачасная сярэдняя школа толькі ледзь нараджалася. У ёй было шмат недахопаў, але, бяспрэчна, гэтыя недахопы паступова маглі б выпраўляцца.

Не без недахопаў была і вышэйшая школаі і тагачасныя маладыя універсітэты.

Звыш старога Маскоўскага і Дерптскага, заснаванага Паўлам, у першыя гады царавання Аляксандра былі заснаваны універсітэты: у Харкаве, Казані, Вільне (створаны на аснове мясцовага каллегіума), у Пецярбурзе быў заснаваны

---

руская гісторыя, арыфметыка, пачатковыя правілы геаметрыі, фізіка, натуральная гісторыя, чыстапісанне, маляванне. У гімназіях: чыстая і прыкладная матэматыка, вопытная фізіка, гісторыя, геаграфія, міфалогія, статыстыка, філасофія, палітычная эканомія, натуральная гісторыя, тэхналогія, навука аб гандлі, прыгожыя навукі і маляванне, лацінская, французкая і нямецкая мовы.

педагагічны інстытут,ператвораны ў далейшым (з 1819 г.) ва ўніверсітэт. Універсітэтам была нададзена шырокая аўтаномія і яны былі далучаны да адміністрацыйнай



дзейнасьці, так як універсітэтам была перададзена цэнзура і кіраванне вучылішчамі.

Сярод першых апекуноў мы сустракаем асоб асвечаных, шмат зрабіўшых для прываблення із-за мяжы паважных навукоўцаў. Так, у маскоўскім універсітэце, дзе апекуном быў вядомы Мураўёў, з'яўляюцца такія навукоўцы як Шлётцэр, Буле, Гофман, Байе і інш. У Харкаве побач з выбітнымі іншаземцамі, нападобе прафесара Шада, сустракаем і выдатных рускіх прафесароў, апекуном Харкаўскай акругі быў адукаваны граф Севярын-Патоцкі. Школа казанскіх матэматыкаў абавязана сваім узнікненнем апекуну Румоўскаму, які запрасіў у Казань знакамітага Бартальса, Літрона, Бронера. У Пецярбургу ў той час славіліся філосафы Галіч, Веланскі, прававеды Раўпах, Герман, Куніцын.

Найбольшую цікавасць у той час належала філасофіі. Якім чынам яна ўплывала на маладыя розумы можна бачыць із тых панегірыкаў, якія сустракаюцца сярод студэнтскіх твораў таго часу. "О філасофія, божая навука (піша адзін юны аўтар) ты маеш станоўчы ўплыў на развіццё здольнасьцей і ведаў чалавечых... Ты паглыбляеш нашы задавальненні, прытупляеш смутак; адна ты здольна дараваць смяротным сапраўднае шчасьце і чыстую радасць!"

Пры ўніверсітэтах уладкоўваюцца вучоныя таварыствы і наогул справа наладжваецца дастаткова добра.

Калі з боку гледжання навукі нашы ўніверсітэты на працягу першага дзесяцігоддзя свайго існавання для таго часу могуць быць прызнаны цалкам задавальняючымі, то існаваў і іншы адзін бок. Грамадства было яшчэ слаба падрыхтавана. Адсутнасць сярэдніх школ адбівалася



на тым, што юныя ўніверсітэты (Харкаўскі і Казанскі) з цяжкасьцю маглі сабраць дастатковую колькасць слухачоў. Ды і гэтую колькасць, часам прыходзілася набіраць са студэнтаў не закончыўшых семінарыю. Прыходзілася задобрываць маладых людзей казённым утрыманнем ва ўніверсітэце і абяцаннем чыноўных даброт пасьля заканчэння ўніверсітэту. Так, напрыклад, у Харкаўскім універсітэце ў 1805 годзе было ўсяго 57 студзентаў, а ў 1812 – усяго 118. У Казані ў 1805 годзе было 33 студэнты, у 1812 годзе – 44.

Не адразу змаглі запоўніцца кафедры прафесарскім персаналам, ад чаго яны былі не поўнымі. Асабліва пакутаваў ад недахопу выкладчыкаў Казанскі ўніверсітэт, дзе, напрыклад, бывалі такія выпадкі, калі адзінаму медыцынскаму прафесару Брауну даводзілася чытаць "матэрыю медыку" адзінкаваму свайму слухачу. Паказаныя абставіны былі падставай таго, што Казанскі ўніверсітэт існаваў без падзелу на факультэты да 1814 г., калі, нарэшце, ён быў адчынены ў поўным складзе. Наогул, Казанскі ўніверсітэт за першыя 10 гадоў зведаў не мала цяжкасьцей яшчэ і з нагоды іншай выпадковай падставы. Дзякуючы слабасьці і даверлівасьці Румоўскага, які быў ужо ў сталым узросьце, уся ўлада ва

ўніверсітэце перайшла да дырэктара казанскай гімназіі і прафесара Якаўкіна (у Казані гімназія да 1814 года была адзінай установай з універсітэтам). Якаўкін фактычна знішчыў аўтаномію ўніверсітэцкай рады. Кіраванне Якаўкіна суправаджалася безперапыннай барацьбой з універсітэцкай радай, узаемнымі скаргамі і даносамі.

Былі і яшчэ перашкоды для паспяховага цячэння навуковых заняткаў. Замежныя прафесары чыталі лекцыі на сваіх родных мовах ці на латыні. Слухачы часта не былі падрыхтаваны для слухання лекцый на

-54-

гэтых мовах, чаму аўдыторымі іншаземцаў часта заставаліся пустымі. Часам сустракаюцца цікавыя скаргі ад прафесароў: у 1813 годзе нават такая вядомая асоба, як казанскі прафесар Літраў, рабіў справаздачу радзе, што ён дарэмна на працягу двух месяцаў чакае ў сваю аўдыторыю дваіх сваіх слухачоў. Дарэчы, калі адны із студэнтаў выказвалі мала імкненя да навучання, то іншыя працавалі прылежна і старанна: бо ў гэтыж перыяд у Казані складалася матэматычная школа і знакаміты яе пачынальнік, Лабачэўскі, паспяваў слухаць па сорак гадзін на тыдзень.

Не заўсёды ўніверсітэты маглі ўтрымаць сваіх выхаванцаў да заканчэння курсу навучання: яны ішлі на грамадзянскую і ваенную службу. Нарэшце, і склад слухачоў, акрамя малападрыхтаванасьці, меў яшчэ і іншыя недахопы. Узрост слухачоў – ад 12 да 20 гадоў. Такі ўзрост адлюстроўваўся на іхных адносінах да заняткаў. Нават такому знакаміту лектару, як прафесар Рыжскі, даводзілася перыпыняць свае лекцыі заўвагамі нападобе наступнай: “А навошта пяструшкамі-та забаўляецеся?” (картамі).

Дарэчы, свавольствы харкаўскіх і маскоўскіх студэнтаў былі дастаткова нявіннымі, дзіцячымі. Норавы іхных казанскіх сябраў мелі іншы напрамак. Тут часта сустракаюцца скаргі на шум пад час лекцыі, на такія свавольствы, як кіданне шарыкамі “выдаўліванне” каго-небудзь са студэнтаў са скамейкі, хаджэнне па аудыторыі, смех. Але не рэдкія эпізоды і іншага характару: студэнтаў немагчыма сабраць на лекцыю, яны бадзяюцца па садзе “у семнеўным стане”, “у заганным выглядзе”. Наогул, п’янства было дастаткова распаўсюджана. Інспектары правяралі жыццё ў інтэрнатах па начах; але гэта ім не заўсёды ўдавалася зрабіць без перашкод, таму што студэнты сустракалі іх кіямі і каменнямі.

-55-

Усе гэтыя дэфекты тагачаснага ўніверсітэцкага жыцця тлумачацца малалетствам і недастатковай падрыхтоўкай слухачоў. Але, такія недахопы, часам сутракаючыяся ў кожнай школе і ва ўсе часы, не маюць значных наступстваў і з лішкам перакрываліся здаровымі пачынаннямі, бяспрэчна, усталёўваўшыміся ў тагачасных універсітэтах. Ва ўсікім выпадку, рацыянальная палітыка і карысць дзяржавы патрабавалі падтрымкі гэтых пачынанняў. Якраз гэтага ў сапраўднасьці і не было.

Із папярэдняга зразумела, што рэакцыя накіроўвала сваё ўздзеянне на барацьбу з асветай. Асвета бачылася абскурантам вынікам рэвалюцыйнай язвы,

якая падрывала асновы дзяржавы і рэлігіі. У гэтым накірунку для барацьбы з асветай ў рэакцыйных колах рыхтавалася шмат чаго, але адкрытаму выступленню супраць універсітэтаў дапамаглі падзеі, якія адбыліся ў гэты час у Няметчыне: яны паслужылі апраўданнем для дзейнасьці рускіх рэакцыянераў.

У Няметчыне рэакцыйныя ўрады шмат якіх дзяржаў пачалі сустракаць моцнае супраціўленне з асяроддзя ліберальна настроенага грамадства. У 1817 годзе нямецкія студэнты і прафесары сабраліся ў Вартбурзе, каб адсвяткаваць 300-гадовы юбілей пачатку рэфармацыі і гадаўшчыну лейбцыгскай бітвы. Тут вымаўляліся гарачыя лібельныя прамовы ў высокапатрыятычным дусе. Пры гэтым былі ўрачыста спалены кнігі, якія нагадвалі ліберала́м часы Напалеонаўскага валадарання і творы рэакцыйнага накірунку, у тым ліку і нямецкая гісторыя вядомага Кобецу. Кобецу быў рускім агентам у Няметчыне і вядомы як пісьменнік крайне рэакцыйнага накірунку. Праз два гады пасьля вартбургскага святкавання Кобецу быў забіты студэнтам Зандам. Занд знайшоў сабе пераймальнікаў і аптэкар Ленінг спрабаваў забіць прэзідэнта Ібеля.

-56-

Вартбургскія падзеі з іхнымі вынікамі ўзрушылі нямецкіх рэакцыянераў. Пачаліся пераследаванні, якія былі накіраваны ўжо непасрэдна супраць ўніверсітэтаў. Метэрніх у 1819 годзе збірае ў Карлсбадзе канферэнцыю прадстаўнікоў нямецкіх дзяржаў, дзе былі прыняты жорсткія захады да супраць універсітэцкага выкладання і свабоды слова. Пачынае пераважаць думка, якая ператвараецца ў дзеянне, што адукацыя павінна быць заснавана на прынцыпах Свяшчэннага Хаўрусу. На пастулаце аднаго із актаў Свяшчэннага Хаўрусу аб тым, што Хрыстос з’яўляецца адзінай крыніцай ведаў і мудрасьці. Была пабудавана цэлая сістэма, згодна якой рэлігія павінна была быць адзінай крыніцай даследвання.

Карлсбадзкая канфэрэнцыя зрабіла не малую шкоду нямецкай навуцы, але не змагла яе заціснуць цалкам. Не тое было ў Расіі. Нешматлікія рускія ўніверсітэты не мелі, бяспрэчна, такога палітычнага значэння, як нямецкія. Універсітэцкая навука толькі нараджалася. Вось чаму здзяйсненне рэакцыйных захадаў у Расіі вырабіла страшэнныя і не папраўныя спусташэнні.

Мы ўжо ведаем, што захады супраць адукацыі ў Расіі пачаліся нават трохі раней чым у Нямеччыне, - менавіта з моманту прызначэння князя Галіцына на пасаду міністра народнай адукацыі, з 10 жніўня 1816 г., але дзеянні нямецкіх урадаў паслужылі надзейным аўтарытэтам для рускага.

Цераз год з невялікім пасьля заняцця князем Галіцыным пасады міністра, паспела думка ад аб’яднанні ў адной установе духоўных спраў і спраў народнай асветы. Гэта была знакавая рэформа, рэзультатам якой выявілася арыгінальнае “Міністэрства Духоўных Спраў і Народнай Асветы” на чале з князем Галіцыным. Загад вызначыў характар новага міністэрства: “каб хрысцінская пабожнасць было заўсёды асновай сапраўднай асветы”. Абскуранты маглі здзейсніць свае мары.

Ва ўладкаванні новага міністэрства выразна выявіліся дзяржаўныя дараванні новага міністра. Міністэрства было падзелена на два дэпартаменты – духоўных спраў і народнай асветы. На чале першага дэпартамента быў прызначаны А. І. Тургенеў, чалавек добра адукаваны, вялікі лавелас і наўрад ці схільны падпарадкоўвацца якой бы то ні было рэлігіі, на чале другога – вядомы містык Папоў, рэлігійны і і поўны невук.

Пры новым міністэрстве ўладкоўваецца дастаткова значная ўстанова, якая мае сумную вядомасць да гэтага часу. Гэта быў вучоны камітэт. Яго мэтай было разгляд навучальных кніжак, якія прызначаліся для школы. Была складзена інструкцыя, якая вызначала межы дзейнасьці камітэта. Яго мэтай было “народнае выхаванне, аснову і гарантыю дабрабыту дзяржавы, і ў прыватнасьці, праз лепшыя навучальныя кніжкі, накіроўваць да сапраўднай, высокай мэты – для ўмацавання  ў грамадстве пастаяннай і выратавальнай згоды паміж верай, асветай і ўладай, ці, іншымі словамі, паміж хрысьціянскай пабожнасьцю, асветай розумаў і грамадзянскім ісаваннем”.

У гэтай мэце яскрава выявілася мэта камітэту – падтрымліваць самаўладдзе пры дапамозе рэлігіі і падначаленай ёй адукацыі. Камітэт быў абавязаны праглядаць усе “стыхійныя кніжкі” і знішчаць у іх усё тое, што не адпавядала яго асноўнай мэце. Пры разгляданні кніжак камітэту даручалася ў навучальных кніжках аб веры “знішчаць усё тое, што магло б выклікаць агіду да сямейных і грамадзкіх абавязкаў і да дзейнага жыцця, а таксама ўсе сваявольныя разважанні, несумяшчальныя з падпарадкаваннем вярхоўнай і духоўнай уладзе”. У галіне маральнай філасофіі і заканадаўства, камітэт абавязаны адхіляць усе кнігі, якія не аддзяляюць



маральнасьці ад веры, таксама і кнігі, якія навучаюць “уяўнай дабрачыннасьці, без усякага ўказанання на адзіную яе крыніцу”, тэорыі прыроднага права і першабытнага стану. Дарэчы, вучэнне аб першабытным стане чалавека можа выкладацца ў выглядзе “гіпотэзы, несапраўднасць якой належыць зрабіць відавочнай”. “Памылковыя вучэнні аб паходжанні вярхоўнай улады не ад Бога, а ад пагаднення паміж людзьмі, належаць такому ж адкідванню”. Асабліва камітэт будзе наглядаць за гістарычнымі кніжкамі. Апошнія павінны “апавядаць аб адзінстве гісторыі, такой павучальнай для розуму і сэрца вучняў; частае згадванне аб дзіўным і паступовым пазнанні Бога ў родзе чалавечым і правільная сінхраністыка са святым бытапісаннем  і эпохамі царквы, павінны нагадваць вучням аб высокім значэнні і выратаваўчай мэце навукі”. У прыродазнаўчых навуках адкідваюцца “ўсе нікчэмныя згадкі аб паходжаннях і пераваротах зямнога шара”. У фізічных і хімічных кнігах павінны ўтрымлівацца карысныя звесткі “без усякай дамешкі ганарыстых разважанняў, якія нараджаюцца на шкоду ісьцінам, не падлягаючым вопытныму вывучэнню і падзелу”. У кніжках па фізіялогіі, паталогіі і параўнальнай анатоміі камітэт назірае, каб “не пракраліся вучэнні, прыніжаючыя духоўны сан чалавека, яго ўнутраную свабоду і вышэйную вызначанасць у будучым жыцці”. Сказанага дастаткова для характарыстыкі напрамку дзеёнасьці вучонага камітэту і яго

будучага значэння. Для засваення рускімі юнакамі сапраўдных пачаткаў праваслаўнай веры, самаўладдзя і народнасьці, вучоны камітэт складаўся із трох... іншаземцаў. У яго былі ўключаны: капітан прускай службы, цырымоніймэйстэр граф Лаваль, якога яшчэ ў Прусіі ненавідзелі нямецкія студэнты за яго рэакцыйныя ўчынкі, аўтар рэкцыйнай брашуры, выдадзенай на французкай мове ў Нямеччыне; камер-юнкер Стурдза,



напалову грэк, напалову малдаванін па паходжанню, марыўшы аб вызваленні Грэцыі і пісаўшы для яе канстытуцыю; нарэшце, вучоны акадэмік Фус; невядома ці ведаў ён рускую мову, таму што ўсе яго запіскі, дасланыя ў камітэт, напісаны па-французку.

Наогул, настрой галоўнага ўпраўлення вучылішч станавіцца паступова ўсё больш і больш варожым да асветы. Яскравым паказчыкам такога настрою з'яўляецца знакамітая справаздача 1820 г. сябра праўлення вучылішч Магніцкага. Гэта – гімн зацменню.

Ліберальныя ўспышкі на Захадзе даюць нагоду аўтару справаздачы паказаць на вельмі вялікую небяспеку, якая пагражае айчыне.

Яўропу ахапіў "разбэшчваючы дух", які пагражае прасачыцца і ў Расію. Гэта той самы дух, які хаваўся ў Іосіфа ІІ пад выглядам філантрапііі. У Фрыдрыха, Вальтэра, Русо і энцыклапедыстаў – пад сціплым плашчом філасафізма; пад час царавання Рабесп'ера – пад чырвонай шапкай свабоды; у Банапарта – пад трохкаляровым пяром консула і, нарэшце, у кароне імператарскай. "Гэты дух з трактатамі па філасофіі і канстытуцыйнай хартыяй у руцэ паставіў пасад свой на Захадзе і хоча быць роўным Богу".

"Яўропа супакоілася пад аховай Свяшчэннага Хаўрусу, - апавядае Магніцкі, - але раптам усхваляваліся ўніверсітэты, з'явіліся ашалелыя вар'яты, якія патрабуюць смерці, трупаў, пекла. Што азначае гэтая небывалая ў гісторыі з'ява? Чаго хочуць народы пасярод агульнага заспакаення, пад уладай лагодных гаспадароў, пасярод усіх даброт законнай свабоды? Чаго хацелі Зонд, Цістэльвуд, Лебель?" Аўтар запіскі адказвае, растлумачваючы мэты людзей, якія не прымірыліся з усімі дабротамі "законнай свабоды". Вось чаго яны хочуць: "прэч алтары, прэч гаспадароў, патрэбны смерць і пекла", вяшчаюць ужо ў шмат якіх краінах Яўропы. Як жа не пазнаць, чый гэта голас? Сам князь цемры, відаць, падступае да нас; радзее завеса, якая закрывала яго і, верагодна,



ужо хутка ўпадзе". І так, згодна поглядаў сябраў Біблейскага таварыства, у вачах Магніцкага сам сатана з'яўляецца галоўным рухавіком хваляванняў супраць алтароў і пасадаў. Князь цемры знайшоў сабе прыладу для здзяйснення сваім намераў. "Слова чалавечае – ёсць праваднік гэтай пякельнай магутнасьці; кніжны друк – яго прылада; прафесары бязбожных універсітэтаў даюць тонкую атруту адсутнасьці веры і нянавісьці да законных уладаў неразумнаму юнацтву, а цісненне разлівае яго па ўсёй Яўропе". Із такога разумення рэчаіснасьці выходзіла і праграма Магніцкага і ён прапануе аб'явіць вайну ўніверсітэтам і літаратуры. "Сапраўдную вайну духа злосьці не можа спыніць войска, таму што

сурацць духоўных нападаў павінна быць наладжана і духоўная ж абарона. Памяркоўная цэнзура, аб'ядналая з усталяваннем народнага выхавання заснаванага на веры, з'яўляецца процідзеяннем бездані, якая затапіла ўсю Яўропу адсутнасьцю веры і распустай".

Цытаваная запіска Магніцкага з'яўляецца праграмай для дзейнасьці міністэрства духоўных спраў і народнай асветы на працягу некалькіх наступных гадоў. Сам Магніцкі і яго паслядоўнік Руніч быў праваднікам прапанаваных ім пачаткаў барацьбы з асветай.

# V.
# Магніцкі і ўніверсітэты.

М. Л. Магніцкі – вельмі цікавая асоба вывучаемай эпохі. Гэта чалавек добра адукаваны, які валодаў зачароўваючай знешнасьцю і выдатным дараваннем прамоўцы. Яго сарказмы і эпіграмы ў свой час непакоілі нават імператара Напалеона, па жаданню якога Магніцкі, які быў у складзе рускага пасольства ў Парыжы, быў атазваны



адтуль. Магніцкі быў сябрам Сперанскага і яго галоўным памагатым па арганізацыйных пытаннях. Гэтая абставіна была падставай для высылкі Магніцкага разам са Сперанскім. Але Магніцкі не выпрацаваў у сябе ні сур'ёзных палітычных пераканняў, ні грамадзянскіх пачуццяў. Бязмежнае славалюбства цягнула яго ў той бок, дзе ён мог вылучыцца. У асабістых справах ён блюзнерскі адносіўся як да разнастайных палітычных, так і да рэлігійных пераканняў.

Пераканаўшыся на сваім прыкладзе як нязручна прытрымлівацца ліберальных перакананняў, Магніцкі хутка пераходзіць на процілеглы бок. Ён быў памілаваны адначасова са Сперанскім і прызначаны сімбірскім губернатарам. Тут ён, як быццам бы, працягваў прытлівацца папярэдніх пераканняў. Жыццё правінцыяльнага чыноўніка здалося Магніцкаму не вельмі прывабным. Згодна яго слоў, гэта была "калекцыя, якой я ніколі не бачыў, быццам бы чацвёраногія сталі на заднія лапы і надзелі шытыя ашыйнікі, на якіх можна было заўважыць стужкі і зоркі, з выявай баязні і чаканнем пакарання, быццам бы павешаныя сабакі; на ўсіх тварах заўважалася пошласць і жах". Пры першым жа знаёмстве сімбірскія чыноўнікі прасілі новага губернатара не быць вельмі дапытлівым да іх грахоў, на што Магніцкі коратка адказаў: "Бярыце, але не дзярыце". Уважлівае стаўленне Магніцкага да сялян і яго барацьба з дзікунскімі праявамі рабаўладальніцкіх інстыктаў мясцовых памешчыкаў выклікалі незадавальненне ім усяго дваранства Сімбірскай губерніі; пачалі скардзіцца, што Магніцкі "ўціскае памешчыкаў і бунтуе сялян". Магніцкаму давялося пакінуць сваю губернатарскую пасаду. Але ён паспеў падрыхтаваць сабе шлях да адступлення заручыўшыся прыхільнасьцю А. Н. Галіцына. Гэта не цяжка было зрабіць жвавому старшыні сімбірскага філіялу Біблейскага таварыства.

У 1819 годзе Магніцкі быў прызначаны сябрам галоўнай ўправы вучылішч і тады ж атрымаў даручэнне правесьці рэвізію Казанскага ўніверсітэту. Былы сімбірскі губернатар ужо меў некаторыя звесткі пра гэты ўніверсітэт па скаргах лекара Ўладзімірскага, які безпаспяхова спрабаваў атрымаць кафедру ў Казані. Не цяжка здагадацца, што сама думка пра рэвізію належала самаму Магніцкаму, пад уплывам якога цалкам апынуўся Галіцын.

Рэвізор неадкладна накіраваўся ў Казань і тут адбылася смешная камедыя рэвізіі ўніверсітэта. Весь універсітэт быў знойдзены неўладкаваным. Гаспадарчая частка ўніверсітэта, згодна слоў справаздачы Магніцкага, была наладжана вельмі дрэнна. Праферская каллегія выявілася не задавальняючай як умовам добранадзейнасьці, так і навуковым. Цікава, што навуковыя дасягненні цэлага ўніверсітэта Магніцкі вызначыў на працягу ўсяго некалькіх дзён сваёй рэвізіі. Із дваццаці пяці прафесараў і ад'юнктаў Магніцкі знайшоў толькі пяць чалавек па сапраўднаму "годных", усе астатнія выявіліся людзьмі не добранадзейнымі і заблытаўшыміся ў пазыках. Магніцкі не саромеецца падзяляць прафесароў на ведаючых і невукаў, не згадваючы пра абгрунтаванне такога падзелу. Пра вядомага прафесара Бартэльса, напрыклад, ён гаворыць, што Бартэльс "мог бы быць лепшым акадэмікам, чым выкладчыкам". Прафесар хірургіі Арнгольд, згодна слоў Магніцкага, "чалавек не ведаючы лацінскай мовы і не могучы да гэтага часу сабраць рэшткі цела чалавечага, чалавек, невуцтва якога ў хірургіі выкрываецца спісам зробленых ім аперацый". Затое аб "годных", з боку гледжання Магніцкага, прафесарах сустракаем звычайна характарыстыку, што гэты прафесар "добрай маральнасьці", "выдатны ведамі і паводзінамі". Навучальна-выхаваўчыя ўстановы

-63-

зусім дрэнныя. Бібліятэка ўладкавана дрэнна. У прыродна-гістарычным кабінеце калекцыя ўяўляе із сябе выпадковы падбор і чучалы з'едзены моллю. Анатамічны тэатр уяўляе нешта "ганебнае для публічнай установы". Тут Магніцкі толькі і знайшоў, што "невялікі шкаф з набранымі як бы выпадкова living рознымі чалавечымі косткамі, із якіх некаторыя ад'едзены крысамі; адзін поўны касьцяк чацвераногага пеўня (sic) і двух качак".

Але асабліва Магніцкі быў узрушаны сваімі назіраннямі над вучнямі. Кафедра закону божага ва ўніверсітэце выявілася свабоднай. Студэнты выявіліся не ведаючымі закону божага: "Якім чынам, - абураецца Магніцкі, - мог студэнт, які не мае дастатковага ўяўлення пра запаветы, быць студэнтам?"

Агульная выснова Магніцкага вельмі неспрыяльная для ўсяго Казанскага ўніверсітэта. Універсітэт не можа выконваць прызначаныя яму абавязкі, нават "робіць грамадзкую шкоду", выпускаючы навучэнцаў, якія зараджаны "праціўным рэлігіі духам дэізма". Нарэшце, універнісэтэт вельмі шмат каштуе дзяржаве. На аснове гэтых высноў Магніцкі выносіць смяротны прысуд цэламу ўніверсітэту "у выглядзе яго публічнага разбурэння". На месцы ўніверсітэта патрэбна стварыць новыя ўстановы, якія спраектаваў Магніцкі, а ўсю акругу патрэбна падпарадкаваць"надзейнаму назіральніку" з асобнай інструкцыяй.

Зараз лёгка здагадацца, куды меціў Магніцкі. Галоўная ўправа вучылішч накіравала справаздачу Магніцкага на зацверджанне гаспадару, які, аднак не даў згоду на публічнае зруйнаванне ўніверсітэта. Але Магніцкі дасягнуў таго, што жадаў: ён быў прызначаны апекуном Казанскай вучэбнай акругі з неабмежаванымі паўнамоцтвамі. “Je vous donne carte blanche”,



сказаў яму гаспадар пры назначэнні яго на гэтую пасаду.

Неадкладна частка прафесароў была звольнена, і Магніцкі пачаў здзясняць свае ідэі ачышчэння ўніверсітэта. Побач з абраным рэктарам (дарэчы пры Магніцкім працэдура абрання рэктара была пустой камедыяй) з’яўляецца дырэктар універсітэту. У адносінах да ўніверсітэта “дэрэктар з’яўляецца першай асобай”. У сапраўднасьці дырэктар быў паліцэйскай уладай ва ўніверсітэце, як у дачыненні да прафесароў, так і ў дачыненні да студэнтаў.

Магніцкі запэўнівае міністра, што яго мэтай з’яўляецца заснаваць народнае выхаванне на пабожнасьці, згодна з актамі Свяшчэннага Хаўрусу. З гэтай мэтай Магніцкі выдаў інструкцыі дырэктару і рэктару ўніверсітэта. Згодна гэтых інструкцый асноўнай задачай універсітэцкага “выхавання” з’яўляецца “выхаванне адданых сыноў праваслаўнай Царквы, верных падданых гаспадару, добрых і карысных грамадзян айчыне”. Душа выхавання і першая дабрачыннасць грамадзяніна ёсць “пакора”. Пагэтаму юнакі павінны “трэніравацца пакорлівасьці”, а дырэктар назірае, “каб урокі рэлігіі аб любові і пакоры былі выконваемы на самай справе”; для гэтага выхаванцы павінны бачыць “вакол сябе пастаянныя прыклады строгага чынашанавання”. Дырэктар павінен назіраць за тым, каб “дух вальнадумства” не мог праявіцца ў асяроддзі студэнтаў, для чаго ён абавязаны мець “дакладныя звесткі аб духу ўніверсітэцкіх выкладчыкаў”. У асяроддзі студэнтаў вышэй за ўсё павінны цаніцца “хрысьціянскія дабрачыннасьці” і такім студэнтам універсітэт абавязаны х лепшыя месцы. Узнагароды за навукі студэнтам не выдаюцца, калі іхныя паводзіны не адобраны дырэктарам. Уведзены правілы чытання малітваў ва ўніверсітэце і наведвання царквы. Інструкцыя Магніцкага патрабуе, “каб сама знешнасць і выраз іх (г. зн. студэнтаў) быў прыемным



і прыстойным.” Студэнты знаходзяцца пад пастаянным наглядам “сумленных і богалюбівых назіральнікаў”, якія пастаянна знаходзяцца ў пакоях студэнтаў (у інтэрнатах); а паза сценамі ўніверсітэта студэнты знаходзцца пад наглядам паліцыі. Пры ўсім гэтым студэнты павінны пакарацца ўладам не праз жах, але праз любоў. Дырэктар павінны назіраць і за выкладчыкамі, ад якіх патрабуюцца тыя ж самыя якасьці, што і ад студэнтаў; не задавальняючыя такім патрабаванням павінны быць неадкладна звольнены.

Сам працэс універсітэцкага выкладання быў вызначаны апякунскай інструкцыяй; яго мэта “каб шкодны дух часу, усеразбуральны дух вальнадумства, не пранік” праз сьцены ўніверсітэта. Наогул, прафесарства павінна працаваць “на славу Божую, для выратавання даручаных ім душ”.

Выкладанне ўсіх навук павінна быць прасякнута адзіным духам Евангелля. Прафесар філасофіі павінен, перш за ўсё, навучаць слухачоў аб адрозненні паміж мудрасьцю зямной і нябеснай. “Слухачы павінны пераканацца, што ўсё тое, што не пагадняецца з разуменнем святога пісання, ёсць памылка і хлусня і без усякага шкадавання павінна быць адкінута. Карысныя пачынанні філасофіі павінны брацца із Платона і Пасланняў апостала Паўла. Навукі палітычныя павінны служыць да ўмацавання прынцыпу, што манархічнае кіраванне ўладкавана самім Богам, яны павінны схіляць думку да пакоры і шанавання гаспадара. Выкладчыкі гэтых навук “павінны з агідай паказваць на правілы Макіавелі”.

Карысныя пачаткі навук палітычных павінны асноўвацца на вучэннях Платона і Арыстоцеля, і “крыніцу гэтых пачаткаў” выкладчык павінен паказаць у “Маісее, Давідзе, Саламоне, у прароках і апосталах”. Кафедра матэматыкі і прыродазнаўчых навук служыць

-66-

той жа мэце, доказу вялікай мудрасьці Бога і абмежаванасьці чалавечага розуму. Прафесары медыцыны павінны вучыць студэнтаў, што “святое пісанне непарыўна звязвае майстэрства лячэння з богалюбствам”. З вялікай увагай інструкцыя Магніцкага спыняецца на навуках гістарычных і славесных. Прафесарства старажытных моваў павінна вывучаць Іаана Златавуста і іншых айцоў Цэрквы. Прафесарства расійскай славеснасьці павінна займацца разгляданнем святых пісьменнікаў, а ўзоры сапраўднага  красамоўства “пакажа ён ў Бібліі і дакажа, параўнаннем яе з лепшымі аўтарамі старажытнасьці, перавагу над усімі імі”. Прафесар усходніх моў абавязаны засьцерагаць слухачоў ад захаплення арабскай навукай і паэзіяй. Выкладанне гісторыі пастаўлена ў цесныя межы. Прафесар абавязаны адкінуць старажытную легендарнасць. На прыкладах чытання Герадота і іншых пісьменнікаў прафесар пакажа, што ў заснаванні Рыма няма нічога дадатнага. Ад Нараджэння Хрыстова ён будзе цікавіцца хрысьціянскімі старажытнасьцямі, а новую гісторыю разгледзіць коратка. Прафесар расійскай гісторыі пакажа, “што айчына наша ў пытаннях сапраўднай асьветы апярэдзіла шмат якія сучасныя дзяржавы і дакажа гэта пастановамі па вучэбнай частцы (г. зн., бясспрэчна, пастановамі самаго Магніцкага) і духоўнай Уладзіміра Манамаха.”

Адпаведна ідэям абнавіцеля ўніверсітэта было зменена і ўсё ўладкаванне. Універсітэт быў пératвораны ў манастыр. Студзенты былі падзелены на гурты, да першага із якіх былі аднесены выдатнікі, да другога – падіспытныя і выпраўляемыя і да трэццяга – знаходзячыяся пад асобым наглядам. Усякае дзеянне пачыналася з малітвы. Пакараныя зваліся грэшнікамі і адбывалі сваё пакаранне “ў адзіночным пакоі”, дзе знаходзіліся карціны Распяцце і Страшны Суд.

-67-

На месца адзінаццаці звольненых прафесароў Магніцкі прызначыў сваіх выбраннікаў; сярод іх мы сустракаем, напрыклад, прафесара грэцкай славеснасьці Містакі, пра папярэднюю дзейнасць якога было вядома толькі тое,

што ён быў хатнім настаўнікам у Іпсіланці і “ў якасьці ўзнагароды атрымаў табакерку”. Француз Жобар быў прызначаны прафесарам грэцкай і лацінскай славеснасьці “за богалюбівы склад думак”.

“Абноўлены” ўніверсітэт, як любіў гаварыць Магніцкі, нават пачаў адлік сваіх гадоў з году абнаўлення ўніверсітэта. Прафесарская калегія ціснулася, хаця частка яе знайшла для сябе выгадным падтрымаць новага апекуна. Прафесары павінны былі падаваць канспекты выкладаемых імі навук, і гэтыя канспекты адлюстравалі на сабе той уціск, якому падпала ўніверсітэцкая навука. Вось, напрыклад, вызначэнні навук анатоміі і фізіялогіі, зробленыя нават такім паважаным навукоўцам, якім быў прафесар Фукс: “Анатомія вывучае склад чалавечага цела, а фізіялогія растлумачвае дзейнасць арганаў пры аб’яднанні безсмяротнай душы з целам. Мэта анатоміі – знаходзіць у пабудове чалавечага цела мудрасць творца, які стварыў чалавека падобным на сябе. Наша цела – храм душы. Пры цеснай сувязі цела і душы, патрэбна асьцерагацца, каб не захапіцца жудасным матэрыялізмам, падобна некаторым страціўшым розум лекарам”. У лекцыях прафесароў праводзіліся тыя ж тэндэнцыі. Прафесар матэматыкі Нікольскі даказваў роўнасць трохвугольнікаў такім чынам: “З дапамогай Бога гэты трохвугольнік роўны гэтаму”. Ён жа ў публічным вымаўленні, сцвярджаў, што ў матэматыцы ёсць цудоўныя падабенствы святых ісьцін; так, напрыклад, няма лічбы без адзінкі, так і сусвету не існуе без Адзінага.

Афіцыйныя справаздачы Казанска ўніверсітэта спявалі цэлыя дыфірамбы мудрасьці апекуна і здзіўлялі



абвінавачннямі папярэдняй дзейнасці ўніверсітэта. Так, адна із справаздач ганарова паведамляе, што ўніверсітэт, нарэшце, пазбавіўся ад “драпежніцкага ўладання філасофіі”; зараз філасофія навучае “мудрасці нябеснай” і адвучае “мудрасць зямную”. Справаздача ў захапленні ад таго, што, нарэшце, ва ўніверсітэцкае выхаванне пакладзены той “краевугольны камень на якім пакоіцца дабрабыт зямных царстваў”. Справаздача згадвае аб неўладкаванасьці пры папярэднім кіраўніцтве і з задавальненнем адзначае перамену ў паводзінах студэнтаў. інспектар студэнтаў “схіляе” юнакоў пад “выратавальнае іга паслушэнства”. “Змірэнне, цярпенне і любоў ідуць поруч пры ўчынках студэнтаў”. Усе навукі ва ўніверсітэце выкладаюцца згодна духу святога Евангелля і атрута вальнадумства канчаткова пакінула ўніверсітэт, дзе зараз жыве “жах Божы”.

Магніцкі мог ганарыцца здзейсненымі ім рэформамі. Рада ўніверсітэта яго славаславіла як у афіцыйных прамовах так і ў справаздачах.

Дарэчы, і сам Магніцкі не забываўся пахваліць сябе. Прысутнічаючы на акце ўніверсітэта (у Казані пасьля “абнаўлення” ўніверсітэта ён быў толькі адзін раз), Магніцкі сам жа выказаў прамову, якая была дыфірамбам яго ж дзейнасьці. “У той самы час, - гаварыў казанскі апякун, - як ілжывая філасофія бунтуе розумы на Бога і людзей, ва ўніверсітэце нашым атрута гэтая ператвараецца ў выратавальны сродак супраць гвалтоўнай гордасьці розуму. Выхаванцы зразумелі недарэчнасць прыроднага права і ставяцца з ухмылкай да гэтага

абуральнага глупства”. Апякун асабліва быў задаволены выкладаннем гісторыі; прафесар гісторыі: “смелай рукой адрынуў тыя ідэалы язычніцкай велічы, перад якімі весь вычоны свет, схіляючы калені,

-69-

стаіць ужо дзве тысячы гадоў... У жыцііі святых знікла цень Брутаў”.

Поспехі ўскрыжылі галаву Магніцкаму. Ён не быў задаволены дасягнутым і імкнуўся ўсімі сродкамі знайсьці сляды крамолы. У Казанскім універсітэце гэта было цяжка зрабіць, але тым не менш, падстава была знойдзена і Магніцкі ў 1821 годзе пачаў справу супраць прафесара прыроднага права Сонцава.

Прафесар Сонцаў быў адным із выбітных выкладчыкаў казанскай навукі; ён быў рэктарам універсітэта у той калі Магніцкі праводзіў сваю рэвізію і змог вельмі спадабацца будучаму казанскаму апекуну. Але прафесар Сонцаў быў дастаткова самастойнай асобай і, хаця ён і стушаваўся пры новым уладкаванні, але, тым не менш, апякун адчуваў у ім прыкрытую апазіцыйную магутнасць. Суд над Сонцавым патрэбны быў казанскаму апекуну яшчэ і для таго, каб даказаць шкоднасць выкладання ва ўніверсітэце прыроднага права і філасофіі. Гэтую думку, як мы пабачым, Магніцкі спрабаваў правесьці ў той час, хаця і безвынікова, у галоўнай управе вучылішч. Магніцкі палічыў, што для яго было б больш зручным заручыцца рашэннем самой прафесарскай калегіі, чаму ён і дабіваўся ўніверсітэцкага суду над Сонцавым. Гэта была судовая камедыя, якая працягвалася ў 1821-23 гады. Старшынёй надзвычайнага ўніверсітэцкага суду быў прызначаны фаварыт Магніцкага, дырэктар універсітэта Ўладзімірскі; пракурорскія абавязкі былі ўскладзены на прафесара Цімянскага, спецыяльным сакратаром прызначаны прафесар Пальмін. Былі забраны ў Сонцава сапраўдныя рукапісы яго лекцый, а ў студэнтаў былі забраны для параўнання іхныя запісы. Аднак, не гледзячы на ўсе намаганні прыхільнікаў Магніцкага, барацьба з Сонцавым выявілася справай не із лёгкіх, таму што падсудны

-70-

быў выдатным юрыстам. Сам Ігнацій Лайёла пазайздросьціў бы тым інквізітарскім пытанням, якія прыдумаў, у агульнай колькасьці двухсот сямнаццаці, прафесар Пальмін, патрабуючы адказаў ад Сонцава. Гэта ўсё былі пытанні, якія мелі дачыненне да такіх далікатных пунктаў, як паходжанне манархічнай улады, значэнне канстытуцыі, рэлігійнай свабоды і г. д.

Доўгая судовая працэдура скончылася абвінаваўчым прысудам. Абвінаваўчыя пункты надзвычайнага суду, у колькасьці 12, галасноўна сцвярджалі, што інкрымініруемыя месцы лекцый прафесара супярэчаць святому пісанню ці “паслабляюць дадатныя законы”. У сапраўднасьці нічога такога не было. Нацяжкі ў абвінавачванні даходзяць да кур’ёзу. Так, у адным месцы свайго курсу прафесар Сонцаў сцвярджае, што адружанне не з’яўляецца проста дамовай, але святы хаўрус, асьвечаны годнасьцю таемства. І гэтая думка была прызнана супярэчачай святому пісанню.

На заключэнне суд прызнаў прафесара Сонцава абразіўшым Дух Гасподні і грамадзкую ўладу, на падставе чаго ён быў пазбаўлены пасады. Суд над

Сонцавым звярнуўся супраць самаго Магніцкага, калі была выпраўлена рэвізія для пераверкі дзейнасьці самаго Магніцкага ў Казані.

Казанскі ўніверсітэт не стаяў адзінкава, калі пачаліся рэпрэсіі на навуку. Рэакцыя мела ўплыў і на іншыя ўніверсітэты, хаця і ў меншай ступені і без такіх недарэчнасьцей, якія рабіў Магніцкі ў Казані.

Так, у Харкаве рэакцыя пачалася з выдалення прафесара Шада ў 1816 годзе. Шад быў адным із лепшых прафесароў тагачаснага Харкаўскага ўніверсітэта, але яго філасофскія творы былі прызнаны непабожнымі, таму што іхны аўтар падзяляў



погляды Шэллінга, “а, між іншым, вельмі спрэчнае пытанне, ці можна дапускаць яе ў Расіі і ўкараняць у памяць юнацтва”. Справа была вырашана не на карысць філасофіі Шэллінга і Шад быў высланы за мяжу, а яго творы спалены.

Харкаўскім апекуном быў тады граф С. А. Патоцкі. Але ён мала падыходзіў да галіцынскага рэжыму, чаму і зыйшоў у 1817 годзе. Яго месца заняў блізкі да Галіцына чалавек, сябар прэзідэнта Біблейскага таварыства ў Пецярбурзе З. Я. Карнееў. Спачатку ён служыў па ваеннай службе, затым па адміністрацыі і тут вызначыўся тым, што часам прапаноўваў самыя супярэчныя захады. Карнееў не атрымаў якой-небудзь адукацыі і, будучы апекуном вучэбнай акругі, даказваў прафесару, што маланка падае з неба ў выглядзе трохвугольніка, як знаменне троічнасьці Бога. Будучы апекуном, ён неадкладна прызначыў чытанне малітваў ва ўніверсітэце і наведванне студэнтамі царквы. Апякун харкаўскай акругі лічыў навукі “небяспечнымі”. Філасофію ён прызнаваў недастатковай “да аднаўлення ўпаўшай чалавечай сутнасьці” і лічыў неабходным змагацца супраць “цемры філасофскіх забабонаў, заснаваных на кічлівасьці розуму”. Не дзіўна пагэтаму, што Харкаўскі ўніверсітэт пачаў пусьцець; асабліва адчувальнай для ўніверсітэта было згубленне прафесара Асіпоўскага. Кароткачасовае кіраванне акругай Р. В. Карнеева, пляменіка папярэдняга апекуна, здзейсніла новы крок у гэтым жа накірунку, зрабіўшы пралом ва ўніверсітэцкім самакіраванні. Але на Харкаўскім універсітэце рэакцыя адбілася яшчэ не вельмі адчувальна.

Найбольш адчувальны пагром адчуў Пецярбургскі ўніверсітэт, дзе, дзякуючы настойлівасьці Руніча, быў выдалены шэраг найбольш значных прафесараў. Толькі што заснаваны Пецярбургскі ўніверсітэт



меў такіх значных выкладчыкаў навук, як Галіч, Герман, Раўпах, Арсеньеў і інш. справа была пачата у 1821 годзе Рунічам, які данёс галоўнай управе вучылішч, што філасофскія і гісторычная навукі ва ўніверсітэце выкладаюцца ў дусе супрацьлеглым хрысьціянству. Выкладальніцкая дзейнасць пазначаных прафесароў была спынена і супраць іх былі пачаты выведніцкія дзеянні. Былі сабраны сшыткі слухачоў, запіскі прафесароў, быў складзены ўніверсітэцкі суд, старшынёй і кіраўніком якога быў сам Руніч. Становішча падначаленай яму прафесарскай каллегіі было ў вышэйшай ступені цяжкім, таму што Руніч, не саромеючыся, накіроўваў свае інквізітарскія пытанні не толькі на абвінавачваемых, але і на тых, што хоць колькі выказваў ім спачуванне. Гэта быў

злобны паход, накіраваны супраць усёй ўніверсітэцкай рады. Не дзіўна пагэтаму, што Руніч дабіўся абвінаваўчага прысуду для пазначаных прафесароў, а таксама для прафесара Плісава. Да прафесарскай справы былі дададзены выпіскі шкодных месцаў із іхных твораў і лекцый. Спатрэбілася ўся магутнасць злоснага ўяўлення Руніча, каб у гэтых урыўках пабачыць “небяспечныя месцы”. На судзе Руніч паводзіў сябе не вельмі годна. Ён патрабаваў пакаяння з боку падсутных, але не дабіўся яго. Пры азнаямленні з пісьмовымі адказамі падсудных, у іх жа прысутнасьці, Руніч каверкаў словы, ламаў вымаўленне, крыўляўся, смяяўся і рагатаў.

Выснова ўніверсітэцкага суду паступіла ў галоўную ўправу вучылішч, якая прызнала вучэнне Германа і яго паслядоўніка Арсеньева шкоднымі і небяспечнымі для дзяржаўнага дабрабыту. Друкаваныя творы Германа, якія выйшлі раней (“Кароткі дапаможнік да агульнай тэорыі статыстыкі”, “усеагульная тэорыя статыстыкі” і ”Гістарычны агляд статыстычнай літаратуры



з боку асаблівасьцей расійскай дзяржавы”), Галіча (“Гісторыя філасофскіх сістэм”) і Арсеньева (“Абрысы статыстыкі расійскай дзяржавы”) забараніць для навучання і забраць із усіх бібліятэк навучальных устаноў. Акрамя таго, так як самі абвінавачваемыя патрабавалі крымінальнага суду для свайго апраўдання, то зроблена выснова аб перадачы гэтай справы належачай судовай установе. Магніцкі пратэставаў супраць апошняй пастановы, заявіўшы ў сваім асобным меркаванні, што “падсудныя і грамадства назавуць людзей, якія падводзяць безпадстаўна людзей пад крымінальную адказнасьць не суддзямі, а катамі”. Ён прапанаваў, з уласьцівым яму цынізмам, расправіцца з прафесарамі без суду, выслаць Раўпаха і Германа за мяжу, як замежнікаў. Справа дайшла да Камітэта Міністраў, які, аднак, даў магчымасць абвінавачваемым вылучыць доказы ў сваё апраўданне і, нават, прызначыў са свайго асяроддзя асобную камісію. Дарэчы, гэтая камісія дзейнічала, ці, лепш сказаць, не дзейнічала, да 1827 г., калі вышэйшым загадам было прызначана лічыць гэтую справу скончанай. Прафесары перайшлі на службу ў іншыя ўстановы. Такім чынам, Руніч і Магніцкі, у дадзеным выпадку, зведалі паразу, таму што не дабіліся абвінавачвання і выдалення прафесароў. Прызначэннем камісіі справа была прыкрыта і, верагодна, падставай для гэтага быў ліст Уварава да гаспадара. Гэты ліст – палкі пратэст супраць пастановы галаўнай управы вучылішч. Увараў прыводзіць доказы, што кнігі Галіча і Арсеньева выдадзены з дазвалення цэнзуры, што Герман не самастойна складаў свае лекцыі і што на руках у суда былі толькі арыгінальныя сшыткі Раўпаха. Увараў абураецца тым, што для атрымання патрэбных сведчанняў Руніч пагражаў аддаць студэнтаў у жаўнеры, турмой і Сібірру; сама працэдура суду была са скандаламі, пры якіх “усё было парушана для знявагі чалавечай годнасьці”,



нават прашэнне прафесароў прыняць да ўвагі ўсе сведчанні было прызнана крамольным.

Такім чынам скончылася гэтая характэрная справа. Рунічу і Магніцкаму патрэбна было знайсьці крамольны дух дзе б то ні было і ў чым бы то ні было.

# VI.
# Цэнзура і падзенне князя А. М. Галіцына.

Ціск рэакцыі адбіўся не толькі на адных універсітэтах. Калі рэакцыя змагалася з універсітэтамі, імкнучыся задавіць у іх усякую жывую думку, то лёгка здагадацца, што яна не забылася і пра іншы бок выказвання той жа думкі – друкавальны станок.

Ліберальны статут 1802 года патроху пачаў уразацца, з 1811 г. З’яўляецца шэраг асобных загадаў і пастаноў, якія тым ці іншым чынам абмяжоўвалі друк. З 1811 году пры міністэрстве паліцыі ўладкоўваецца асобны камітэт для прагляду ужо адобраных цэнзурай кніг і надрукаваных. Зразумела, што такая ўстанова ўжо толькі фактам свайго існавання уздзейнічала на цэнзараў. У 1812 годзе сустракаем загад аб тым, што рэдактары часопісаў могуць браць із замежных часопісаў толькі старыя, не маючыя дачынення да Расіі, звесткі, звесткі ж, якія маюць дачыненне да Расіі яны могуць браць толькі із “Пецярбургскіх Ведамасьцей”, “які выдаецца пад асобным наглядам”. Сябра галоўнай управы вучылішч Увараў, нават выносіць прапанову, каб журналісты “якія пісалі ў 1812 годзе, пісалі б інакш у 1815 годзе і патрхі пачыналі пагадняць меркаванні з памкненнямі ўраду”. Міністр паліцыі Вязьміцінаў імкнуўся забараніць абмеркаванне ў часопісах “пытанні, якія маюць дачыненне да дзейнасьці самаго ўрада і не могуць абмяркоўваць дзеянні значных асоб публічна”.



Той жа Вязьцінаў дабіўся таго, што часопісам было забаронена абмяркоўваць выкананне роляў казённымі актрамі, як асоб, якія знаходзяцца на дзяржаўнай службе. Шмат якія пытанні былі цалкам забаронены для абмеркавання ў друку, напрыклад, прыгоннае права і пытанні, якія маюць дачыненне да канстытуцыі. Цікава, што апошняя забарона была выклікана абвінавачваючым артыкулам самаго Магніцкага “Нешта пра канстытуцыю”, якая была надрукавана не падпісанай. З гэтай нагоды міністр народнай асветы растлумачыў цэнзарам, што прыватнай асобе не рэкамендуецца пісаць аб пытаннях палітычных, таму што ўрад лепш ведае, калі і што паведамляць публіцы.

Як следства такой дапытлівасьці цэнзуры друк апынуўся пад страшэнным уціскам. Гісторыя цэнзуры таго часу поўніцца кур’ёзнымі здарэннямі. Для характарыстыкі дастаткова паказаць некалькі фактаў, якія адлюстроўваюць становішча друку і адносіны да яго з боку цэнзуры. Самыя дабранакіраваныя пісьменнікі, нават Жукоўскі, не пазбеглі цэнзурнага перасьледу. Цэнзура ператварылася ва ўстанову, якая не толькі знаёмілася з рукапісамі, але і выраблялa вышук супраць аўтараў.

У Петразаводзку была пастаўлена п’еса “Дзідона навыварат”. Аўтар п’есы захацеў яе надрукаваць і даслаў яе ў цэнзурны камітэт. Але тут яна зведала

дапытлівае абмеркаванне. “Уся п’еса, - пісаў цэнзурны камітэт, - перапоўнена выразамі вельмі подлымі для вытанчанага слыху, асабліва калі іх выказвае Эней ці Дзідона ці іншыя значныя асобы”, наогул царуючыя асобы паказаны “ў вельмі непрывабным выглядзе”: напрыклад, Дзідона гаворыць: “уся глотка перасохла”, ці “ох матухна, ох любая, не гурочка мне хочацца”. Эней не паважліва звяртаецца да свайго дзядзькі: “Эх, дзядзячка, нялёгкая цябе нясе”. Згодна гэтых падстаў кніга забаронена.

Асобнай памяццю славіцца дзейнасць цэнзара Красоўскага. Гэта быў нейкі маньяк,



які не любіў асобныя словы і асабліва згадкі пра адносіны паміж абодвума стацямі. Не дарма Увараў, стаўшы міністрам, называў Красоўскага добрай ланцуговай сабакай. Красоўскі слова “свабода” замяняў на слова “незалежнасць”, Аляксандра Македонскага называў “так званы Вялікі”, а не проста Вялікі. Ён забараніў кнігу аб шкодзе грыбоў, на той падставе што грыбы з’яўляюцца скаромнай ежай. Красоўскі дазваляў друкаваць малюнкі толькі ў тым выпадку, калі вопратка жанчын была намалявана ніжэй калена.

Калі паэт Туманскі захацеў надрукаваць у “Сыне Айчыны” перакладзены верш “Аб дзеве”, які заканчваўся, між іншым, словамі: “а з мілай усмешкай на вуснах туды не прыходзіла дзева”, то Красоўскі закрэсліў усе выразы, якія мелі дачыненне да дзевы і з боку напісаў: “Якая дзева?” Відаць, у гэтых словах ён пабачыў блюзнерскую выхадку аўтара. Верш быў забаронены і насупраць адзнакі аўтара “дзевятае сакавіка 1823 г.” цэнзар напісаў “Дзевятае сакавіка 1823 году, г. зн. у адзін із першых дзён Вялікага пасту, вельмі непрыстойна пісаць аб каханні дзевы, невядома якой, калі гаворка ідзе пра любоў маці і пра смерць. Пры гэтым часопіс “Сын айчыны” чытаюць паважаныя людзі і нават святарства”. Наогул, Красоўскі забараняў друкаваць у часопісах, якія выходзілі пад час пастоў, вершы пра каханне.

Але асабліва выбітным, нават у дзейнасьці Красоўскага, патрэбна лічыць тлумачэнне ў дачыненні да вершаў пасрэднага паэта Оліна “Стансы да Элізы”, які былі перакладзены із адной баллады Вальтэра Скота. З нагоды забароны гэтых вершаў Олін пачаў цэлую справу і Красоўскі быў вымушаны ў афіцыйнай паперы растлумачыць, чаму ён лічыць вершы непрыдатнымі для друкавання. Гэтыя тлумачэнні цікавыя ў вышэйшай ступені. Вось некалькі ўрыўкаў із цэнзарскай крытыкі. Паказваем



вершы Оліна і адразу заўвагі Красоўскага.

- “*Усмешку вуснаў тваіх нябесных лавіў*”. Вельмі моцны выраз, жанчына не годная таго, каб яе ўсмешку называць нябеснай.
- “*І моўчкі на табе свае спыняць позіркі*”. Тут ёсць нейкая двухсэнсоўнасць.
- “*І зразела, што мая душа шукала*”. Патрэбна патлумачыць, менавіта што, таму што размова ідзе пра душу.
- “*О, як бы я жадаў аддаць табе ўсё жыццё*!” Што ж застанецца Богу?

- “*Каля ног тваіх часам для песней ліру ладкаваць*!..” Вельмі грэшна і зневажальна для хрысьціяніна сядзець каля ног жанчыны.
- “*І на грудзях тваіх сваю галаву супакоіць*!..” Верш вельмі юрлівы.

Цікава, што калі Олін пачаў справу аб забароне яго вершаў, то пецярбургскі цэнзарны камітэт падмацаваў гэтую забарону яшчэ некалькі падставамі. Вершы былі прызнаны вельмі спакушальнымі, а, між іншым, аўтар мог бы надрукаваць іх пад час пасту, асабліва пад час Адданага Тыдня, “а вядома, як строга забаронены ў слове Божым спакусы”, пісаў камітэт; не менш цікава і тое, што цэнзарны камітэт дабіваўся ад пракладчыка адказу, да каго гэтыя вершы звернуты, - “да жанчыны, ці да дзяўчыны, да блізкай сваячніцы, ці да выпадковай”.

Не гледзячы на цэнзарскі тэррор, яго кіраўнікам і гэтага было недастаткова. Было вырашана скласьці праект новага цэнзарскага статуту. Аўтарам праекта быў той жа Магніцкі. Побач са статутам Магніцкі прапанаваў выдаць асобную інструкыю для цэнзараў. Асаблівасцю гэтага праекта новага статута, на шчасьце не зацверджанага, была прапанова забараніць усякія кнігі, у якіх прама ці ўскосна адкідваецца, ці паслабляецца ці паказваецца сумнеўным вучэнне царквы, манархічнае ўладкаванне і г. д.; але пры гэтым



прапанавана забараняць усе кнігі аб маральнай філасофіі і тэатэтычным заканадаўстве, якія адзяляюць “маральнасць ад веры”, усе кнігі, якія заснаваны на тэорыі прыроднага права, усякі твор славеснасьці, у якім “ганарыстасць і свавольства розуму чалавечага спрабуюць растлумачыць і даказаць недаступныя для іх святыя таемнасьці веры”; павінны таксама быць забаронены кнігі, якія супярэчаць “добрым звычаям і свецкай прыстойнасьці”. Наогул праект статуту павінен, згодна думкі яго аўтара, папярэдзіць “усе выкруты і хітрасьці сучаснага духу“.

У сакрэтнай інструкцыі цэнзарам растлумачваецца пагібельны дух часу. Гэта цэлае казанне да будучых ахоўнікаў Царквы, дзяржавы і добрай маральнасьці; ім раіцца вышукваць прыкметы адсутнасьці веры, забараняць пахвальныя словы да ўладкавання замежных дзяржаў і таемна даносіць на аўтараў. Гэтае казанне да цэнзараў заканчваецца малітвенным выразам: “Ды хай прысвеціць Гасподзь цэнзараў на іх важнае служэнне”. Некаторыя із сябраў галоўнай управы вучылішч вагаліся адносна асобных бакоў праекта Магніцкага. Адзін Руніч цалкам пагаджаўся, але прапанаваў зрабіць некалькі дадаткаў, а менавіта: забараніць творы, якія напісаны не чыстым складам і неахайна, кнігі па фізіялогіі, анатоміі і паталогіі, таму што ў іх месціцца матэрыялізм, кнігі па філасофіі і дабрачыннасьці, калі ў іх не даказваецца першынство веры.

У тым жа 1823 Магніцкі выступае яшчэ з адным праектам. Згодна яго думкі недастаткова аднаго толькі нагляду за выкладаннем, неабходна скасаваць некаторыя дыстыпліны, як то філасофія і прыроднае права. З аднаго боку Магніцкі пужае той “распустай”, якая пранікла ў сьцены ўніверсітэтаў, з другога, робіць сапраўдны данос на ілюмінатаў, франкмасонаў і на асобных людзей.

Яму не спадабаецца логіка прафесара Давыдава, пасьлядоўніка Шэлінга. Наогул, Магніцкі баіцца Шэлінга, таму што ў яго творах “нейкі таямнічы тон” і “глыбокае мышленне”. Апошнія наветы Магніцкага былі настолькі недарэчнымі, што сустрэлі аппазіцыю нават сярод сябраў галаўнай управы вучылішч.

Магніцкі менавіта і дабіваўся аппазіцыі свайго ж міністэрства. Яму патрэбна было ўсякімі сродкамі выявіцца выратавальнікам айчыны і, такім чынам, заняць месца свайго міністра. За спіной у Магніцкага стаяў усемагутны Аракчэеў. Для адобвух князь Галіцын быў перашкодай. Аракчэеў зайздросьціў таму даверу, якім карыстаўся князь Галіцын у гаспадара, а Магніцкі не задавальняўся другарадным значэннем апекуна казанскай акругі. Пагэтаму абодва шукалі хаўруснікаў і падставы для знішчэння міністэрства. Такія хаўруснікі знайшліся, знайшлася і эфектыўная падстава.

Тут нам патрэбна пазнаёміцца з яшчэ адной асобай, якая выконвала ва ўсёй гэтай камедыі ролю пачынальніка. Мы маем на ўвазе архімандрыта наўгародзкага Юр’ева манастыра Фоція. Гэта была выбітная постаць, нават у асяроддзі тагачасных абскурантаў.

Архімандрыт Фоцій, у свеце Пятро Спаскі, правёў бедную і цяжкую маладосць. Ён рана трапіў у манастыр і аддаўся самаму суроваму аскетызму. У сваёй аўтабіяграфіі ён апавядае пра тыя мучэнні, якія яму давялося вынесьці для таго, каб выканаць свае аскетычныя абяцанні.

Аднойчы яму давялося праляжаць ноч у хаце на гарачай печы із баязні, “каб не захацелася яму дзяўчыны (якая спала ў той жа хаце) пад уздзеяннем духа нячыстага і каб ён не падлажыў яе яму”. Аскетызм і іншыя якасьці маладога манаха хутка звярнулі на сябе ўвагу і ён пачаў узвышацца сярод пецярбургскага святарсва.



Ён сябраваў з прэасьвечанымі Філарэтам і Інаннціем. Але ні гэтым сяброўствам ні выкладніцай дзейнасьцю ў марскім корпусе Фоцій не быў задаволены. Ён шукаў больш шырокага поля дзеяння і хутка зразумеў, куды патрэбна накіраваць сваю энергію – на барацьбу з асветай. Славалюбівы мніх сам апавядае пра тое як ён рыхтаваўся да барацьбы з “ворагамі” Царквы. Гэтае апавяданне выкрывае яго крайняе невуцтва. Ён пачаў збіраць кніжкі і сартыраваць іх. Згодна яго класіфікацыі кніжкі выявіліся: “злымі”, “бесоўскімі”, “дрэннымі”, “рэвалюцыйнымі”, “масонскімі”. Перш за ўсё Фоцій пачынае барацьбу з містыкамі і асабліва з Лабзіным. Ён хадзіў па ўсяму гораду, “узвысіўшы голас свой і стогн свой яка трубу і яка горад хадзіў усюды”. Гэта азначае, што ён з’яўляўся да ўсіх высокапастаўленых асоб з даносамі на містыкаў. Фоцій паўстаў супраць “злосных сходаў таемных таварыстваў”. Увасабленнем усяго зламыснага для Фоція быў, перш за ўсё, Лабзін, які ў яго ўяўленні, ўвасабляў у сабе “мудрасць зямную, бясоўскую”, напрыклад, Лабзін “славіў магнетызм, сапраўдную бясоўскую справу і занятак”; наогул, Лабзін “самісны апостал і прарарок сатаны”. Як вядома, Лабзін сапраўды быў выдалены з дапамогай Аракчэева.

У дзейнасьці архімандрыта Фоція мела вялікае значэнне яго сяброўства з графіняй Ганнай Арловай-Часменскай. Гэта быў вельмі падыходзячы матэрыял для ізуернага мніха. Першая размова 28-мі гадовага “старца” Фоція з яго будучай духоўнай дачкой была прысвечана пытанню аб тым, як патрэбна захоўваць цнатлівасць. Сяброўства паміж Фоціем і графіняй Арловай хутка ўмацоўваецца. Фоція часта наведваюць прывіды, якімі ён дзеліцца з графіняй. Яму таксама з’явіўся прывід аб тым, што “дзева яму перадаецца ўся” і будзе зброяй на дз’ябла. Графіня Арлова станавіцца духоўнай дачкой



архімандрыта Фоція. Тады ж Фоцій паспеў пазнаёміцца з князем Галіцыным. Дарэчы, мітрапаліт Міхал не зусім добра глядзеў на адносіны маладога “старца” і яго духоўнай дачкі, асабліва з погляду на не зусім добрыя чуткі пра абодвух і нават выслаў было Фоція ў Дзеравіцкі манастыр. Але пераемнік мітрапаліта Міхала, Серафім, ужо вядомы нам сваёй дзейнасьцю ў складзе Біблейскага таварыства, наблізіў да сябе Фоція і зноў перавёў яго ў Пецярбург.

Гэта быў час найбольшых поспехаў Фоція. Ён паспеў пасябраваць з князем Галіцыным і трымаў з ім “брацтва”. У адным лісьце Фоцій пераконваў князя Галіцына, што яго быў прывід. Сам Гасподзь усклаў дзясніцу сваю на галаву Галіцына, “таму што ты пакорлівы і добры сэрцам”. Галіцын уладкаваў спатканне Фоція з гаспадаром і вынік гэтага спаткання выявіўся ў законе аб забароне таемных таварыстваў. Але ўжо папярэдне Фоцій змагаўся са спадарыняй Крюднер, “жонкай злой веры” і з Татарынавай, з “жабамі, клакатаўшымі пад час той”, як характэрызуе іх Фоцій.

Нарэшце Фоцій заняў пасаду архімандрыта Наўгародзкага Юр’ева манастыра. Графіня Ганна Арлова купіла сабе маёнтак за непараўнальна высокі кошт паблізу манастырскіх сцен. Зараз “старац” і духоўная дачка маглі бачыцца не баючыся выведнікаў. “Сэрца і душа яе былі адзіны  з ім”, апавядае Фоцій у сваёй аўтабіяграфіі; роўным чынам і “усё яе багацце было яка агульнае з ім”. у Маскве духоўная дачка і яе бацька праводзяць “дні і ночы”; вялізная ўласнасць графіні разыходзілася на задавальненне featureнастайных патрэб юр’еўскага архімандрыта. Манастыр патануў у раскошы; адна толькі мітра архімандрыта каштавала графіні 100 000 рублёў. Фоцій упрыгожваў манастыр, набываў для яго маёмасць, а сябе упрыгожваў багатай вопраткай.



Дарэчы, жыццё архімандрыта ў манастыры не было пазбаўлена некаторых скандальных здарэнняў: такімі былі яго адносіны з другой духоўнай дачкой, удзельніцай пецярбургскіх тэатраў, інакіняй Фацінай.

Такім быў паплечнік Магніцкага і Аракчэева. Да іх далучыўся мітрапаліт Серафім, а ў асобе лагоднага і недалёкага адмірала Шышкова быў знойдзены хаўруснік, у шчырасць якога Аляксандр I верыў цалкам.

Знешняя падстава для адкрытай барацьбы ўзнікла з наступнай нагоды. Баварскі прапаведнік Гаснер, які быў тады ў Пецярбургу і меў вялікі паспех у асяроддзі пецярбургскіх містыкаў, надрукаваў кніжку аб імітаванні Хрыста. У Пецярбурзе знайшоўся перакладчык гэтага твору, які памёр, дарэчы, да

заканчэння свайго перакладу. Тады да справы выдання кнігі на рускай мове далучыліся іншыя асобы і між іншымі апякаемы Галіцыным дырэктар дэпартамента Папоў. Магніцкі даведаўся ад друкаванні кнігі і аб тым, што атрыманы дазвол на друк ад міністэрства і здабыў яе карэктурныя лісты. Уся кліка ў той жа час устрывожылася. Згодна тлумачэня Фоція кніга Госнера была "паролем" таемных таврыстваў супраць царстваў. Фоцій вышукваў асобныя цытаты із кгнігі і дадаваў свае асабістыя каментары. Вось узор яго інквізітарскай крытыкі. У кнізе змяшчаецца фраза: "Гэта тайна апошніх часоў, тайна вялікая". Фоцій тлумачыць гэтае месца такім чынам: "Хавайце усё да часу і маўчыце". Між іншым кніга Госнера была звычайным містычным творам.

Ворагі Галіцына змаглі занепакоіць Аляксандра І. Ён даручыў Шышкову зрабіць разгляд кнігі. Разгляд Шышкова вызначаўся такім жа каларытам, што і крытыка Фоція. Вось узор шышкоўскай крытыкі. У кнізе Госнера сустракаецца фраза: "Хіба з імем Хрыста мы не можам пераадолець і зрынуць



галаву змея?" Шышкоў у роспачы: "Хто гэты змей, супраць якога мы крэпкія самі сабой? Такая таемная мова, наўмысна ён ці не, ці не дае ён падставу зламысным людзям зрабіць із гэтай алегорыі зусім іншыя высновы?" Ці Гаснер гаворыць пра Ірада: "Ірад намышляў гэта" і г. д. Шышкоў трывожыцца: "Але чаму ж, паказваючы на той час, гаворыцца так, як быццам бы цяперашнія цары Ірады?"

Аднак гаспадар вагаўся. Тады Фоцій піша пасланне да гаспадара; гэта агульны данос. Ад Госпада Фоцій даведаўся пра рыхтуючуюся рэвалюцыю. У яго быў прывід: ангел адкрыў кнігі і быў пачуты голас: "Глядзі і разумей". І гэтая кніга выявілася Гаснеравай. Гасподзь адкрыў сакрэт Фоцію: "Ведай, о вялікі цар, што Гасподзь паведамляў мне ўсё перш, чым адкрываў усім: не будзе ніякай бяды, калі ты паслухаеш Гопада, праз мяне табе памедамляючага".

Усе гэтыя захады да такой ступені былі сшыты белымі ніткамі, што не змаглі канчаткова падарваць давер гаспадара да Галіцына. Мітрапаліт Серафім сам выпрасіў аўдзіенцыю ў цара і настойліва патрабаваў скасавання Біблейскага таварыства, спынення перакладаў святога пісання на рускую мову і выдалення князя Галіцына; Фоціў таксама меў сустрэчу з гаспадаром.

Нарэшце, ворагі Галіцына выкарысталі апошні захад – Фоцій зазваў князя Галіцына ў пакоі графіні Арловай і запатрабаваў адрачэння ад сваіх памылковых поглядаў. Князь Галіцын ускіпеў, тады Фоцій вымавіў над ім анафему, якая была зараз жа санкцыявана мітрапалітам Серафімам. У горадзе тут жа даведаліся аб усім гэтым. Атрымаўся грандыёзны скандал: адданы сын праваслаўнай Царквы, обер-пракурор Свяцейшага Сіноду і міністр духоўных спраў, выявіўся адлучаным ад Царквы.



Між іншым, 29 красавіка 1824 года Фоцій піша новае пасланне да гаспадара. Яму быў прывід і Гасподзь паказаў Фоцію ворагаў гаспадара – гэта князь Галіцын, Руніч, Папоў, архімандрыт Феафіл, Фон-Фок, які ўзначальваў таемную паліцыю. "Як дапамагчы? Маліўся я Госпаду", піша Фоцій, "і вось што было павядомлена: Біблейскае таварыства знішчыць, міністэрства духоўных спраў скасаваць, Сіноду

быць па-ранейшаму, прагнаць Госнера” і г. д. “Воля Божая нічога больш не паведаміла”, сціпла прызнаецца аўтар ліста.

Бяспрэчна, Аляксандр І добра зразумеў гнюснасць учынкаў Магніцкага і Фоція, але ён не змог утрымаць Галіцына пасьля адбыўшагася скандала; акрамя таго, у той час Аляксандр І ужо меў некаторыя звесткі аб таемных таварыствах, так што згадкі пра палітычнае значэнне Біблейскага таварыства яго вельмі напалохалі. Гэтым і тлумачыцца рашэнне гаспадара: Галіцын быў выдалены, міністэрства духоўных спраў скасавана, але міністрам народнай асветы быў прызначаны Шышкоў. Усе мары Магніцкага былі разбіты. Гаспадар, відаць, аддаліўся і ад Фоція. Гэтым і скончыліся роля Магніцкага, Шышкоў таксама яго не вельмі паважаў. Аракчэеву не было ніякай патрэбы падтрымліваць небяспечнага славалюбца пасьля таго як ён выканаў сваю ролю. Хутка была прызначана рэвізія Казанскага ўніверсітэту і ўжо на пачатку кіравання Мікалая дзейнасць Магніцкага па Казанскай навучальнай акрузе быра жорстка раскрытыкавана генералам Жаўтіхіным; Магніцкі выявіўся меўшым дачыненне да казённых сродкаў, якія выдаваліся на пабудову казённых будынкаў, чаму Мікалай І пазбавіў яго пасады і выдаліў із абодвух сталіц.

Лёгка здагадацца, якая праграма магла выйсьці із пад пяра такога міністра, як Шышкоў. “Цішыня царуе паўсюдна, - гаварыў ён, - что яшчэ патрэбна Расіі”. Шышкоў быў перакананы, што зло рэвалюцыі



шырока ахапіла рускую школу, асабліва ўніверсітэт і ў першай жа справаздачнай запісцы прасіў гаспадара даць яму ўсе сродкі “для ціхага і сціплага” патушэння зла і для гэтага дазволіць яму спыніць распусту ў кніжках. Шышков паставіў дэвізам свайго міністэрства, што асвета, якая не заснавана на веры і вернасьці гаспадару і айчыне, ёсць цемра і памылка. Як разумеў сваю задачу Шышкоў відаць хаця б із таго, што ён быў супраць перакладання святога пісання на рускую мову. Так, у вядомым катэхізісе мітрапаліта Філарэта, які быў выдадзены па даручэнню гаспадара, знаходзіліся тлумачэнні славянскіх тэкстаў на рускай мове. Шышкоў паўстаў і супраць гэтага катэхізіса, патрабуючы забараніць і яго. Нават мітрапаліт Серафім быў збянтэжаны клопатамі новага міністра аб веры і ў пошуках пярэчанняў адказваў Шышкову і Аракчэеву, што Сінодам былі выдаткаваны грошы на друкаванне новага выдання катэхізіса. Шышкоў быў на самай справе перакананы, што перамяніць словы запаветаў Гасподніх нельга, бо гэтыя словы “выйшлі із вуснаў Божых”. Ён не мог сабе ўявіць тэкстаў святога пісання, перакладзеных на рускую мову. Калі сказаць “Се жаніх градзе ва палуношчы”, то Шышкоў уяўляў сабе ідучага Хрыста, але калі сказаць: “Вось жаніх ідзе”, то тут няма Хрыста.

Да смерці Аляксандра І Шышкоў мала што паспеў зрабіць, ён паспеў толькі скласьці праект цэнзурнага статуту, які потым быў ужо зацверджаны Мікалаем І.

Гэты быў самы жорскі і самы шматслоўны статут сярод рускіх цэнзурных статутаў. Шышкоў быў перакананы, што яго статут не можа сціскаць свабоду і здольнасьці пісьменніка, але толькі абмяжоўвае свавольныя і неабгрунтаваныя думкі.

Такім быў заключны аккорд цапавання Аляксандра І.

# Бібліяграфія.

Дадаём спіс найбольш значных твораў і артыкулаў, якія апавядаюць аб другой палове царавання імператара Аляксандра І.

Із твораў, якія ахопліваюць усю эпоху, пазначым:

**Багдановіч**. Гісторыя царавання імператара Аляксандра І і Расіі ў яго часы. Творы аўтара па гісторыі айчыннай вайны 1812 г. VI тамоў. СПБ., 1869-1871 г.

**Шыльдэр М**. **К**. Імператар Аляксандр І , яго жыццё і цараванне. IV томы. Выдавецтва Суворына. СПБ. 1998 год.

**Пыпін А**. **М**. Рускае жыццё у першай чвэрці XIX ст., артыкулы ў “Рускай Старыне”, 1896-1902 г.

Найбольш значнымі артыкуламі пра Аракчэева з’яўляюцца: **Ратч**; звесткі аб графе А. А. Аракчэеве. СПБ., 1864 г. (Із “Ваеннага Зборніка”). Артыкул **Карцава** аб ваенных пасяленнях у “Рускім Весніку”, 1891 г., №№ 2, 3, 4. **Багаслоўскі**, Аракчэеўшчына. СПБ., 1882 г. Аб Грузінскай гаспадарцы Аракчэева, артыкул **Отто**, “Старажытная і новая Расія”, 1875 г. кн. 1, 2, 3. Матэрыялы для навейшай рускай гісторыі. Бунт ваенных паселішчаў у 1831 годзе; апавяданні і ўспаміны відавочцаў. СПБ., 1870 г. Нататкі Мартаса ў “Рускім Аархіве”, 1893 г. **А. Г. Слезнінскі**, Бунт ваенных пасялян пад час халеры 1831-1893 г. шэраг матэрыялаў па гісторыі ваеных паселішчаў змешчаны ў “Наўгародзкім статыстычным зборніку”, які выдаваў Багаслоўскі. Із шматлікіх артыкулаў размешчаных у гістарычных часопісах, пакажам толькі на некаторыя: **Аляксандраў**, Аб ваенных паселішчах, “Рускі Архіў”, 1873 г. жнівень. Апавяданні доктара **Еўрапеуса**, “Гістарычны Веснік”, 1887 г., верасень. Час ванных паселішчаў (із апавяданняў былога ваеннага паселяніна). **І. П. Мажайскі**. “Гістарычны еснік”, 1886 г., жнівень. Эпізод із бунта ваенных паселішчаў у 1831 годзе., **І. Паддубны**, там жа, 1883 г., жнівень. Успаміны відавочцы аб банце ваенных пасялян



у 1831 г. І. Паўлаў, 1893 г., сакавік. Апавяданні **Еўрапеуса** ў “Рускай Старыне”, 1872 г. Гл. у тым жа часопісе артыкулы 1885 г. студзень, лістапад.

Аб літаратурных напрамках эпохі існуе спецыяльная агульная літаратура. Зробім некалькі найбольш неабходных указанняў: **А. П. Пяткоўскі**, Із гісторыі нашага літаратурнага і грамадзкага развіцця. Манаграфія і крытычныя артыкулы. У двух тамах. СПБ., 1876 г. **М. М. Буліч**. Нарысы па гісторыі рускай літаратуры і асветы на пачатку XIX ст. СПБ. **А. М. Скабічэўскі**. Нарысы гісторыі рускай цэнзуры (1700-1863 гг.). СПБ., 1892 г. **Пыпін**, Гісторыя рускай літаратуры. **Весін**, Нарысы гісторыі рускай журналістыкі XX гадоў. СПБ., 1881 г. Запіска Карамзіна надрукавана ў “Рускім Архіве”, 1870 г. Акрамя шырокай манаграфіі Пагодзіна аб Карамзіне, пакажам на яго ж артыкулы ў “Веснік Яўропы”, 1866 г. тамы 2,4,11. Пра Шышкова можна знайсьці ў **Качубінскага**, Адмірал Шышкоў і канцлер граф Румянцаў. Пачатковы перыяд рускага славянаведзення. Адэсса, 1887-1888 г. У

“Гістарычныя творы” **В. Стаюніна.** Ч. І., СПБ. 1880 г. Нататкі, меркаванні і ліставанне адмірала А. С. Шышкова. Выдавецтва Кісялёва і Самарына, Берлін, 1870 г.

Біяграфія Магніцкага напісана Феактыставым. (Першапачаткова змшчана ў “матэрыялы для гісторыі асветы ў Расіі”, СПБ. 1866 г.). Вельмі важнай кніжкай, якая характэрызуе напрамак дзейнасьці Міністэрства Народнай Асветы і дзейнасць Магніцкага, з’яўляецца твор акадэміка **Сухамлінава**, Гістарычныя дасьледванні і артыкулы СПБ. Акрамя таго, аб Магніцкім гл. артыкул у “Рускай Старыне”, 1874 год, кастрычнік, 1875 г., лістапад, “Рускі Архіў”, 1864-1867 г. Дзевятнаццатае стагоддзе Барценева, выпуск І “Рускі Архіў”, 1876 г. (Успаміны Панаева). Аб князе Галіцыне, гл. апавяданні Галіцына, “Руская старына”, 1876 г., люты. Нататкі Грача.

Аб Біблейскім таварыстве: **Пынін**, Расійскае Біблейскае Таварыства, “Веснік Яўропы”, 1868 г., тамы 4, 5, 6. **Чыстоў**, Кіруючыя дзеячы духоўнай асветы ў Расіі ў першай палавіне гэтага стагоддзя. Каміся духоўных вучылішч. СПБ. 1894 г. аб архімандрыце Фоціі, гл. артыкул **Мірапольскага**, Фоцій Спаскі, юр’еўскі архімандрыт, гісторыка-біяграфічны нарыс, “Руская Старына” і “Гістарычны Веснік”.

Гісторыя ўніверсітэтаў за гэты перыяд добра вывучана. Акрамя састарэўнай гісторыі Маскоўскага ўніверсітэта пакойнага



**Шэвырава**, маюцца: **М. Буліч**. Із першых гадоў Казанскага ўніверсітэта, частка 1 і 2, Казань, 1887-1891. **М. П. Загоскін**. Гісторыя Казанскага ўніверсітэта за першыя сто гадоў яго існавання, 1804-1904 гг. Выйшла тры тамы. Казань, 1903 г. **Д І. Багалей**. Нарыс гісторыі Харкаўскага ўніверсітэта. Выйшла два тамы. Па гісторыі ніжэйшых навучальных устаноў гл. **В. В. Калаш**. Нарысы па гісторыі школы і асветы. Масква, 1902 г.

# Частка другая

Рускі дзяржаўны лад у асьвятленні дзекабрыстаў.

## І.

## Настрой ліберальнай часткі грамадства. Крытыка агульнай урадавай палітыкі і дзяржаўнага ўладкавання.

У эпоху рэакцыі грамадзкая думка здавалася пакрытай густой ценню. Але такое ўражанне ўзнікала ў павярхоўнага назіральніка. У сваёй глыбіні рускае

грамадства яшчэ захоўвала дастаткова грамадзкі-здаровых арганізмаў. Гэтая частка грамадства глыбока абарулася рэакцыйнымі тэндэнцыямі ўрада. Яна крытыкавала яго дзейнасць, сочачы за ім крок за крокам. Яна з боллю ў сэрцы ўспрымала ўсякі новы рэакцыйны захад урада. Першапачаткова ліберальна накіраваная частка грамадства не зусім выразна зразумела паварот назад, зроблены Аракчэеўскім рэжымам. Такі паварат ёй здаваўся немагчымым пасьля заяў і пачынанняў пршага дзесяцігоддзя царавання Аляксандра; ёй здавалася немагчымым ісьці назад, нават стаяць на месцы і не ісьці наперад, той час калі ўся ліберальная Еўропа дабілася ўдзелу народа ў дзяржаўных справах. Але калі шэраг рэпрэсій, планамернасць ракцыйнай палітыкі канчаткова выявілі сумную карціну рэакцыі, гэтая частка грамадства, натхняемая ўсведамленнем грамадзянскага абавязку, узялася за працу. Гэтая праца спачатку выявілася ў стварэнні таемных грамадстваў, а потым і ў рэвалюцыі. Рэвалюцыя выявілася не ўдалай для тых хто падняў сцяг свабоды. Але яна не была выпадковай з’явай. Насупраць, гэта была сур’ёзная задача, добра абдуманая.

-92-

Чалавек пачынае барацьбу з урадам ці бярэцца за зброю, бяспрэчна, добра ўзважыўшы матывы такой рызыкі. Дзекабрысты на працягу шматлікіх гадоў абмяркоўвалі палітыку ўрада ва ўсіх яе праявах; і агульны вынік іхных разважанняў прывёў іх на Сенацкую плошчу і сабраў роты ў Васількове. Абставіны паказалі, што справа не была падрыхтавана належным чынам і перамога засталася не за імі. Аднак, з гістарычнага боку гледжання падрыхтоўчая праца, якая праходзіла ў шэрагах дзекабрыстаў, уяўляе вялікую цікавасць. Гэты інтарэс, перш за ўсё, выяўляецца ў той крытыцы дзеянняў ураду і ўсёй дзяржаўнай машыны, якую зрабілі дзекабрысты.

Важна адзначыць, што кожны новы крок рэакцыі паднімаў незадавальненне ў асяроддзі грамадства і найбольш неспакойныя яго сябры рваліся да дзеяння. “Чым мацней дзейнічала рэакцыя, апавядае дзекабрыст Бяляеў, - тым больш нестрыманым было ў розумах супрацьдзеянне. Асабліва гэта заўважалася ў гвардыі, дзе незадаволеных было шмат, ды інакш і не магло быць, таму што незадаволенымі былі амаль усе думаючыя, асвечаныя людзі, якія не маглі не бачыць усіх бязглуздасьцей існуючай рэчаіснасьці”[2].

Больш выразна тую ж думку выказвае дзекабрыст Якубовіч у сваім лісьце із крэпасьці да Мікалая І: “Незадаволеных ці карбанарыў у прыродзе чалавека няма; іх стварае ўрад; ён, малым клопатам аб дабрабыце сваіх падданых, ці марудным развіццём народнай асветы, не бяручы да ўвагі дух часу, не даючы карыснага накірунку кіпучай дзейнасьці юнацтва, нараджае гэтыя пагубныя ідэі, якія, як маральная

-93-

эпідэмія, разліваючыся па дзяржаве, заражаюць кожнага і перш чым давядуць да агульнай карысьці, знішчаць тысячы лепшых грамадзян, дабрадзейнейшыя гаспадары станавяцца лютымі тыранамі; і тут-та адбываецца назаўсёды

[2] Бяляеў. Успаміны аб перажытым і адчцтым. “Р. Ст.” 1881 г., сакавік, 490.

аддзяленне пасада ад народа, а гора той айчыне, дзе адбудзецца гэтае аддяленне”[3].

Грамадства не магло забыцца пра тыя надзеі, здзяйсненне якіх здавалася так блізка, нават на заканчэнні ліберальных гадоў царавання. Сведчанні і лісты да імператара Мікалая Паўлавіча дзекабрыстаў, адлюстроўваюць горыч расчаравання і рэзкую, але праўдзівую карціну мінуўшага царавання. Вось напрыклад, якімі словамі характэрызуе Аляксандр Бястужаў адбыўшуюся перамену ў палітыцы, разбітыя надзеі і горыч расчаравання: “Пачатак царавання імператара Аляксандра быў азнаменаваы самымі бліскучымі надзеямі для дабрабыту Расіі. Дваранства адпачывала, купечаства не скардзілася на крэдыты, вайска служыла без напругі, навукоўцы вучыліся, чаму хацелі, гаварылі ўсё што думалі і ўсе, па шмат чаму добраму, чакалі яшчэ лепшага. На жаль, абставіны не дапусьцілі да гэтага і надзеі састарэлі без здзяйснення. Няўдалая вайна 1807 г. і іншыя прычыны разладзілі фінансы, але таго яшчэ не заўважалі ў прыгатаванні да айчыннай вайны. Нарэшце Напалеон уварваўся ў Расію і тады рускі народ упершыню адчую сваю моц, тады абудзілася ва ўсіх сэрцах адчуванне незалежнасьці, найперш палітычнай, а потым і народнай. Вось пачатак вольнадумства ў Расіі. Урад сам сказаў словы: “Свабода, вызваленне!” Сам сеяў творы аб злоўжыванні неабмежаванай уладай Напалеонам і рускі манарх абвясьціў іх на берагах Сены і Рэйна. Яшчэ вайна не скончылася,



калі ратнікі, вярнуўшыся дадому, упершыню разнеслі раптане ў народзе. “Мы пралівалі кроў, - гаварылі яны, - а нас зноў прымушаюць абліваццa потам на паншчыне. Вы пазбавілі радзіму ад тырана, а нас тыраняць уладальнікі”. Войска, ад генералаў да жаўнераў, прыйшоўшы назад, толькі і гаварыла, як добра ў чужых краях, параўнанне са сваім становішчам натуральна выклікала пытанне, чаму ж не так у нас? Спачатку, калі аб гэтым гаварылі безперашкодна, гэта разыходзілася на вецер, бо розум, як порах, небяспечны толькі сціснуты. Прамень надзеі, што гаспадар імператар дасць канстытуцыю, як ён пра гэта згадваў пры адкрыцці сойма ў Варшаве і спроба некаторых генералаў вызваліць сваіх рабоў, яшчэ шмат кага залагоджвалі. Але з 1817 г. усё перамянілася. Людзі, якія бачылі худое, ці жадаўшыя лепшага, ад мноства шпіёнаў вымушаны былі размаўляць скрытна – і вось пачатак таемных таварыстваў. Уціск з боку начальства заслужаных афіцэраў гарачыла розумы. Перавага нямецкіх прозвішчаў перад рускімі крыўдзіла народны гонар. Тады вайскоўцы пачалі гаварыць: “Ці для таго мы вызвалялі Яўропу, каб налажыць ланцугі на сябе? Ці для таго мы далі канстытуцыю Францыі, каб не мець магчымасьці гаварыць пра яе і купілі крывёй першынства паміж народамі, каб нас зневажалі дома? Знішчэнне нармальных школ і ганенні на асьвету вымусілі думаць ад безнадзейнасьці, пра важныя мерапрыемствы. А калі гул народа, які здарыўся ад недаядання і злоўжыванняў земскіх і грамадзянскіх улад, пачаў пагражаць

[3] Ліст да гаспадара ў справе № 470.

крывавай рэвалюцыяй, то грамадства выявіла намер адвесьці большае зло меншым і пачаць свае дзеянні пры першым жа зручнай нагодзе”[4].

Барон Штэйнгель прыходзіць у адчай пры адной толькі думцы аб тым, што нова цараванне будзе паўтарэннем папярэдняга, як гэта было абвешчана ў высачэйшым



маніфесце. Ён піша гарачы ліст із турмы да імператара Мікалая І, дэталёва разглядаючы недахопы папярэдняга царавання і просіць новага гаспадара стаць на шлях рэформ. “У вышэйшым маніфесце аб вашым узыходжанні на пасад, - гаворыцца на пачатку ліста, - як бы для суцяшэння народа, сказана, што ваша цараванне будзе прадаўжэннем папярэдняга. О, гаспадар, няўжо вы не заўважаеце, што сама гэтая думка пужала ўсіх і што толькі адна агульная ўпэўненасць у абавязковай перамене ўладкавання гаварыла на карысць цесарэвіча”. Паказаўшы на асабістыя якасьці імператара Аляксандра І, на яго здольнасць выклікаць сімпатыю людзй да сябе, барон Штэйнгель звяртаецца да той незразумелай супярэчнасьці, калі пры такіх бліскучых асабістых якасьцях манархазрабіла яго цараванне гібельным для Расіі. Сярэднія і ніжэйшыя станы народа былі ў непаразуменні і, сустракаючы ветліва гаспадара, скардзіліся на загады ўрада; народнае незадавальненне шукала вінаватых у міністрах. Але тыя, што быў больш адукаваны, глядзелі і разважалі інакш”[5].

Палкоўнік Паджыа, разважаючы ў сваіх сведчаннях пра тыя ж пытанні, спыняецца на неадпаведнасьці цяперашняй палітыкі дзяржавы, якая стала тады, дзякуючы перамогам свайго войска, на першае месца ў Яўропе, з унутраным становішчам Расіі і адносінах да яе ўраду. “Пасля трохгадовай кампаніі Расія, хаця і ўвянчаная славай, хаця і атрымаўшая пярвейшае месца ў Яўропе, адкак жа, адносна грамадзянскага яе становішча, выяўляла рысы яшчэ большага свайго знясілення. Сляды спусташэнняў напалеонаўскіх грамад, як то: спаленне Масквы, панесеныя страты дваранствам і купецтвам, а яшчэ больш сялянствам, якое страцілі ўсю



іхную рухомую мёмасць, - адным словам, усіх станаў, разнастайныя высілкі і ахвяры для захавання пасаду і гонару народнага ад замахаў на багацці Расіі уварваўшагася ворага, - усе гэта здавалася дастатковым для таго каб звярнуць увагу на гэта нашага ўрада. Дух заваёўніцтва які знік разам з падзеннем Напалеона, не бачыў неабходнасьці ў павелічэнні войска; чакалі міру, адпачынку, з ім змяншэння падаткаў і павелічэня ўсіх грамадзянскіх напрамкаў кіравання, вось як мы гаварылі аб будучыні Расіі; вось чаму потым прыпісвалі раптанне і як тлумачылі яго, каб пераканаць сябе ў неабходнасьці выкарыстання больш незаконных сродкаў, якія мы выбралі для дасягнення нашай мэты”. Ахарактэрызаваўшы шмат якія бакі тагачаснай палітыкі, Патжыо прыходзіць да той сумнай высновы, што ў Расіі ўрад стаў чужым “у дачыненні да яе

[4] Ліст да імператара Мікалая Паўлавіча. Справа № 470.
[5] Ліст надрукаваны ў “Грамадзкія Рухі”, т. І, стр. 475-476.

грамадзянскага стану”. Ён прама заяўляе Следчаму Камітэту, што “вальнадумства ў Расіі не было паза межамі нашага таварыства, але было незадавальненне”. “Але якая адлегласць, - гаворыць ён далей, - ад аднаго да другога. Незадавальненне, у асаблівасьці пры звычаях нашага народу, ёсць маленне ўсяго лепшага. Вольнадмства кічыцца, паднімаецца і ўсё рушыць. Першае, бяспрэчна, залежыць ад адукаванасьці народа; другое ёсць дзеянне захапленняў, якія і пасярод невуцтва могуць мець свае пачаткі ў людзях, якія не могуць уціхамірыць сябе пасярод хваляванняў першых”[6].

У такіх жа змрочных фарбах бачылася рэчаіснасць братам Бястужавым: Аляксандру і Мікалаю. Першы ў сваім лісьце да імператара піша: “Жаўнеры выказвалі незадавальненне на стамленне ад вучэнняў, чыстак, каравулаў; афіцэры – на малое жалаванне і непамерную строгасць. Матросы – на чорную працу, падвоенную праз злоўжыванні,



марскія афіцэры – на бяздзейнасць. Людзі са здольнасьцямі скардзіліся, што ім перакрываюць шлях да росту па службе, патрабуючы толькі маўклівай пакоры, навукоўцы – на тое, што ім перашкаджаюць навучаць, моладзь – на перашкоды ў навучанні. Карацей, паўсюдна бачыліся незадаволеныя твары, на вуліцах паціскалі плячамі, усюды шапталіся, усе гаварылі: “Да чаго гэта прывядзе?” Усе элементы былі ўзбуджанымі. Адзін толькі ўрад безтурботна драмаў на вулкане, адны толькі судовыя месцы раскашавалі, бо толькі для іх Расія была абетаванай зямлёй. Іхнае ліхаімства вырасла да нечувалых памераў. Пісары мелі коней, павытнікі куплялі вёскі і толькі большыя памеры хабару вылучалі больш высокія ўстановы, так што ў сталіцы на вачах у ахоўнікаў законаў адбываўся гандаль правасуддзем. Добра, калі яшчэ заплаціш за вырашэнне справы, а то бралі, падманвалі і нічога не рабілі”[7].

Яго брат Мікалай у сваіх сведчаннях глядзіць на справу не менш змрочна: “Незадавальненне ўсіх станаў расійскай дзяржавы, прыгнечанасць земляробчага стану падаткамі і асабліва, у апошні час, падставамі і дарогамі, а, разам з тым, перашкоды для дзейнасьці ўнутранай прамысловасьці, уціск унутранага гандлю, як следства Гаяўдзенскай пастановы, недахоп крэдыту для знешняга гандлю, недахоп фінансаў, пагарда ў шмат якіх выпадках дваранскіх станаў, нарэшце, строгасць, з якой кіраваліся ваенныя паселішчы і незадавальненне войска – усё гэта разам давала нагоду думаць, што калі-небудзь немінуча павінна будзе адбыцца дзяржаўнае ўзрушэнне, калі рэчаіснасць застанецца такой жа”[8].

Дзекабрысты давалі не толькі агульныя характарыстыкі, ці агульныя згадкі пра неабходныя рэформы, але ў іхных сведчаннях і пазнейшых нататках можна знайсьці



[6] Сведчанні Паджыо.
[7] Ліст у справе № 470.
[8] Сведчанні Мікалая Бястужава.

дэталёвае абгрунтаванне іхных меркаванняў і назіранняў. У іх можна знайсьці падрабязны і слушны адказ на ўсе ўзбуджаемыя імі пытанні. Мы пазнаёмімся толькі з тым, як глядзелі дзекабрысты на розныя бакі тагачаснага становішча дзяржавы.

Шмат хто з іх, перш за ўсё, адзначае вялікае падзенне папулярнасьці імператара Аляксандра I і ўзрастаючы недавер да яго і яго палітыкі ў грамадстве. Генерал фон-Візін у сваіх нататках адзначае, што пакуль рускія патрыёты яшчэ маглі спадзявацца на пераўтварэнні, якія б пачыналіся самім ўрадам, яны былі гатовы ўсімі сродкамі яму садзейнічаць. Але калі пасьля кангрэсаў усе пераканаліся ў марнасьці такіх надзей, то “цалкам адвярнуліся ад яго”[9]. Наколькі вялікім быў недавер да імператара, можа сведчыць наступнае меркаванне Кахоўскага: “Пакойны імператар, - пісаў П. Кахоўскі, - аб’язджаючы вобласьці паўсюдна сустракаў задавальненне і ветлівасць, але ці былі яны шчырымі? Клянусь Богам, не! Аляксандр ведаў, што яго ўсюды і заўсёды падманваюць. Пры яго частых падарожжах па Расіі губернская адміністрацыя выкарысоўвала ўсе магчымыя сродкі для таго, каб не паказваць сапраўднае становішча насельніцтва. У некаторых гарадах перад прыездам імператара цэлыя вуліцы агароджвалі высокім плотам, каб схаваць за ім разбураючыяся хаткі беднякоў. Паліцыя выкарыстоўвала ўсе захады, каб прадухіліць падачу прашэнняў насельніцтвам”[10].

Несімпатычныя асабістыя якасьці імператара, перш за ўсё, выяўляліся ў суровым і дзіўным паліцэйскім рэжыме. Баценкоў абураўся на шпіёнства, якое было заведзена імператарам, ад якога не быў пазбаўлены нават усемагутны граф Аракчэеў. “Квартальныя, -



апавядае ён, - сачылі за кожным крокам усемагутнага графа”. Згодна слоў Баценкова, імператар Аляксандр “нікога не лічыў чыстым і пазбаўленым грахоў у дачыненні да сябе, а таму дапускаў і вытрымліваў разнастайныя эпітыміі, толькі б не самаму самавольна прызначаць іх; такім быў яго нораў”. Наогул, Баценков сцвярджае, што “цяжар апошніх двух гадоў царавання Аляксандра I пераўзыходзіў усё, што мы калі-небудзь уяўлялі пра жалезны век. Уціск павялічваўся прапарцыянальна яго еўрапейскай славе. Усе былі зведзены да аднаго ўзроўню абыякай нямогласьці і ўсе залежалі ад шматлікіх таемных паліцый”[11].

Імператар Аляксандр I увесь аддаўся знешняй палітыцы. У асяроддзі сваіх хаўруснікаў заваёўнік Яўропы меў пярвейшае значэнне. Але дзекабрысты адзначалі ў знешняй палітыцы яе неадпаведнасць інтарэсам дзяржавы і жаданням народа. Расія з яе вялікім войскам зрабілася сторажам цемры і рэакцыі ў Заходняй Яўропе. Рускае войска абараняла інтарэсы заходне-еўрапейскіх гаспадароў, жаўнеры гінулі тысячамі, эканамічныя сродкі краіны

[9] Запіска ў “Грамадзкія рухі”, стр. 183.
[10] Ліст Кахоўскага да гаспадара, Дубровін, Пасля Айчыннай Вайны. “Р. Ст.”, 1903 г., снежань, стр. 482.
[11] Шыльдэр, “Імператар Мікалай I”, т. I, стр. 164.

бяднелі, рэкруцкія наборы абцяжарвалі гаспадарку краіны. У мірны час даводзілася ўтрымліваць вялізнае войска. Падпалкоўнік Паджыо вельмі трапна ацэньвае гэтую шкодную і бязглуздую палітыку. І гэтая ацэнка неперабольшаная: пад ёй павінен падпісацца самы даброзычлівы да імператара Аляксандра І гісторык. З боку гледжання Паджыо, Расія дарэмна ў 1815 годзе накіравала вялікае войска, нават гвардыю. "Зноў рэкруцкія наборы, зноў выдаткі, якія суправаджаюць усякае прыгатаванне да далёкіх паходаў і да вайны". Гэтыя зборы былі залішнімі, таму што было дастаткова магутнасьці больш заінтарэсаваных краін Англіі і Францыі для таго, каб спыніць задумкі

-100-

Напалеона. Паджыо падтрымліваў далучэнне Польшы да Расіі проста таму, што гэта проста перашкаджала далейшым сваркам паміж двума суседнімі народамі. Але дараванне канстытуцыі Польшчы было абстаўлена зневажальнымі для рускага нацыянальнага пачуцця ўмовамі. "У прамове, якая была выказана пры дараванні ёй канстытуцыі, есць словы зневажальныя для нашага народнага духу". У рускім асяродку дараванне канстытуцыі Польшчы выклікала "зайздросць". Грамадзкасць шмат чаго была схільна прыпісаць захапленню замежнай палітыкай, - "усе захады, якія не адпавядалі дзяржаўнай карысьці, як то: павелічэнне войска, частыя паездкі пакойнага гаспадара на кангрэсы". "Наш урад, - гаварыў ён далей, - звярнуўшы ўсю сваю ўвагу на знешнепалітычныя пытанні, гэтым самым і выклікаў нашу ўвагу. Тут кожны заўважаў удзел нашага ўрада ў захадах да супраціўлення распаўсюджванню духу перабудоў." Наогул, захапленне гаспадара знешняй палітыкай вырабіла не вельмі прыемнае ўражанне.

"Не мы адны гаварылі аб доўгатэрміновай адсутнасьці нябожчыка-гаспадара; было шмат і сапраўды добрамысных людзей, якія ўздыхалі праз доўгую адсутнасць яго ў Трапау і Лайбах і якія з горыччу адзначалі, што справы знешняй палітыкі, якія не мелі непасрэднага дачынення да Расіі, адхілялі гаспадара ад унутраных расійскіх спраў, і што ўсе справы, а асабліва грамадзянскія, рабіліся вельмі маруда; таксама не мы адны заўважалі, наколькі такая палітыка абцяжарвала Расію падаткамі, таму што для падтрымання такой палітыкі нябожчык-гаспадар абвясьціў на кангрэсе, што шматлікае яго войска не мае іншай мэты, як ахова іншых дзяржаў ад унутраных узрушэнняў".

Рускіх абурала "відавочная перавага і уплыў Венскага кабінета над нашым". А, між іншым, найвялікшы

-101-

із палітыкаў таго часу, Меттэрніх, як усім было добра вядома, супраціўляўся далучэнню Польшчы да Расіі. Венскі ж кабінет адгаворваў Расію ад падтрымкі паўстаўшых грэкаў, што цалкам адпавядала б традыцыйнай рускай палітыцы. У Расіі спадзяваліся, што рускі ўрад падтрымае грэкаў і выкарыстае непаразуменні ў Турцыі. А ўрад, між іншым, прымушае Францыю ўціхамірваць вызваленчы рух у Гішпаніі[12].

[12] Сведчанні Паджыо.

Паджыо вельмі трапна заўважыў, што руская палітыка ў дачыненні да Польшчы і Грэцыі вельмі абурала тагачаснае грамадства. У дачыненні да Польшчы ў Расіі адчувалі тады менавіта зайздросць – інакш назваць гэтае адчуванне немагчыма. З аднаго боку, у набыцці Польшчы тады бачылі ўзнагароду, як вынік ваенных поспехаў. З другога боку, ва ўсталяванні канстытуцыі ў Польшчы бачылі выклік, які быў кінуты рускаму грамадству: як быццам бы Расія не была годнай далучыцца да даброт свабоды. Вестка аб аднаўленні Польшчы, апавядае генерал М. Ф. Арлоў, "горка мяне ўразіла, бо я заўсёды лічыў, што такое аднаўленне для Расіі будзе сапраўдным няшчасьцем"[13], відавочна із меркаванняў чыста палітычных. Згодна слоў пазнейшых нататак Завалішына, дараванне канстытуцыі Польшчы "якая лічылася непрымірымым ворагам Расіі, пераможанай і заваёванай Польшчы, перш чым яна была дадзена яе пераможцы Расіі", пасеяла іскарку сумненняў і недаверу да ўрада. Такі крок урада гатовы былі патлумачыць вельмі тонкім разлікам для падтрымання папулярнасьці Аляксандра ў Яўропе. Дараванне канстытуцыі Польшчы яшчэ дадавалася чуткамі аб аддзяленні ад Расіі Літвы і далучэнні яе да Польшчы[14]. Пад уплывам усіх гэтых



чутак, у гуртку дзекабрыстаў, які сабраўся ў Маскве ў 1818 годзе, адбыліся першыя размовы пра царазабойства. Тады ў Маскве былі Якушкін, Аляксандр і Мікіта Мураў'ёвы, Сяргей і Мацвей Мура'ёвы-Апосталы, князь Шахоўскі і інш. У такім жаданні гаспадара, пра якое ў Маскву із Пецербурга паведаміў сваім лістом князь Трубяцкі, сабраўшыяся гатовы былі бачыць складаны план: у паляках Аляксандр І хацеў знайсьці апірышча на выпадак супраціўлення ў Расіі пры ўладкаванні ваенных паселішчаў. Сабраўшыяся правялі некалькі вечароў у вельмі гарачых спрэчках і Якушкін нават вызываўся забіць гаспадара. Якім бы чынам грамадства ні тлумачыла рускую палітыку адносна Польшчы, разумела яно яе шырока ці блізка, але, ва ўсякім выпадку, відавочна адно, што гэтая палітыка было вельмі непапулярнай.

Тое ж самае патрэбна сказаць і пра рускую палітыку адносна грэкаў і паўднёвых славян. "адзінаверныя нам грэкі, - пісаў Кахоўскі із турмы імператару Мікалаю І, - некалькі разоў падбухторваемыя нашым урадам супраць мегаметанскага панавання, тонуць у сваёй крыві; цэлая нацыя знішчаецца і чалавекалюбівы хаўрус абыякава глядзіць на пагібель чалавецтва. Сербы, верныя нашы хаўруснікі, стогнуць пад ігам безчалавечча турэцкага. Чарнагорцы, якія нікому не даюць сваё войска і так старанна дапамагаўшыя нам пад час кампаніі ашага флоту ў Сярэдзіземным моры пад кіраўніцтвам адмірала Сінявіна, забытыя і пакінуты на волю лёсу. Аднолькавыя пачуцці натхняюць усе народы Яўропы і колькі б яны ні ўціскаліся, забіць іх немагчыма. Сціснуты порах дзейнічае мацней"[15].

---

[13] Сведчанні М. Ф. Арлова.
[14] Нататкі дзекабрыста Д. І. Завалішына, т. І, стр. 191-192.
[15] Шчогалеў, Пятро Рыгоравіч Кахоўскі. "Былое", 1906 г., студзень, стр. 151.

Згодна слоў Завалішына, знешняя палітыка Расіі вызнавалася прамой здрадай народу на карысць палякаў і немцаў. “Усе гаварылі, - піша ён, - пра супярэчнасьці,

-103-

у якіх заблытаўся ўрад у справе грэкаў, калі, спачатку дазволіўшы было выставіць кружкі ў цэрквах для збірання міластыні ім на дапамогу, але пакінуўшы, як гаварылі, пад уплывам Меттэрніха, без дапамогі гэтых самых грэкаў, да якіх звярталася спачуванне Расіі заадно з усім тым, што толькі было ліберальнага ў Яўропе”[16].

І так, адны злараднічалі, бачучы як руская палітыка заблыталася, другія былі ўзбуджаны спачуваннем да адзінаверных грэкаў. Апошніх было больш, асабліва ў асяроддзі моладзі. “Больш за ўсё запальвала моладзь, - піша Лорар, - паведамленне аб паўстанні ў Грэцыі. Усе былі перакананы, што гаспадар дапаможа адзінаверцам і што наша войска выступіць у Малдавію. Але палітыка Метэрніха, якая пераважала ў еўрапейскіх кабінетах, маўчала, а грамадства, між іншым, не перапыняла выказваць сваё спачуванне прыгнечаным”. Шмат хто з афіцэраў гвардыі пачалі прасіцца ў палкі арміі, мяркуючы тым самым наблізіцца да маючага адбыцца паходу ў Грэцыю[17]. Барон Штэйнгель у сваім лісьце да імператара Мікалая таксама адзначае такі настрой грамадства: “Грэкі пакінуты на волю лёсу. Сувязь адзінаверства, якая непарушна існавала восем стагоддзяў і якой заўсёды баялася Порта і асьцерагалася Яўропа, раптам разбурана”[18].

Ужо з апошняй заўвагі барона Штэйнгеля відаць, што дзекабрысты прынімалі да ўвагі не толькі адно спачуванне да прыгнечанага народу; яны ўлічвалі і міжнародныя вынікі такой палітыкі. Паджыо, у сваёй характарыстыцы знешняй палітыкі, успамінае, што грэкі карысталіся апякунствам рускага двара з часоў Кацярыны II. Венскі кабінет стаў паміж грэкамі

-104-

і Расіяй. А, між іншым, грэчаскае паўстанне перашкаджала паўднёваму рускаму гандлю і хуткае вырашэнне гэтага пытання магло б спрыяць яго росквіту[19]. Акрамя гэтых палітычных і эканамічных падстаў, якія рабілі такую палітыку нацыяльна шкоднай, была і яшчэ адна пра якую згадвае Лунін: “Таемнае гарамадства выказвалася за незалежнасць грэкаў, якія былі пакінуты амаль усімі еўрапейскімі дзяржавамі; яно падняло голас супраць рабства і гандлю рускімі, якое было несумяшчальным з Божымі і чалавечымі законамі”[20].

Унутраная палітыка ўрада асуджалася сурова і справядліва з розных бакоў.

Перш за ўсё не збыліся надзеі тых, хто марыў аб уладкаванні ўнутраных спраў пасьля таго як дзяржава пазбавіцца ад знешніх ворагаў. “У 1812 годзе. – пісаў Кахоўскі, - спатрэбіліся велізарныя намаганні і народ з радасьцю нёс усе ахвяры для выратавання айчыны. Вайна скончылася перамогай, манарх,

[16] Нататкі дзекабрыста З. Я. Завалішына, т. I, стр. 194.
[17] Із нататак дзекабрыста. “Русское богатства”, 1904 г., №3, стр. 68.
[18] “Общественныя движения”, стр. 487.
[19] Сведчанні Паджыо.
[20] Погляд на таемнае таварыства ў Расіі. “Полярная Звезда”, 1859 г., № 5, стр. 233.

упрыгожаны славай, вярнуўся. Яўропа стала перад ім на калені, але народ, які садзейнічаў яго славе, ці атрымаў нейкую палёгку? - Не"[21]. Ужо пасьля Цільзіцкай мірнай дамовы Расія заняла самастойнае становішча. "Эпоха самастойнасьці наступіла, - апавядае Трубяцкі, - заставалася толькі карыстацца такім становішчам"[22].

А, між іншым, сапраўднасць гаварыла пра іншае. Урад адзяліў сябе ад народа і, як быццам бы, быў гатовы садзейнічаць яго занядбаласьці і невуцтву. "Урад, –



характэрызуе гэты бок яго палітыкі барон Штэйнгель у лісьце да гаспадара, - аддзяліў сябе ад дзяржавы і, здавалася, верыў, што ён можа быць заможным і моцным, хаця ўсе ста(ны дзяржавы і асабліва народ знемагалі. Урад узяў, здавалася, за правіла, што разбэшчаным і занядбалым народам ляжчэй і прасьцей кіраваць, чым народам які мае грамадзянскія дабрачыннасьці і жыве ў дастатку, а пагэтаму не прыслухоўваўся да народнага меркавання, не цікавіўся яго патрэбамі: кіраваў і патрабаваў падпарадкавання, хаця б ад гэтага збяднелі ўсе"[23].

Урадавая палітыка вылучалася выпадковасьцю і "ў дзяржаўным кіраванні, апавядаў ён жа, - не было ніякага трывалага, цвёрдага накірунку". "Урад лічыў усё папярэдняе дрэнным, шмат што пачынаў спачатку, адмяняў пачатае і, наогул, нічога не даводзіў да канца, усё разладзілася". На самай справе, спачатку яго дзейнасць адзначана перыядам лібералізма і філантрапіі; потым перыяд містыцызма і, нарэшце, дзеянні адваротныя як аднаму так і другому[24].

Гэтая агульная сумная карціна распадалася на шэраг такіх жа сумных прыватнасьцей. Аддаючы перавагу усяму замежнаму перад рускім, імператар Аляксандр І ахвотна падтрымліваў іншаземцаў і запрашаў іх на службу ў Расію. Гэтыя іншаземцы не заўсёды адпавядалі таму адказнаму становішчу, якое яны занімалі ў дзяржаве, а аддаванне ім перавагі перад рускімі людзьмі крыўдзіла іхнае нацыянальнае пачуццё. Ацэнку такой палітыкі мы знаходзім у лісьце Кахоўскага да гаспадара. "Я далёкі ад таго, - пісаў ён, - каб абараняць ляноту, безклапотнасць, нядбайнасць рускага дваранства. Але нельга не заўважыць, што падставай таму з'яўляецца відавочнае перавага, аддаваемая ўрадам



усім іншаземцам без разбору. На гэты раз я пакажу толькі на корпус інжынераў вадзяных камунікацый. Так, усе афіцэры, якія перайшлі да нас з іншаземнай службы атрымліваюць велізарныя заробкі, але карысьці ад іх мала ці, лепш сказаць, няма ніякай. Усё неабходнае выконвалася рускімі інжынерамі; калі ж выкарысталі іншаземцаў – усюды праца ішла непасьпяхова да тых пор пакуль граф Варанцоў быў вымушаны прасіць даслаць для выканання неабходнай працы ў Адэсе менавіта рускіх інжынераў. Замежнікі добрыя тэарэтыкі, але што

[21] Із ліста да Мікалая І, Дубровін, "Русская Старина", 1905 г., студзень, стр. 24.
[22] Там жа, стр. 25.
[23] "Общественные движения", 484.
[24] Ліст у "Общественные движения", стр, 476 і 489.

перашкаджае накіроўваць нашых рускіх маладых афіцэраў ваяжыраваць. Яны маглі б  назіраць за дзеяннямі, вучыцца і быць уласнасьцю айчыны. Выдаткі на гэта наўрад ці б перавысілі цяперашнія выдаткі на заробкі іншаземцам... Мне мала вядомы здольнасьці дзяржаўных людзей, але, як аданаму сыну айчыны, прабачальна спадзявацца, што ў нас, бяспрэчна, знайшліся б рускія для замяшчэння дзяржаўных пасад, якія зараз занімаюць замежнікі. Вельмі зразумела што такое становішча абражае славалюбства рускіх і народ губляе давер да ўрада”[25].

Замест чакаемых рэформаў ва ўнутраным уладкаванні на чале ўрада з’яўляецца Аракчэеў і пачынаецца перыяд цяжкага дэспатызму дачасніка. Бяспрэчна, у асяроддзі дзекабрыстаў мы сустракаем належную ацэнку такой з’явы. Для дзекабрыстаў здавалася незразумелым такі моцнае ўздзеянне на Аляксандра грубага гатчынскага капрала. “Пра сябе скажу шчыра, - піша ў сваіх пазнейшых нататках Ларэр, - што я не быў ні якабінцам, ні рэспубліканцам, гэта не дапасавала майму характару. Але з самага юнацтва я не любіў усе строгія кіруючыя захады. Я часта марыў аб манархічнай канстытуцыі і быў адданы імператару Аляксандру,



як чалавеку, хаця шмат хто із маіх сяброў, таксама як і я, былі незадаволены на яго, што ён у апошні час, стаміўшыся ад дзяржаўных спраў, амаль усё кіраванне скінуў на Аракчэева, гэтага незацуглянага дэспата”[26]. З асобай Аракчэева неразрыўна звязаны і асобы яго паплечнікаў – Магніцкага і Руніча. Самая “безнадзейнасць для ўнутраннага развіцця” бачылася ў валадаранні гэтых асоб. “Ужо ўсе, - піша Завалішын, - нават самыя адданыя гаспадару людзі, абураліся і не хавалі свайго незадавальнення, бачучы прыніжэнні і рабалепства перад дачаснікам, якія даходзілі да крайнасьці і чуючы, як нават значныя асобы не толькі схіляліся перад самім Аракчэевым, але і патакалі яго дрэнна выхаванай наложніцы. Само святарства ў асобе Фоція (архімандрыта Наўгародзкага Юр’ева манастыра) прыніжалі значэнне рэлігіі сваімі стасункамі з Аракчэевым”[27]. І Якушкін у сваіх пазнйшых нататках з горыччу ўспамінае, што незадавальненне імператарам павялічвалася паралельна ўзрастаню магутнасьці Аракчэева. Граф Аракчэеў відавочна кіраваў краінай. Сябры дзяржаўнай рады і міністры згодна загада імператара звярталіся да яго ў шмат якіх выпадках дзе патрабавалася вышэйшае дазваленне[28].

Адносіны дзекабрыстаў да Аракчэева агульнавядомы. Яны яскрава выявіліся ў знакамітым пасланні Рылеева “да дачасніка”. Яно мае загаловак: “Перайманне Персіявай саціры на Рубелія”, але, бяспрэчна, у ім было лёгка пазнаць Аракчэева. Гэта пасланне з’яўляецца адным із ранніх твораў Рылеева (1820 г.) і напісана ім яшчэ раней уваходжання ў таемнае Таварыства. Верш пачынаецца такім зваротам да дачасніка:

[25] Дубровін, “Р. Ст”, 1904 г., студзень, стр. 8-9.
[26] Із нататак дзекабрыста, “Р. Богатство”, 1904 год, сакавік, стр. 72.
[27] Нататкі дзекабрыста Завалішына, т. I, стр. 194.
[28] Нататкі, стр. 33.

“Ганарысты дачаснік, і подлы, і вераломны,
Манарха хітры ліслівец і сябар ненадзейны,
-108-
Неўтаймаваны тыран сваёй роднай дзяржавы,
Узнесены ў важны стан пранырствамі злодзей!”

Выказваючы сваю поўную пагарду да подлага дачасніка, паэт нагадвае яму часы Рыма:

“Тыран, дрыжы! Нарадзіцца можа ён:
Ці Касій, ці Брут, ці вораг цароў Катон!”

Паэт збіраецца славіць сваёй лірай таго, хто заб’е тырана. Калі мсціўца не нарадзіцца зараз, то тырана чакае суд нашчадкаў:

“Як ні прыкідвайся і як ты ні хітруй,
Але злобныя ўласьцівасьці душы не схаваеш:
Твае справы цябе выкрыюць перад народам;
Даведвецца ён, што ты забраў яго волю,
Цяжкімі падаткамі давёў да жабрацтва.
Паселішчы пазбавіў іхнай ранейшай прыгажосьці...
Тады задрыжы, о, дачаснік ганарысты!
Народ раз’юшаны тыранствам жахлівы!
Але калі злобны лёс, злачынцу палюбіўшы,
Ад справядлівай помсты і выратуе цябе,
Усё ж дрыжы, тыран! За зло і падман
Табе свой прысуд выкажуць нашчадкі!”

Гэты твор зрабіў вельмі вялікае ўражанне на сучаснікаў. Быў кінуты выклік непасрэдна ненавіснаму дачасніку, крок быў зроблены смелы, які мог мець вельмі цяжкія наступствы для аўтара верша. Мікалай Бястужаў у сваіх успамінах пра Рылеева характэрызуе ўражанне, якое зрабіў гэты твор на сучаснае грамадства. “У сацiры на дачасніка, - гаварыў ён, - выкрываецца ўся пагарда да ўшанаванняў і ўлады Аракчэева. У тым становішчы у якім была і ёсць Расія, яшчэ ніхто не дасягаў такой вышыні ўлады і магутнасьці, як Аракчэеў. Гэты вяльможа, пад выглядам сціпласьці, прыбіраючы ўсякую ўладу, адзін, нікім не бачны, без усякай значнай пасады, у цішыні кабінета, рухаў усю цяжкую дзяржаўную машыну і яго злобная, поўная падазрэнняў палітыка крадучыся пранікала ва ўсе
-109-
напрамкі кіравання. Не было міністэрства, стану, справы, якія б не залежалі ці былі б невядомы гэтаму нябачнаму Пратэю-міністру, палітуку, царадворцу; не было месца, куды б не прасачыўся яго хітры нагляд; не было падзеі, якая б не адгукнулася ў гэтым вусе Дыоніса. Малыя былі прыгнечаны сярэднімі, сярэднія – вялікімі, гэтыя - яшчэ вышэйшымі; але над тымі і другімі прыгнятальнікамі, так жа сама як і над прыгнечанымі была адна небяспека: дачаснік. Адны караліся за прыгнёт, другія -за скаргі. Уся дзяржава дрыжала пад жалезнай рукой улюбёнца-правіцеля. Ніхто не адважваўся скардзіцца. Як толькі ўзнікала нейкае незадавальненне, так адразу знікала ў пустынях Сібіры ці ў змрочных склепах крэпасьці”.

“У такім становішчы была Расія, калі Рылееў голасна і прынародна выклікаў дачасніка на суд ісьціны; калі пазначыў яго дзеянні, вызначыў іхную вартасць і смела перадаў на пракляцце нашчадкаў сляпую ці наўмысную пакору вяльможы дзеля кіравання айчынай. Нельга ўявіць здзіўлення, жаху, нават можна сказаць здранцвення, якімі былі ахоплены жыхары сталіцы пры гэтых нечувалых гуках праўды і дакоры, пры гэтай барацьбе немаўляці з веліканам. Усе думалі, што грымне гром пакарання, які знішчыць дзёрзкага паэта і тых, якія яго слухалі; але выява была вельмі праўдзівай, вельмі блізкай, каб пакрыўджаны вяльможа асмеліўся прызнаць сябе ў саціры. Ён пасаромеўся прызнацца відавочна. Хмара пранеслася міма, кайданы здранцвення патрохі распаліся і глухі шэпт адабрэння быў узнагародай маладога, праўдзівага паэта”[29].

Рылееў і яго бліжэйшыя сябры – гонар тагачаснай інтэлігенцыі. Але Аракчэеўшчына выклікала падобныя пачуцці і ў асяроддзі звычайных дзекабрыстаў. Мы можам пазначыць яшчэ адзін цікавы



факт рэакцыі на верш, які паказваў на вельмі змрочныя рысы асобы Аракчэева. Наколькі нам вядома, пра гэты твор да гэтага часу нічога не з’явілася ў друку. Да справы аб дзекабрыстах быў прыцягнуты падпаручнік Пуцята, які не задоўга да рэвалюцыі быў звольнены з 2-ога егерскага палка. Ён меў вельмі ўскоснае дачыненне да дзекабрыстаў, яго віна не была вызначана і пагэтаму Пяцята без суду быў накіраваны ў якасьці ўнтэр-афіцэра ў Каўказкі корпус. У паперах Пуцяты быў знойдзены верш “Дні майго адчаю”. Згодна тлумачэнняў аўтара, якія ён даў на следстве, гэты верш ён напісаў як следства непрыемнасцей на службе. Так як гэтае тлумачэнне было дадзена з мэтай адвясьці ад сябе судовы пераслед, то ў яго праўдзівасьці можна сумнявацца. Да следчай справы было далучана некалькі ўрыўкаў із гэтага твору Пуцяты, у якіх не вельмі цяжка пазнаць, каго мае на ўвазе яго аўтар і якімі пачуццямі ён быў перапоўнены.

Аўтар перапоўнены пачуццём злосьці і жадае помсты:

“Скрозь хмару адчаю праб’юся,
І пачуццё помсты прысвячу;
Вышэй за злобу ўзнясуся,
У жорсткасць сэрцаператвару.
Буду ворагам сабе падобным,
Надзену варвáства вянок,
Няхай я буду век падлюга...
Але няма больш сродкаў быць спакойным.
Я раней глядзеў сумным позіркам
На цень падспутства злых людзей;
І для мяне было тое ўрокам,
Урок я ўжо вывычыў гэты,
Зараз застаўся абавязак апошні”.

[29] Барценеў, “Дзевятнаццатае стагоддзе”, 338-339.

У дастаткова нязграбных вершах аўтар спрабуе паведаміць перапаўняючыя яго пачуцці. Ён гатовы “усё ў

-111-

іх пераймаць” (г. зн. у прадстаўнікоў магутнасьці і ўлады), але толькі для таго, каб не ўпусціць хвіліну помсты:

“Із віду тое не ўпускаць,
Што толькі ў свеце ёсць пагарджаная
Крыніца жорсткай лютасьці!”

Відавочна дзеля помсты паэт гатовы зрабіцца “выхаванцам” гэтай самай “жорсткай лютасьці”, ён гатовы прымусіць сваю душу “выгінацца”. Але гэта цяжка:

“Я адчуваю, як быццам бы пекла
Разлілося ў недрах нерваў маіх”.

Падобныя адчуванні так данімаюць аўтара, што ён сам гатовы аддацца “злу” ці задавіць у сабе чалавечую прыроду, “забыцца на Бога і жыць нараўне са звярамі”. Ён звяртаецца да “зла” з маленнем:

“Адкрый і ты мне той сакрэт,
Якімі патрэбна хадзіць сцежкамі,
Каб быць нараўне з падлюгамі,
Якімі перапоўнены свет”.

Далей аўтар паказвае асноўную падставу сваіх цяжкіх думак:

“Калі начны змрок закрые,
Змрочнай завесай выгляд сусвету,
Да сну галаву прыхіліць
Тыран, уладыка, муж надменны:
Тады адчаю пявец
Сядзіць і паглыбіўшыся ў раздумы,
Ён уяўляе: быць добрым – няма цярпення,
Змагацца з думкай нарэшце.
То злоба яго апаноўвае,
То добрая якасць яго прыцягвае,
З чым згодным быць ён не ведае
І толькі ў парыве адчуванняў ён уздыхне.
О, адчуванне гора жудасна!
Твой шчыт – адчай адзін,
Калі тыранам наканавана
Караць безуладных самавольна”.

Цітан, якога мае на ўвазе аўтар апавяданя, якому ён хоча адпомсціць, гэта, бяспрэчна,

-112-

усемагутны Аракчэеў. Вось заканчэнне із урыўку “Дні майго адчаю”, які маецца ў справе, характэрызуючы увесь Аракчэеўскі рэжым:

“Цябе я ў прыклад пастаўляю,
Упаўнаважаны злыдзень!

Твае справы адлюстроўваю:
Ты вогах айчыны, ліслівец цароў,
Ты біч такога слаўнага народа,
Ты самы атрутны змей,
Не чалавек, а чарадзей.
Табой пагарджае прырода:
Яна ведае, што падспудны
Гэтага часу ты падлюга.
Самалюбівы і славалюбівы,
Знішчальнік даброт ты агульных ліслівец!
Ты пекла ў самім сабе змяшчаеш,
Твая душа як ты чорная,
Адным невуцтвам поўніцца,
Якое ты карысьцю называеш.
Паглядзі на карысць тваіх спраў:
Чые разбурыў ты паселішчы,
Пазбавіў таго, хто што меў,
І зрабіў ахвярай галечы?
Прывёў народ у ліслівасць,
Адчыніў жорсткасьці сляды.
Якія ж з таго вынікі?
Толькі ўсім адны нястачы”[30].

Паэзія Пуцяты не вельмі высокага густу; але для нас у ім цікавая не форма, а адчуванні, якімі быў перапоўнены аўтар. Для нас цікава, што такімі пачуццямі, такім разуменнем аракчэеўскага рэжыму вылучаўся чалавек, які меў вельмі слабое дачыненне да дзекабрыстаў. Гэтая абставіна паказвае на тое, што разуменне рэчаіснасьці не было прывілегіяй толькі найбольш адукаваных дзеячоў снежаньскай рэвалюцыі: аналагічныя пачуцці тады былі ўласьцівы для прадстаўнікоў усяго ліберальнага асяроддзя.

-113-

Зараз спынімся на іншых напрамках дзейнасьці тагачаснага ўрада.

З імем Аракчэева неразлучна звязяна ўладкаванне ваенных песелішчаў. Жорсткасць, якая была выяўлена ім пры ўціхамірванні бунтаў сярод новапасяленцаў, прыводзіла ў трымценне сучаснікаў. “Паведамленні аб наўгародзкіх падзеях прывяла ўсіх у жах”, успамінае Якушкін, але ён жа выказвае і разумную думку: пры сваім канчатковым развіцці ваенныя паселішчы ператворацца ў асобную ваенную касту са зброяй у руках, якая не будзе мець нічога агульнага з астатнім насельніцтвам Расіі[31].

Уладкаванне паселішчаў суправаджалася гвалтам як маральным так і фізічным. “Гвалтоўная стстэма, - апавядае барон Штэйнгель, - так званага ўладкавання паселішчаў, была прынята са здзіўленнем і нараканнямі”. Усе

[30] Справа паручніка Пуцыты.
[31] Нататкі, стр. 12-13.

станы, у тым ліку і сяляне, пасьля стамляючых войнаў жадалі спакою. Але раптам у жыццё мірных земляробаў урываюцца ваенныя паселішчы і старадаўні паўсядзённы побыт цалкам змяняецца. Ваенныя паселішчы не палягчалі вайсковую службу: апошняга значна прасьцей было б дасягнуць памяншэннем тэрміну[32].

Падпалкоўнік Бацянкоў сам служыў у ваенных паселішчах пры графе Аракчэеве. Гэта чалавек назіральны, думаючы, які пакінуў шмат карысных слядоў пасьля сваёй адміністрацыйнай дзейнасьці ў Сібіры. Аракчэеў ганарыўся тым тым, што ваенныя паселішчы былі таннымі для ўрада. Аляксандр І быў гэтым вельмі задаволены. А, між іншым, Бацянкоў паведамляе вельмі цікавыя звесткі аб тым, якім чынам



ва ўправе ваенных паселішчаў складаліся справаздачы. Гэтае сведчанне цікава паведаміць: "У ваенных паселішчах , - піша ён у лісьце да гаспадара, - лічыцца эканамічны прыбытак звыш дваццаці мільёнаў рублёў. Я сам пісаў кароткую справаздачу, у якой пераконваў, што гэтыя паселішчы не толькі не каштуюць дзяржаве ні адной капейкі, але, перакрыўшы ўсе выдаткі, якія былі на іх затрачаны, утварылі свой вялізны капітал. Па сутнасьці гэта не так. Ваенныя паселішчы каштуюць вельмі дорага: сумамі, землямі, лясамі, працай і людзьмі. Калі зрабіць правільны падлік усіх ахвяраванняў, то, бяспрэчна, пяціадсоткавым прыбыткам з выдаткаванага капіталу на яшчэ не закончанае ўладкаванне якога-небудзь палка грэнадзёрскай дывізіі можна было б навекі забяспечыць утрыманне гэтага палка ва ўсіх дачыненнях, у той час як сама мэта паселішча адно толькі абяцае запяспячэнне правіянтам. Вялізны ж капітал утварыўся, большай часткай, праз дараванні правіянтскага і камісарыятскага дэпартаментаў і іншымі сродкамі, які б, у адваротным выпадку, склалі дзяржаўны падатак"[33].

Той жа Бацянкоў не аднойчы згадваў ваенныя паселішчы ў сваіх размовах з таварышамі. Згодна слоў Мікалая Бястужава, Бацянкоў апавядаў яму пра ваенныя паселішчы, што "да гэтага часу яны не прынесьлі дзяржаве ніякай карысьці, але што спадзяецца на яе ў далейшым і што калі б не так спешна і не так жорстка іх уладкоўвалі, то, бяспрэчна, не было б тых незадавальненняў і таго раптання, якія зараз павялічыліся неверагодна, так што ён баіцца якіх-небудзь узрушэнняў"[34]. Наогул, на гэтага знаўцу ваенных паселішчаў яны вырабілі цяжка ўражанне. Згодна слоў Бацянкова, "відовішча ваенных паселішчаў і



Заходняй Сібіры, прыгнечанай самавольным і пагібельным кіраваннем, агульная неўладкаванасць, агульныя скаргі, галеча, заняпад і абмежаванні гандлю, недастатковасць асветы і самых ўзвышанных адчуванняў, марнасць і не дзейнасць законаў, адсутнасць сапраўднай паліцыі: усё схіляла да таго, каб з

[32] "Общественные движения"стр. 482-483.
[33] Ліст Бацянкова ў справе № 11.
[34] Сведчанні Мікалая Бястужава.

аднаго боку не любіць існуючы лад, а з другога – думаць, што рэвалюцыя блізкая і непабежная”[35].

Гаротнае становішча ваенных паселішчаў, незадаволенасць іхнага насельніцтва былі пад пільнай увагай дзекабрыстаў: адсюль яны заўсёды маглі чакаць дапамогі. Князь С. П. Трубяцкі ў сваіх нататках перадае нам разважанні сябраў таварыства пра ваенныя паселішчы. “Прывучыўшы пасялян, - гаворыць ён, - з малалетства да вайсковай службы, будзе магчымасць утрымліваць войска з меншым абцяжараннем народа, скасаваць рэкруцкія наборы; але, з іншага боку, яны могуць утварыць у дзяржаве асобную касту, якая, не маючы з народам нічога агульнага, можа стаць прыладай прыгнёту. Гэтая каста, утвараючы асобную магутнасць, якой у дзяржаве нічога не зможа супрацьстаяць, сама будзе ў безумоўным падпарадкаванні некалькіх асоб, а можа здарыцца, што і ў адной; і калі гэта будзе майстэрскі славалюбец, то ён лёгка зможа, прыдбаўшы пашану падначаленых, спакусіць іх і зрабіць іх прыладай свайго славалюбства. Звыш таго, ненавісны кіраўнік можа быць падставай паўстання падначаленых яму частак і тады якая будзе магчымасць да ўціхамірвання азлобленага, маючага сродкі для адпору сілай войска. Хто можа гарантаваць, што нават невялікае незадаволенне не будзе падставай для непадпарадкавання, якое, успыхнуўшы у адным палку, не перакінецца хутка на акругу паселішчаў і ці можна прадбачыць



чым скончыцца такое паўстанне шматлікіх палкоў разам”[36].

Адлюстраваннем такіх недзей і размоў з’яўляецца ананімная запіска, пазначаная 30 кастрычніка 1825 года і мўшая загаловак: “Стан ваенных паселішчаў у Херсонскай і Кацярынаслаўскай губернiях”. Запіска складзена невядомым для нас сябрам таемнага таварыства, які пра сябе гаворыць, што ён служыць у ваенных паселішчах ужо сем гадоў. Аўтар сцвярджае, што ён прыняты ў сябры таемнага таварыства, якое мае шмат сябраў “людзей з вялікімі здольнасьцямі”. Із ліку прынятых аўтарам 37-мі чалавек, два генералы, два палкавых камандзіры, адзін падпалкоўнік, тры маёры і г. д. Зыходзячы з гэтых сведчанняў, аўтарам гэтай запіскі з’яўляецца адзін із захапляючыхся сябраў, магчыма Ліхароў[37], Вадкоўскі ці граф Булгары. Ва ўсякім выпадку для нас цікава тое, што аўтар сведчыць аб вялікім абурэнні супраць урада не толькі з боку пасялян, але і афіцэраў. “Наогул незадавальненне як з боку генералітэта так і штаб- і обер-афіцэраў з ніжнімі чынамі дасягнула вышэйшай ступені”, заяўляе аўтар. Ён пераконвае, што можна падняць да 60 тыс. чалавек са зброяй у руках. “Патрэбна толькі дачакацца зручнай хвіліны і ўсё гатова паўстаць, але не супраць Расіі, а супраць дэспатызму”[38].

Акрамя ваенных пасклішч крытыкаваліся і іншыя агульныя захады ўрадавай палітыкі. Мы ўжо ведаем, што гэтыя захады заключаліся ў падтрымцы

[35] Сведчанні Бацянкова.
[36] Дубровін, “Р. Ст.”, 1904 г., красавік, стр. 14-15.
[37] Ліхараў сапраўды пісаў для таемнага таварыства справаздачу пра ваенныя паселішчы, што і прызнаў потым на следстве (справа Ліхарава).
[38] Справа № 470.

містытызму, потым у перasледаванні яго, у пераследаванні навукі, асветы, друку. Барон Штэйнгель вельмі трапна папракае ўрад Аляксандра, адзначаючы захапленне вышэйшых станаў містыкай

-117-

і потым раптам пачаўшыся пераслед адукацыі. “Шаноўны міністр адукацыі, - гаворыць ён пра Шышкова, - між іншым, у сваёй прамове, выказаў намер спыніць поспехі няправільнай асветы”[39]. Мікалай Бястужаў у сваіх сведчаннях згадвае пра строгія пакаранні якія зазналі ўніверсітэцкія прафесары, пра ўціскі цэнзуры і пра безвыніковасць усіх гэтых мерапрыемстваў у справе стрымання развіцця грамадзкай думкі. “Распаўсюджванне асветы і адукацыі, даючы сродкі людзям чытаць, параўноўваць і заўважаць, непазбежна павінна было прыводзіць іх да разумення правоў кожнага і агульных палітычных правілах, на якіх заснаваны дабрабыт дзяржавы і хаця за апошні час царавання гаспадара Аляксандра Паўлавіча строгасць якую зазналі спадары прафесары, якія выкладалі ва ўніверсітэтах і разам строгасць цэнзуры схіляліся да знішчэння некаторых палітычных ідэй, належачых XIX ст., але, тым не менш, гэтыя ідэі яшчэ хутчэй пачалі распаўсюджвацца ад пераследу і тыя із маладых людзей, якія нават не ведалі аб існаванні кніжак Арсеньева і Куніцына імкнуліся прачытаць менавіта іх”[40].

Барон Штэйнгель абураўся скандалам, які разгарэўся пры пазбаўненні пасады князя Галіцына і трыумфе вядомага Фоція. Ён засяроджвае ўвагу на пастаянных зменах у цэнзурнай установе, якая то забараняе кніжкі і карае дазволіўшых яе цэнзараў, то раптам дае згоду на яе ж друкаванне. Скандал дайшоў да таго, што раптам забаранілі нават катэхізіс Філарэта[41].

Ад дзекабрыстаў не схавалася асноўнае прызначэнне тагачаснай цэнзуры – таемнай паліцыі думак. “Строгая

-118-

цэнзура, - адзначае ў сваім лісьце да гаспадара Кахоўскі, - з выкарыстаннем усіх паліцэйскіх і мытных сродкаў ніяк і нідзе не зможа спыніць, ні прывоз кніжак, ні распаўсюджванне ўнутраных твораў. І як толькі нейкі твор забараняецца, то ён адразу робіцца цікавым для ўсіх і па руках разыходзяцца нават рукапісы. У Францыі забароніцца кніжка – і ў самым хуткім часе яна з’явіцца ў Расіі. Распаўсюджанае шпіёнства сведчыць толькі аб слабасьці ўрада і аб тым, што ён сам адчувае, наколькі ён не правы перад народам. Праз выкарыстанне шпіёнства спыняюцца толькі перасуды і асуджэнні. Выпрацоўваюцца захады супраць захадаў і ўдасканальваюцца спосабы схаваць жаданні, дзеянні і мары”[42].

Некаторых дзекабрыстаў вельмі абурала самавольства цэнзараў. Вільгельм Кюхельбекер, які далучыўся да таварыства ў самы апошні час, літаратар па складу свайго розуму, далёкі ад палітыкі, растлумачваючы следчай камісіі падставы, якія вымусілі яго далучыцца да змоўшчыкаў, між іншым,

[39] “Общественные движения”, стр. 486 489.
[40] Сведчанні М. Бястужава.
[41] “Общественные движения”, стр. 488.
[42] Шчогалеў, Пятро Рыгоравіч Кахоўскі. “Былое”, 1906, студзень, стр. 151.

гаварыў: “Другой нагодай маёй незадаволенасьці існуючай рэчаіснасьцю была крайняя заціснутасць, якую зведала руская славеснасць у апошні час, нават не столькі з нагоды цэнзурных абмежаванняў, як з нагоды, на маю думку, самавольства цэнзараў. Лічу неабходным паведаміць, што гэты неймаверна цяжкі ўціск нарадзіў рукапісную славеснасць, вельмі шкодную для маральнасьці і рэлігіі і небяспечную, хутчэй за ўсё, для ўрада”[43].

Адміністрацыі як вышэйшай, так і ніжэйшай, прысвечана шмат красамоўных старонак у лістах, сведчаннях і запісках дзекабрыстаў.

Крытыка адміністрацыйнага ўладкавання распадаецца на некалькі частак. Дзекабрысты звярталі ўвагу на дрэннае ўладкаванне цэнтральнай і мясцовай адміністрацыі, на адсутнасць



вызначаных правілаў пры выданні законаў і адміністрацыйных загадаў, на шэраг няўдалых і руйнуючых народны дабрабыт захадаў, якія пачыналіся ў галіне народнай гаспадаркі. Усе гэтыя недахопы дзяржаўнай машыны павялічваюцца праз бюраратычнае самавольства і поўную безпакараньць кіруючых асоб. Следствам была жахлівая неабароненасць асобы, якая яшчэ больш павялічвалася адсутнасьцю якой-небудзь гарантыя ў законах.

Бацянкоў у сваім лісьце да гаспадара ад 28-га сакавіка 1826 года заяўляе, што ён зрабіў адно абагульненне: “Перабіраючы ў думках гісторыю нашай унутранай адмністрацыі, я пераканаўся, што яна, не будучы зацверджанай ва ўмовах палітычнай свабоды, не можа быць трывалай і не мога адпавядаць свайму прызначэнню”[44]. Як бы для падцверджання гэтай заўвагі, Якубовіч у сваім лісьце із каземата ад 28 снежня 1825 г. паказвае на тое, што ўрад, не бяручы да ўвагі грамадзкае меркаванне, знаходзіцца ў антаганізме з народам. “Меркаванні з’яўляюцца першай магутнасьцю гаспадароў, яны аб’ядноўваюць і рухаюць дзяржаўнае жыццё, служаць абаронай супраць усіх заган для усіх грамадзян. Але іх у Расіі няма і ўрад імкнецца пры нараджэнні знішчаць пачаткі агульнага меркаваня; следствам чаго мы назіраем падзяленне разуменняў гаспадар і дзяржава, што павінна быць адзіным”. Пры такой рэчаіснасьці ла ўлады прабіваюцца людзі, якія заклапочаны асабістымі выгодамі. “Ушаноўваюцца не змагары за агульныя даброты, - гаворыць ён, - але людзі гатовыя ахвяраваць усімі грамадзянамі, каб толькі выслужыцца перад урадам, прынесьці часовыя выгады для казны, як быццам бы заможнасць народа не з’яўляецца багаццем гаспадара. Калі палітыка неабходна для знешніх стасункаў, то яна тым больш неабходна для стасункаў са сваім падданымі. Бо не заўсёды, згодна законаў мяханікі,



[43] Сведчанні В. Кюхельбекера.
[44] Справа № 11.

можна ўздзейнічаць адной магутнасьцю падважніка, розум і сэрца з іхнымі хібамі і дабрачыннасьцямі – вось тыя пружыны, якімі рухаюць цэлае правіцелі народаў”[45].

На грамадзкае меркаванне не звяртаецца ніякай увагі ў справе ўнутранай палітыкі. Усё засяроджана на асобе гаспадара. Але гэтае знешняе адзінства на практыцы прыводзіць да розных выпадковасьцей, да супярэчнасьцей у законах, да маруднасьці ў правядзенні спраў. “У Расіі тры ўлады, - характэрызуе Якубовіч, - складаюць неабмежаваную ўладу гаспадара: 1)заканадаўчая, 2)судовая, 3)выканаўчая. 1 (заканадаўчая). Не прыняццем карысных законаў і пастаянным імкненнем да адной мэты ўздзейнічае на дзяржаву, але бесперапыннымі новымі пастановамі, адступленям ад сваіх жа сістэм, якія абцяжарваюць дзяржаўнае кіраванне і сваімі ж дзеяннямі разбураюць асабістую магутнасць. 2 (судовая). Шматлікасьць ўстаноў, супярэчнасьці загадаў, якія маюць дачыненне да аднаго і таго ж пытання, маруднасць здзяйснення спраў і дрэнны падбор прысутных робіць уражанне, што не правасуддзе, а хабарніцтва засядае ў нашых судах, у якіх абараняецца не жыцё, годнасць і маёмасць грамадзяніна, а прадаюцца за золата ці іншыя выгоды наперад вызначаныя рашэні. 3 (выканаўчая). Дзейнічае моцна, але не заўсёды рашуча і не заўсёды ў патрэбным накірунку”[46].

Бацянкоў разглядае ўтварэнне ў Расіі вышэйшых дзяржаўных устаноў і робіць выснову, што добрыя пачынані, закладзеныя Пятром Вялікім, з цягам часу спынілі сваё дзеянне, а рэформы часоў Аляксандра I прывялі не да паляпшэння, а да пагаршэння становшча. Уладкаванне Сената і калегій было “адным із самых трывалых і было практычна развітым ва ўсіх напрамках”. Так было пры Пятру Вялікім і яго бліжэйшых пераймальніках. Але з цягам часу



Сенаі і калегіі, “не будучы падтрыманымі агульным меркаваннем, пачалі занепадаць”. У Сенат пачалі трапляць людзі, якія гатовы былі пагаджацца з усім. “Патрохі Сенат трапіў у паўную залежнасць ад генерал-пракурора, калегіі віселі на адным крэдыце прэзідэнтаў. Да нас дайшлі, можна сказаць, адны руіны, некалі магутных і паважаных дзяржаўных устаноў”. “Сенат, гэта сховішча законаў, не ведаў ні аб чым і быў ператвораны ў простую друкарню, падначаленую кожнай асобе ў крэдыце. Ён лічыць сваім найвялікшым подзвігам, што аднойчы набраўся смеласьці выказаць пярэчанні на артыкул пастановы аб паштовай таксе”[47]. Заняпад Сената і Дзяржаўнай Рады, як устаноў, вельмі заўважаецца і па складу яго сябраў, адзначае І. Кахаўскі. “Чытаючы меркаванні Сената і Рады, - піша ён у лісьце із крэпасьці да генерала Левашова, - я трохі пазнаёміўся з сенатарамі і радаўцамі гаспадара. На жаль, вельмі мала ў іхным асяроддзі людзей, якія вызначана разумеюць, здольныя разважаць разумна і абмяркоўваць пытанні. Пераважаючая іхная частка дрэнна ведае стан дзяржавы”[48].

[45] Справа № 470.
[46] Справа № 470.
[47] Справа № 11.
[48] Дубровін, “Р. Ст”, 1904 год сакавік, стр. 254.

Мала спадзяваецца на дарадцаў новага гаспадара і барон Штэйнгель. Ён малюе цяжкую выяву разладу ў дзяржаве і канстатуе адсутнасць каля дзяржаўнага стырна людзей з розумам і цвёрдым характарам. “Так, гаспадар!- піша ён, - Вам пакінута дзяржава ў знясіленні, з разбэшчанымі звычаямі і ўнутраным разладам, з мізэрнымі прыбыткамі, перавышанымі выдаткамі, са знешнімі пазыкамі і пры ўсім гэтым без адзінага мужа каля дзяржаўнага стырна, які быў бы вядомы сваім глубокім розумам, цьвёрдым характарам, веданнем сваёй айчыны і паважаючым яе, могучым пераадолець сваё самалюбства, -

-122-

адным словам ніводнага мужа, на якога б можна было ўскласьці вышэйшы ваш давер у вялікай справе дзяржаўнага кіравання. Калі да гэтага дадаць распаўсюджаны неспакойны дух незадаволенасьці ранейшым кіраваннем і нарадзіўшагася із яго недаверу да будучыні і, нарэшце, самую неабходнасць, якую вы знайшлі неабходным засмуціць шмат якія сем’і ў абедзвух сталіцах, то, сапраўды, становішча ваша, гаспадар, вельмі цяжкае”[49].

Асабліва рэзкую крытыку з боку дзекабрыстаў выклікала ўладкаванне міністэрстваў і ўсталяваўшаяся ў іх практыка. Бюракратызм, безадказнасць і ўсемагутнасць міністраў і падначаленых ім службоўцаў адразу ж усталяваліся ў гэтых установах. “Гэтыя ўстановы, - апавядае пра міністэрствы Бацянкоў, - па самой іхнай сутнасьці маюць значныя недахопы і відавочна ўладкаваны спешна. Акрамя назвы, яны амаль ні ў чым не даведзены да розуму, але, тым не менш, не будучы належным чынам звязанымі з губернскімі ўстановамі, перашкаджалі ім і самі сустракалі ад іх перашкоды. Дэпартамнты, за выключэннем нешматлікіх наогул не набылі асобнага значэння: дырэктары ператварыліся ў сакратароў, узначальваючыя аддзяленні – у пісцоў і хутка ўся адміністрацыя ператварылася ў вялізныя і гультайнаватыя канцыляры і міністраў. Гэтыя сапраўдныя ў наш час арыстакраты, валодалі даверанымі ім часткамі як сваімі ўдзеламі; замена ці сьмерць аднаго із міністраў выклікала новы падзел дэпартаментаў не па сутнасьці спраў, а па шанаванню асоб і яны спрачаліся паміж сабой як бы за права на спадчыну”[50].

Барон Штэйнгель, адзначае адсутнасць пастаянства ў дзяржаўным значэнні асобы міністра. На пачатку царавання міністры мелі паўнамоцтвы. Але потым пачаліся

-123-

дастаткова частыя змены міністраў і ўплыў асобных дзеячоў[51].

Бацянкоў у сваім лісьце на дзіва трапна ахарактэрызваў Камітэт Міністраў. Камітэт прыкрыў безадказнасць міністр. “Гаспадар адзін нёс на сабе ўвесь цяжар памылак і дрэннага ўладкавання”. Камітэт Міністраў быў утвораны “для завяршэння неўладкаванасьці”. “Нічога немагчыма было прыдумаць лепшага для таго каб схаваць перад гаспадаром рэчаіснасць і выставіць адказным перад

[49] “Общественные движения”, 493.
[50] Ліст да гаспадара ў справе № 11.
[51] “Общественные движения”, стр. 476.

народам адну яго асобу”. Дзейнасць Камітэта закрыта вялікім сакрэтам; на падставе спрашчэння і хуткасьці вырашэння спраў, міністры маглі схаваць усе свае памылкі і самавольствы: усё гэта засланялася найвышэйшым дазволам на журналах Камітэта Міністраў. А, між іншым, на самай справе міністэрскія канцылярыі рабілі ўсё што хацелі. Так, не была здзейснена пастанова, якая планавалася пры ўладкаванні міністэрстваў аб адказнасьці міністраў. “У Камітэце Міністраў, - маляўніча апавядае Бацянкоў, - як на вялікім шляху сабраліся ўсе неўладкаванасьці, бязладдзі і няпраўды”. Бацянкоў дае характарыстыку юрыдычных і фактычных наступстваў стварэння Камітэта Міністраў; гэтыя недахопы былі ўласьцівымі для Камітэта Міністраў на працягу амаль стагоддзя, да самага моманту яго скасавання. Кіраванне Камітэта, згодна меркавання Бацянкова, мела тры складаныя наступствы: 1)шматлікасць самых дробязных спраў прыцягнутых у Камітэт і патрабуючых рашэння гаспадара, настолькі абцяжарвалі дзейнасць гаспадара, што патрэбна было здзіўляцца, як яму хапала часу толькі для таго каб іх прачытаць; 2)кожны спраўца ў міністэрстве мог лёгка захаваць свае памылкі, ці вырашыць свае асабістыя справы, не баючыся ніякага пакарання; 3)найвышэйшыя пастановы згубілі ўласьцівую ім магутнасць і значнасць.

-124-

Я неаднаразова сустракаў пярэчанні якія не адпавядалі сутнасьці справы. У давяршэнне неўладкаванасьці, увайшло ў звычай ствараць розныя камітэты для вырашэння разнастайных спраў. “Гэтыя камітэты набылі такую ж магутнасць, як і Камітэт Міністраў і адзін камітэт перарабляваў справы другога, вышэйшая ўлада зацверджвала ўсе рашэнні, часта супярэчачыя адзін аднаму па аднаму і таму ж пытанню, гледзячы на тое, што было больш зручным асобным людзям”. Адным словам “вярхоўны ўрад у апошнія гады, можна сказаць, рассыпаўся, згубіў адзінства і ўяўляў сабой не вельмі зладжаную грамаду”. Аднак мноства заканадаўчых пастаноў зусім не гарантавала іхнага выканання на справе, законы ці не выконваліся, ці хутка змяняліся пасьля выдання[52].

Барон Штэйнгель паказвае некалькі канкрэтных прыкладаў самавольных міністэрскіх дзеянняў. Гэтыя дзеянні парушалі інтарэсы прыватных асоб. Такім, напрыклад, быў пераслед вінных адкупшчыкаў, Злобіна і Перэтца, які прывёў да банкруцтва абодвух. Міністры прыціскалі асоб, якія мелі спрэчныя пытанні да скарбу. Такія дзеянні маюць характар “поўнага гвалту і несправядлівасьці”[53].

Наогул, на шмат якіх і іншых дзекабрыстаў адміністрцыйнае ўладкаванне выраблялa цяжкае ўражанне. Вось што гаворыць пра яе Басаргін, жыццё якога працякала паза межамі сталіц і які наогул быў менш дасведчаны ў складаных пытаннях дзейнасьці дзяржаўнай машыны. Яе (Расіі) ўнутранае ўладкаванне, - апавядае ён у сваіх нататках, - яе адміністрацыя, яе грамадзкае і маральнае становішча, яе формы кіравання і, нарэшце, яе недастатковае развіццё ў сэнсе

[52] Ліст да імператара Мікалая I ад 28 сакавіка 1826 года. Справа № 11.
[53] “Общественные движения”, стр. 478, 479.

разумовай адукацыі, выразна заўважаліся кожнаму асвечанаму і разумнаму чалавеку і

-125-

міжволі выклікалі ў ім жаданне перамяніць ці, ва ўсякім разе, па-магчымасьці выправіць гэтае ўладкаванне. Усё што з'яўляецца ці выяўляецца зараз шкодным і заганым, ва ўсім накірунках яе грамадзкага побыту, існавала і тады – з тым толькі адрозненнем, што заўважалася меншай колькасьцю асоб, чым зараз і што ўрад глядзеў інакш на ўсе гэтыя недахопы, ці не збіраючыся іх вырашаць ці баючыся пачынаць нейкія змены. Дадайце да гэтага тое, што і разуменне тады было больш павярхоўнае і аднабокае чым зараз і таму усё што рабілася, бачылася яшчэ больш абуральным тым із нешматлікіх, якія думалі і рабілі ўчынкі кіруючыся іншымі ідэямі і правіламі[54].

Завалішын успамінае, што зло было такім вялікім, што рабілася незразумелым, як усё яшчэ трымаецца. "Праз гэта мне стала відавочнай уся глыбіня зла, якое раз'ядала ўсі арганічныя асновы Расіі, так што было незразумела, якім чынам усё гэта яшчэ трымаецца і ў той жа час было відавочна, што адміністрацыйны разлад ісьці далей не можа, што так ці інак, але павінен быць падкадзены гэтаму канец. Усякі дзень мне выяўляліся відовішчы, адно абуральней другога. Пра людзей ніхто не хацеў турбавацца, усе кралі, пачынаючы ад ваеннага губернатара да самай нязначнай кіруючай асобы"[55].

# II.
# Дзяржаўная гаспадарка, адміністрацыя і ваенная справа.

Вялікімі недахопамі адрозніваліся асобныя накірункі дзяржаўнага кіравання і ўнутранай палітыкі. Рэзкім папрокам падвяргаліся сістэма падаткаў і эканамічная палітыка.

-126-

У сваіх лістах да імператара і генерал-адзьютанта Левашова Кахоўскі ў змрочных фарбах намаляваў рускую фінансавую і эканамічную палітыку, паказваючы на знясіленне краіны, якое выклікана непамерным падаткамі прамымі і ўскоснымі. Ён лічыў дзяржаўны баланс згубленым, ён лічыў шкоднай сістэму забарон і шматлікасць казённых манаполій, які былі падставай заняпаду гандлю. Урад пераследуе толькі фіскальныя інтарэсы, цалкам забываючыся пра карысць народа: "Выгады скарбу цалкам не адпавядаюць выгадам народа"[56]. Тургенеў паказвае на несправядлівасць самаго прынцыпу падаткаабкладання: падаткі павінны брацца "не з асобы падданага (падушны падатак), а з яго маёмасьці[57].

[54] Нататкі, XIX стагоддзе Барценева, т. I, стр. 69.
[55] Нататкі дзекабрыста Д. І. Завалішына,т. 1, стр. 106.
[56] Шчогалеў, Пятро Гаўрылавіч Кахоўскі. "Былое", 1906, студзень, 146.
[57] Карнілаў, Нарысы грамадзкага руху і сялянскай справы, 21.

Шмат хто паказваў на цяжкасьці земскіх павіннасьцей, асабліва дарожную, прызнаючы падушны падатак параўнальна невялікім[58].

Бацянкоў прызнае падаткавую сістэму падманчывай для вышэйшага ўраду. Згодна яго поглядаў падаткавая сістэма яшчэ нейкім чынам выконвалася. Але давала шырокія магчымасьці для разнастайных злоўжыванняў. Сметы разглядаліся ў Дзяржаўнай Радзе, але іхнае выкананне аддавалася на волю безкантрольнай адміністрацыі. Найбольш цяжкімі былі не дзяржаўныя падаткі, але земскія павіннасьці, пры выкананні валадарыла самавольства. “Ні праверкі, ні рэвізіі, не заўважалі ніякіх формаў павелічэння падаткаў, асабліва ў асабістых падатках – і народ не мог не адчуваць усёй іхнай цяжкасьці”[59].

Як следства недастатковага развіцця прамысловасьці, увесь цяжар падаткаў падаў на сялянства. Якубовіч

-127-

характэрызуе такую рэчаіснасць наступнымі выразнымі радкамі. “Увесь цяжар падаткаў і павіннасьцей, спусташальнае марнатраўства дваранства, усё ляжыць на плячах гэтага паважнага, але няшчаснага стану. Расія багатая ўсімі зямнымі дарамі, усімі кліматамі; ад гарачай Апшэроні да ільдоў Лапландыі, ад Бесарабіі да Сібіры, на такой прасторы чаго толькі не змяшчае ў сабе гэбы неабдымны колас; але няма вызначаных законаў, узаемнага даверу, зручных стасункаў, прамысловасьці, як следства няма значных капіталаў і грошай у абароце. Земляроб багаты хлебам, але, прадаўшы большую частку гадавых высілкаў, толькі што можа задаволіць урад; да таго ж злоўжыванні чыноўнікаў, якія не турбуюцца пра даверанную ім справу, але толькі дбаюць пра свае прыватныя карысьці, маючы на ўвазе выслужыцца перад сваім начальствам за кошт гэтых няшчасных”[60].

Але асноўнасць цяжкасць была ў спосабах збірання падаткаў і выбівання недаімак. Выплата падаткаў здзяйснялася не без “цёмных” выдаткаў на падарункі чыноўнікам[61]. “Экзекуцыі за недаімкі забіраюць працоўную жывёлу, вопратку, спусташаюць нават двары і калечаць катаваннем неплацёжаздольных, як ў часы варварства”[62]. Экзекуцыі рабіліся больш шматлікімі, калі губернатар хацеў выслужыцца. “Як толькі губернатару захацелся ўзнагароды, - уся губернія павінна несьці цяжкія ахвяраванні. Самавольная пастанова аднаго яраслаўскага губернатара можа апраўдаць агульнае незадавальненне памножыўшыміся земскімі павіннасьцямі”[63]. Барон Штэйнгель малюе цяжкую выяву выкалачвання падаткаў і недаімак: “Загадана за недаімку землеўласніка аддаваць пад апеку, а з казённых сялян забіраць, хаця б

-128-

[58] Кахоўскі ў Дубровіна, “Руская Старына”, 1903 год, снежань, 503.
[59] Ліст у справе № 11.
[60] Справа № 470.
[61] Баценкоў, ліст у справе № 11.
[62] Якубовіч. Справа № 470.
[63] Баценкоў. Справа № 11.

гэта і была апошняя яго маёмасць. Пачалі прадаваць у іх маёмасць, быдла і самыя іхныя хаты; а так з такіх абабраных узяць больш няма чаго, то прызначана за недаімкі не маючых маёмасьці збіраць з усёй грамады. У некаторых “выбіць, выкалаціць недаімку” зрабірася тэхнічным тэрмінам. А, між іншым, у адных губерніях, такія як Беларуская, Пскоўская, Цвярская, Валагодзкая і Яраслаўская па некальку гадоў запар быў недарод і землеўласнікі, не атрымліваючы прыбыткаў, кармілі сялян; у другіх, насупраць, як у Тамбоўскай, Пензенскай, і Сімбірскай збожжа нічога не каштавала ад немагчымасьці прадаць яго і вёскі таксама не давалі прыбытку. Такія абставіны робяць Расію падобнай на Францыю ў часы Генрыха III, калі сборшчыкі падаткаў забіралі апоняе ў збяднелых земляробаў”[64].

Асабліва часта спыняюцца дзекабрысты на дарожнай павіннасьці. Праз частыя змены планаў і неякасную працу гэтая павінасць ператварылася ў бясконцую[65]. “Пабудова нетрывалых шляхоў забірала рукі трэццяй часткі Расіі, а збожжа гніло не сабраным”, сведчыць Аляксандр Бястужаў[66]. Якубовіч перадае цэлую карціны выканання гэтай павіннасьці: “Паміж павіннасьцямі адна із самых цяжкіх – выпраўленне шляхоў. Неабсяжныя прасторы, рэдкае насельніцтв, сем месяцаў слякатнай восені ці зімы, глiністая глеба (не гаворачы пра злоўжыванні) самі па сабе непераадольныя перашкоды; за 50 і болей вёрст збіраюць пад час засявання на працу; колькі разоў забіраюць ад сахі толькі для таго каб восеньскую працу знішчыла вясна, а веснавую – восень; з той пары як быў усталяваны новы спосаб пабудовы шляхоў, павіннасьці сталі цяжкімі,



і Расія у агульным згубіла 1/10 частку ўсяго працоўнага быдла, не кажучы ўжо пра капітал і працу. Іншых, менш значных цяжкасьцей гэтага стану не буду і пералічаць”[67].

У гонцы за павелічэннем падаткаў, урад выкарыстоўвае манаполіі. Але, згодна меркавання дзекабрыстаў, яны прыносілі больш шкоды дзяржаве. “Скарб замахнуўся на манаполію. Пад выглядам эканоміі розныя часткі звярнулі ўвагу на так званыя гаспадарчыя спосабы. Гэтым падманчывым сродкам урад павольна аддзяляўся ад народа і пазбаўляў цэлыя сем’і, а часам нават паселішчы, магчымасьці карміцца, забіраючы ў іх, ці робячы безвыніковай іхную працу, з дапамогай якой яны гадавалі свае сем’і з незапамятных часоў. Замест таго, каб распаўсюджваць у народ розныя паляпшэнні, іх рабілі выключнай уласнасьцю скарба”[68]. Дарэчы, скарб гаспадарўся не вельмі ўдала. Так, управа ваенных паселішчаў надумала ўтрымліваць пасажырскія параходы на Волхаве, але ад гэтага пацярпелі прыватныя перавозчыкі і лодачнікі. Чыноўнікі хутка навучыліся выкарыстоўваць управу скарбу на сваю карысць. Заходне-сібірскі генерал-губернатар ставіў сабе ў заслугу танную скупку збожжа ў скарб. Але,

[64] “Общественные движения”, стр. 479, 480.
[65] Штэйнгель, там жа, стр. 480.
[66] Якубовіч, ліст у справе № 11.
[67] Справа № 470.
[68] Ліст Бацянкова, справа № 11.

выявілася, што збожжа проста забіралася ў сялян згодна размяркавання і па вызначанаму казённаму кошту. Пераход да віннай манаполіі лічыўся "адным із самых разбуральных захадаў"; яна мела наступствам збяднене шмат каго із дваран. Згодна меркавання Бацянкова, вінная манаполія была шкоднай тым, што "павялічыла разбэшчанасць і карысталюбства сярод чыноўнікаў", чыноўнікі нажываліся пры манапольнай скупцы віна ў дваран. Чіноўнікі нажываліся, але не ўмелі ці баяліся выкарыстаць нажытыя імі капіталы па гаспадарчаму[69].

-130-

Знішчэнне одкупаў прывяло да збяднення адкупшчыкаў. "Паўсюдна адчыняліся тракціры, гербергі, харчэўні, портэрныя лаўкі, піцейныя установы, часовыя выставы із якіх некаторыя з більярдам, з музыкай і іншымі living рознымі для чэрні прыманкамі"[70]. Згодна меркавання Аляксандра Бястужава, захады ў дачыненні да вінакурэння далі адмоўны вынік: "Забарона вінакурэння ў шмат якіх губернiях скасавала ўсе шляхі да збыту зерня, а распаўсюджванне піцейных установ сапсавала маральнасць і спустошыла сялянскі побыт"[71].

Гандлёвая і эканамічная палітыка ішла паруч з забарончай сістэмай, зменамі тарыфаў пад уплывам знешніх абставін, некаторымі няўдалымі захадамі і шэрагам загадаў, якія ўціскалі гандлёвы стан. Якубовіч дае такую агульную характарыстыку гэтага боку ўрадавай дзейнасьці: "Фінансы з'яўляюцца жыццём дзяржавы, давер урада да прыватных асоб і наадварот іх да яго, таксама узаемны давер паміж грамадзянамі і прамысловасьцю, ёсць галоўныя ўмовы існавання ўсякага грамадства; але ў Расіі ўзаемнага даверу не існуе, скарб не выконвае абяцанняў, законы слабыя, чыноўнікі выкарыстоўваюць сваю ўладу на шкоду і даўно згублены ўсякі давер да ўрада. Банкруцкі статут не распаўсюджваецца на заможнага, ці шляхетнага даўжніка; хто пазбавіўся сумлення той можа ў Расіі зручна жыць за кошт бліжняга, не баючыся справядлівасьці і строгасьці закона. Апошні загад і пастанова аб мяшчанах і купечастве сціснуў і астатнюю кволую прамысловасць; сотні тысяч сямей згубілі сумленны спосаб карміць сваю сем'ю і плаціць падаткі, цэлыя губерніі – магчымасць абменьваць свае вырабы і толькі ўрад атрымаў часовыя

-131-

выгады за кошт захавання цэласьці капітала народнага багацця. Пра знешні гандаль маўчу"[72].

Згодна слоў брона Штэйнгеля, руская камерцыя знаходзіцца ў паралітычным стане, у той час калі нават у Францыі гандаль квітнее. Прычына такой з'явы, між іншым, не вызначаная мытная палітыка – тарыф 1810 года, раптоўная яго перамена на карысць Аўстрыі, Польшчы і Прусіі ў 1816 годзе, новыя змяненні ў 1819 годзе. "Шмат хто із купечаства збанкрутавалі, фабрыканты збяднелі, золата і срэбра сплыло за мяжу"[73]. Аляксандр Бястужаў

---

[69] Бацянкоў, там жа.

[70] Штэйнгель, "Общественные движения", 479.

[71] Ліст у справе № 11.

[72] Справа № 470.

[73] "Общественные движения", 478.

адзначае, што шмат якія фірмы збяднелі, у гандлі знік давер. “Неустойлівасць тарыфаў прывяла да галечы шмат каго із фабрыкантаў і напалохала іншых, вынікам чаго быў недавер да нашага ўрада, як у асяроддзі сваіх так і замежных негацыянтаў... Забарончая сістэма, узбагачаючы кантрабантыстаў, не паднімала кошты на нашы вырабы і, ідучы за модай, усе плацілі за так званыя канфіскаваныя тавары значна даражэй”[74].

Урад абвінавачвалі ў недахопе ўвагі да гандлёвага стану: урад недастаткова заахвочвае яго, недастаткова падтрымлівае купечаства [75]. Аляксандр Бястужаў звяртае ўвагу на збядненне ніжэйшых станаў гарадзкога насельніцтва і на запусьценне гарадоў. Адной із нагод такога становішча ён лічыць той факт, што дваранства спяшаецца пераехаць у горад. “Мяшчане, - апавядае ён, - стан паважны і значны ва ўсіх іншых дзяржавах, у нас малалікі, занядбалы, абцяжараны павіннасьцямі, пазбаўлены сродкаў для існавання. У іншых нацый яны запаўняюць гарады, у нас жа, тады як гарады існуюць толькі на мапе і вольнасць рамёстваў абмяжоўваюць

-132-

Існуючыя ў іх цэхі, то яны вандруюць, падобна цыганам, займаючыся дробязным перапродажам. Упадак гандлю адлюстраваўся на іх больш значна праз іхную занядбласць, бо яны вельмі залежаць ад купечаства, як дробныя гандляры, ці працаўнікі на фабрыках”.

Ён таксама лічыць, падобна Якубовічу, вельмі шкодным загад, згодна якому мяшчане і дробныя гандляры павінны былі запісацца ў гільдыі ці плаціць падаткі; гэты загад не быў выкананы, але выклікаў незадавальненне[76].

Мы ўжо бачылі, што Бястужаў незадалена адзываецца аб перавазе ў эканамічным жыцці краіны сталіцы. Пецярбург наогул быў не вельмі шанаваны ў асяроддзі дзекабрыстаў і яны гатовы былі прыпісаць Пецярбургу нават больш таго, чым гэтая сталіца заслугоўвала. Вось як, напрыклад, Бацянкоў растлучвае шкоду ад пераважнага значэння сталіцы: “Амаль усе капіталы і ўвесь іхны абарот быў засяроджаны ў сталіцы, якая знаходзіцца ў самым кутку імперыі. Тут былі сканцэнтраваны амаль усе грамадзкія ўстановы, тут таксама здзяснялiся самыя значныя пректы; але ці магла ўся імперыя браць удзел у абарачэнні капіталаў, які размеркаваны ткім чынам? Зразумела, не. Пагэтаму губерніі, якія размяшчаліся далёка ад межаў і далёка ад вадзяных шляхоў, якія ішлі да сталіцы хутка бяднелі, залазілі ў недаімкі, якія немагчыма было выплаціць і пры вялікіх запасаж збожжа адчувалі ва ўсім недахоп. Аб дапамозе ім амаль і не думалі”[77].

І так, мы паказалі шэраг крытычных заўваг якія мелі дачыненне да ўрадавай палітыкі па самых розных капітальных накірунках дзяржаўнага жыцця. Гэтую крытыку шмат у чым нельга не прызнаць слушнай і правільнай. Шмат хто із дзекабрыстаў разумелі тое, што не маглі ці не жадалі зразумець людзі, якія кіравалі ўнутранай палітыкай.

---

[74] Ліст у справе №11.
[75] Якубовіч, справа № 470.
[76] Справа № 11.
[77] Справа № 11.

Не вельмі ўдалыя захады абцяжарваліся тым, што іхнае выкананне ўскладалася на дрэнных выканаўцаў. Хабарніцтва рацінала ўсю дзяржаўную машыну зверху да нізу. “Прыбытковыя месцы прадаваліся па вызначанай таксе і былі абкладзены аброкам”, пісаў у сваім лісьце Аляксандр Бястужаў[78].

Апірышчам цэнтральнай адмністрацыі была мясцовая. Але губернскія ўстановы мелі шэраг недахопаў. “Губернатары паволі падпарадкавалі сабе ўсю мясцовую ўладу і амаль зраўняліся з былымі ваяводамі. Прызначэнне генерал-губернатараў давяршыла цэнтралізацыю губернскіх установаў: усе справы сцякаліся да гэтых сатрапаў. Сам цэнтральны ўрад глядзеў на ўсё не інакш як іхнымі вачамі і не мог ні ў чым ім пярэчыць. Прасьцей было пазбавіць пасады генерел-губернатара, чым паказаць яму іншы накірунак вядзення спраў. Незвычайней за ўсё было бачыць, калі аднаму із генерал-губернатараў было дазволена правесьці эксперымент новага ўладкавання губернскай адміністрацыі – як быццам бы для такога эксперыменту дастаткова некалькіх месяцаў і, як быццам бы, нельга было іншым шляхам вывучыць усе зручнасьці і недахопы такога эксперыменту”[79]. Бацянкоў, словы якога мы толькі што паказалі із ліста да Мікалая I ужо із крэпасьці, не аднайчы растлумачваў у гуртках дзекабрыстаў заганныя бакі тагачаснай губернскай адміністрацыі; ён крытыкаваў пазначаны эксперымент генерал-гебернатара Балашова[80]. Штэйнгель заяўляе, што эксперымент Балашова выклікаў агульнае незадавальнене ў асяроддзі жыхароў[81]. Кахоўскі пазначаў жахлівае бяспраўе асобы перад усемагутнай уладай генерал-губернатараў і губернатараў. Інстытут генерал-губернатараў яму здаваўся наогул безсэнсоўным і недарэчным: іхная ўлада была цяжкай для насельніцтва, урад жа


меў ад іх мала карысьці: “Калі генерел-губернатары былі ўсталяваны для новага ўладкавання дзяржаўных установаў у губерніях, то выбранне зроблена вельмі няўдалае: і выдатны дывізіённы начальнік можа стаць нікчэмным генерал-губернатарам”[82]. Гэта прынцыповы бок справы. На практыцы ўсё было яшчэ значна горш.

Сквапная мясцовая адміністрацыя рабавала насельніцтва без усякай сармлівасьці. Рэвізуючыя сенатары аддавалі пад суд тысячы дробных чыноўнікаў, але тыя траплялі на новыя месцы і рабавалі яшчэ смялей, таму што былі пад абаронай і пратэкцыяй[83]. “Ніхто із служачых не даражыў сваім месцам, калі яно не было прыбытковым, апавядаў П. Кахоўскі. – Грамадзянская частка прыніжана, заробак цалкам недастатковы для выжывання, але сакратар, які атрымлівае заробак 200 рублёў у год, выдаткуе тысячы. Усе пра гэта ведаюць,

[78] Справа № 11.
[79] Бацянкоў, справа № 11.
[80] Сведчанні Мікалая Бястужава.
[81] “Общественные движения”, стр. 481.
[82] Шчогаеў, “Былое”, 1906 год, студзень, 146.
[83] “Общественные движения”, стр. 481.

усе гэта бачаць, а ўрад абыякава цярпіць. Ці не азначае гэта заахвочваць злачынствы і пашыраць распусту?" "Хабарніцтва і падкупленні, - апавядае Кухельбекер, - рабіліся без ясякай сарамлівасьці і баязні"[84]. "Праехаўшы з поўначы на поўдзень Расіі, – піша Кахоўскі ў лісьце да гаспадара, - імкнуўся разабрацца ў становішчы розных станаў людзей. Ад усюль чулася незадавальненне ўрадам і кіраўнікамі ім прызначанымі"[85]. У гарадзкіх самаўправах справы былі не лепшымі. "Згодна нашага гарадавога статута, пісаў барон Штэйнгель у адным са сваіх сведчанняў, - усе правы аддадзены грошам, а не асобам і аддаецца перавага ўсякаму безтурботнаму багацею перад працавітым і сумленным бедняком"[86].

-135-

Міхал Мікалаевіч Мураўёў, які быў сябрам таемнага таварыства, але сваечасова яго пакінуў, у будучым вядомы віленскі генерал-губернатар, праз невялікі час пасьля снежаньскай рэвалюцыі, склаў цэлую запіску – праект аб знішчэнні хабарніцтва. У гэтай запісцы ён адзначае не толькі факт хабарніцтва, але вельмі дзёрзка крытыкуе тагачасную губернскую адміністрацыйную машыну, якая была прасякнута бюракратызмам. "Маладыя дваране, з юнацкіх гадоў трапляючы ў канцылярыі, - піша ён, - навучаюцца безсаромна браць хабар і, пазнаўшы ўвесь сэнс і тэорыю губернскай грамадзянскай службы, якая ў большай частцы зводзілася да ачышчэння папер, пры відавочнай крывадушнасьці і хабарніцтве, прыкрытымі выкананнем закона, з цягам часу занімаюць месцы столаначальнкаў, сакратарэй усіх палат і нават пісьмавадзіцелей пры саміх губернатарах; тут яны вырашаюць справы згодна свайго самавольства і яшчэ больш умацоўваюць гэтую пастыдную сістэму хабарніцтва, абараняючы свае прыватныя выгоды і натхняючы сваёй безпакаранасьцю і іншых на такія ж дзеянні. У такіх-та людзях расаднік большай часткі чыноўнікаў грамадзянскай губернскай службы, школа, у якой выхоўваюцца нашы законаведы, якія часта пад сьціплай назвай сакратара кіруюць цэлымі губерніямі і абласьцямі"[87].

Рылееў і лісьце да Булгарына ад 6 жніўня 1821 года, г. зн. яшчэ да свайго ўступлення ў Таемнае Таварыства, збіраючыся праехаць у Пецярбург, красамоўна малюе ў сваім лісьце да Грэча ўсе прыёмы чынавенскага кручкатворства: "Холадам абдае мяне, калі я ўспамінаю, што, акрамя шматлікіх турбот, мяне чакае ў Пецярбурзе пакутлівае

-136-

кручкатворства неўгамоннага і ненасытнага племені загадчыкаў:

Калі ад рускага мяча
Ляглі манголы ў прах, галосячы,
Расію Бог караў не перастаючы,
Такім шматлікім, як саранча,

---

[84] Дубровін, "Р. Ст.", снежань, 1903 г., стр. 496.
[85] Там жа, стр. 511.
[86] Там жа, стр. 496.
[87] Кропатаў, "Жыццё графа М. М. Мураўёва", стр. 419.

Загадчыкаў род у краях яе абшырных
Паўсюдна разсяліў,
Каб сэрцы мірных грамадзян
Яны заўсёды як чарвяк тачылі...”

“Калі б ты бачыў загадчыкаў у рускіх правінцыях – гэта сапраўдныя кравапіўцы і я перакананы, што ні прагныя тараскія орды, пад час сваіх навалаў, ні твае даўно асвечаныя суайчыннікі (Грэч быў паляк) у жахлівую гадзіну міжцарэння не прычынілі Расіі столькі шкоды, як гэтае лютае атроддзе. У сталіцах бяруць толькі з тых, што мае нейкую справу, тут з усіх. Старшыні, суддзі, засядаючыя, сакратары і нават капіісты маюць пастаянны прыбытак ад свайго рабавання, а выпраўнікі...”

І на заключэнне, апісаўшы ў вершаванай форме навалы на Русь знешніх ворагаў у розныя часы:

“Зараз толькі пры наездах
Лютуюць адны выпраўнікі ва ўездах”[88].

Наогул, рабаванні як вялікіх так і дробных чыноўнікаў абуралі дзекабрыстаў. “Пра ўціскі земскіх чыноўнікаў, піша Аляксандр Бястужаў, - можна напісаць кніжку. Усякі загад зверху дае ім падставу для да тысяч насільстваў і хабарніцтваў. То збяруць сялян пад час сенакосу ці жатвы і тыя месяц нічога не робяць. То дадуць зрабіць, а потым разбураюць, патлумачыўшы што зроблена не згодна формы. Прызначаюць на працу бліжэйшых далей і наадварот, каб узяць за звальненне па некалькі рублёў з брата. Ды і, акрамя таго, збіраюць



дадатковыя падаткі, без усякага тлумачэння, так што з кожнай душы выходзіць утрайне звыш вызначаных падаткаў, - і інш.”[89]. Адзін із маладых дзекабрыстаў Бляеў піша ў сваіх успамінах: “Гэта запрыгоньванне сялян, 25-гадовы тэрмін службы лічыліся і сапраўды былі бзчалавечнымі. “Палярная зорка”, паэма Рылеева: “Вайнароўскі і Налівайка”, Пушкіна “Ода на свабоду” былі вядомы кожнаму і паведамляліся і паўтараліся ва ўсіх сяброўскіх і аднадумніцкіх гуртках. Апавяданні пра разнастайныя жорсткасьці выпраўнікаў, якія выбівалі падушныя падаткі амаль ці не катаваннямі; анекдоты пра жорсткасць і безкантрольны дэспатызм Аракчэева; апавядалі таксама, як нейкі прыгоннік насільна, па чарзе, пазбаўляў нявіннасьці ўсіх сваіх падрастаўшых прыгонных дзяўчат. Як жорстка некаторыя вайсковыя начальнікі і самавольныя прыгоннікі каралі цялесна, забіваючы часам людзей да сьмерці”[90].

Барон Розен з абурэннем успамінае пра прыклады хабарніцтва, з якімі яму давялося сустрэцца ў маладосьці[91]. Падобныя ж успаміны сустракаем і ў нататках Ваўконскага[92].

---

[88] Цытавана згодна артыкула Катляроўскага “Літаратурная дзейнасць дзекабрыстаў”, “Р. Богатство”, 1904 год, жнівень. стр. 44.
[89] Справа № 11.
[90] “Русская Старина”, 1881 год, сакавік. Стр. 488.
[91] Пад час высылкі і інш., 21.
[92] Нататкі.

Цяжкае становішча звычайнага жыхара павялічвалася праз адсутнасць упаракаванага зводу законаў. Маёр Спірыдаў, самы пасрэдны із дзекабрыстаў, прызнаецца ў сваіх сведчаннях, што і ён быў незадаволены ўрадам, таму што ён меў вельмі шмат дрэнных бакоў: “Ёсць злоўжыванні законамі; мы маем вялікую іх колькасць, яны, нават зведзеныя разам, вырабляюць шмат непаразуменняў; шмат якія праз састарэласць мовы цяжка зразумелы, нараджаюць двухсэнсоўнасць, а гэта ўсё служыць ненасытнай карыслівасьці”. Ён

-138-

дастаткова прастадушна апавядае пра свае мары, бяспрэчна, значна памяншаючы свой лібералізм. Ён прамаўляў на сходах: “Вельмі б хацелася, каб знайшоўся хто-небудзь у нас у Расіі, із набліжаных да гаспадара, які б разабраўся ва ўсім падрабязна, узважыў усё непрадузята і зрабіў наступнае: склаў зборнік законаў, пастанаўляючы па кожнаму пытанню усё выразна, моцна і зразумела”[93].

Такое ж мы сустракаем і ў іншых дзекабрыстаў. “Законы незразумелыя, - пісаў Кахоўскі, - не поўныя і адзін загад супярэць другому. Мы не толькі выносім фізічна (г. зн. ад падаткаў, беднасьці і нш.), але няхай падумаюць магутныя, якая маральная шкода нацыі праз адсутнасць законаў”[94]. У яго нават вырываецца заключная фраза ў адным із лістоў да гаспадара: “У нас няма законаў, няма грошай, адсутнічае гандаль, у нас унутраныя ворагі раздзіраючыя дзяржаву; у нас цяжкія падаткі і паўсюдная беднасць”[95].

Некаторыя адзначаюць дрэнную судовую ўладкаванасць. Пра ніжэйшыя судовыя інстанцыі Бацянкоў апавядае: “Магутнасць у ніжэйшых інстанцыях аслаблена, на асоб служачых па выбранню, распаўсюджаны ўзнагароды і пакаранні і зняважылася служба па выбранню праз нікчэмнасць асоб і паўнай іхнай залежнасьцю ад чыноўнікаў каронных, якія яшчэ менш паважаемы”[96]. Аляксандр Бястужаў адзначае бясконцую валакіту ў судовых інстанцыях. “Цэнтралізацыя судовых устаноў, - апавядае ён, - пры якой кожная дробязь з дапамогай апеляцый перадавалася на вырашэнне больш высокіх судовых устаноў, што зацягвала судовыя спрэчкі на дзесяцігоддзі і часта да прыняцця рашэння абодва бакі даходзілі да беднасьці. Карацей, у скарбе,

-139-

у судах, у камісарыятах, у губернатараў, у генерал-губернатараў, усюды дзе толькі мелася нейкая заінтэрэсаванасць, хто мог, той рабаваў, хто баяўся, той краў. Усюды сумленныя людзі несьлі страты, а ябеднікі і падманшчыкі радавалісь”[97]. Кахоўскі таксама гаворыць пра судовую валакіту. “У нас, - піша ён, - судовыя справы цягнуцца з дапамогай апеляцый дзесяткі гадоў і вельмі часта справядліваць атрымлівае ўзнагароду аднымі выдаткамі”[98].

---

[93] Сведчанні Спірыдонава.
[94] Дубровін. “Р. Ст.”, 1903 г., снежань, 499.
[95] Там жа, стр. 513
[96] Справа № 11.
[97] Справа № 11.
[98] Дубровін, “Русская Старина”, 1903 г. снежань, 499.

Барон Штэйнгель звярнуў увагу на сістэму пакаранняў. У 1817 годзе праз генерала Тармасава ён звярнуўся ў вышэйшыя сферы з асобнай запіскай, названай “Нешта аб пакараннях”. У гэтай сваёй запісцы ён звярнуў увагу на сістэму пераважаючых тады жорсткіх пакаранняў. На нашу думку погляды барона Штэйнгеля яшчэ вельмі далёкія ад тых гуманных поглядаў якімі прасякнута сучаснае крымінальнае права. Бяспрэчна таксама, што погляды Штэйнгеля значна больш суровыя за тыя гуманныя вучэнні, якія з’явіліся яшчэ ў XVIII ст. Але патрэбна прыняць да ўвагі, перш за ўсё, той бяспрэчны факт, што дадзеная запіска дасылалася ў вышэйшыя дзяржаўныя ўстановы, якія поўніліся самымі грубымі поглядамі на сістэму пакаранняў. Магчыма аўтар лічыў цалкам безнадзейным спрабаваць правесьці вельмі ліберальны погляд у гэтым дачыненні: такі радыкалізм мог бы выявіцца цалкам пазбаўленым магчымасьці быць прынятым да ўвагі і наклікаць непрыемнасьці для аўтара. Але калі нават дапусьціць, што барон Штэйнгель у гэтай запісцы выказаў свае сапраўдныя думкі, то і ў такім выпадку яна выклікае вялікі інтарэс. Патрэбна яшчэ адзначыць важную абставіну: барон Штэйнгель у той час яшчэ не быў сябрам Таемнага Таварыства, якое ў той час і само знаходзілася ў стане ўтварэння, што, нарэшце, ён прыехаў у сталіцу з глухой правінцыі,



із Сібіры. У сваёй запісцы, напрыклад, барон Штэйнгель лічыць магчымым пакінуць за паліцыяй права пакарання дубцамі для ніжэйшых станаў народа, захаваць для некаторых выпадкаў пакаранне і нават сячэнне дубцамі каля ганебнага слупа. Але, тым не менш, у гэтай запісцы заўважаецца вялікі крок наперад, параўнальна з тагачаснымі існуючымі правіламі рускага крымінальнага права. Аўтар запіскі вельмі абураецца жорсткімі цялеснымі пакараннямі. “Кнут, - піша ён, - адна назва якога дае іншаземцам ідэю варварства і безчалавекай жорсткасьці, на самай справе ўяўляе пакаранне вельмі жорсткае і чалавецтву праціўнае... Падобнае пакаранне не можа заўсёды называцца раўназначнай злачынству”. Часам яна і не мае карысьці, таму што сквапнасць катаў палягчае пакаранне. Наогул, аўтар рашуча выказваецца супраць бізуна і плётак. Такім чынам, і сама мэта запіскі накіравана супраць гэтых двух прылад варскарскіх пакаранняў[99]. Тургенеў глядзеў значна шырэй у гэтым пытанні і нават пераконваў тагачасную рускую адміністрацыю ў тым, што непатрэбна выкарыстоўваць цялесныя пакаранні нават і пры збіранні падаткаў з сялян[100].

Бчспрэчна, судовыя ўстановы канкурыравалі з адміністрацыйнымі ў хабарніцтве, якое, згодна слоў Аляксандра Бястужава, дайшло “да нечувалай ступені безсаромнасьці”[101]. Із такіх умоў вынікала самае жудаснае бяспраўё асобы, яе прыніжанасць перад дробнай, маральна і разумова нікчэмнай бюракратыяй. Якушкін у сваіх пазнейшых нататках абураецца на паўсюднае распаўсюджванне хабарніцтва, рабавання і асабліва “відавочнай непавагай

[99] Зборнік гістарычных матэрыялаў, узятых із архіва асабістй яго вялікасьці канцылярыі, выпуск першы, стр. 292-306.
[100] Карнілаў, там жа, 21.
[101] Справа № 11.

да чалавека”[102]. “Не гаворачы ўжо аб прыгонным праве, - успамінае Завалішын, - развіццё якога, нават насуперак ужо разуменню і агучаным правілам фактычна працягвалася да канца царавання Аляксандра I, не гаворачы пра адсутнасць правоў ва ўсяго ніжэйшага стану, адносна якога дзяржаўная адміністрацыя выяўлялася яшчэ горшай за панскую ўладу; нават людзі вышэйшых станаў былі пазбаўлены якой-небудзь гарантыі недатыкалнасьці іхнай асобы і маёмасьці. Самае дзікунскае самавольства, насільствы і хабарніцтва, пратэкцыя і падкупленне, разбэшчанасць і падман заражалі ўсе сферы дзяржаўнага і грамадзкага жыцця і былі пераважаючымі сродкамі для дасягнення асабістых мэт як ў асяроддзі вышэйшых так і ніжэйшых”[103].

Пятро Кахоўскі ў адным са сваіх лістоў яскрава гаворыць пра парушэнні правоў асобы з боку генерал-губернара і прыводзіць прыклады незаконных арыштаў нават дваран[104]. Хабарніцтва і крывасуддзе цалкам натуральна звязваліся ў усім тагачасным ладам, які быў прыстасаваны да падзелу насельніцтва на рабоў і ўладароў. “У судах, бяспрэчна, не без выключэння, - апавядае Бяляеў, - валадарыла крывасуддзе; хабарніцтва было амаль паўсюдным; справы доўжыліся да бясконцасьці; шхо мог даць больш, той і выйграваў справу, - словам усё, як нам здавалася, разладжвалася і ўсё гэта было, як усе ведалі, пры лепшым і ліберальнейшым гаспадары. Бяспрэчна, ён быў чыстым ва ўсім, што рабілася дрэннага, аб чым ён, бяспрэчна, і не ведаў. Так думалі ўсе і пераконваліся ў тым, што усё гэта было непазбежным следствам тагачаснай рэчаіснасьці, у якой не прызнаваліся

нічые правы перад мацнейшым; у якой старэйшы, хто б ён ні быў, заўсёды быў не кіраўнікам, а ўладаром і гаспадаром малодшага, моцны – слабога, заможны – беднага; у якой ніхто не мог спаслацца на сваё права, таму што ніякага права не было. Здавалася б дваранства мела дараваныя і зацверджаныя за ім правы, але калі б хто-небудзь нагадаў аб гэтых правах, то гэта б палічылі бунтам. Такім чынам, уся Расія падзялялася на два станы: на валадароў і рабоў, па чарзе”[105]. Не дзіўна пагэтаму, што ў ліберальна настроеных людзей таго часу міжволі ўзнікала думка: “Чаму мы не можам разважаць аб нашых правах і маёмсьці”[106].

Пры такіх умовах, натуральна, у гуртках дзекабрыстаў узнікала думка аб набходнасьці новага і лепшага заканадаўства. Пятро Кахоўскі ў сваіх лістах да Мікалая I і да генерала Левашова, не аднойчы згадваў пра судовае неўладкаванне, пазначае і той шлях па якому павінен пайсьці ўрад у справе паляпшэння заканадаўства і суда. Для гэтай мэты неабходны, перш за ўсё, зразумелыя і вызначаныя законы і пры гэтым абвешчаныя нязменнымі. “Вызначаныя, нязменныя законы спыняць усе злоўжыванні у судовай справе.

[102] Нататкі, стр. 6
[103] Нататкі дзекабрыста З. Я. Завалішына, т. I, ст. 263.
[104] Шчогалеў, Пятро Гаўрылавіч Кахоўскі, “Былое”, 1906 г., студзень, стр. 146.
[105] Бяляеў, Успаміны аб перажытым і адчутым, “Русская старина”, 1881 г., сакавік 488.
[106] Ліст Штэйнгеля, “Общественные движения”, 490.

Відавочнасць і кароткасць іх перашкаджае заблытаць справу; яны лёгка запамінаюцца і станавяцца вядомымі ўсім; праз гэта кожны ведае свае абавязкі, свае правы і як караецца ў выпадку не падпарадкавання вызначаным імі правілам. Мы гэтым не можам пахваліцца; у нас загад на загадзе, адзін разбурае другі, аднаўляе і да кожнага выпадку знойдзецца некалькі загадаў, адны з другімі не



згодныя. Магутныя і суцягі святкуюць, беднасць і сумленнасць пакутуе". Узорам заканадаўчага кодэкса для Кахоўскага служыць кодэкс Напалеона. Між іншым, Кахоўкі перакананы праціўнік смяротнай кары і прыхільнік паляпшэння турэмнага побыту з ввхаваўчым характарам. Законы павінны караць, але не забіваць злачынцу; смяротная кара не можа выправіць злачынцу, таму забірае ў яго жыццё. Турма "са смуродам", у якой за злачынцамі назіраюць ахоўнікі, якія часта самі "злачынцы яшчэ большыя", не можа выправіць вінаватага. Кахоўскі праектаваў і асобныя бакі судовага ўладквання. "Судовы працэс, - на яго думку, - павінен быць адкрыты і вусны, з прысяжнымі і адвакатамі. Колькасць інстанцый павінна быць зменшана. Неабходны падзел паміж следчай і судовай часткамі"[107].

Вельмі зразумела, што ў праектах будучага дзяржаўнага ўладкавання дзекабрысты малявалі суд і заканадаўства адпаведна найбольш зацвердзіўшымся поглядам сучаснай ім юрыстпрудэнцыі, г. зн. уладкаванне суда прысяжных, паляпшэнне судовай справы, выданне гуманнага крымінальнага кодэкса і г. д. З гэтымі праектамі, якія былі складовай часткай канстытуцый, мы яшчэ пазнаёмімся. Але із папярэдняга выкладання, ва ўсякім разе, відавочна, што сябры Таварыства знаходзіліся значна вышэй па сваіх поглядах за пануючую тады судовую практыку. Яны выдатна разумелі недахопы судовай практыкі і не менш выразна ўяўлялі захады неабходныя для яе паляпшэння.

Ад адміністрацыі і суда пяройдзем да войска. Амаль усе дзекабрысты былі вайскоўцамі, чаму і не дзіўна, што іхныя заўвагі пра становішча войска з'яўляюцца дастаткова глыбокімі. У іхных заўвагах, сведчаннях



і лістах даецца шэраг звестак, якія характэрызуюць тагачасную жаўнерскую службу і настрой ў войску. Дарэчы, адносна войска сустракаецца шмат сведчанняў якія ідуць і не з асяроддзя дзекабрыстаў. Недахопы ў вайсковай справе былі вельмі шырокавядомымі. Пагэтаму мы пазнаёмімся толькі з некаторымі заўвагамі дзекабрыстаў па гэтаму пютанню для таго, каб паказаць, што і ў іх асяроддзі знаходзіліся людзі, добра разумеўшыя разнастайныя недахопы тагачаснага вайсковага ўладкавання. Неўладкаванасць войска часоў Аляксандра I тым больш выклікае цікавасць, што войска, поруч са знешняй палітыкай, былі прыярытэтнымі напрамкамі дзейнасьці гаспадара. Гэта было ваюючае войска, якое прайшло амаль усю Яўропу, мела за сабой шэраг перамог. Але, на жаль, гэтыя перамогі нічаму не навучылі вышэйшае кіраўніцтва, а ў

[107] Шчогалеў, Пятр Рыгоравіч Кахоўскі, 145-146.

асяроддзі звычайных генералаў не знайшлося людзей дастаткова мужных для таго, каб на аснове свайго ваеннага вопыту процідзейнічаць дзіўнаму ўладкаванню войска, якое было ўсталявана ў апошнія гады царавання Аляксандра I.

Жаўнерская вайсковая служба была вялікім цяжарам для народа, мучэннем для саміх жаўнераў; яе непасільны цяжар быў і непатрэбным у такім памеры, як ён быў уладкаваны: міжнароднае становішча Расіі пасьля Цільзіцкай мірнай дамовы і асабліва пасьля вайны 1812 года зусім не патрабвала ўтрымання такога вялікага войска.

Агульную характарыстыку неўладкавання войска мы перш за ўсё знаходзім у лісьце Якубовіча да гаспадара ад 28 снежня 1825 года. Якубовіч, баявы афіцэр, які меў усяго толькі чын капітана, не занімаў у войску выбітнога становішча. Аднак недахопы тагачаснай службы і недахопы агульнага ўладкавання для яго відавочны. Перш за ўсё, яго абураў 25-ці гадовы тэрмін жаўнерскай службы: жаўнер пакідае бацькоўскую хату, часта і сям’ю, без усякай

-145-

надзеі вярнуцца да мірнага жыцця. Прыгнечаны стан душы не прывучае жаўнера да свайго занятку, і сваю справу жаўнер выконвае толькі праз баязнь пакарання. Афіцэры большай часткай без адукацыі і мала зарабляючы, схільны да хабарніцтва. У войску заўважаецца антаганізм паміж афіцэрамі і жаўнерамі. Перавагі гвардыі робяць безнадзейнай службу тых вайсковых афіцэраў, якія паспелі атрымаць адукацыю і вызначаюцца веданнем сваёй справы і энергіяй. На самай справе, 800 гвардзейскіх афіцэраў з’яўляюцца пітомнікам для вышэйшых вайсковых чыноў і старыя вайсковыя афіцэры павінны падпарадкоўвацца хутка выслужваючымся гвардзейцам[108].

Не менш грунтоўныя і разважанні Фон-Візіна аб стане тагачаснага войска. На яго думку, тэрмін службы ніжэйшых чыноў можна зменшыць да 10 ці 12 гадоў і тады палегчыцца гэта самая цяжкая для народа павіннасць. У якасьці ўзору для Расіі ён бярэ вайсковае ўладкаванне Прусіі. Ён лічыць таксама неабходным зменшыць войска на палавіну, спасылаючыся на прыклад вайны 1812 года, калі рускае войска на працягу двух гадоў павялічылася ўдвая і яго баявыя якасьці ад гэтага ніколькі не зменшыліся[109].

Услед за гэтымі грунтоўнымі агульнымі разважаннямі сустракаем шэраг характэрных назіранняў тагачаснага стану вайска. Падпалкоўнік Паджыо звяртае ўвагу на тую абставіну, што ўрад, пачынаючы скарачэнне войска, звальняе жаўнераў і тым самым выкідвае іх на вуліцу, таму што шмат хто з іх ужо не мае прытулку на радзіме. “Я сам быў, - піша ён, - відавочцам таго, як сілай выпраўлялі жаўнераў на адпачынак, таму што часта гэты жаўнер,

-146-

не маючы прытулку, быў вымушаны прасіць міласці, ці, горш таго, брацца за справы, якія не супярэчылі маральнасьці. Я сам быў аднойчы сведкам у 1823

[108] Справа № 470.
[109] “Общественные движения”, стр. 80-81.

годзе, калі жаўнер адзін у мундзіры з медалём на грудзях прыйшоў прасіць у пана – чаго ж? Хлеба! Я сам быў у мундзіры і прызнаюся, мне было ўсё гэта вельмі прыкра! Згадваю пра гэта, каб паказаць, якім чынам мы пагаднялі захады абцяжарваючай для нас палітыкі з усімі захадамі ўнутраннага кіравання. Гэтымі прыкладамі мы тлумачылі грэбаванне ўрадам ўнутранага дабрабыту Расіі"[110].

Але большасць абуралася на жорскае абыходжанне афіцэраў з падначаленымі ім жаўнерамі. Якушкін апавядае пра жаўнераў, "служба якіх на працягу 25 гадоў амаль катарга"[111]. Згодна слоў Бяляева, жаўнерская служба таго часу добра характэрызуецца жаўнерскай казкай: жаўнер прадаў сваю душу чорту, каб той адслужыў за яго тэрмін[112]. Падпаручнік Андрыевіч 2 апавядае, што яму не аднойчы даводзілася быць сведкай "неутаймаваных і безчалавечных учынкаў нашых камандзіраў над няшчаснымі жаўнерамі".

Гэты вайсковы афіцэр перадае нам тыя адчуванні, якія абуралі яго і яго вайсковых саслужыўцаў, большай часткай сябраў Таварыства Аб'яднаных Славян, такіх жа нязначных вайсковых афіцэраў, як і сам апавядаючы. Падобныя назіранні садзейнічалі разважанням "аб вайсковай управе і аб урадзе нашым, праз якія нашы жаўнеры дайшлі да такой нікчэмнасьці, у той час калі менавіта на іх трымаецца апора дзяржавы". Далейшае апавяданне Андрыевіча настолькі цікавае і так выразна абмалёўвае настрой яго саслужыўцаў,

-147-

што лічым патрэбным прывесьці яго цалкам. "Такія размовы, - апавядае ён, - пры сустрэчах амаль кожны дзень былі панаўляемы новымі відамі рабавання тых грамадзян, якія кормяць усю дзяржаву сваімі высілкамі. Гэтыя-та віды, штодзённа з'яўляючыяся перад маімі вачамі, патроху выклікалі нянавісць да тых, хто быў нагодай такой несправядлівасьці, а, нарэшце, і да самаго ўраду. Я наракаў і на Бога, і на цара, і ў гэтай лютасьці імкнуўся даследаваць крыніцу ўсёй нястрыманасьці, з якой катуюць маіх суайчыннікаў. Яшчэ ў той час, калі не ведаў ні пра якія таварыствы, а таму можна думаць, што шмат такіх людзей, якія адчуваючы несправядлівасьці, вельмі незадаволены. Ітак, вось нагода дастаткова відавочная, якая вымусіла шукаць людзей, якія б маглі пачуць стогны бедных жыхароў і нешчаслівых жаўнераў, якія так храбра і выдатна змагаліся пад час кампаніі 1812 года, калі айчына была амаль заваявана непрыяцелем. Скажыце, чаго варты гэтыя ваяры, якія выратавалі сталіцу ад ворага-рабаўніка, які замахнуўся на святое? Так, менавіта яны, ніхто іншы, выратавалі Расію і гэта быў іхны абавязак. Яны прысягалі пасаду і айчыне і цьвёрда выканалі яе, а ці дастатковую ўзнагароду атрымалі за сваю смеласць? Не, пасьля гэтага прыгнёт павялічыўся яшчэ больш. Я б не гаварыў гэтага калі б не быў верным сынам айчыны. Я лічу сваім абавязкам гаварыць гэта"[113]. Падобнымі пачуццямі былі перапоўнены і іншыя сябры Андрыевіча 2. Барысаў 2 згадвае ў сваіх сведчаннях аб фактах жорсткіх адносін камандзіраў да сваіх падначаленых. Такія назіранні

[110] Сведчанні Паджыо.
[111] Запіскі, стр. 6.
[112] "Русская старина", 1881, сакавік, 490.
[113] Сведчанні падпаручніка Андрыевіча.

“раздувалі час ад часу больш” у ім павагу да вольнасьці і народаўладдзя. Між іншым, ён апавядае, што “у 1819 годзе,

-148-

незадоўга да паходу ў Грузію той роты, у якой я тады знаходзіўся, яе камандзір караў палкай за п’янства і растрату грошай былога фельдфебеля, фейерверкера і радавога перад зборам ўсёй роты. Я быў да такой ступені ўражаны, што выйшаў із фронта і даваў самаму сабе клятву знішчыць падобныя пакаранні, хаця б гэта каштавала мне жыцця”[114]. Такія факты, калі афіцэры выходзілі са строю і нават гублялі прытомнасць пры відовішчы пакарання жаўнераў, не адзінкавыя. Вядомы выпадак з Сяргеем Мураўёвым-Апосталам, які страціў прытомнасць пад час падобнай экзекуцыі. Брат Барысава 2 у сваіх сведчаннях таксама з горыччу згадвае пра залішнюю патрабавальнасць начальнікаў да сваіх падначаленых і ў гэтым, між іншым, бачыць адну із падстаў сваіх спроб стварыць таемнае таварыства[115].

Барон Розен у сваіх пазнйшых нататках не аднойчы з агідай згадвае аб жорсткасьці кіруючых асоб войска, аб адсутнасьці карысьці ад франтавой выпраўкі і, нарэшце, аб крадзяжах казённых грошай у войску.

Аб крадзяжах у войску апавядае і Аляксандр Бястужаў. Як марак, ён прыводзіць некалькі фактаў, якія характарызуюць марское ўпраўленне. “У пецярбургскім і кранштацкім адміралцействах, - апавядае ён, - вызначана, у першым 190 коней для перацягвання калод, у другім не ведаю. Але справа ў тым, што ні адзін із коней не працуе, а развозіць па гасьцях разнастайных чыноўнікаў. А калоды цягаюць няшчасныя матросы. Брат мой Мікалай і кап. Л. Торсан могуць даць падрабязныя звесткі аб вялікай колькасьці злоўжыванняў на флоце”.

Бязладдзі ў войску натуральна прыводзілі да незадавальненняў; жаўнеры і матросы наракалі. “Жаўнеры наракалі на стамленне ад вучэнняў, чыстак, каравулаў, афіцэры –

-149-

на малыя заробкі і непамерную строгасць. Матросы – на чорную працу. Падвоенную праз злоўжыванні, марскія афіцэры на бяздзейнасць. Людзі са здальнасьцямі скардзіліся, што перакрываюць шляхі па службовай лесвіцы, патрабуючы толькі безславеснага падпарадкавання”[116]. Гангеблаў у сваіх нататках згадвае аб моцным падзенні дысцыпліны ў войску, нават у асяроддзі гвардэйскіх жаўнераў. Жаўнеры пакараліся патрабаванням дысцыпліны з нехаваемай пагардай, афіцэраў глядзелі на жаўнераў з вышыні, насмешліва. Згадаўшы пра некалькі рэальных выпадкаў такой пагарды жаўнерамі з боку афіцэраў, Гангеблаў заключае: “Відаць, начальства згубіла глебу пад нагамі”. Гэта было ў Ізмайлаўскім палку[117].

[114] Сведчанні Барысава 2.
[115] Сведчанні Барысава 1.
[116] Ліст у справе № 11.
[117] Успаміны дзекабрыста Аляксандра Сямёнавіча Гангеблава, 14, 15.

Цікава, што захапленне самаго Аляксандра I фронтам і наогул вайсковай справай, згодна сведчання некаторых, рабіла ў войску зусім іншае ўражанне, чым гэта патрэбна было б чакаць. Так, ва ўсякім разе, сцвярджае Кахоўскі. У лісьце да імператара Мікалая I ён заклінае яго не браць прыклад са свайго папярэдніка ў яго захапленні фронтам. Кахаўскі апавядае аб заклапочанасьці дзекабрыстаў, што імператар Мікалай, пра захапленне якога ваеншчынай было вядома ўсім, стаўшы гаспадаром, будзе цікавіцца толькі ваеннай справай і пры гэтым, вельмі мала карыснай яе часткай – франтавой выпраўкай. "Я толькі давяду да вас, - кідае Кахоўскі ў вочы гаспадару, бяспрэчна, не вельмі прыемную для таго заўвагу. – што і людзі, якія вам вельмі адданыя, не апраўдваюць вашай строгасьці да фронту. Гэтая схільнасць нашых гаспадароў да падобнага занятку ў вачах народа стала ненавіснай. Само войска вельмі ім абцяжарана і выказвае незадавальненне. На вучэннях у жаўнераў часам вырываюцца такія выразы, якія, разыходзячыся па дзяржаве,

-150-

запкапочваюць сэрцы і памнажаюць незадавальненне. Ваша вялікасць! Калі б вы ведалі, наколькі шмат вы пашкодзілі сабе гэтым заняткам. Абражанае самалюбства цяжка залагодзіць і якія чуткі, якія весткі насіліся па дзяржаве. Ад вас залежыць зараз лёс пяцідзесяці мільёнаў людзей, і я вельмі жадаю, гаспадар, каб вы аддавалі перавагу прыемнаму карыснае"[118].

Нашы заўвагі пра вайсковую службу ва ўяўленні дзекабрыстаў мы можам закончыць словамі палкоўніка Мацвея Мураўёва-Апостала. На пытанне следчага камітэта аб тым, наколькі войска гатова да непадпарадкавання і аб нагодах яго незадавальнення, ён заявіў камітэту: "Я думаю, што войска гатова рушыць, таму лічу, што, наогул, сапраўдная дысцыпліна згублена – дысцыпліна заснаваная на павазе да начальніка: 1)большая частка палкавых камандзіраў пяхотных палкоў, як, напрыклад, Гебель, выкарыстоўваюць незаконным чынам жаўнерскі правіянт. Гэта вымушае іх занімацца пастыдным гандлярствам з ротнымі камандзірамі. Ротныя камандзіры, жадаючы мець нейкую карысць, дагаджаюць жыхарам, якія кормяць жаўнераў і даюць ім квітанцыі. Гэта вымушае іх прымаць несправядлівыя рашэнні пры разглядані скаргаў. 2)Палкавыя камандзіры, якія больш клапоцяцца пра сваю выгаду, бываюць вельмі схільнымі да накладння залішніх пакаранняў. 3)Мала звяртаюць увагу на маральнасць вайсковых афіцэраў. 4)Вялікая колькасць разжалаванных афіцэраў у палках. 5)Аштрафаныя жаўнеры якія ўжо не маюць ніякай надзеі калі-небудзь выйсці ў адстаўку. 6)Вайсковы жаўнер амаль увесь круглы год у паходзе, на што ён вельмі абураецца. Доказ таго, што войска гатова да ўзрушэння – гэта паўстанне Чарнігаўскага палка, у якім не было

-151-

ніякіх падрыхтоўчых захадаў нават на пярэдадні паўстання"[119]. Дзекабрысты былі незадаволены ўладкаваннем войска не платанічна. Ім, бяспрэчна, належала

---

[118] Шчогалеў, Пятро Гаўрылавіч Кахоўскі, "Былое", 1906 г., люты, 201.
[119] Сведчанні Мацвея Мураўёва-Апостала.

заслуга ў прапагандзе ідэі гуманнага абыходжання з жаўнерамі. Гэтую ідэю дзекабрысты прводзілі на практыцы ва ўзначальваемых імі частках. Тыя з іх, якія занімалі больш значныя пасады, як, напрыклад, генерал Арлоў, князь Ваўконскі, Фон-Візін, мелі магчымасць змагацца і з праявам крадзяжоў казённай маёмасьці. Дзекабрысты звярталі ўвагу і на развіццё жаўнераў, на іхную адукацыю. Такім чынам, жаўнеры атрымлівалі палягчэнні і чалавечыя да іх адносіны, ва ўсякім разе, у некаторых палках і ротах. Дарэчы, аб гэтым накірунку іхнай дзейнасьці нам яшчэ давядзецца гаварыць.

## III.
## Уладкаванне станаў.

Вывучыўшы адміністрацыйнае і ваеннае ўладкаванне таго часу згодна ўяўлення дзекабрыстаў, мы можам перайсьці зараз да вывучэння пытанняў аб поглядах дзекабрыстаў на пытані ўладкавання станаў. Найбольш вызначана шмат хто з іх выказаўся па сялянскаму пытанню. Што да іншых станаў – дваранства, гародзкога насельніцтва і святарства, то пошляды дзекабрыстаў у дачыненні да іх не маюць асаблівай цікавасьці. Некаторыя з іх згадвалі пра маральны і разумовы бакі развіцця гэтых станаў ці эканамічны. Іхныя погляды не былі аднолькавымі. Так, адносна дваранскага стану, Якубовіч прызнае неабходнасць арыстакратыі пры адзінаўладым манархічным кіраванні; згодна яго думкі, “яна ўраўнаважвае дзяржаву, выконвае функцыі



прадстаўніцва каля пасаду ад народа і аппазіцыі ўраду”. Але гэта толькі ў тэорыі, якая не можа быць дапасавана, згодна меркавання Якубовіча, да Расіі. У Расіі не шмат такіх “стаўпоў айчыны”; у асяродзі рускіх дваран не шмат такіх, якія вылучаюцца паходжаннем, багаццем, мудрасьцю і бездакорным служэннем айчыне, што давала б ім права прадстаўляць інтарэсы народа перад асобай манарха. Якубовіч падзяляе рускае дваранства на вяльможнае, сярэдне- і дробнапамеснае. Пра вяльможнае ён не гаворыць нічога, аб сярэднепамесным адзываецца з вялікай сімпатыяй, як да стану адукаванага і здольнага з карысьцю служыць айчыне. Дробнапамеснае дваранства знаходзіцца ў стане поўнай неадукаванасьці, напаўняючы войска і судовыя ўстановы. Як на адмоўны бок усяго дваранства, Якубовіч паказвае на раскошу, якая укаранілася ў яго асяроддзі і прывёўшая шмат якія сем’і да запазычанасьцей[120]. Аляксандр Бястужаў з вялікім абурэннем адзываецца пра рускае дваранства. Ён з горыччу згадвае пра уцісканне дваранамі сваіх сялян, што значна “больш адчувальна, таму што яны, г. зн. дваране, набылі ўяўленні пра правы людзей”. Ён таксама дзеліць дваранства на тры гурты: на асвечаных, із складаецца знаць, на адукаваных “якія мучаюць іншых у якасьці суддзяў, ці самі цягаюцца па судах”, нарэшце, на невукаў, якія жывуць у глухіх вёсках. Ён таксама не вельмі станоўча адносіцца да

[120] Ліст у справе № 470.

дробнапамеснага дваранства: яны “складаюць язву Расіі, заўсёды вінаватыя і абураючыяся і, жадаючы жыць не згодна з прыбыткам, а сваім прэтэнзіям, здзекваюцца са сваіх сялян, няшчадна эксплуатучы іх”. Раскоша даводзіць дваран да галечы, асабліва тых, якія служаць у сталіцах, з нагоды чаго дзесятая частка маёнткаў разладжана і закладзена[121].

-153-

Да гэтых сведчанняў далучаецца і сведчанне барона Штэйнгеля. Дарэчы, апошні спыняецца на безпамесным і асабістым дваранстве, шматлікасць якога выяўляецца следствам табелі аб рангах і якое адрозніваецца занядбаласьцю, але лічыць для сябе не ганаровым ўсякі не дваранскі занятак ці рамяство[122].

Што да гандлёвага стану і рамеснікаў, то аб гэтым нам даводзілася размаўляць пры абмеркаванні эканамічнай палітыкі ўрада. У гэтым пытанні погляды дзекабрыстаў не вызначаны, праз тое, што сярод тых, хто падрабязна выкладаў свае погляды не было асоб дасведчаных у гэтым пытанні, акрамя барона Штэйнгеля. Апошні быў вялікім знаўцам пытанняў, якія мелі дачыненне да гандляроў і гандлёвага стану. Яшчэ ў 1817 годзе ён даслаў графу Аракчэеву запіску пад назвай: “Некаторыя думкі і заўвагі адносна заканадаўчых пастаноў аб грамадзянскасьці і купечастве ў Расіі”. Самыя значныя прапановы аўтара запіскі зводзіліся да наступнага: ён лічыў неабходным скасаваць асобную назву для купцоў і мяшчан і замяніць іх на агульную назву грамадзянін. Званне грамадзяніна магло быць нададзена і двараніну пры ўмове ўдзелу яго ва ўсіх гарадзкіх грамадзкіх справах і ў гарадзкіх абраннях. Уся гарадзкая зямля павінна належаць не асобнаму гуртку грамадзян, але ўсяму “гарадзкому грамадству, каб усе жыхары горада адчувалі карысць ад іх”. Ён раіць ураўняць усіх грамадзян у пытанні падаткаабкладання. Ён пазначаў тую акалічнасць, што купечаства і мяшчанства “зневажаецца асабістымі падаткамі”. Пагэтаму ён раіў вызваліць гарадзкі стан ад падушных падаткаў і падткаабкладанне гарадоў уладкаваць таім чынам: вызначыць усяму гораду вядомую суму, даць магчымасць самаму гарадзкому

-154-

грамадству зрабіць размеркаванне, згодна маёмаснага стану плацельшчыкаў. Купечаства было вызвалена ад рэкруцкай павіннасьці. Штэйнгель лічыў гэтую ільготу не справядлівай, але лічыў не справядлівым і яе скасаванне, пагэтаму вылучаў прапанову, вызначыць колькі кожны горад згодна размеркавання павінен быў даць рэкрутаў, дазволіць замяшчэнне іх грашовымі ўзносамі і нанімаць для гэтага ў дваран дваровых людзей. Далей ён раіць вызваліць усіх грамадзян ад цялесных пакаранняў і ўзмацніць захады да рапаўсюджван асветы ў гарадах. Адносна суда ў гарадах Штэйнгель прапануе вельмі важныя захады. Так, ён прапануе палепшыць гарадзкія суды, асабліва ў дачыненні крымінальнага суда, лічыць неабходным адгарадзіць “лепшымі захадамі” “узяцце грамадзяніна пад варту”; следства над грамадзянінам ніколі не павінна

---

[121] Справа № 11.

[122] “Общественные движения”, стр. 491.

вырабляцца без дэпутатаў ад горада, таму што “інакш гаротнасць немагчыма адгарадзіць ад насільстваў і несумленнасьці. І зараз існуе закон, згодна якога мешчанін не можа быць пакараны без суду і мешчаніна ніхто не можа абразіць. Але хіба не заўважаем паўсюдна, што пры самых нязначным дамаганнях з боку паліцыі, іх б’юць па шчаках, сякуць дубцамі і інш., і кожны будачнік дае волю сваім рукам”[123]. Гэтая запіска – праект, дасланы ўсемагутнаму графу Аракчэеву. У такі праекце яго аўтар не мог, бясрэчна, ва ўсёй паўнаце выказаць свой крытычны погляд на становішча гарадзкога стану, не мог выказаць і сваіх канчатковых ідэалаў; але, тым не менш, прапанаваныя Штэйнгелем захады маглі б і пры тагачасных умовах узвысіць гарадзкі стан і палепшыць яго становішча; ён знайшоў магчымасць паказаць і на найбольш значныя недахопы ў сановішчы гэтага стану.

-155-

Што да святарства, то адносна гэтага стану мы можам паказаць на дзве характарыстыкі, выказаныя Аляксандрам Бястужавым і Якубовічам. Гэта – агульны погляд на становішча ніжэйшага святарства. “Вясковае святарства знаходзіцца ў становішчым вартым жалю, - апавядае першы. – Не маючы ніякага заробку, яно, наогул, адданае сялянству і таму, вымушанае дагаджаць яму, само ўвязла ў распусьце, для барацьбы з якой было прызначана, між тым, як вясковае жыло ў галечы і без павагі. Загад пра вопратку жонак святароў выклікаў хваляванні і незадавальненне ў асяроддзі заможнага гарадзкога святарства”[124]. Падобная ж кароткая характарыстыка святарства, зробленая Якубовічам: “Святарства беднае, неадукаванае і не заўсёды дабрадзейнае; із гэтага выйшла, што рускія, шанюючы веру і будучы сапраўднымі хрысьціянамі, мала паважаюць сваіх духоўных настаўнікаў і тыя не маюць ніякага ўплыву на народ”[125]. Гангеблаў таксама скардзіцца на неадукаванасць белага святарства, вясковага і ў дробных гарадах, якое не адпавядала свайму высокаму прызначэнню[126].

Было не мала падстаў, праз якія дзекабрысты пазбягалі ў сваіх сведчаннях і лістах пытанняў, якія мелі дачыненне да падзелу на станы, за выключэннем пытанняў стасункаў землеўласнікаў і іхных сялян. Дваране і без таго мелі вялікія прывылегіі ў дзяржаве і калі гэтыя прывілегіі не былі заснаваны на палітычных правах, то, ва ўсякім разе, былі зацверджаны практыкай і дваранскай граматай. Звыш таго, для шмат каго не мала сэнсу выказваць свае канчатковыя пераканані: у асяродзі сябраў следчай камісіі і ў гаспадара іхныя погляды не сустрэлі б ніякага спачуваня. Праекты канстытуцый,

-156-

складзеныя дзекабрыстамі, сведчаць, што канчатковыя ідэалы радыкальнага гуртка дзекабрыстаў перараслі рамкі перакананняў таго ці іншага стану і схіляліся да палітычнай роўнасьці ўсіх станаў.

[123] “Общественные движения”, стр. 287-289..
[124] Справа № 11.
[125] Справа № 470.
[126] Сведчанні Гангеблава, стр. 8.

У адносінах да сялянскага пытання пазіцыя дзекабрыстаў, як да рэвалюцыі, так і пасля заключэння іх у крэпасьці была зусім іншая. У якасьці сябраў таемных таварыстваў дзекабрысты лічылі сваім абавязкам распаўсюджваць здаровае разуменне ў асяроддзі прыгонніцкага дваранства аб шкоднасьці прыгоннага права. У якасьці вязняў крэпасьці, яны паднялі свой голас супраць той жа з’явы, цешачы сябе надзеяй, што іхны гарачы заклік, хаця б часткова, будзе садзейнічаць зняншэнню сялянскага бяспраўя.

Як дзейнасць дзекабрыстаў, накіраваная супраць прыгоннага права, так і літаратура па таму ж пытанню, належачая ім, дастаткова шматлікая і шматбаковая. У сялянскім пытанні дзекабрысты высветлілі шмат якія бакі ў становішчы прыгонных сялян і імкнуліся растлумачыць у асяроддзі тагачаснага грамадства і самаму ўраду ўсю цяжкасць для сялян прыгоннага рабства, яго амаральнасць і нават імкнуліся зацвердзіць думку аб тым, што ў эканамічным дачыненні прыгоная праца з’яўляецца далёка не выгадным, нарэшце, высвятлялі гісторыю прыгоннага права.

Перш за ўсё, прыгледзімся да таго, як уяўлялі сабе дзекабрысты становішча сучаснага ім прыгоннага сялянства. У гэтым дачыненні дзекабрысты звярталі ўвагу на шматлікія заганныя бакі ў становішчы сялянства. Так, напрыклад, Якубовіч абураны тым, што ўвесь цяжар падаткаў фактычна прыпадае на сялян; бясрэчна, гэта мела дачыненне да прамых падаткаў[127]. У сваёй вядомай



кнізе “Вопыты тэорыі падаткаў” Мікалай Тургенеў таксама звяртае ўвагу на неабходнасць пры размеркаванні падаткаў “адхілення цяжару падаткаў ад простага народу”. “Старажытныя рымляне, - настойліва паўтараў ён, - лічылі за свой гонар плаціць тым больш, чым больш знатныя яны людзі; знатныя людзі навейшага часу, як мы бачылі, знаходзяць свой гонар зусім у адваротным”[128].

Але пераважаючая большасць дзекабрыстаў больш за ўсё, бяспрэчна, абуралася на абыходжанне паноў з іхнымі сялянамі. Аляксандр Бястужаў у сваім лісьце неаднаразова з агідай апавядае пра паноў-прыгоннікаў. “Паводзіны рускага дваранства, - піша ён, між іншым, - у гэтым дачыненні жудасныя. Негры на плантацыях больш шчаслівыя за шмат із якіх панскіх сялян. Прадаваць сем’і ў розніцу, забіраць нявіннасць, разбэшчваць сялянскіх жонак не лічыцца чымсь ці дрэнным і робіцца адкрыта. Не кажу ўжо аб паншчыне і аброках, але сусткаюцца звяры, якія раздаюць шчанюкоў сваіх барзых сабак сялянкам, для карлення іх грудным малаком. На счасьце, такія прыклады не частыя, але, на сорам чалавецтва, яны існуюць”[129]. У падобных выразах дае кароткую характарыстыку прыгоннага права і Якубовіч: “Паны, якія жывуць у вёсках, пераважаючай часткай закасьцянелі ў невуцтве і разбэшчанасьці, самавольна распараджаюцца гонарам, маёмасьцю і нават жыццём сваіх сялян, перадаючы разбэшчанасць і ў

[127] Справа № 470.
[128] Цытавана згодна Карнілава, “Нарысы па гісторыі грамадзкага руху”, 20.
[129] Справа № 11.

іхныя сем'і. Няма абароны прыгнечанаму, няма пагрозы і страху ў прыгнятальніка"[130]. Нават вельмі асьцярожны ў сваіх сведчаннях маёр Спірыдаў, які ахвотна спасылаўся на свае памылковыя думкі нават у дастаткова звычайных пытаннях, аднак, не палічыў магчымым не звярнуць увагу на

-158-

сялянскае пытанне. Ён вяртаецца да яго некалькі разоў у сваіх абвінавачваннях следчаму камітэту. Найбольш моцна яго ўражваў прыгнёт сялян сваімі панамі: "Прыгнёт сялянства найбольшы ў далучаных губернiях. Гэта, ваша імператарская вялікасць, я гавару абапіраючыся на свой вопыт". Сапраўды, ён паказвае некалькі прыкладаў са свайго "вопыту". "Служачы большай часткай ў войску, квартыруючыся у хатах саміх сялян, прызнаюся, паглыбляючыся ў разгляд іхнага становішча, назіраючы абыходжанне з імі гаспадароў, я часта жахаўся і нагоду гэтаму знаходзіў у прыналежнасьці іх (пану). У Маларосіі назіраў у адной і той жа вёсцы: казённага жыхара, які меў дастатак ва ўсім і панскага, які празябаў у нястачы. Потым, зрабіўшы пераход у Жытомірскую губернію, больш за ўсё быў засмучаны агульнай занядбаласьцю пасялян: бачыў там, што гэтая радзючая губерія аддае ўсе свае прыбыткі адным толькі землеўласнікам, назіраў бесперапынную дзейнасць хлебаробаў, усе высілкі якіх служылі толькі для абагачэння іхных паноў; а ў пасялян на прыканцы года нехапала ні збожжа ні печанага, не толькі на продаж, але і для асабістага пракармлення. Паўсюдная таннасць далёка не служыла ім на карысць, таму што прымус купляць усё патрэбнае для гаспадаркі ў карчмах у жыдоў заганяла іх у галечу. Прызнаюся, маё сэрца ўздрыгалася, шкадуючы іх"[131]. Згодна заўвагі Барысава 2-ога, назіранне за становішчам прыгонных падштурхнула яго да ліберальных ідэй: "Несправядлівасьці, насільствы і прыгнёт паноў у дачыненні да іхных сялян, заўсёды нараджалі ў мяне подлыя (відавочна, зараз Барысаў 2 хоча дагадзіць сябрам следчага камітэту)

-159-

адчуванні і ўмацавалі ў маім розуме ліберальныя ідэі"[132]. Вільгельм Кюхельбекер у гэтым цалкам пагаджаецца з Барысавым 2. "Прыгнёт сапраўды жудасны (гавару пра гэта не згодна слухаў, а як сведка, таму што жыў у вёсках не мімаходзь), - сведчыў ён на следстве, - у якім знаходзіцца большая частка панскіх сялян, асабліва ў малазабяспечаных і сярэдніх паноў, выключаючы мілліянераў (і то не ўсіх) і цалкам збяднелых. Аб апошніх, як я заўважыў, калі сам пан вымушаны араць, селянін звычайна сыты, апрануты і не біты"[133].

Але большая частка дзекабрыстаў у сваіх сведчаннях і запісках пакінула нам канкрэтныя факты жорсткага абыходжання паноў са сваімі сялянамі. Басаргін у сваім сведчанні апавядае, што ў 1819 годзе яму давялося жыць у адной вёсцы Маскоўскай губерніі і быць сведкам жорсткага абыходжання пана з сялянамі. Гэтае назіранне "дало мне першую думку, ці лепш сказаць жаданне,

[130] Справа № 470.
[131] Сведчанні Спірыдава.
[132] Сведчанні Барысава 2.
[133] Сведчанні Кюхельбекера.

зрабіць іх вольнымі", пагэтаму, між іншым, ён ахвотна ўступіў у сябры Таемнага Таварыства[134]. "Пры выкананні даручэння ў Падольскай губерніі, апавядае Крукаў 2, - я пабачыў да якой ступені даходзіць прыгнёт сялян панамі і жыдамі. Цалкам адчуваючы гаротны стан рабства і невуцтва, усё больш і больш пераконваўся ў тым, што толькі шырокая асвета зможа зрабіць дзяржаву заможнай[135]". Згодна слоў пазнейшых запісак Якушкіна, "закаснеласць народа, прыгоннае становішча" не аднойчы абмяркоўваліся ў гуртках маладых афіцэраў, якія ў далейшым прыйшлі да

-160-

думкі заснаваць таемнае таварыства. Із запісак таго ж Якушкіна вядома некалькі фактаў таго, якім чынам жарсткае абыходжанне паноў са сваімі сялянамі ўспрымалася самім Якушкіным і блізкімі да яго людзьмі, нарэшце, вядомы таксама і захады самаго Якушкіна да вызвалення сваіх сялян[136].

Гангеблаў у сваіх сведчаннях абураецца на неабмежаваную ўладу паноў над сваімі сялянамі і жорсткае абыходжаннем з імі: пан больш думае пра павелічэнне сваіх прыбыткаў, чым пра карысць сялян[137]. Пестэль у сваіх сведчаннях і ў "Рускай праўдзе" шматразова вяртаецца да жахаў прыгоннага права. "Рабства сялян заўсёды моцна ўздзейнічала на мяне", заяўляў ён сябрам следчага камітэту[138]. Із "Рускай праўды" відаць, што Пестэль уважліва вывучаў становішча сялянскага пытання ў Расіі і ў сваіх разважаннях пра вызваленне сялян прыйшоў да думак, далёка папярэдзіўшых вялізную большасць яго сучаснікаў, нават із асяроддзя дзекабрыстаў. Дарэчы, у далейшым мы больш падрабязна пазнаёмімся з пытаннем аб адносінах "Рускай праўды" да сялянскага пытання. Зараз жа спынімся яшчэ на вельмі цікавых нататках аднаго із самых маладых дзекабрыстаў Тучкова. Да нас дайшоў урывак з дзённіка, які ён вёў у 1818 годзе, г. зн. у той час, калі ён яшчэ не быў сябрам Таемнага Таварыства. Апошняя абставіна вельмі цікавая сведчаннем аб тым, што ў Таемнае Таварыства прыходзілі людзі ўжо нейкім чынам падрыхтаваныя, якія прызнавалі тупіковасць усталяваўшайся рэчаіснасьці. Васемнаццацігадовы прапаршчык квартырмейркесткай

-161-

часткі Тучкоў быў накіраваны ў 1818 годзе для статыстычнага і тапаграфічнага апісання Адоеўскага і Бельскага ўездаў. Праца ва ўездзе дала магчымасць маладому прапаршчыку пазнаёміцца з сялянскім жыццём. Увесь яго кароткі дзённік, прысвечаны апісанню сялянскай нядолі, якая абурала аўтара.

Тучкоў паказвае шэраг фактаў, якія малююць цяжкасць сялянскага аброку і паншчыны. У адной вёсцы ён звярнуў увагу на тое, што пан вызначыў на кожнае цягла па адной дзесяціне шэрай зямлі і бярэ з сялян па 60 р. з цягла ды яшчэ і павозкавую павіннасць. У другой вёсцы пан бярэ з цягла па 40 руб. ды, звыш

[134] Сведчанні Басаргіна.
[135] Сведчанні Крукава 2.
[136] Запіскі.
[137] Сведчанні Гангеблава, стр. 8
[138] "Былое", 1906, люты, 136.

таго, патрабуе пагалоўнай паншчыны, калі яму захочацца. Тут жа сяляне даюць пану хатнюю птушку, парасят, баранаў і гадуюць панскае быдла. Той жа пан за дазвол адружыцца бярэ са сваіх сялян вялікі выкуп. Ён пазначае вёскі, дзе сялян пагалоўна выганяюць на паншчыну, так што на сваю зямлю сялянам застаецца адзі-два дні на тыдзень. “Я пытаўся, калі ж сяляне збіраюць сваё збожжа, мне адказалі: для гэтага існуе ноч”. Тучкову сустракаліся і ліберальныя паны, якія гаварылі вельмі добра, але ўчынкі іх былі вельмі дрэнныя. Адзін такі адстаўны гусарскі паручнік “гаварыў добра, але, відаць, рабіў зусім не так як гаварыў; згодна яго слоў, тыранія паноў - дрэнная справа; аднак жа, вось ужо два месяцы як яго сяляне пагалоўна працуюць на паншчыне, а на сябе яшчэ ніводнага дня. Яны і загораць, што ён іх даехаў”. Знаёмства з сялянскім побытам у дадзенай мясцовасьці зрабіла вельмі цяжкае ўражанне. “Наогул, можна сказаць, - піша Тучкоў, - што тут народ прыгнечаны да крайнасьці; казённых сялян мала – усе панскія, а із іх няма ні



аднаго заможнага, калі не самі, то загадчыкі даводзяць іх да крайняй галечы”. Тучкоў паказвае некалькі прыкладаў жорсткага абыходжання паноў з сялянамі. У вёсцы Жалязенцы пан даканаў сялян пакараннямі: “па пяцьсот палак за раз, ці, лепш сказаць, б’е да ўпаду, сячэ бізуном, калі вельмі раззлуецца і сваёй рукой б’е палкай па галаве. Шмат хто праз яго памёр”. Выявы панскага самавольства ў весцы Ясенкі так уразілі Тучкова, што ён нават вырашыў напісаць Адоеўскаму выпраўніку. У гэтай вёсцы пан і яго загадчык “разуюць сялян да крайнасьці і б’юць неміласэрдна; за ўсё лета даюць ім толькі тры дні працаваць на сябе, забралі ў іх лепшую зямлю. Знішчылі ў сялян усіх свінней, а, між іншым, патрабуюць у іх свініну, якую сяляне вымушаны купляць. Вечна працуючы на пана, не ведаючы ні адпачынку ні царквы па нядзелях, гэтыя гаротныя знаходзяцца ў вельмі цяжкім становішчы. Калі хто з іх асьмеліцца папрасіць панскага хлеба з нагоды неўраджаю, то пан дае ім патрошку, толькі перад тым селяніна нясуць не шкадуючы. Хадзіць па міру не дазваляюць, працаваць на сябе не даюць, а забіраюць ад селяніна ўсё светлае, што толькі можна прыдумаць. Яны для таго давялі сялян, што апошнія ў голас крычалі мне: “Утаймуй хоць ты яго (загадчыка), барын! Ён разбойнік, б’е нас без міласьці, даводзіць да галечы”. Вось сляды безкантрольнай панскай улады”. Назіранне за прыгонным правам прыводзіць Тучкова да некалькіх вельмі цікаых высноў. Ён лічыць “самаўладнае кіраванне рускіх паноў” вельмі цяжка адбіваецца на сялянах. “Смутак і незадавальненне - пячатка рабства – складаюць галоўную рысу рускага селяніна”. Насільствы, якія чыняць паны, з’яўляюцца насільствамі самаго ўраду: бізун у руках пана – усё адно, што бізун у руках



урада. А, між іншым, мець рабоў супярэчыць божым законам. У асяроддзі паноў часам чуюцца водгукі аб сялянах, як аб варварах. Тучкоў абараняе рускага селяніна: “Дарэмна думаюць пра рускіх сялян, што яны варвары без усякай асветы... што яны, атрымаўшы аднойчы волю, будуць не ў стане выкарыстаць яе на што-небудзь карыснае і што тады памножыцца колькасць разбэшчаных

людзей, асабліва ж рабаванняў і разбояў і, нарэшце, дарэмна гаварыць, што зараз залаты час заспакаення і цішыні, дзякуючы ўладзе паноў". І Тучкоў ператвараецца ў перакананага абаронцу ідэі вызвалення сялян. Ён глыбока перакананы ў тым, што "свабода хутка прывядзе ў квітнеючае становішча стан людзей, які корміць і ўзбагачае ўсю Расію, - стан, які дае самую вялікую колькасць абаронцаў айчыны і таму гэты стан годны павагі"[139].

Такія, у вышэйшай ступені цікавыя назіранні Тучкова.

У той час, калі адны із дзекабрыстаў перадаюць нам свае ўражанні, канкрэтныя факты із прыгоннай эпохі, іншыя імкнуцца высветліць розныя бакі прыгоннага права і безнадзейнасць спроб тых, хто захоча знайсьці якія-небудзь падставы, маральныя ці эканамічныя, для захавання гэтага інстытута. У запісцы Мікалая Тургенева, дасланай ім у 1819 годзе графу Міларадовічу і меўшай на мэце заахвоціць урадавыя сферы, ва ўсякім разе, да палягчэння становішча сялян, заўважаецца добрае знаёмства з пытаннем і ўдумлівыя адносіны да яго. У гэтай запісцы ён паведамляе шэраг сваіх назіранняў над прыгонным уладкаваннем.

-164-

Напрыклад, ён адзначае той факт, што сяляне, якія належаць адкупшчыкам, ці, наогул, асобам якія займаюцца гандлем (маюцца на ўвазе, бяспрэчна, толькі дваране), знаходзяцца ў самым цяжкім становішчы: "Іхныя ўладальнікі, прызвычаіўшыяся да вялікіх прыбыткаў па іхнаму папярэдняму занятку гандлем, не могуць задаволіцца невялікімі прыбыткамі ад нерухомай маёмасьці". Ён прызнае больш менш задавальняючым становішча аброчных сялян. Але з сялян якія адбываюць паншчыну, паны патрабуюць не толькі ўзаконеныя тры дні на тыдзень, а значна больш, да шасьці дзён на тыдзень. Стасункі паноў са сваімі сялянамі часта вызначаюцца не маральнымі ўчынкамі, як, напрыклад, продаж дзяўчат азіяцкім гандлярам. Далей, Мікалай Тургенеў прыводзіць шэраг меркаванняў, із якіх відаць, што законным шляхам дастаткова цяжка прыцягнуць жорсткага пана да адказнасьці і судовыя справы, якія ўзнікаюць з гэтай нагоды з'яўляюцца вельмі выпадковымі[140].

У афіцыйнай запісцы Тургенеў стрымана і із веданнем справы разглядае сялянскае пытанне, даючы яму агульную характарыстыку. У другіх яго аднадумцаў па Таварыству мы сустракаем высвятленне асобных бакоў той шкоды, якую робіць дзяржаве рабства. Так, некаторыя з іх звярталі ўвагу на амаральнасць прыгоннага права: яно змяншае маральнасць як рабаўладальнікаў, так і рабоў. Міхал Фан-Візін, дарэчы, ў больш познім сваім артыкуле які быў напісаны ўжо ў 1842 годзе, прызнае прыгоннае права шкодным як у маральным, эканамічным так і ў палітычным дачыненнях: яно перайначвае як уладароў так і падначаленых[141]. Барон Штэйнгель

-165-

[139] А. А. Тучкоў і яго дзёнік, "Веснік Яўропы", 1900 г., жнівень, 685.
[140] Зборнік гістарычных матэрыялаў, здабытых із асабістай Яго Вялікасьці канцылярыі, выпуск 4, стр. 441.
[141] "Грамадзкія рухі", 74.

у лісьце да гаспадара, які ён адважыўся напісаць у 1823 годзе, у імя чалавечых правоў звяртаўся да гаспадара з парадай і маленнем аб забарне, ва ўсякім разе, гандлю людзьмі. “Венцаносныя дабрадзеі еўрапейскіх народаў самі заспупіліся за правы чалавека і выразна выступілі супраць варварскага гандлю неграмі. Расія, між іншым, зносіць справядлівыя папрокі ад усёй асвечанай Яўропы за пастыдны гандаль людзьмі, які існуе ў ёй. Не пералічваючы ўсё зло, якое вынікае із яго, дастаткова нагадаць, што такое права прадаваць людзей не вызначана ні адным із існуючых законаў: яно стварылася праз злоўжыванні і замацавалася часам”[142].

Нарэшце, князь Трубяцкі ў сваіх нататках пазначае шэраг асаблівасьцй прыгоннага права і падкрэслівае яго амаральнасць. Ён сцвярджае, і гэта цалкам справядліва, што Таемнае Таварыства вызначыла подзвігам для сябе барацьбу з язвай прыгонніцтва. “Становішча вышэйшага стану, - апавядае ён, - г. зн. дваранства, амаль ва ўсіх частках аднолькавае, але становішча простага народу дастаткова адрознае. У Фінляндыі свабода, сярод народаў мегаметанскай веры і ідалапаклоннікаў таксама; у прыбалтыйскіх губерніях яна толькі што ўзнікла, у Царстве Польскім існавала ў законе, але не на самай справе. Адны толькі хрысьціяне, і то большай часткай праваслаўныя, падпарадкаваны неўтаймаванай волі прыгоннікаў. Сяляне казённыя, вялікарускія і украінскія, так званыя казакі, толькі яны із рускіх не нясуць на сабе панскага ярма, але і не карыстаюцца правамі вольнага стану. Становішча прыгонных сялян таксама вельмі адрозніваецца: адны аброчныя, другія апрацоўваюць зямлю,

-166-

трэццconfigурація фабрычныя, чацвёртыя і тое і другое і трэццяе разам. Ні адна пастанова, ні адзін закон не вызначае павіннасьці. Землеўладальнік вызначае іх па свайму жаданню, аброчных садзіць на зямлю, калі яму ўздумаецца, ці, адрывае ад зямлі і ўладкоўвае фабрыку. Гаротныя жыхары арэндаваных маёнткаў і нават шмат якія панскія на Беларусі, Літве і польскай Украіны жывуць амаль круглы год за кошт месячнай нормы, не маючы нічога асабістага; п’янства – адна іхнага ўцеха і ад яго самы лепшы прыбытак пану. Дзяржаўныя прыбыткі – заснаваны на амаральнасьці народа; правасуддзе – прадажнае; хабар – вызначаны прыбытак чыноўніка. Вось зло, з якім патрэбна змагацца і толькі праз яго знішчэнне можна было б спадзявацца на ўсталяванне заможнасці ў айчыне”[143].

Акрамя маральнага боку, як асновы права, у гуртках дзекабрыстаў выяўляліся і іншыя яго бакі. Прыгоннікі паказвалі на патрыярхальнасць стасункаў землеўладальніка і яго сялян, параўноўваючы яго становішча з бацькам сям’і. У сваім творы “Нарысы тэорыі падаткаў” Тургенеў крытыкуе такую распаўсюджаную тады тэорыю. Тады ў прыгонным уладкаванні былі гатовы бачыць трывалыя асновы палітычнага і рэлігійнага заспакаення і з яго парушэннем чакалі смут, падобных французкай рэвалюцыі. Тургенеў у тым жа сваім творы, спрабуе аспрэчыць падобныя меркаванні і падкрэслівае

[142] Зборнік гістарычных матэрыялаў, здабытых із асабістай Яго Вялікасьці канцылярыі, выпуск 7, стр. 194.
[143] Нататкі князя Трубяцкога, Лейпцыг, 1875 год, 101.

несправядлівасць, якая паходзіць ад падначалення аднаго стану грамадзян другім: “Калі апошнім (прыхільнікам патрыярхальных тэорый) гаварылася аб неабходнасьці паступовага даравання сялянам асабістых правоў, калі гаварылася пра неабходнасць паступовага абмежавання ўлады паноў, якія ў сваіх дзеяннях

-167-

часта бываюць праціўны як рэлігіі так і чалавечнасьці, то яны прыводзілі прыклад царства розуму ў Францыі, як быццам бы права ўласнасьці і асабістая свабода, на якіх засноўваецца дабрабыт дзяржаў, павінны цягнуць за сабой знішчэнне рэлігіі і законаў. Няхай гэтыя людзі паглядзяць на гісторыю. Дзе яны знойдуць, каб народ, якому ўрад дараваў свяшчэнныя правы чалавечнасьці і грамадзянства, паўстаў супраць вінаватых свайго дабрабыту. Паўсюдна народ плоціць шанаваннем, удзячнасьцю і падпарадкаваннем за зробленыя яму дабрадзействы. Народныя хваляванні заўсёды адбываліся праз адваротнае. Але такія людзі. Усталяванне добрага заўсёды зрабіць лягчэй, чым выкараніць злога. У Расіі з той пары, як у народзе выявілася моцнае імкненне да маральнага ўдасканалення, у сваіх поспехах да добрага, мы значна менш аддаліліся ад другога. Будзем, тым не менш, спадзявацца на тое, што Расія, якая мае шмат пераваг перад іншымі дзяржавамі, параўнаецца з імі і ў гэтым дачынннні. Дух часу, выгады саміх землеўладальнікаў, выконваюць ролю асновы гэтай надзеі. Добраўладкаваная дзяржава не павінна будаваць свой дабрабыт на несправядлівасьці, прыгнечанасьці аднаго стану грамадзян другім, не можа быць асновай дабрабыту магутнага і маральнага добрага народа”[144].

Меркаванне аб патрыярхальнасьці адносін паміж панамі і сялянамі ў значнай ступені засноўвалася на ілжывым уяўленні аб гісторыі ўсталявання прыгонніцкіх дачыненняў. У меркаваннях дзекабрыстаў знаходзім адпор падобным уяўленням. Некаторыя із іх паказвалі як на адносную навізну прыгонніцкіх адносін, якія ператварыліся ў рабаўладальніцкія,

-168-

так і на тое, што некаторыя іхныя бакі не заснаваны на дакладна вызначаным законе і з’яўляюцца цяжкай для народа практыкай. Барон Штэйнгель у сваёй запісцы 1823 г. паказвае на свабоду сялян да запрыгоньвання іх пры Барысе Гадунове і на адрозненне, якое існавала ў старажытнасьці паміж халопам і селянінам. Ён цалкам праўдзіва адзначае, што адрозненне паміж кабальным халопам і селянінам, хаця і прымацаваным да зямлі, даўжылася да першай рэвізіі, а ёю “ўсе халопы без разбору былі запісаны ў адзін з сялянамі падушны аклад”. Гэта абставіна і дала магчымасць землеўладальнікам ператвараць халопаў у сялян, а сялян - у халопаў. Але гэта злоўжыванне, якое цярпелася праз няправільнае разуменне правоў і паслабленні выкарыстання законаў. Паступова такія аднсіны замацаваліся і сталі асновай для продажу сялян у розніцу. Згодна меркавання барона Штэйнгеля, урад не павінен ламаць сабе галаву над забаронай звычая прадаваць людзей, як не заснаванага на законным праве і як не маючага маральных падстаў. “Гэтая ісьціна, - пераконвае ён гаспадара, -

[144] Цытавана згодна твора Карнілава, “Нарысы із гісторыі грамадзкага руху і сялянскай справы ў Расіі”, 21.

падцвярджаемая законамі, гісторыяй і дзяржаўным архівам пераконвае, што да гэтага часу існуючы ў Расіі продаж людзей, які не надае гонару ўсёй нацыі, ніколі не быў дазволены яе вялікімі манархамі і таму не можа лічыцца законным. Але так як ніякая даўніна не можа перад вачамі манарха – бацькі свайго народа, асьвяціць зло, тлумячае адну частку яго падданых і стрымаць скіпетраноснае яго права да знішчэння гэтага зла, то ніхто із умеючых разважаць людзей не можа адмовіць, што знішчэнне ў Расіі продажу людзей не было б праўдзівай справай, святой і цалкам годнай богамлюбівага Аляксандра і ніхто не павінен наракаць на захады, якія да таго будуць



здзейснены”[145]. Другі аўтар, зноў жа афіцыйнай запіскі, Мікалай Янавіч Тургенеў таксама разглядае пытанне гістарычнага паходжання прыгоннага права. Ён сцвярджае, што закон ніколі не ўсталёўваў у Расіі рабскіх адносін і яшчэ за сто пяцьдзесят гадоў да гэтага сяляне былі вольнымі. Сяляне былі запісаны да зямлі тагачасным урадам “для парадку”, таму што ён не мог усталяваць парадак ніякімі іншымі справядлівымі захадамі. “Для гэтага ўпарадкавання сяляне былі прымацаваны да зямлі, але яшчэ не аддадзены праз гэма ва ўласнасць землеўладальнікаў, якім належала гэтая зямля; што з цягам часу гэтае прыпісанне да зямлі, патроху і зусім не згодна з законам, а па праву мацнейшага, ператварылася ў сапраўднае рабства. Калі ж гэтая частка гісторыі нашай айчыны вывучана не дасканала і не так як патрэбна, то гэта адбылося толькі таму, што гісторыю пішуць не сяляне, а землеўладальнікі”. Тургенеў у гэтай запісцы не аднойчы спасылаецца на закон імператара Паўла, як на прэцэндэнт, згодна з якім урад мае права браць удзел у адносінах паміж землеўладальнікам і яго прыгонным, тым больш, што гэтае права не заснавана на законе, ва ўсякім разе, шмат у якіх яго частках. Аўтар таксама выкарыстоўвае параўнанне Расіі з еўрапейскімі дзяржавамі. У апошніх варвары-пераможцы зрабілі рабамі сваіх пераможаных. У Расіі як раз наадварот: народ скінуў пераможцаў татар, будучы вольным. Але калі Расія пачала павялічвацца ў магутнасьці, то недалёкабачныя правіцелі заклалі падмуркі рабства. У выніку атрымалася, што папярэднія пераможцы татары засталіся вольнымі, а большая частка карэннага рускага народа апынулася ў няволі. Жывучыя ў Расіі прадстаўнікі розных народаў, еўрапейскіх і



азіяцкіх, усе ўвайшлі ў склад рускага дваранства, а, між іншым, большая частка рускіх знаходзіцца ў няволі[146].

І так, дзекабрысты спрабавалі з розных бакоў разгледзець прыгоннае права, давесьці маральную і гістарычную няпраўду, якая знаходзіцца ў яго аснове. Іхныя гістарычныя сведчанні, хаця і не былі заснаваны на глыбокіх доказах, аднак вызначаюцца гістарычнай праўдзівасьцю. Іхны прызыў да чалавечых пачуццяў у дачыненні да сялян, бясспрэчна, зрабіў уплыў на тагачаснае

[145] Зборнік гістарычных матэрыялаў, здабытых із асабістай Яго Вялікасьці канцылярыі, выпуск 7, стр. 195.
[146] Зборнік гістарычных матэрыялаў, выпуск 4, стр. 441.

грамадства. Заклікаючы да гуманных пачуццяў, яны нагадвалі прыгоннікам аб чалавечай годнасьці селяніна. Наколькі самі дзекабрысты былі высокага меркавання аб чалавечай годнасьці рускага селяніна, можа сказаць, апроч пазначаных вышэй фактаў, цікавы ўрывак із ліста Кахоўскага да імператара Мікалая І. ён апісвае сялянскія сходкі, на якіх прысутнічаў сам і з захапленнем апавядае аб красамоўстве і розуме рускага селяніна: “Я прысутнічаў на шмат якіх сходах гэтых маленькіх рэспублік. Маё сэрца расцвітала, бачучы розум і простае, пераканаўчае красамоўства добрага рускага народа. А як добра яны разумеюць і абмяркоўваюць свае патрэбы... Няхай, заклапочаныя сваёй карысьцю ворагі роднай дзяржавы, ворагі дабра, смяюцца над няправільным вымаўленнем ці нязглабнымі сказамі ў мове нашых добрых земляробаў, але без прыхільнасьці гавару, ведаючы народ Францыі і народ Расіі, што аддаю перавагу і ў звычаях і ў стасунках нашым сялянам... У разважаннях розум рускіх яскравы, гнуткі і цьвёрды”[147]. Палкоўнік Міцькоў спрабаваў весьці з сялянамі размовы на палітычныя



тэмы. Ён вынес самае аптымістычнае ўражанне наконт здаровых разважанняў сялян, ён заўважыў: “у іх столькі разумных думак, і праўдзівасьці ў разважаннях, што калі толькі прыстасавацца да іхнай мовы, то яны лёгка і хутка зразумеюць як правы, так і абавязкі вольнага селяніна”. Даводзячы, што чалавечая годнасьць уласьціва для селяніна, дзекабрысты не забываліся звяртацца і да пачуццяў чалавечай годнасьці рускіх дваран і рускага ўрада, пераконваючы іх пайсьці насустрач вызваленню сялян. У сваёй запісцы Мікалай Тургенеў выказвае на адрас дваранства шэраг кампліментаў, хаця і не забываецца падкрэсліць шэраг адмоўных бакоў у іхных адносінах да сваіх сялян. Ён сцвярджае, “без абразы” для дваранства, што большая яго частка, не жывучы ў вёсцы, проста не дастаткова ведае патрэбы сялян. Але ён выказвае ўпэўненасць, што шмат хто із рускіх землеўладальнікаў не баяцца думкі аб вызваленні сялян і пачалі б “святую справу ахвотна, калі б мелі да гэтага нагоду і магчымасць”. “На самай справе нельга і сумнявацца, без крыўды для дваранскага стану, - дадае ён, - Ды і ці можна думаць, каб людзі, ахвяруючыя сабой айчыне на ніве грамадзянскай і ваеннай, выявіліся не вернымі той жа айчыне, калі б яна, у асобе свайго высокага прадстаўніка, з даверам прапанавала ім натхніць на новае жыццё іхных палых субратоў, а яго сыноў, сыноў той жа вялікай і вечнай Расіі”. Гаворачы кампліменты на адрас дваранства, у рукі найбольш консерватыўных прадстаўнікоў якога павінна была трапіць дасылаемая ім запіска, Тургенеў, аднак, больш спадзяецца на рускае самаўладдзе. У ім ён бачыць якар выратавання. “Ад яго, і толькі ад яго аднаго (г. зн. самаўладдзя), мы можам спадзявацца на вызваленне нашых братоў ад рабства”. Ён лічыць немагчымым і нават небяспечным



[147] Цытавана згодна арт. В. Я. Сямоўскага, “Сялянскае ўладкаванне”, т. І, стр. 238.

думаць аб палітычнай свабодзе для дваранства, пакуль сяляне знаходзяцца ў рабстве. Пагэтаму ён і звяртаецца да “духу справядлівасьці” ўрада і прызывае яго палепшыць сялянскі побыт[148].

Але прыводзячы гістарычныя і этычныя аргументы, дзекабрысты не забываліся прыводзіць і практычныя разважанні.

Сярод такіх разважанняў вылучаецца і небяспека, якая можа спасьцігнуць дваранства, калі, нарэшце, сяляне самі запатрабуюць свабоду. Ужо Тургенеў у паказаным вышэй урыўку із яго “Нарысы тэорыі падаткаў” пераконвае дваранства не баяцца наступстваў вызвалення народа, таму што адабрадзеянны селянін будзе спакойны. Князь Трубяцкі ў сваіх нататках, перадаючы размовы ў асяроддзі сябраў Таварыства на конт сялянскага пытання, гаворыць, між іншым, што прыгоннае права ў Расіі ўяўляе із сябе такую з’яву, якая пагражае заспакаенню ўсёй дзяржавы і нават у большай ступені, чым жахі французкай рэвалюцыі. “Падобныя падзеі, - разважае ён пра апошнюю, - пры падобных абставінах могуць паўтарыцца і ў іншай краіне. Язва прыгоннага становішча сялян робіць Расію схільнай да вялікага неспакою (як былі таму прыклады пад час паўстання Пугачова), больш чым нейкую іншую еўрапейскую краіну. Развіццё прамысловай адукацыі, не злучанае з развіццём маральнай адукацыі ў адпаведнай ступені, магло вымусіць прыгонных з нецярпеннем пераносіць сваё становішча, тым больш, што чуткі аб жаданні гаспадара даць волю сялянам павінны былі выставіць паноў, як адзіную перашкоду да гэтага. Паставіць Расію на тую прыступку адукаванасьці, на якую яна



мае права згодна свайму палітычнаму становішчу ў еўрапейскім свеце, і захаваць яе ад бедстваў, якія могуць яе спаткаць пры крутым павароце, якога ніякі ўрад не здольны ні прадбачыць ні спыніць і які можа быць следствам адной толькі недасканаласьці фнансавай сістэмы ў той час, калі патрэбы дзяржавы павялічацца, - вось мэта якая паўставала перад грамадствам і да вырашэння якой павінны былі быць накіраваны яго намаганні”[149]. У ненадрукаванай частцы запісак таго ж князя Трубяцкога сустракаем разважанні ў асяроддзі сябраў Таварыства на гэтую ж тэму, пры гэтым аўтар падкрэслівае той факт, што сябры Таварыства імкнуліся выклікаць у землеўладальнікаў думку, што ім значна больш выгадна самім вызваліць сялян. “Патрэбна было паказаць панам, - апавядае ён, - што рана ці позна сяляне будуць вызвалены, што значна выгадней для паноў самім іх вызваліць, таму што ў такім выпадку яны змогуць заключыць з імі карысныя для сябе ўмовы; што калі паны будуць упарціцца і не згадзяцца добраахвотна на вызваленне, то сяляне могуць вырваць у іх свабоду, і тады айчына можа апынуцца на краю бездані. Разам з сялянскім паўстаннем немінуча будуць злучаны жахі, якіх не можа прадбачыць ніякае ўяўленне і дзяржава стане ахвярай разладаў, а магчыма, здабычай славалюбцы; нарэшце, можа падзяліцца на некалькі частак і замест аднаной магутнай дзяржавы ўтворыцца некалькі

[148] Зборнік гістарычных матэрыялаў, выпуск 4, стр. 441.
[149] “Нататкі князя Трубяцкога”, Лейпцыг, 1875 г., 100.

слабых. Уся слава і магутнасць Расіі можа загінуць, калі не назаўсёды, то на шмат стагоддзяў”[150].

Фон-Візін у сваёй пазнейшай запісцы звяртае ўвагу яшчэ на адзін бок прыгоннага права, не вельмі карысны для паноў: ім выклікаецца шкодная

-174-

раскоша і марнатраўства дваранства. Прыгонная праца – галоўная перашкода да ўладкавання агранамічных паляпшэнняў. Фон-Візін, дарэчы, змрочна глядзіць на настрой урада і дваранства па гэтаму пытанню: дваранства шануе прыгоннае права, а ўрад – сваё самаўладдзе, таму што дваранства, згубіўшы права валодання сялянствам, бяспрэчна, запатрабуе палітчныя правы[151].

Ужо із папярэдняга можна было заўважыць, што меркаванні дзекабрыстаў былі не толькі асабістымі поглядамі, выказаннымі імі ў сваіх нататках і сведчаннях, але былі такімі поглядамі, якія яны лічылі сваім абавязкам усталёўваць у сучасным ім грамадстве. Сапраўды, дзекабрысты праводзілі прапаганду самымі разнастайнымі шляхамі і пры гэтым не толькі ў сваім асяроддзі, але і ў шырокіх дваранскіх колах і ў асяроддзі самаго ўраду. Можна з упэўненасьцю сцвярджаць, што хаця высновы дзекабрыстаў па асобных пытаннях прыгоннага права былі выказаны асобамі ў дайшоўшых да нас крыніцах, але ўся сума гэтых доказаў, бяспрэчна, была агульным здабыткам усіх сябраў таварыства і асоб блізкіх да іх. Ўсе яны імкнуліся весьці прапаганду ідэй абалюцыянізму.

Праявы гэтай прапаганды выяўляліся ў вельмі разнастайных формах. Мікалай Трубяцкі цалкам меў рацыю, калі пісаў пра сябе ў адным са сваіх лістоў да брата: “Немагчымасць быць для чаго-небудзь карысным у Расіі, вызваляе мяне ад папрокаў сумлення, якія я мог бы мець, калі б, будучы ў стане дзейнічаць на карысць мужыкоў, я выбраў адвольна цяперашні спосаб жыцця. Думаючы зараз аб тым, як я дзейнічаў у Расіі, я знахожу суцяшэнне

-175-

ў маіх дзеяннях. Клапаціўшыся налева і направа, і назад, і наперад на карысць вызвалення сялян, мне зараз здаецца, хто мае клопаты былі не без карысьці. Я, ва ўсякім разе, звярнуў увагу некаторых на гэтае пытанне і меркаванне Дзяржаўнай Рады аб паляпшэнні закона аб вольных хлебаробах, нагодай якога я з’явіўся, служыць таму доказам, не гаворачы ўжо пра шмат якія прыватныя справы, якія праходзілі праз мае рукі, усе із якіх былі вырашаны на карысць волі. Думаючы зараз пра цяжкасьці з якімі змучаны ў нас усе падобныя спробы, я сам здзіўляюся, як і колькі – як бы гэта мала ні было – магло у мяне гэта атрымацца”[152]. Сапраўды, Тургенеў вёў вельму дзейсную прапаганду ідэі вызвалення сялян. Яго заўвагі пра тое, што ўсе яго дзеянні былі падпарадкаваны вырашэнню гэтага пытання, што ён, не гледзячы на свае службовыя абавязкі, знаходзіў у сябе дастаткова энергіі для вывучэння юрыдычных, адміністрацыйнх

[150] Дубровін, “Руская старына”, 1904, Лейпцыг, красавік, 19.
[151] “Грамадзкія рухі”, І, 74.
[152] М. Я. Тургенеў у лістах да сваіх братоў, “Руская Старына”, 1901 год, травень, 237.

і фінансавых пытанняў, злучаных з прыгонным правам[153], - гэта прызнанне не з'яўляецца перабольшваннем у яго аўтабіяграфічных нататках. Таварышы па таварыству таксама заўважылі, што сапраўды Тургенеў увесь аддаваўся думцы аб вызваленні сялян[154]. Нам ўжо даводзілася спасылацца на “Нататкі аб тэорыі падаткаў” як на такую кнігу, якая мімаходзь закранала і сялянскае пытанне. Як вядома, гэтая кніжка ў свой час зрабіла на чытаючую публіку вялікае ўражанне[155]. Але дзейнасць у друку праз існуючыя тады цэнзурныя ўмовы не магла быць асабліва

-176-

плённай і нават з'яўленне кгіжкі Тургенева тлумачыцца выпадковымі абставінамі. Затое Тургенеў цалкам выкарыстоўваў сваё высокае становішча ў грамадзянскай адміністрацыі для таго, каб праводзіць свае ідэі. Наступствы гэтай працы мы сустракаем і ліставанні Тургенева, якое адносіцца яшчэ да дастаткова ранніх часоў. Іх яго відаць, што, сапраўды, Тургенеў вёў размовы ў грамадстве аб праектах вызвалення сялян. “Падумаўшы пра нашу ўчарашнюю размову, - піша ён 27 сакавіка 1820 г. вядомаму Чаадаеву, - і пра прачытаны із Гено эдыкт, які мае дачыненне да вызвалення сялян, мне здаецца, што гэты акт можа служыць адным із пераканаўчых доказаў на нашу карысць і добрай справы. Мы зрабілі пры гэтым дзве заўвагі, вельмі карысныя праз сваю справядлівасць і ўдумлівасць: 1)што ў Францыі кароль вызваляў сваіх сялян. Адзіная думка натхняе мяне, адзіную мэту ўяўляю сабе ў жыцці, адна надзея яшчэ не памёрла ў маім сэрцы: вызваленне сялян. Пагэтаму вы можаце судзіць, ці магу я быць абыякавым да кожнага разумнага слова, да кожнай справядлівай ідэі, якія маюць дачыненне да гэтай ідэі. Учарашняя размова яшчэ больш умацавала ў ва мне тую думку, што вы шмат можаце спрыяць распаўсюджванню разумных ідэй пра вызваленне сялян. Зрабіце, шаноўны, із гэтай святой справы галоўны напрамак вашай дзейнасьці, вашых роздумаў. Узгадайце, што ніщто праўдзівае не памірае”[156].

Тургенеў нават сваё ўваходжанне ў Таемнае Таварыства матывуе, як гэта рабілі ў дачыненні да сябе шмат хто із дзекабрыстаў, сваім імкненнем прынесьці і тут карысць сялянскаму пытанню. “Я не прапускаў выпадкаў, якія выпадалі мне, дзейнічаць

-177-

на карысць прапанаванай мэты (г. зн. да вызвалення сялян), такім чынам я трапіў і ў Таварыства. Уступленне ў Таварыства было, з майго боку, некаторым ахвяраваннем... матэрыяльна я нічога не зрабіў для дасягнення маёй мэты, але думаю, што, магчыма, у некаторых галовы пасеяў разумныя думкі аб нашым прыгонным становішчы”. Дарэчы, Тургенеў не быў цалкам задаволены Таварыствам, таму што не бачыў вызваленых сялян, ва ўсякім выпадку, сябрамі

[153] La Russie et les russes, I, стр. 3.
[154] Сведчанні Сямёнава, стр. 42.
[155] Карнілаў, “Нарысы па гісторыі грамадзкіх рухаў”.
[156] “Рускі Архіў”, 1872г., 1206-1207.

самаго Таварыства[157]. Аднак, апошняе абвінавачванне мае дачыненне не да ўсіх сябраў Таемнага Таварыства, таму што падобныя спробы былі, як мы зараз падачым, і калі яны не былі шматлікімі, то гэта тлумачыцца абцяжарваючымі абставінамі з боку самаго ўрада, якія ён ствараў усякім падобным спробам.

Патрэбна яшчэ заўважыць, што пасярод размоваў аб вызваленні ў тагачасным грамадстве не рэдка абмяркоўвалася таксама пытанне аб тым, які шлях патрэбна выбраць у справе вызвалення, г. зн. ці дабівацца папярэдне палітычнай свабоды і ўжо тады пачынаць вызваленне сялян, ці ж у гэтай справе патрэбна абаперціся на самаўладны ўрад. Сам Тургенеў, згодна яго слоў, прытрымліваўся апошняга меркавання, баючыся даравання палітычных правоў дваранам перш, чым мільёны сялян атрымаюць простыя грамадзянскія правы. Гэтую думку ён выказаў і ў сваёй запісцы 1819 года і такога ж погляду прытрымліваўся і ў прыватных размовах. Ён лічыў “непрыстойным” дамагацца палітычных правоў для дваранства, у той час калі сялянства знаходзіцца ў няволі. Ён выказаў таксама занепакоенасць, што дваранства, атрымаўшы палітычныя правы, не адмовіцца ад прыгоннага права і што вызваленне можа быць больш надзейна

-178-

дасягнута самаўладным урадам[158]. Сапраўды, падобныя спрэчкі цікавілі ў той час пецярбургскае грамадства[159].

Але, гаворачы пра дзейнасць Тургенева па прапагандзе ідэі абалюцыянізма, патрэбна пакрэсліць той бяспрэчны факт, што і асобныя сябры Таемнага Таварыства, ва ўсіх яго формах, пачынаючы ад Хаўрусу Выратавання і заканчваючы Паўночным і Паўднёвым Таварыствамі, не толькі самі былі перакананымі праціўнікамі прыгоннага права, але і лічылі сваім абавязкам, як сябраў Таварыства, распаўсюджваць ідэі абалюцыянізма. Палкаўнік Міцькоў выказаў нават прапанову на сходзе сябраў Паўночнага Таварыства, каб абавязаць сябраў Таварыства гаварыць пра сялянскае вызваленне[160]. Нават падставай для ўступлення шмат каго ў Таварыства была менавіта надзея прынесьці карысць у справе вызвалення сялян. Палкоўнік Міцькоў, згодна сведчання Мацвея Мураў’ёва-Апостала, не аднойчы сцвярджаў, што на абавязку сябраў Таемнага Таварыства ляжыць “размаўляць аб вызваленні сялян”[161]. Сам Міцькоў, у сваіх сведчаннях, растлумачваючы, што адной із задач сябраў Таварыства было імкненне да вызвалення сялян, выклаў і тыя доказы, якія ён вылучаў для падцверджання сваёй думкі: “Я апавядаў аб карысьці вызвалення сялян, тут і ўсюды, дзе мне толькі выпадала чуць размовы аб становішчы сялян”. Гаворачы такім чынам што землеўласнікі атрымалі б большы прыбытак са сваіх зямель, калі б сяляне былі вольныя, а сяляне былі б у лепшым становішчы, таму што кожны працаваў бы па свайму жаданню і, працуючы на сябе,

[157] “Руская Старына”, 1901 г., травень, 248, ліст А. І. Тургеневу.
[158] “Руская Старына”, 1901 год, лістапад. 332-334.
[159] “Нататкі дзекабрыста Завлішына”, т. І, стр. 168.
[160] Сведчанні Рылеева, стр. 44.
[161] Сведчанні Мацвея Мураўёва.

маючы неабходную маёмасць, ён быў бы больш працавітым. Дваровых людзей было б значна меней, таму б колькасць гультаёў значна паменшылася б, яны б пачалі працаваць, сталі б карыснымі і землеўласнікі перасталі б выдаткаваць значную частку сваіх прыбыткаў на ўтрыманне людзей, якія нічога не робяць карыснага[162].

Завалішын адносна прапаганды той жа ідэі апавядае, што шмат якія думкі аб прыгонным праве, распрацаваныя ў Паўночным Таварыстве, процідзейнічалі Мардзвінаву, бяспрэчна, у выглядзе агульных разважанняў[163]. Нагадаем таксама, што шмат якія месцы Рускай Праўды былі прачытаны генералу Кісялёву, так шмат зрабіўшаму ў далейшым для вырашэння сялянскага пытання.

Ідэя сялянскага вызвалення была запушчана і ў народную масу, ва ўсякім разе, з боку дзекабрыстаў такія спробы рабіліся. Ужо абыходжанне дзекабрыстаў з жаўнерамі, заснаванае на павазе ў жаўнераў іхнай чалавечай годнасьці, павінна было садзейнічаць распаўсюджванню погляду на грамадзянскую роўнасць сялян. Але яшчэ большую цікавасць выклікае спроба Рылеева пусціць у народ думку пра свабоду і нянавісць да прыгоннага права шляхам складання песен згодна народнага духу. Вельмі добра вядома яго песьня, якая пачынаецца:

“Ах, тошна мне
І на роднай старане,
Усе ў няволі,
У цяжкай долі,
Відаць век будуць векаваць.
Ці доўга рускі народ
Будзе быдлам для гаспод,

-180-

І людзьмі,
Як быдлам
Ці доўга будуць гандляваць?”[164] і г. д.

І так, сябры таемных таварыстваў былі перапоўнены разуменнем неабходнасьці вызвалення сялян, лічылі сваім абавязкам прапагандаваць гэтую ідэю сярод шырокіх слаёў дваранства, нарэшце, самі засвайвалі і нават распрацоўвалі доказы, якія пераконвалі, чаму прыгоннае права не мае права на далейшае існаванне. Як моцна перапляталіся абалюцыяністкія ідэі з самім фактам існавання таемных таварыстваў, можна бачыць із таго, што ідэя вызвалення гучала ў кожным са статутаў таемных таварыстваў, а таксама із асобных спроб стварыць спецыяльнае таварыствы вызвалення прыгонных сялян.

Нават першапачатковая мэта Хаўрусу Вызвалення заключалася толькі ў вызваленні сялян, а ўжо потым гэтае таварыства атрымала развіццё ў напрамку

---

[162] Сведчанні Міцькова. стр. 29, 25 красавіка 1826 г.
[163] Завалішын. “Дзекабрысты”, “Рускі Веснік”, 1884 год, № 2, 844.
[164] Гэтая песьня дадзена згодна спісу, напісаннага Рылеевым па патрабаванню следчага камітэта ў В. І. Семаўскага. “Сялянскае ўладкаванне”, т. І, 228.

ўсталявання канстытуцыйнага ўладкавання[165]. Хаўрус Дабрабыту, які ў першай сваёй частцы ставіў выключна этыка-грамадзянскія мэты, рэкамендуе сваім сябрам чалавечыя адносіны да сваіх прыгонных, распаўсюджванне гуманных поглядаў на сялян, асуджэнне дрэнных паноў і ўхваленне добрых, барацьбу са злоўжываннямі прыгоннага права, напрыклад, барацьбу супраць асобных выпадкаў прадажы людзей і г. д. Выпрацаваныя сябрамі праеты канстытуцый ставяць пытанне вельмі шырока, прызнаючы за сялянамі права роўнасьці з іншымі станамі і патрабуючы надзялення іх зямлёй. З поглядамі гэтых канстытуцый

-181-

мы яшчэ будзем мець магчымасць пазнаёміцца больш падрабязна; канстытутыцыі уяўляюць сабой эсэнцыю таго, да чаго на прыканцы прыйшлі дзекабрысты; зараз жа мы разгледзім толькі настроі і ход палітычных ідэй у іхным асяроддзі. Але тут неабходна адзначыць вельмі цікавыя факты спроб уладкаваць асобныя таварыствы вызвалення сялян. У гэтых таварыствах галоўнымі дзеючымі асобамі з’яўляюцца сябры тых жа таемных таварыстваў.

Так, Нарышкін апавядае, што некаторыя сябры Хаўруса Дабрабыту, а таксама і іншыя асобы планавалі стварыць асобнае таварыства пад назвай “Хаўрус рускіх людзей”. Аб’ектам разважанняў у асяроддзі гэтага хаўруса былі спосабы вызвалення сялян і ўмовы іхнага вызвалення, г. зн. умовы іхнага вызвалення із прыгоннага права. Хаўрус рускіх, акрамя абалюцыяністкай мэты, у аддаленым будучым меў на мэце і канстытуцыйнае ўладкаванне[166].

Вядомы сябар Пушкіна Я. Я. Пушчын задумаў на пачатк 1825 года стварыць у Маскве спецыяльны хаўрус, які меў на мэце асабістае вызваленне дваровых людзей. На абавязку сябраў хаўрусу вызначалася, каб яны вызвалялі сваіх дваровых і не мелі б у якасьці сваіх служак прыгонных людзей. Калі хто-небудзь із сябраў хаўруса не мог самастойна кіраваць сваімі прыгоннымі, то быў абавязаны зрабіць гэта пасьля атрымання такога права. Пра гэты хаўрус Пушчын паведаміў Рылееву і князю Абаленскаму. У Маскве нават была створана ўправа гэтага хаўруса, якая склалася із князя Сяргея Мікалаевіча Кашкіна, Аляксея Аляксеевіча Тучкова, Яна Мікалаевіча Горсткіна, Міхала Міхайлавіча Нарышкіна, Аляксея Васільевіча Сямёнава, Калошына і самаго Пушчына. Дарэчы, сам заснавальнік таварыства хутка сам быў незадаволены яго

-182-

дзейнасьцю, чаму стварыў новы хаўрус пад назвай “практычнага”, мэты якога былі такімі ж, і амаль тыя ж асобы былі сябрамі новага хаўруса[167].

Із усяго папярэдняга відавочна, што дзейнасць дзекабрыстаў па прапагандзе барацьбы супраць прыгоннага права была дастаткова энергічнай. Імі быў узяты правільны напрамак для вызвалення – падрыхтоўка дваранства. Такую дзейнасць нельга не адзначыць. Для вялізнай массы тагачаснага

---

[165] Сведчанні Пестэля. “Былое”, 1906 г., люты.
[166] Сведчанні Нарышкіна.
[167] Сведчанні Пушчына.

дваранства, прасякнутай прыгоннымі тэндэнцыямі, пытанні чалавечнасьці, пытанні маючыя дачыненне да маральнай годнасьці сялян – усё гэта для пераважаючай колькасьці дваран было новым. Эгаістычныя інтарэсы стаялі на першым плане, векавыя традыцыі былі яшчэ вельмі моцнымі. Бяспрэчна, калі прыгледзецца да аргументаў дзекабрыстаў, то іхныя доказы не могуць быць прызнаны абсалютна новымі. Вельмі магчыма, што і ў прыватнасьцях у вуснах розных асоб аргументацыя дзекабрыстаў, асабліва ў гістарычнай і эканамічнай частках пытання, не вызначалася шырынёй погляду. Бяспрэчна, гэтая заўвага дапасуецца не да такіх значных асоб з шырокім кругазорам і адукацыяй як Мікалай Тургенеў, Міхал Арлоў, Пестэль, барон Штэйнгель, Бацянкоў і шмат іншыя. Аргументацыя простых дзекабрыстаў, як гэта лёгка заўважыць па іхных сведчаннях і нататках, больш была накіравана на чалавечыя пачуцці, чым на розум. Гаворачы пра тое, што агументацыя дзекабрыстаў не была чымсьці цалкам новым, мы маем на ўвазе тую літаратуру, друкаваную і афіцыйныя запіскі якія былі яшчэ распрацаваны пад час кацярынінскай эпохі. Падарожжа Радзішчава блісуча паказала амаральнасць прыгоннага права; працы Паленава, Якобі, Кайсарава і інш. высветлілі эканамічную невыгоднасць



паднявольнай працы; запіскі Сперанскага мелі дачыненне да юрыдычнага боку сялянскага пытання. На поле барацьбы з прыгонам і да эпохі дзекабрыстаў выходзіў паважны шэраг іменаў. Але нельга не заўважыць, што ўся гэтая шырокая літаратура была больш набыткам гісторыі, чым набыткам тагачаснага грамадства: лепшыя працы, падобна працам Сперанскага, Радзішчава, былі ці забаронены ці зусім не з’яўляліся ў друкаваным выглядзе. Вельмі добра вядома, што арганічны праект Сперанскага, які стаў вядомы ў поўным выглядзе толькі ў нядаўні час, выклікаў самыя недакладныя размовы ў той час, калі аўтар яшчэ быў жывы: пра гэты праект ведалі толькі па вельмі недакладным чутках. Із гэтага зразумела, што вялікая літаратура па прыгоннаму праву у той час была цалкам невядома, ці вядомая толькі па чутках. Калі узяць да ўвагі гэтыя меркаванні, то з тым большай павагай патрэбна аднесьціся як да дзейнасьці дзекабрыстаў па прапагандзе ідэі знішчэння прыгону, так і да іхнай аргументацыі. На адрас дзекабрыстаў рабіліся папрокі ў тым сэнсе, што на практыцы імі было мала што зроблена для сваіх сялян. Такі папрок, з некаторай пагардай, не аднойчы рабіў із-за мяжы сваім былым таварышам і Мікалай Тургенеў. Так, напрыклад, у лісьце да У. А. Жукоўскага ён згадвае сваіх таварышаў па Таварыству і сваю дзейнасць у іхным асяроддзі па пытанню аб прыгонным праве. “Паміж гэтымі людзьмі, - піша ён, - былі і такія, якія шматлікімі душэўнымі разуменнямі спасьцігалі тое, чаго перад тым не набылі з дапамогай адукацыі і разважанняў. Я спадзяваўся, што некаторых магу схіліць зрабіць што-небудзь на карысць сялян. Я растлумачваў ім аб гэтым і аднойчы прапанаваў вызначыць абавязковым для кожнага, адпусьціць на волю сваіх служак, калі хто меў магчымасць зрабіць гэта. Мяне слухалі, пагаджаліся са мной,

але не было ніякага выніку”[168]. Гэта сведчанне для нас, перш за ўсё, цікае тым, што нават у самім асяроддзі дзекабрыстаў ідэя абалюцыянізма не заўсёды прывівалася шляхам вывучэння пытання: яна замянялася сяброўскай размовай. Але нельга строга судзіць сябраў Таварыства менавіта за тое, як гэта робіць Тургенеў, што яны не давалі волю сваім дваровым ці сялянам. Вызваліць дваровых, бяспрэчна, цалкам залежала ад уладальніка, але дазваляецца выказаць сумнеў у практычнасьці такога заходу пры тагачаснай рэчаіснасьці. Вызваленне дваровага на волю без зямлі, бяспрэчна, мела значэнне толькі для дваровага-рамесніка. Але наколькі на гэты час вядомы біяграфіі дзекабрыстаў, ні адзін із іх не меў вялікага панскага двара з вялікай колькасьцю дваровых рамеснікаў. З другога боку, таксама добра вядома, што самі дзекабрысты дастаткова гуманнага адносіліся да сваіх прыгонных сялян.

Дарэчы, справядліваць патрабуе адзначыць, што із гуртка дзекабрыстаў выйшла некалькі рэальных спроб падняць сялянскае пытанне да дзяржаўным узроўні. Былі таксама спробы вызвалення сялян у асабістых маёнтках дзекабрыстаў. Такім чынам, дзекабрысты не задавальняліся толькі тэарэтычнай распарацоўкай пытання.

Першая такая спроба, і самая ранняя, належыць Міхалу Арлову. Згодна слоў князя Ваўконскага, Арлоў яшчэ ў 1815 годзе склаў праект адрасаваны гаспадару аб знішчэнні прыгоннага права. Гэты праект быў падпісаны некалькімі значнымі вяльможамі: Іларыёнам Васільевічам Васільчыкавым, графам Варанцовым і Блудавым[169].

-185-

У Тургенева мы знаходзім паведамленне, якое адносіцца да некалькі пазнейшага часу. У сваіх мемуарах ён апавядае, што ў 1820 граф Варанцоў (Міхал Сямёнавіч) і князь А. С. Меншыкаў вырашылі пачаць справу вызвалення сялян. Была складзена дэкларацыя, пры гэтым прапаноўвалася, што тыя, хто яе падпіша,тым самым абавязуюцца вызваліць сваіх прыгонных. Да справы далучыліся і некалькі іншых значных асоб: граф П. Патоцкі, вядомы літаратар князь Вяземскі і некаторыя іншыя. Але ўся справа разладзілася праз выказаннае незадавальненне гаспадара170. У гэтым праекце браў удзел і Мікалай Туренеў са сваім братам. “Аднойчы. – успамінае ён пазней. – з’явіўся выпадак здзейсніць маю тэорыю на пркտыцы і я падпісаўся, разам з некаторымі асобамі, якія не належалі да Таемнага Таварыства, прашэнне на імя імператара, прапануючы даць волю сялянам, якія належаць кожнаму із нас і просячы яго вялікасць дазволіць нам заклікаць іншых далучыцца да нашага прыкладу. Прашэнне было пададзена, але засталося без наступстваў. Хаця я толькі далучыўся да гэтага праекта і колькасць маіх сялян была вельмі мізэрай у параўнанні з сялянамі, якія належалі іншым людзям, падпісаўшым прашэнне, каб я мог мець вялікае

[168]“ Васіль Андрэевіч Жукоўскі і яго стаўленне да дзекабрыстаў”, стр. 53, “Руская Старына”, 1902 год красавік.
[169] Нататкі, выд. 1902 г., 408.
[170] La Russie et les russes, II, стр. 149-152, 323-340.

значэнне ў гэтай справе, але гэтае прашэнне было прызнана рэвалюцыйным і прыпісана майму ўяўнаму якабінству”171.

Вяртаючыся зноў да паведамлення пра якое згадвае С. Р. Ваўконскі аб праекце складзеным Арловым, здаецца, можна зрабіць выснову, што абодва праекты ўзніклі незалежна адзін ад другога. Блізкія сяброўскія адносіны Ваўконскага і Арлова не дазваляюць сумнявацца ў тым, што князь Ваўконскі паведамляе не чуткі, маючыя невызначаную крыніцу, але паведамляе гэты



факт згодна сведчання самаго Арлова. Такім чынам, найбольш верагодным з’яўляецца меркаванне, што, сапраўды, былі зроблены дзве аналагічныя спробы і ў абодвух выпадках сябры Таемнага Таварыства бралі значны ўдзел.

Да ліку афіцыйных спроб, якія выходзілі із таго ж асяроддзя, накіраваных на паляпшэнне становішча прыгонных сялян, патрэбна аднесьці запіскі Тургенева і барона Штэйнгеля. Нам ужо даводзілася згадваць пра змест гэтых запісак у той іхнай частцы, якая высвятляе сутнасць прыгоннага права. Але гэтыя запіскі змяшчалі і некаторыя праекты, якія прапаноўваліся для зацверджання заканадаўчай уладзе. Зараз пазнаёмімся з гэтым бокам абодвух запісак.

Запіска Мікалая Тургенева, пададзеная ў 1819 годзе мела на мэце прапанаваць праект не вызвалення сялян, а толькі ўрэгулявання прыгоннага права. Дарэчы, аўтар запіскі настолькі настойліва згадвае пра “натуральную” свабоду сялян, што канчатковая думка аўтара для чытачоў была цалкам зразумелай. “Вера ў карысны Прывід, надзея на мудры і народалюбівы ўрад не дазваляе нам сумнявацца, што наступіць час радасьці ў Расіі, калі яе сыны будуць аднолькава належаць толькі ёй, а не адзін другому. З цяжкасьцю на сэрцы павернемся ад гэтай прыемнай, але, магчыма, далёкай будучыні, да сумнай рэчаіснасьці”.

Каб некалькі прыкрасіць “сумную рэчаіснасць”, Тургенеў прапануе ўраду пачаць барацьбу, ва усікім разе, з самымі жудаснымі праявамі злоўжываннäў з боку паноў. Такімі праявамі ён лічыць: знясіленне сялян працай, продаж людзей па аднаму і здзекі паноў над сялянамі. Ён даследуе ўсе тры пункты і прапануе прыняць захады для іхнага знішчэння.

Па пытанню аб выкарыстанні сялян па паншчыне ён прапануе яшчэ раз падцвердзіць закон імператара Паўла, якім забараняецца выкарыстанне



дзяцей да 10- ці 12-ці гадовага ўзросту на якой бы то ні было працы на карысць землеўласніка, нарэшце, лічыць вельмі карысным захад, каб землеўласнікі штогадова давалі дваранскаму правадыру справаздачу аб усіх павіннасьцях, якія ён вызначыў на працягу года для сваіх сялян. Гэтыя справаздачы можна было б абмяркоўваць пры правадыру дваранства ці пры губернатары, чытаць сялянам у цэрквах, нарэшце, друкаваць. Такім чынам, учынкі землеўласнікаў выносіліся б на суд грамадзкасьці.

[171] “Руская старына”, 1901, лістапад, 332.

Адносна прадажы людзей ён прапануе заканадаўча забараніць усякую прадажу людзей не інакш як цэлымі сем’ямі. Ён прапануе таксама абмежаваць шэраг асоб, якія маюць права купляць людзей. Шмат хто купляе людзей абыходзячы закон, напрыклад, магаметанскія купцы. Асабістыя дваране, якія даслужыліся да афіцэрскай пасады, не маючы нерухомай маёмасьці, на аснове закона ўжо могуць купляць людзей: гэта самы жахлівы від рабства, таму што ў дадзеным выпадку людзі купляюцца іхнымі гаспадарамі для здачы ў наём і іншых форм эксплуатацыі. Тургенеў настойліва раіць выдаць закон, згодна якому асоба, якая не мае нерухомай маёмасьці, не можа куляць людзей. Але, звыш таго, ён раіць гэтым жа законам вызначыць і пакаранне за яго парушэнне. Такое пакаранне, перш за ўсё, павінна заключацца ў дараванні свабоды сялянам, якія былі куплены ў абыход закона. Наогул, Тургенеў падыходзіць да таго, каб закон забараніў “з якой бы то ні было нагоды” аддзяляць селяніна ад зямлі, нават і для службы пры двары землеўласніка.

Адносна рэгулявання асабістых стасункаў паміж землеўласнікам і селянінам Тургенеў не змог дакладна вызначыцца. “Усе пастановы, - піша ён, - якія павінны будуць схіляцца да абароны селяніна, будуць выяўляцца больш ці менш не дзейнічаючымі, да тых пор пакуль



права пакарання застанецца ў ранейшым выглядзе. Ці зможа селянін спаслацца на міласць закона, калі землеўласнік можа на якой заўгодна падставе, пад абаронай такога ж закона, прызначыць яму пакаранне, нават самае жорсткае?” Адносна дваровых, якія жывуць у горадзе, пытанне вырашаецца дастаткова проста: патрэбна забараніць пакаранне дваровых самімі ўладальнікамі і перадаць гэтую справу паліцыі, але з тым каб яна даследавала справу і прызначала пакаранні згодна закона. Адносна прыгонных і дваровых, якія жывуць у вёсках патрэбна вызначыць “з цяжарам на сэрцы” меру пакарання і зрабіць запіс аб пакаранні ў асобную кнігу. Дарэчы, найлепшым захадам у гэтым пытанні “для ўсталявання хаця б нейкай законнасьці ў гэтым хаосе самавольства і насільства” лепш за ўсё было б уладкаванне вясковых судоў. Але на гэта, відаць, Тургенеў спадзяецца мала. Пагэтаму ён прапаноўвае і іншыя захады, на выпадак немагчымасьці ўладкавання вясковых судоў – прызначэнне асобных камісараў. Да гэтых чыноўнікаў сяляне могуць звяртацца са сваімі скаргамі. Скаргі павінны разглядацца ў спецыяльным губернскім камітэце пад старшынством губернатара. Наогул, гэты камітэт можа выявіцца ўстановай нагляду за стасункамі паміж сялянамі і іхнямі ўласнікамі.

Але акрамя гэтага, Тургенеў прапануе ўраду шырэй выкарыстоўваць прыватнае вызваленне сялян. Ён паказвае на невызначанасць закона аб вольных хлебарабах, следствам чаго можа быць, што міністр лёгка зможа адмовіць у зацверджанні праекта аб вызваленні сялян і таму прапануе ўраду выдаць больш вызначаныя правілы пераходу селяніна ў вольныя хлебаробы. Аднак, у гэтым дачыненні Тургенеў робіць вялікую памылку, дапускаючы магчымасць вызвалення сялян без зямлі,

што было ўжо адзначана гісторыкам сялянскага пытання172.

Да ўсяго сказанага дададзім, што Тургенеў вельмі настойліва раіць дазволіць абмеркаванне сялянскага пытання ў друку[173].

Запіска Тургенева, толькі што намі разгледжаная, ужо не аднойчы абмяркоўвалася ў гістарычнай літаратуры. Яго біёграф адзначае, што захады, прапанаваныя Тургеневым у гэтай запісцы, маюць бяспрэчны адбітак уплыву Штэйна. Не звяртаючы ўвагі на параўнальна ўмераны яе характар, у вачах сучаснікаў запіска павінна была здавацца праявай крайняга радыкалізму і тагачасныя кансрватары зрабілі із Тургенева, чалавека палітычна вельмі ўмеранага, якабінца і рэвалюцыянера[174]. Гісторык сялянскага пытання, абмяркоўваючы тую ж запіску, цалкам праўдзіва заўважае, што згодна абставінам Тургенеў павінен быў абмежавацца прапановай вельмі паліятыўных захадаў. Тым не менш, яго запіска змяшчае шмат вельмі важных практычных прапаноў, чаму і даводзіцца толькі пашкадаваць, што яна не была прынята да фактычнага выканання[175]. Праўда, графу Міларадовічу гэтая запіска вельмі спадабалася і ён нават пад час яе агучвання вызваліў усіх дваровых, якія заходзілі ў гэты час у пакой. Гаспадар таксама быў задаволены гэтай запіскай, абяцаў зрабіць што-небудзь для сялян, але гэтым справа і абмежавалася[176].

Запіска барона Штэйнгеля мае на ўвазе “лёгкую магчымасць знішчыць існуючы ў Расіі гандаль



людзьмі”. Паказаўшы, што з гістарычнага боку гандаль людзьмі не мае законных падстаў, аўтар запіскі прапануе правесьці новую рэвізію і прыпісаць усіх дваровых людзей да маёнткаў. Усе беззямельныя ўладальнікі людзей павінны прадаць сваіх людзей на працягу года дваранам, якія валодаюць зямлёй. Тыя хто жадае захаваць пры сабе людзей падаюць пра іх сказы ў гарадзкія думы і могуць утрымліваць сваіх дваровых на працягу дзесяці гадоў з дня выдання маніфеста, пасьля чаго ў дзяржаве цалкам скасуецца стан асабіста залежных людзей177.

Пазначаныя спробы дзекабрыстаў узбудзіць сялянскае пытанне на ўзроўні ўсёй дзяржавы не шматлікія. Але гэта тлумачыцца проста, што практыка паказала безнадзейнасць падобных захадаў. І ўрад і грамадства былі яшчэ вельмі мала падрыхтаваны для ўспрымання ідэі вызвалення. Пагэтаму, сапраўды, падрыхтоўка пытання з дапамогай прапаганды ў грамадстве была найбольш дзейсным спосабам.

Да ўсяго сказанага пра стаўленне дзекабрыстаў да сялянскага пытання можна было б яшчэ дадаць некалькі фактаў, якія абмалёўваюць адносіны асобных дзекабрыстаў да іхных сялян. Так, напрыклад, Мікалай Тургенеў, будучы перакананым староннікам таго, што аброчная сістэма значна лягчэй для

[172] В. Я. Сямоўскі, “Сялянскае пытанне ў Расіі”, т. І. 278.
[173] “Зборнік гістарычных матэрыялаў”, выпуск 4, 441-460.
[174] Карнілаў, “Нарысы па гісторыі грамадзкага руху і сялянскай справы ў Расіі”, 35.
[175] В. Я. Сямоўскі, “Сялянскае пытанне ў Расіі”, т. І. 454.
[176] La Russie et les russes, т. II, стр. 150.
[177] “Зборнік гістарычных матэрыялаў”, т. 7, 193.

сялян чым паншчынная, стаўшы ўладальнікам свайго маёнтка, перавёў сваіх сялян з баршчына на аброк, пры гэтым сяляне павінны былі плаціць толькі дзве трацінны ад папярэдніх плацяжоў. Некалькі пазней ён заключыў са сваімі сялянамі пагадненне, згодна яго слоў, нагадваючае дамовы па выдадзенаму

-191-

значна пазьней 2 красавіка 1842 года закону аб часова-абавязаных сялянах[178].

Да гэтага можна было б дадаць яшчэ сведчанні паведамляемыя ў нататках Якушкіна пра ўстановы ўладкаваныя сябрам Таварыства Пасекам у сваёй вотчыне ў Смаленскай губерніі. Пасек уладкаваў у сваім маёнтку вучылішча згодна метада ўзаемнага навучання. Тут хлопчыкі вучыліся чытаць па вядомай кніжцы “Аб правах і абавязках грамадзяніна”. Пасек выдаў для сваіх сялян асобны статут, згодна якому сялянам было перададзена права суду ва ўсёй вотчыне, выкарыстанне мірскіх збораў і здаванне рэкрутаў[179]. Сам Якушкін зрабіў шэраг захадаў да паляпшэння становішча сваіх сялян: паменшыў на палавіну гасадарскю пошліну, усталяваў вясковы суд і нарэшце, пажадаў вызваліць сваіх сялян. Але тут ён быў вымушаны вытрымаць доўгую валакіту, таму што яго праект вызвалення не супадаў з законам аб вольных хлебаробах і сустрэў у Міністэрстве Ўнутраных Спраў шэраг перашкод[180]. Нататкі Якушкіна дастаткова характэрызуюць цёплыя адносіны да сялян з боку шмат каго із сябраў Таемнага Таварыства, напрыклад, братоў Фон-Візіных, Міхала Мураўёва і іншых; у заслугу апошняму патрэбна паставіць, што ён узняў пытанне аб страшным голадзе ў Смаленскай губерніі ў 1821 годзе і тым самым садзейнічаў спыненню бяды ў губерніі[181].

Перад намі прайшоў доўгі шэраг высноў зробленых дзекабрыстамі па разнастайных пытаннях дзяржаўнага і грамадзкага жыцця. Несправядліва было б думаць, што разуменне гэтых недахопаў было ўласьціва толькі неаторым асобам з іхнага асяроддзя. Праўда, із вялікай колькасьці

-192-

прыцягнутых да следства і праз розныя нагоды пазбегнуўшых суду, із ста дваццаці асуджаных не ўсе далі нам справаздачу больш ці менш падрабязную аб тым, якім чынам яны ўяўлялі сабе рускае дзяржаўнае і грамадзкае ўладкаванне. Аднак колькасць асоб, якія яго характарызавалі падрабязна ці некалькімі штрыхамі, патрэбна лічыць дзесяткамі: гэтыя імёны даўгай чаргой праходзяць па старонках нашай кнігі. Ужо адна гэтая абставіна дае бяспрэчны доказ таго факта, што разуменне ўсіх гэтых недахопаў не было прывілегіяй некаторых асоб, але было ўласьціва ўсяму іхнаму гурту. Гэта і зразумела, так як пытанні дзяржаўнага і грамадзкага жыцця, пытанні яго тэорыі і практыкі былі прадметам шматразовых абмеркаванняў у гуртках дзекабрыстаў. У далейшым нам давядзецца прыводзіць у дастаткова вялікай колькасьці факты, якія характэрызуюць гэты бок жыцця Таемнага Таварыства.

---

[178] Карнілаў, “Нарысы па гісторыі грамадзкага руху”, стр. 28.
[179] “Нататкі Якушкіна”, стр. 60-61.
[180] “Нататкі”, стр. 26, 28, 31, 40.
[181] “Нататкі Якушкіна”, 58-59.

Пры ўсім гэтым, патрэбна заўважыць, што характарыстага рэжыму Аляксандра I, зробленая дзекабрыстамі, не з’яўляецца суб’ектыўнымі ўражаннямі людзей, якія пылалі тэарытычнай ненавісьцю да існуючага рэжыму. Гісторыя на аснове дастаткова вялікай колькасьці цалкам аб’ектыўных дадзеных, на аснове актаў дзейнасьці самаго рэакцыйнага ўрада магла праверыць тое, пра што гаварылі дзекабрысты ў сваіх сведчаннях і можа толькі падцвердзіць поўную справядлівасць іхнай характарыстыкі. Больш таго, акты ўрадавай дзейнасьці паказваюць яшчэ больш жудасныя факты дзейнасьці рэакцыі; яны паказваюць такое становішча краіны і такое валадаранне самавольства, што гэтая эпоха, нават у параўнанні з іншымі перыядамі рускага самаўладдзя з’яўляецца адной із самых цяжкіх: таму што патрэбна памятаць, што вялікая колькасць фактаў насільстваў, самавольстваў, хабарніцтва, здзейсненых у цішыні канцылярый, не былі

-193-

вядомы сучаснікам і сталі толькі вядомы толькі гісторыі.

Крытыка дзекабрыстаў пазначае для нас і станоўчыя ідэалы, якім быў прасякнуты светапогляд дзекабрыстаў. Бяспрэчна, у дэталях іхныя станоўчыя патрабаванні адрозніваліся: адзны з іх былі б задаволены ўмеранными рэформамі, другія, наадварот, былі настроены дастаткова радыкальна. Але, ва ўсякім выпадку, іхныя ідэалы былі непамерна далёкія ад існуючай рэчаіснасьці ў сэнсе формы кіравання і ад таго цяжкага становішча дзяржавы, якое яна прыкрывала.

На самай справе, дзекабрысты добра разумелі жахлівасць прыгоннага права і прызнавалі ў прыгонным селяніне чалавечую годнасць, пазначалі яго здольнасць карыстацца грамадзянскай і палітычнай свабодай. Яны старанна сабралі шэраг аргументаў для таго, каб з іхнай дапамогай падрываць у грамадстве асновы прыгоннага права. Дзекабрысты змрочна глядзелі на сучаснае ім дваранства, бачылі яго неадукаванасць, закаснеласць, адсутнасць элементарных маральных звычаяў, яго рабаўладальніцкія інстынкты і выдатна разумелі, што прычына такіх з’яў хаваецца ў тым жа прыгонным праве, у адсутнасьці свабоды асветы і, нарэшце, у падтрымцы, якую неадукаванае і грубае дваранства сустракае ў хабарствуючай адміністрацыі, якая выйшла із таго ж дваранскага асяроддзя. Гарадзкія станы маюць грамадянскую свабоду, але яны знаходзяцца ў фактычным падняволенні ў адміністрацыі. Страшэннае самавольства, адсутнасць элементарных правоў асабістай недатыкальнасьці ў сведчаннях дзекабрыстаў адзываюцца глыбокім смуткам. Для іх цалкам зразумела і нагода самавольстваў, насільстваў і інш. Яны выдатна разумеюць недахопы адміністрацыйнай машыны, недахопы заканадаўства; яны выдатна разумеюць

-194-

шкоду разнастайных захадаў урада – ваенных паселішчаў, цэлай кампаніі ўсяго рэакцыйнага супраць друку і асветы, адмоўныя рысы знешнепалітычных захадаў і г. д. Але ў іхных сведчаннях прысутнічае, бяспрэчна, і яшчэ адна рыса: сутнасць справы не ў колах павозкі, не у дэталях, якія яе складаюць: адсутнасць народнага

ўдзелу ў кіраванні дзяржавай з’яўляецца асноўным недахопам ад якога пачынаюцца ўсе астатнія.

## IV.
## Дзекабрысты і эпоха.

Але крытыка дзяржаўнага і грамадзкага ўладкавання, нават і завершаная марамі аб канстытуцыі, яшчэ не паказвае цалкам настрой асоб, якія складалі таемныя таварыствы. Тады выказвалі незадавальненне ўсе, ад мужыка да вяльможы. Але патрэбны былі асобныя асабістыя якасьці, каб крытыка дзяржаўнага ўладкавання, незадавальненне ўрадам маглі прывесьці да ўсвядомленай неабходнасьці барацьбы з ім. Гэтае ўсведамленне, рашучасць дзейнічаць, ствараецца пад уплывам засвоеных дадзенымі асобамі ідэй, нарэшце, пад уплывам асобнага этыка-псіхалагічнага склада чалавека, які не дазваляе яму далей мірыцца з існуючай рэчаіснасьцю, якога прыгнятае гэтая рэчаіснасць і які гатовы ахвяраваць жыццём ці свабодай для гэтага.

Сапраўды, дзекабрыстам было ўласьціва ў высокай ступні пачуццё грамадзянскага абавязку. У іхным асяроддзі гэта не было летуценным настроем. Разуменне неабходнасьці дзейнічаць на карысць айчыны ў іхным асяроддзі з’ялялася наступствам сур’ёнай працы над выпрацоўкай свайго светапогляду на пытанні грамадзкага і палітычнага ўладкавання і вынікам грунтоўнага вывучэння існуючага дзяржаўнага

-195-

і грамадзкага ўладкавання ў Расіі і ў замежных дзяржавах. Шмат каму для вывучэння рэчаіснасьці дапамаглі асабістыя назіранні, жыццё пасярод еўрапейскіх народаў у вялікую эпоху вызваленчых рухаў сярод іх, калі ў шмат якіх, да гэтага часу глухіх кутках, абуджаліся народныя рухі і чулася слова свабода.

Зараз мы пяройдзем да вывучэння тых умоў, пры якіх фарміраваўся палітычны светапогляд дзекабрыстаў...

Дванадцаты год з наступіўшымі пасьля яго грандыёзнымі падзеямі быў эпохай у жыцці не толькі еўрапейскіх народаў, але і Расіі. “Толькі тады народ рускі, - апавядаў пра нашэсьце Напалеона Аляксандр Бястужаў, - у першы раз адчуў сваю магутнасць, тады абудзілася ва ўсіх сэрцах адчуванне незалежнасьці, спачатку палітычнай, а потым і народнай. Вось пачатак вольнадумства ў Расіі”[182].

Біёграф Мацвея Янавіча Мураўёва-Апостала такімі славамі апісвае пералом, як быў выраблены дванаццатым годам у рускім грамадстве: “Моцнае абуджэнне патрыятызму натуральна выклікала і ўсеагульнае ўзмацненне грамадзкіх інтарэсаў і грамадзкіх памкненняў. Людзі былі выбіты із паўсядзённага жыцця, адарваны ад сваіх дробных асабістых інтарэсаў, як быццам бы вызвалены ад сваёй штодзённай прыдаўленасьці, адразу кінуты ў

182

сярэдзіну шырокай і важнай грамадзкай, дзяржаўнай, народнай справы і яны былі тады ў гэтай справе не сляпымі прыладамі, не пешкамі, а свядомымі працаўнікамі. Моцнае патрыятычнае адухатварэнне ахапіла тады нашых продкаў. Мацвей Янававіч апавядае, што яшчэ перад урачыстай заявай Аляксандра I не складаць зброю, "пакуль ні аднаго непрыяцельскага жаўнера не застанецца ў царстве", маладыя гвардзейскія

-196-

афіцэры ўжо давалі сабе такую клятву: знакаміты рэскрыпт не дадаў нічога новага ў валадарачыя настроі, ён толькі асьвяціў агульны настрой царскім словам. Раз любоў да радзімы была абуджана, яна, бяспрэчна, не магла быць знішчана ваеннымі абставінамі; яна павінна была толькі змяніць выгляд, павінна была перакінуць увагу са знешняга ворага, на ўнутранныя недахопы, выразна зразуметыя пад час вайны. Абуджэнне, створанае 1812 годам, не магло б заспакоіцца, нават калі б і не было патым замежных паходаў. Любоў да радзімы, любоў да народа, збліжэнне з ім не маглі прайсьці безвынікова. 1812 год быў справай народнай і ў гэтай справе сустрэліся так званае грамадства і просты народ"[183].

Гэтая характарыстыка падцверджваецца нататкамі дзекабрыстаў, людзей якія пераж[ылі] гэтую эпоху. У вялікай запісцы князя Трубяцкога, дасланай ім Следчаму Камітэту, мы сустракаем такое апісанне таго ўплыву, які зрабіў на дзекабрыстаў дванаццаты год і наступная за ім эпоха: "Напад Напалеона на Расію ў 1812 годзе выклікаў у рускіх любоў да айчыны у самай высокай ступені; счаслівае завяршэнне гэтай вайны, бязмежная слава, якая была набыта блажэннай памяці нябожчыкам гаспадаром імператарам Аляксандрам Паўлавічам, бляск, якім пакрылася рускае войска, вымусіла ўсіх рускіх ганарыцца сваім імем і ва ўсіх, хто меў шчасьце ўдзельнічаць у ваенных подзвігах, узнікла ўпэўненасць, што і кожны з іх быў карысны для айчыны. Сувязі, якія ўзніклі на біваках, на палях змаганняў, пры раздзяленні аднолькавых небяспек і цяжкасьцей, бываюць, асабліва паміж

-197-

маладымі людзьмі, больш шчырымі, моцнымі і жвавымі. Я сябраваў з Аляксандрам Мураўёвым, з Шыпавым, які зараз генерал-маёр, ён сябраваў з Пестэлем, з якім пазнаёміўся і я. Мы часта размаўлялі паміж сабой пра былыя падзеі, пра славу гаспадара, пра гонар рускага імені; разважалі, што быўшы ўжо кожны карысным, па магчымасьці сваёй, для сваёй айчыны пад час вайны, не павінны быць не карыснымі і ў час замірэння; што кожны із нас, ідучы побач з нашым гаспадаром у ваенных справах, павінен і ў мірных здзяйсненнях яго вялікасьці, згодна сваёй магчымасьці садзейнічаць яму; што асобнае садзейнічанне часта мала значыць, таму карысней дзейнічаць агульнымі намаганнямі"[184].

---

183 В. Е. Якушкін, "Мацвей Янавіч Мураўёў-Апостал". "Руская Старына", 1886 год, ліпень. 158-159.
184 Сведчанні кн. Трубяцкога. "Мемуары дзекабрыстаў", I. 73.

З’яўленне французаў у Расіі абудзіла народныя масы. Штуршок нададзены гэтай падзеяй Завалішым цалкам справядліва параўноўвае з гадамі Пятроўскай рэформы. Вайна абудзіла і высока ўзняла пачуццё народнай годнасьці. Бяспрэчна, сучаснікі імкнуліся зразумець падставы бедстваў, якія напаткалі дзяржаву і гэтыя абмяркаванні “выявілі шэраг памылковых дзеянняў урада, аб пагібельных наступствах якіх, згодна тагачасных меркаванняў і перакананняў, Расія пазбавілася толькі дзякуючы самастойным дзеянням і адвазе народа, незалежна ад урадавых намаганняў і нават як быццам бы насуперак ім. Для ўсіх было зразумела, што Расія спаткала небяспеку праз памылкі ўрада і пазбавілася ад небяспекі дзякуючы толькі вялікім ахвяраванням. Паводзіны пад час вайны простага народа выявілі яго здольнасць да самастойных дзеянняў. Станы, вельмі аддаленыя паміж сабой юрыдычна, змаглі аб’яднацца

-198-

ў такой важнай справе. На чале дзяржавы стаяла руская арыстакратыя, але яна была значна дыскрэдывана ў гэтую эпоху”, так разважалі ў той час[185].

Іншыя бакі ўплыву вайны заключаліся ў тым, што рускія жаўнеры і афіцэры пазнаёміліся з заходняй цывілізацыяй не толькі па малюнках модных журналаў і не з нагоды трапіўшыхся ў рукі кніжак, але шляхам доўгага знаёмства і асабістых ўражанняў. “Першыя сябры Таемнага Таварыства, - апавядае Белеў, - былі большай часткай вайскоўцы, якія пераможна прайшлі ўсю Яўропу да Парыжа. Бліжэй пазнаёміўшыся з яе цывілізацыяй, зразумела, што імкненнем яго стваральнікаў было жаданне і для Расіі такой жа асвечанасьці, такой свабоды, тых правоў, якімі карысталіся некаторыя із еўрапейскіх нацый і якія былі дараваны Польшы і абяцаны Расіі. Такім чынам, вольнадумства і дух пераўтварэнняў пры дапамозе прасачыўшыхся забароненых твораў із-за мяжы перанёсся і ў Расію; а так як празэліты заўсёды вызначаюцца крайняй адданасьць, то і нашы таемныя таварыствы, спачатку дастаткова ўмеранныя і дабрадзейныя, як “Зялёная кніга” і “Хаўрус Дабрабыту”, патроху сталі адданымі прыхільнікамі рэвалюцыі ў Расіі. Былі складзены канстытуцыі: умеранныя, манархічныя і радыкальна-рэспубліканскія, так што ў перыяд часу з 1821 г. да сьмерці Аляксандра І лібералізм стаў ужо годнасьцю кожнага хоць трохі адукаванага чалавека. Частыя змены самім урадам рэакцыйных захадаў на прагрэсіўныя яшчэ больш павялічвалі жаданне пакласьці канец тагачаснай рэчаіснасьці; шмат чым нашаму лібералізму садзейнічалі і знешнія падзеі, як-то: рух карбанарыеў, заключэнне Сільвіо Пяліко Аўстрыяй; адменены паход нашага войска ў Італію, які паказаў,

-199-

што і Расія гатова ісьці за Аўстрыяй у напраку падпараквання народаў; імя Метэрніха вымаўлялася з нянавісьцю і пагардай; рэвалюцыя ў Гішпаніі на чале з Рыега, выбіўшая папярэднюю канстытуцыю ў Фердынанда, прыводзіла ў захапленне такіх гарачых энтузіястаў”[186].

---

[185] “Нататкі дзекабрыста Завалішына”, т. І, 178-180.

[186] “Успаміны пра пражытое і адчуванае з 1803 г.”, “Руская старына”, 1881 год, сакавік, стр. 487.

Так характэрызуе Розен у сваіх пазьнейшых нататках уплыў паходаў на Заходнюю Яўропу. “Для маладога рускага дваранства, - апавядае ён, - асабліва ў гвардэйскіх палках, французка-германскі паход быў уступленнем у іншую цывілізацыю, пра якую ў той час ведалі не шмат хто. У лепшых кліматычных умовах, у асяроддзі лепшых грамадзкіх дачыненняў, якія насілі адбітак больш высокай культуры, пад уплывам больш мяккіх звычаяў і гуманных поглядаў, шмат хто з рускіх афіцэраў пачалі думаць пра становішча ў сваёй айчыне зусім з іншага боку. Маладыя людзі, якія большую частку свайго жыцця правялі ў руціннасьці аддаленых губернскіх гарадоў ці ў вакхічных застоллях пецярбургскіх пірушак, знайшлі на квітнеючых берагах Луары і Гароны новы свет, прыгажосць якога захапіла іх. Пры бяздзейнасьці гарнізоннай службы, пры значных адлегласьцях, якія падзялялі паміж сабой асобныя вайсковыя часткі, была магчыма большая свабода, якую раней афіцэры не ведалі. Барацьба палітычных партый у Францыі знайшла ў маладых чужаземцах уважлівых і зацікаўленых гледачоў. Менавіта тут, усе здаровыя і імкнуўшыяся да прагрэсу элементы рускай гвардыі ўвабралі ў сябе захапленне ідэяй грамадзянскасьці, свабоды і канстытуцыйных установаў; з жахам і здзіўленнем паглыбляліся яны ў жыццё народа, супраць якога былі вызваны з далёкага ўсходу. У шматлікіх душах



нарадзілася думка аб магчымасьці надзялення і сваёй далёкай айчыны такімі ж дабротамі”[187].

Пасьля гэтых агульных заўваг будзе цікава пазнаёміцца з заўвагамі саміх удзельнікаў снежаньскіх падзей: аб тым уражанні, якое на іх зрабіла знаходжанне ў Заходняй Яўропе і аб тых наступствах, якія імі дапасоўваліся да гэтай абставіны. Следчы Камітэт пытаўся ў кожнага із падсудных аб адукацыі, якую атрымаў кожны з іх і пра тое, пры якіх умовах падсудны захапіўся ліберальнымі ідэямі. У адказ на гэтыя пытанні некаторыя із дзекабрыстаў далі падрабязныя адказы аб тым уражанні, якое зрабіла на іх канстытуцыйнае жыццё заходне-еўрапескіх джяржаў.

Мікалай Бястужаў у сваіх сведчаннях апавядае пра гэта наступнымі славамі: “Мая бытнасць у Галандыі ў 1815 годзе на працягу 5 месяцаў, калі там усталёўвалася канстытуцыйнае кіраванне, дала мне першае разуменне пра карысць законаў і грамадзянскіх правоў; пасьля таго двухразовае наведванне Францыі, падарожжа ў Ангельшчыну і Гішпанію зацвердзілі падобныя думкі. Першай жа кніжкай, якая выклікала ў мяне жаданне ўсталяваць канстытуцыю і ў маёй айчыне, была: “Пра канстытуцыю ў Ангельшчыне”, не памятаю, хто яе аўтар, якая была перакладзена на рускую мову (здаецца, у 1805 годзе Тацішчавым) і прысвечана нябожчыку імператару Аляксандру Паўлавічу. Дарэчы, падзеі апошніх часоў па ўсёй Яўропе, усе замежныя часопісы, сучасныя гісторыі і нататкі і нават рускія газеты і часопісы паказвалі ўважліваму чытачу карысць ад усталявання законаў. Ніякіх рукапісаў я не чытаў. Набыццём

[187]“ Нататкі дзекабрыстаў”, Пецярбург. 1870 г., 24-25.

вальнадумства я нікому не абавязаны; бачанага мной на практыцы ў іншых дзяржавах было дастаткова,

-201-

каб зацвердзіць мяне ў падобных думках, маё ж далучэнне да Таварыства толькі накіравала да пэўнай мэты маё разуменне і веды”[188]. Брат Мікалая Бястужава, Міхал, таксама марак, у сваіх сведчаннях апавядае, што ён “запазычыў пачатак вольнадумства” пад час свайго першага марскога плавання ў 1817 годзе, зараз жа пасьля выхаду із корпуса, пад кіраўніцтвам віцэ-адмірала Кроуна. Тады малады афіцэр пазнаёміўся са шмат якімі французкімі афіцэрамі і з падарожнічаючымі англічанамі. У 1821 годзе Міхал Бястужаў пабываў з эскадрай у Капенгагене, далейшым знёмствам з іншаземцамі зацвердзіў свае ліберальныя погляды. Міхал Бястужаў дадае, што афіцэры рускай эскадры, якія плавалі ў Заходняй Яўропе ў 1812 годзе таксама “атрымалі разуменне пра формы тамашняга кіравання і калі мне даводзілася чуць іхныя апавяданні, то яны міжволі ўзмацнялі атрыманае мной разуменне”[189].

Так сведчылі малодшыя із дзекабрыстаў. У сведчаннях старэйшых іхных таварышаў мы знаходзім такія ж прызнанні. Палкоўнік Мацвей Мураўёў-Апостал паказвае на значэнне эпохі дванаццатага года у сваіх сведчаннях: “Пасьля кампаніі 1812, 1813 і 1814 гадоў, пасьля існавання вельмі перапоўненага падзеямі, наступнае аднастайнае жыццё не магло быць дастатковым для тых, хто праводзіў гэтыя кампаніі”[190]. Князь Ваўконскі, таксама ўдзельнік вайны 1812 года, у сваім сведчанні таксама заяўляе, што ліберальныя ідэі зарадзіліся ў яго пад час заходнееўрапейскага пахода[191].

Пазнейшыя нататкі С. Р. Ваўконскага некалькі больш падрабязна знаёмяць нас з тым непасрэдным

-202-

уплывам, які рабіла на яго еўрапейскае жыццё. Ужо будучы ў Лондане князь Ваўконскі звярнуў увагу на факты, якія сведчылі аб магутнасьці законаў якія мелі дачыненне да асабістай свабоды грамадзян. Між іншым, сам Ваўконскі, пад час сваіх вандровак па замежжы, быў яшчэ вельмі мала падрыхтаваны ў сэнсе ўспрымання свабодных палітычных ідэй. Але ўжо вярнуўшыся із замежжа, князь Ваўконскі прызнаецца, што ў ім пачаў моцна нагадваць пра сябе “зародак усведамлення абавязкаў грамадзяніна”. Згодна меркавання аўтара ўспамінаў, падставай такога перавароту ў яго думках былі народныя падзеі 1814 і 1815 гадоў, сведках якіх ён быў. Гэтыя падзеі заклалі ў яго “замест сляпога падпарадкавання і адсутнасьці ўсякай самастойнасьці думку, што грамадзяніну ўласьцівы абавязкі перад айчынай, якія ідуць, ва ўсякім разе, нароўні з вернападданічнымі”. Вярнуўшыся із пахода, ён ужо поўніцца новымі ідэямі і імкнецца ў сваіх дачыненнях да афіцэраў і жаўнераў унесьці новы струмень, - унесьці ў стасункі паміж начальнікам і падначаленым больш мяккасьці і цеплыні:

[188] Сведчанні Мікалая Бястужава.
[189] Сведчанні Міхала Бястужава.
[190] Сведчанні Мацвея Мураўёва-Апостала.
[191] Сведчанні князя Ваўконскага.

“быў пачцівы са спадарамі афіцэрамі і сяброўскі пачцівы да ніжэйшых чыноў, імкнуўся заслужыць іхны агульны давер і павагу, чаго магчыма дасягнуць і без упадку ў дысцыпліне, насуперак перакананням старой палачнай сістэмы”. Наогул, Ваўконскі надае вялікае значэнне ўплыву вызваленчых войн на пад’ём рускага народнага духу. Гэтыя войны “паднялі наш народны дух, наблізілі нас да Яўропы, з яе ўстановамі, парадкам кіравання і народнымі гарантыямі; у працілегласць нашага дзяржаўнага ўладкавання, нікчэмнасць нашага дзяржаўнага побыту, нікчэмнасць нашых народных правоў, скажу, прыгнёт нашага дзяржаўнага кіравання рэзка выказаўся на сэрцы і розуме шмат каго”[192].

-203-

Пад час паходаў Бацянкоў быў ужо чалавекам з замацаванымі перакананнямі, дастаткова ўмеранным; ён быў мала здольна на нейкія парывы пад уплывам якіх-небудзь новых уражанняў. Аднак і на яго паходы вырабілі моцнае ўражанне, хаця прыродная асьцярожнасць, а, магчыма, ўмовы далейшага жыцця не вельмі хутка прывялі яго ў шэрагі Таемнага Таварыства. “Вайна, - апавядае ён, - паказала мне павучальную карціну. Пад час двух падарожжаў за мяжу думка аб розных формах кіравання зацвердзілася ў мяне на практычных прыкладах і я пачаў мець жаданне бачыць больш свабоды ў сваёй айчыне”[193].

Паказваючы асобныя прыклады ўплыву еўрапейскіх падзей на розных асоб, мы спынімся яшчэ на адным і дадзім слова біёграфу Рылеева, характарырызуючае тыя ўражанні, якія набыў малады афіцэр, які прама із корпуса быў накіраваны ў дзеючае войска, нават у караткачасовае падарожжа за мяжу. Р. Сіроцін, апавядаючы пра гэты эпізод у біяграфіі Рылеева, піша пра яго: “Здзіўляючыся грандыёзнасьці падзей, Рылееў прыглядаўся і да таго, што не адразу кідалася ў вочы, да ўнутранага жыцця Яўропы. У віхоры задавальненняў ён не забываўся, верагодна, вучыцца, цікавіцца ўсім, што толькі ні траплялася яму на вочы. Праязджаючы праз мясцовасьці тым ці іншым чынам адзначаныя гісторыяй, ён не прапускаў магчымасьці папоўніць свае веды, успамінаў гістарычнае мінулае тых дзяржаў, у якіх яму даводзілася жыць, у той жа час пільна назіраючы сучаснасць. Назіранні над пабытовым і грамадзкім жыццём Яўропы, магчыма, і былі самым ураджайным вынікам замежнага жыцця Рылеева і ў гэтым дачыненні

-204-

больш за ўсё ён быў абавязаны свайму жыццю ў Парыжы”[194].

У нататках Фон-Візіна мы знаходзім выразнае адлюстраванне таго ўплыву, які зрабілі паходы ў Яўропу на рускую вайсковую моладзь. “Дух свабоды, які ва ўсіх еўрапейскіх дзяржавах ўрады, дзейнічаючы разам, імкнуліся ўсякімі сродкамі задавіць, падуў і на самаўладную Расію”. “На працягу двухгадовага трывожнага ваеннага жыцця пасярод безперапынных небяспек, яны прывыклі

---

[192] Успаміны, 350, 387, 401.
[193] “Мемуары дзекабрыстаў”
[194] Сатырыкон, “К. Ф. Рылееў”, “Рускі архіў”, 1890, стр. 127.

да моцных уражанняў, якія для смелых людзей робяцца амаль неабходнасьцю. У такім духоўным стане, з адчуваннем сваёй годнасьці і ўзвышанага шанавання айчыны, большая частка афіцэраў гвардыі і генеральнага штаба вярнуліся ў 1815 годзе ў Пецярбург. У паходах па Нямеччыне і Францыі нашы маладыя людзі пазнаёміліся з еўрапейскай цывілізацыяй, якая вырабіла на іх тым больш моцнае ўражанне, таму што яны маглі параўнаўваць усё бачаннае за мяжой з тым, што ім на кожным кроку бачылася на радзіме, - рабскае становішча вялізнай большасьці рускіх, жорсткае абыходжанне начальнікаў з падначаленнымі, разнастайныя злоўжыванні ўладаў, паўсюднае распаўсюджванне самавольства, - усё гэта абурала і прыводзіла да незадавальнення ўсіх адукаваных рускіх і абуджала іхныя патрыятычныя пачуцці. Шмат хто з іх пазнаёміліся пад час паходу з нямецкімі афіцэрамі, сябрамі таемнага прускага таварыства (Tugenbund), якое так жыватворна падрыхтавала паўстанне ў Прусіі і садзейнічала яе вызваленню разам з французкімі лібераламі. У шчырых размовах з імі нашы маладыя людзі засвоілі іхнае вольнадумства і імкненне да канстытуцыйных формаў кіравання, саромеючыся за Расію, так глыбока прыніжаную самаўладдзем. Вярнуўшыся



ў Пецярбург, ці маглі нашы лібералы задаволіцца пошлым палкавым жыццём і дакучлівымі дробязнымі заняткамі”[195].

Назіранні Фон-Візіна не адзінкавыя. Яны паходзяць ад розных назіральнікаў, якія мелі магчымасць знаёміцца з настроямі тагачаснага асяроддзя ў розных мясцовасьцях Расіі. Басаргін, які правёў сваю службу ў паўднёвай арміі, вынес падобнае ж уражанне адносна ўплыву заходне-еўрапейскіх ідэй на афіцэрскае асяроддзе. Расія, - апавядае ён, - не магла пазбегнуць уплыву суседніх дзяржаў і асабліва ў такі час, калі стасункі з імі былі вынікам саміх падзей, вайны і далейшага развіцця. Шмат хто із маладых людзей, якія вярнуліся пасьля завяршэння кампаніі із-за мяжы, пераважаючай часткай вайскоўцы, пакрытыя яшчэ дымам вялізных змаганняў 1812-1814 гадоў, прынесьлі разам з сабой новыя ідэі, пачалі сур’ёзна задумвацца пра становшча Расіі і прыкладаць да яе тэорыі грамадзкіх установаў, ці існуючых ужо ў іншых дзяржавах, ці выкладзеных у выдатных палітычных творах таго часу”[196]. Людзі, якія разам з малаком маці ўспрымалі ў сябе пачуццё сляпога падпарадкавання самаўладнаму ўраду, раптам зразумелі. Яны падабылі ў іншых народаў магчымасць скінуць свой урад для ідэй свабоды і роўнасьці. З іншага боку, яны пазнаёміліся і ацанілі перавагу жыцця ў палітычна свабоднай краіне. Пераварот здаваўся магчымым і ў Расіі, дзе падстаў для яго было значна больш, чым у шмат якіх заходне-еўрапейскіх дзяржавах. “Падзеі 1812-1815 гадоў, апавядае Пестэль, - таксама як і папярэдніх часоў, паказалі столькі зрынутых пасадаў,



[195] “Грамадзкія рухі”, I, 182-183.
[196] Нататкі, “Дзевятнаццатае стагоддзе”, т. I, стр. 69.

столькі нановапастаўленых, столькі знішчаных царстваў, столькі здзейсніўшыхся рэвалюцый, столькі здзейсненых пераваротаў, што ўсе гэтыя падзеі пазнаёмілі розумы з рэвалюцыямі, з магчымасцю іхнага здзяйснення. Да таго ж кожнае стагоддзе мае сваю вызначальную рысу. Цяперашняе вызначаецца рэвалюцыйнымі думкамі. Ад аднаго канца Яўропы да другога ўсюды відаць адно і тое ж, ад Партугаліі да Расіі, не выключаючы ні адной дзяржавы, нават Ангельшчыны і Турэччыны, гэтых двух процілегласьцей. Такое ж відовішча уяўляе і Амерыка. Дух пераўтварэнняў вымушае, калі можна так сказаць, розумы бурліць. Вось падставы якія, на маю думку, нарадзілі рэвалюцыйныя думкі і трывала ўкаранілі іх у розумах”[197].

Сучасні адзначалі вельмі цікавую з’яву ў тагачасным грамадстве: яно, асабліва яго вайсковыя колы, так сказаць, змяніла свой выгляд. У грамадстве заўважалася вялікая перамена. Моладзь, як быццам, абудзілася да новага жыцця, захаплялася ўсім, “што было высакароднага і чыстага ў маральнай і палітычнай рэчаіснасьці”. Асаблівай смеласьцю вызначаліся меркаванні ў асяроддзі гвардэйскіх афіцэраў[198]. З’явілася дастаткова шматлікая рукапісная літаратура, вартая ўвагі па вастрыні сарказму, часам з высокімі паэтычнымі годнасьцямі. Грамадства пачало з захапленнем чытаць французкіх публіцыстаў, імёны якіх сталі вельмі папулярнымі[199]. Калі Бацянкоў у 1821 годзе прыехаў пасьля доўгай адсутнасьці ў Пецярбург, ён быў здзіўлены пераманай у грамадскім настроі: “у гэты час Пецярбург быў ужо не той, якім я яго пакінуў пяць гадоў таму.

-207-

Размовы пра ўрад, незадавальненне ім, жарты, сарказмы сустракаліся безперапынна, як толькі некалькі маладых людзей збіраліся разам”[200].

Людзі прыязджалі із замежжа з новымі ідэямі, з запасам цікавых назіранняў. Але на радзіме яны сустракалі старыя і знаёмыя выявы – поўнае бяспраўе асобы, прызывы да мінулага, пакланенне суровай старыне. У нататках Якушкіна мы знаходзім тыя перамены ў поглядах, з якімі вайскоўцы вярнуліся із замежжа і таго адчування прыгнечанасьці, якое яны адчувалі пры выявах роднай рэчаіснасьці. у 1814 годзе першая гвардэйская дывізія, у якой служыў Якушкін, высадзілася на родную зямлю ў Арыенбауме і слухала падзячны малебен малебен. Пад час малебна паліцыя без літасьці збівала народ, які прыйшоў паглядзець на вайскоўцаў. “Гэта вырабіла на нас першае недобразычлівае ўздзеянне пасьля нашага вяртання на радзіму”, заўважае Якушкін. Затым пачаліся парады і разводы, зараз уражваюўшыя афіцэраў сваёй безсэнсоўнасьцю. У пецярбургскім грамадстве ўдзельнікі грандыёзных падзей сутыкнуліся з нічым не заклапочаным жыццём і размовамі старых, якія хвалілі

[197] “Былое”, 1906 год, люты, 139.
[198] Тургенеў, Карнілаў, “Нарысы па гісторыі грамадзкага руху”, 14.
[199] Там жа.
[200] “Мемуары дзекабрыстаў”, I, стр. 161.

ўсё старое і ганьбілі ўсяку рух наперад. “Мы апярэдзілі іх на сто гадоў”, усклікае Якушкін[201].

Тэарэтычныя назіранні над заходне-еўрапейскім жыццём прыводзілі да шэрагу практычных наступстваў. Гэтыя наступствы часм выяўляліся ў дробязях. Згодна сведчання Завалішына, ужо пад час замежных паходаў пакаранні палкай былі амаль выведзены із выкарыстання ў войску. Дарэчы, у далейшым нам яшчэ давядзецца даведацца, што афіцэры, якія далучыліся да Таемнага Таварыства, цалкам перамянілі свае стасункі з

-208-

жаўнерамі. Але зараз мы гаворым толькі пра непасрэдныя, пярвічныя праявы новых павеваў у тагачасным грамадстве. Да такіх жа праяў патрэбна аднесьці і прызнанні Міхала Арлова у тым, што ён, вярнуўшыся із Заходняй Яўропы ў 1814 годзе, задумаў стварыць таемнае таварыства для барацьбы з хабарніцтвам і іншымі праявамі ўнутранага безладдзя па прыкладу Прускага Тугенбунда: ён вынес уражанне, што Тугенбунд быў адным із самых дзейсных сродкаў, якія выратавалі Прусію і Няметчыну[202].

Але, бяспрэчна, самым значным следствам былі не адзінкавыя факты, а больш сур’ёзныя з’явы. Вялікі пералом, які адбыўся ў грамадстве, вымусіў яго сур’ёзна задумацца над дзяржаўным і грамадзкім уладкаваннем. Бяспрэчна, зараз разуменне ім гэтага ўладкавання было зусім іншым. Больш сур’ёзны погляд на жыццё выклікаў імкненне да дзейнасьці і да вывучэння навук, якія б змаглі тэарэтычна зацвердзіць у іхным разуменні тае, што шмат хто назіралі на практыцы ў паўсядзённым жыцці на Захадзе. Шмат кім авалоджае прага да дзейнасьці, прага папоўніць свае веды, прага падзяліцца сваімі поглядамі ў сяброўскай размове. “Вялікія падзеі айчыннай вайны, - апавядае Міхал Фон-Візін у сваіх сведчаннях, - пакінулі ў душы глыбокія ўражанні, вырабілі ў ва мне нейкае мітуслівае жаданне дзейнасьці. Двухразовае падарожжа за мяжу выявіла перада мной шмат палітычных ідэй, пра якія я раней не чуў. Вярнуўшыся ў Расію, у вольны ад службы час працягваў чытаць палітычныя творы і замежныя газеты і ў той жа час чытаў разнастайныя палітычныя тэорыі і марыў аб прыстасаванні іх да Расіі”[203]. На пытанне да Пестэля аб тым, якім чынам

-209-

у яго зарадзіліся рэвалюцыйныя думкі, ён адказаў Следчаму Камітэту: “Палітычныя кнігі ёсць ва ўсіх на руках, палітычныя навукі ўсюды выкладаюцца; палітычныя звесткі ўсюды распаўсюджваюцца, гэта ўсё навучае думаць пра дзеянні і ўчынкі ўрада: хваліць адно і крытыкаваць іншае”, і далей ён растлумачыў Камітэту ўплыў вялікіх падзей на розумы ў Расіі[204].

Сапраўды, сведкі таго часу паведамляюць нам не мала цікавых звестак пра навуковыя заняткі і памкненні ў асяроддзі тагачаснага грамадства. Той жа Міхал Фон-Фізін у сваіх пазнейшых нататках, згадваючы пра гэты перыяд,

[201] “Нататкі”, 2-4.
[202] Сведчанні Арлова
[203] “Грамадзкія рухі”, I, 17.
[204] “Былое”, 1906 год, люты, 139.

апавядае: “у той час афіцэры гвардыі і генеральнага штаба з захапленнем вучыліся і чыталі пераважна палітычныя творы і часопісы, таксама замежныя газеты, у якіх так драматычна малявалася барацьба аппазіцый з урадамі ў канстытуцыйных дзяржавах. Вывучаючы смелыя палітычныя сістэмы і тэорыі, цалкам натуральна, што тымі хто імі цікавіўся хацелі б бачыць іхнае увасабленне у сваёй айчыне. А гэта было галоўным заняткам размножыўшыхся ў Яўропе тайных палітычных таварystваў, сябры якіх прысвячалі сябе выключна палітыцы. Статуты некаторых із гэтых таварystваў, якія існавалі ў Францыі і Нямеччыне, былі завезены ў Расію і навялі нашых ліберадаў на думку стварыць у нас таемнае палітычнае таварыства з мэтай абмежаваць самаўладдзе”[205]. Цікавасць да ведаў выяўлялася ў тым, што маладыя людзі ахвотна наведвалі публічныя курсы і чытанні. Так, шмат хто наведваў чытанні аматараў рускай славеснасьці, якія ладкаваліся ў Пецярбурзе Г. Р. Дзяржавіным,



дзе бывалі Крылоў, Гнедзіч, Лобанаў. У палках засноўваліся бібліятэкі, у якіх творы Франкліна, Філаджыеры, Сэя занімала ганаровае месца. “Тады я сустракаў шмат адукаваных людзей у асяроддзі афіцэраў гвардэйскіх палкоў, - успамінае Лорэр, - асабліва шмат іх было ў Сямёнаўскім, Ізмайлаўскім і нашым Маскоўскім”[206]. Гангеблаў у сваіх успамінах таксама апавядае аб з’яўленні бібліятэк у афіцэраў[207]. Так як матэрыял, які знаходзіўся ў гэтых кніжках, быў для большасьці новым, то тыя, хто прыступаў да яго вывучэння імкнуліся дапамагаць адзін аднаму ў засваенні прачытаннага. “Патрэбна дапамагаць адзін аднаму, патрэбна занімацца чытаннем і распаўсюджваннем карысных і ліберальных кніг... імкнуцца распаўсюджваць асвету наогул і асабліва паміж ніжэйшым станам народа, каб тым самым давесьці яго з цягам часу да такога становішча, пры якім ён мог бы карыстацца свабодай”[208]. Неафіты ў палітычных навуках не задавальняліся іхным вывучэннем, але імкнуліся перадаць свае веды ў такое асяроддзе, якое было іх пазбаўлена. Яны збіраліся “дзейнічаць ва ўсіх акругах згодна сваіх здольнасьцей і магчымасьцей для паляпшэння ўсіх накірункаў навукі, мастацтваў, нават рамёсел і практыкавацца ў практычнай дабрачыннасьці, рабіць зборы на карысць бедных, уладкоўваць сірат у навучальныя ўстановы, а бадзягам шукаць прыстанішча”[209]. Ліберальна накіраваныя людзі звярталі ўвагу на тое, што асвета была дасtupнай толькі для прадстаўнікоў вышэйшых станаў, а дзяржава, між іншым, знаходзілася ў цемры. “Шматлікі палітычны склад Расіі, - пісаў у сваім сведчанні князь Ф. П. Шахоўскі, - патрабуючы



[205] “Грамадзкія рухі”, I, 185.
[206] Із нататак дзекабрыста, “Рускае багацце”, 1904, 60.
[207] “Успаміны дзекабрыста Аляксандра Сямёнавіча Гангеблава”, 23.
[208] Са сведчанняў падпалкоўніка Міклашэўскага.
[209] Са сведчанняў Ф. Глінкі.

вялікай колькасьці чыноўнікаў, вымушае адчуваць гэты недахоп, мае пагубны ўплыў на правасуддзе і ход судовых спраў”[210].

І так, імкненне да асветы, атрымлівае вызначаны накірунак: неабходна імкнуцца не толькі да самаадукацыі, але і да грамадзкай карысьці. Гэтая апошняя карысць як быццам бы падзялялася на дзве часткі: на асвету ніжэйшых станаў народа ў непасрэдным значэнні гэтага слова і на падрыхтоўку да будучай палітычнай дзейнасьці. Самы ўплывовы з усіх дзекабрыстаў, П. Я. Пестэль, вучыў сваіх сяброў, што абавязак чалавека заключаецца ў імкненні да агульнай карысьці. Для гэтай мэты неабходна паскорыць навучэнне розуму і душы, каб з цягам часу мець магчымасць дапасаваць іх да агульнакарыснай справы. Ён раіў чытаць Беккарыа, Філанджыеры, Макіявеллі, Вальтэра, Гельвецыя, Сэя, Адама Сміта і, наогул, палітычныя і эканамічныя кніжкі, “як разважаючыя аб вышэйшых абавязках чалавека і грамадзяніна”. Пестэль імкнуўся зацвердзіць у думках сваіх суразмоўцаў, што без такіх ведаў немагчыма быць карысным ні сабе, ні грамадству, ні айчыне[211].

Размовы з нагоды прачытаннага прыводзілі да разважанняў, спрэчак. Жыццё у такім грамадстве ішло дзейна і цікава. “Мы часта збіраліся разам, - апавядае Басаргін, - спрачаліся, размаўлялі, паведамлялі адзін аднаму свае думкі, жаданні; паведамлялі ўсё, што магло быць цікавым для агульнай справы і натуральна часта свабодна, скажу больш, непамерна гаварылі пра ўрад. Прапановам, тэрыям не было канца”. Не трэба думаць, што цікавасць да чытання, палітычных пытанняў і навук замыкалася цесным гуртком сябраў Таемнага Таварыства. Той



жа Басаргін сцвярджае, што “нават у такіх размовах, дзе удзельчалі староннія, г. зн. не прыналежныя да Таварыства асобы, размовы часьцей за ўсё мелі дачыненне да пытанняў сур’ёзных, якія тым ці іншым чынам закранал цікавячыя нас пытанні”[212]. Князь С. Р. Ваўконскі ў сваіх успамінах апавядае пра той гурток у які ён трапіў у Кіеві ў 1819 г. Тады ён гасьцяваў у свайго свайго сябра генерала Арлова. Сам Арлоў, чалавек умеранны і асьцярожны, меў вельмі ўскоснае дачыненне да Хаўрусу Дабрабыту. У Кіяві ў той час, акрамя Арлова, наўрад ці былі сябры гэтага Хаўруса. Тым не менш, гурток людзей якія збіраліся ў Арлова складаўся із людзей думаўшых і разумеўшых, “што іхная справа не павіна абмяжоўвацца шарканнем і пустым жыццём пецярбургскіх гасьцінных і шагісьцікай ваеннага гарнізоннага жыцця, а што іхнае жыццё і справы павінны быць прысвечаны карысьці радзімы і грамадзянскім пераўтварэнням, якія маюць на мэце вывесьці Расію на ўзровень грамадзянскага пабыту, які ўсталяваўся ў Яўрапе ў тых дзяржавах, дзе ў аснове была не ўлада дэспатаў, але правы чалавека і народаў”. Гэта той самы гурток, трапіўшы ў асяроддзе якога і сам аўтар успамінаў тады зразумеў, што “адданасць радзіме павіна вывесьці

---

[210] Дубровін, “Руская старына”, 1904, сакавік, 509-510.
[211] Сведчанні Камарова.
[212] Нататкі Басаргіна, “Дзевятнаццатае стагоддзе”, 71.

мяне із душнага і нецікавага побыту прыхільніка шагісьцікі і дагаднаючага царадворства”[213].

Такім чынам, вайна дванаццатага года і наступіўшыя за ёй паходы вялікай массы войска, - усе гэтыя факты моцна садзейнічалі ажыўленню ліберальных настрояў, пераважна ў вайсковых колах грамадства. Назіранні над жыццём заходнееўрапейскіх народаў шмат у каго выклікалі павагу да вольнага ўладкавання дзяржавы, заахвоціла разабрацца ў шматлікіх палітычных і юрыдычных пытаннях і



выклікала высокародную ахвоту дзейнасьці на грамадзкай ніве. Сяргей Мураўёў-Апостал, на пытанне Следчага Камітэта аб падставах узнікнення Таемнага Таварыства, дае наступную сціплую характарыстыку, якая можа быць заключэннем да выкладзенага вышэй шэрагу фактаў: “Трохгадовая вайна, якая вызваліла Яўропу ад іга Напалеона, яе наступствы, уладкаванне прадстаўнічага кіравання ў некаторых дзяржавах; палітычныя творы, безперапынна з’яўляўшыяся ў тую эпоху і з захапленнем чытаемыя моладдзю; дух часу, нарэшце, які накіраваў розумы да назірання законаў унутранага ўладкавання дзяржаў, - вось крыніцы рэвалюцыйных меркаванняў у Расіі. Маладыя людзі, якія распрацоўвалі падобныя пытанні, хутка адчулі жаданне бачыць у сваёй айчыне прадстаўнічае ўладкаванне, паведамлялі адзін аднаму свае меркаванні, аб’ядноўваліся падобнасьцю жаданняў і вось і зародак палітычнага Таемнага Таварыства. Распаўсюджванне ж рэвалюцыйных меркаванняў у дзяржаве ішло звычайным і натуральным шляхам, таму што нельга забараніць, каб грамадства не мела ўплыву на гэтае распаўсюджванне, справядліва таксама і тое, што калі б падобныя меркаванні не існавалі ў Расіі перад нараджэннем Таварыства, яно б не толькі не нарадзілася, але і нарадзіўшыся не змагло б ні ўсталявацца ні павялічыцца”[214].

Вузкія рамкі вайсковай службы шмат каго не маглі задаволіць. Адны ішлі на грамадзянскую службу, якая ў тыя часы лічылася менш ганаровай для прадстаўнікоў радавітага дваранства (а менавіта із яго асяроддзя складаліся тагачасныя ліберальныя гурткі), іншыя зусім кідалі службу, ехалі жыць у вёску і рабілі, што маглі, для паляпшэння жыцця сваіх сялян. Такія факты, бясспрэчна, былі не шматлікімі, але яны ўражвалі сваёй навізной і выклікалі ў сучаснікаў захапляючае ўхваленне. Пятро



Кахоўскі у сваім лісце да генерала Левашова з захапленнем апісвае, можа быць у некалькі перабольшаным выглядзе, накірунак, якім было прасякнута маладое пакаленне. “У нас маладыя людзі, пры ўсім існуючым недахопе сродкаў, занятыя больш чым дзе б та ні было. Шмат хто із іх звольніліся са службы і ў невялікіх сваіх вясковых дварах вучацца, занімаюцца ўладкаваннем і адукацыяй земляробаў, якія былі накаваны ім лёсам. Часта ў аддаленым ад сталіцы месцы

[213] Успаміны, 401, 407.
[214] Сведчанні Сяргея Мураўёва-Апостала.

сустрэнеш чалавека з сапраўды адукаваным сэрцам і душой. Новае ўзнікаючае пакаленне нашых юнакоў з захапленнем і натхненнем разрываюць завесы, якi засьцілаюць ісьціну і прнікаюць у глыбіню яе! Сколькі зараз сустрэнеш 18-ці гадовых маладых людзей, пра якіх беспамылкова можна сказаць, што яны чыталі старыя кніжкі. У афіцыйных навучальных установах адукацыя дастаткова сціплая; адкуль жа яны набываюць свае веды? У сілу духу часу. Пара танцаў, балоў, вострых слоў прайшла; у размовах балбатанне замянілася разважаннем”[215].

Мы пазнаёміліся з агульным настроем тагачасных ліберальных колаў. Цікава зараз прыслухацца да сведчанняў розных асоб пра крыніцу іхнай адукацыі. Гэта бліжэй пазнаёміць нас з тым асяроддзм, пра якое ідзе размова, наблізіць нас да тых асоб, пра якіх нам часта даводзіцца згадваць.

Князь Яўген Абаленскі на пытанне Следчага Камітэта пра падставы, якi ўплывалі на развіццё ў яго ліберальных ідэй, даў адказ, што падобныя ідэі сфарміраваліся ў яго пад уплывам размоў, чытання кніжак і асабістых назіранняў. “Вальнадумства, - апавядаў ён, - я набыў пад час службы шляхам стасункаў з адукаванымі людзьмі,

-215-

якія ўдзельнічалі ў кампаніях 1812 года, чытаннем разнастайных палітычных кніжак, разважанняў і знаходжаннем у грамадстве, якое мела палітычныя мэты. Зацвярджалася ж яно і ўкаранялася з дапамогай духу часу, назіраннем за падзеямі, разнастайнымі рэвалюцыямі якія адбыліся ў апошнія гады амаль ва ўсіх краінах свету (выключаючы Афрыку). Якія ж асабліва кніжкі больш за ўсё ўздзейнічалі на стан маіх думак, я сказаць не магу, таму што чытаў я разнастайныя кніжкі, наогул, дапамагала гэтаму чытанне публіцыстаў: Benjamin Constant, Bignon і інш.”[216].

Аляксандр Бястужаў у сваім сведчанні апавядае, што “з дзевятнаццаці гадоў я пачаў чытаць ліберальныя кніжкі”. У іншым месцы сваіх сведчанняў ён апавядае, што вальнадумства ён больш усяго запазычыў з кніжак, з захапленнем чытаў французкіх і англійскіх публіцыстаў, захапляўся прамовамі дэпутатаў французкай палаты. Із гісторыкаў найбольшы ўплыў на яго меў Герэн і із публіцыстаў Бентам. Із рускіх твораў ён згадвае вядомую кніжку Дзяніса Фон-Візіна “Пра неабходнасць законаў”; гэты твор уяўляе із сябе вельмі рэзкую крытыку рускага самаўладдзя[217]. Заўважым, што гэты твор меў вялікі ўплыў і на маладога марскога афіцэра Бяляева[218]. Пра Фон-Брыгена граф Кушалеў-Безбародка сведчыць, што той любіў гісторыка-філасофскія заняткі. Чытаючы творы Маблі, Сміта ці якую-небудзь філасофскую кніжку, Фон-Брыген забываўся пра ўвесь свет. Ён меў добрую бібліятэку французкіх, нямецкіх і лацінскіх кніжак[219]. Пра сваю дапытлівасць,

---

215 Дубровін, “Руская Старына”, 1904, сакавік, 488-489.
216 Сведчанні князя Абаленскага, стр. 5.
217 Сведчанні Аляксандра Бястужава.
218 Сведчанні Бяляева 1-ага.
219 Браілоўскі, “Із жыцця аднаго дзекабрыста”, “Руская Старына”, 1903, сакавік, 543.

любоў да чытання згадвае Бяляеў у сваіх пазнейшых успамінах. “Я быў дапытлівым, - піша ён, - і таму з захапленнем чытаў усё, што найбольш абуджала маю цікавасць, у тым ліку Вальтэра, Русо і творы энцыклапедыстаў; пачаў перакладаць “L’homme, Savrage Meriev” і з не вопытным, мала адукаваным розумам хутка пусціў у свае думкі вялікую частку тагачаснага скептыцызма і потым адсутнасьці веры. Із філасофскага лексікона Вальтэра больш за іншае на мяне ўздзейнічалі фанатызм і іншыя падобныя артыкулы. Такім чынам, патрохі, прыйшла поўная абыякавасць і недавер да рэлігіі, следствам чаго было гарачае імкненне да асалодаў. Час адсутнасьці ў ва мне веры і асляпленне доўжыўся гады два, не больш. Дзякуючы Богу я хутка прыйшоў у сябе”[220].

Згодна сведчання Аляксандра Мураўёва, ён чытаў і вывучаў Макіявэлі, Мантэск’е, Русо і іншыя палітычныя творы[221].

Наогул, у асяроддзі дзекабрыстаў выяўляецца шмат людзей з шырокай і разнастайнай адукацыяй. Не гаворым ўжо пра такіх людзей як Пестэль, адна “Руская праўда” якога і шэраг нататкаў у яго паперах па вайсковай і вайскова-адміністрацыйнай справах сведчаць пра тое, што мы маем справу з выдатным навукоўцам і вялікім розумам, не гаворым пра Мікіту Мураўёва, Вільгельма Кюхельбекера, Аляксандра Бястужава, Рылеева, Мікалая Бястужава, Карніловіча, Міхала Фон-Фізіна, пра барона Штэйнгеля і пра шмат іншых, літаратурная дзейнасць якіх добра падцвярджае іхныя здольнасьці і ступень адукаванасьці. Тут мы паказваем


толькі звесткі, якія характэрызуюць пачатковую аснову, пачатак тых ведаў і адукацыі, якія былі засвоены тымі ці іншымі асобамі. Для характарыстыкі эпохі і асоб мы пераважна выкарыстоўваем у дадзеным выпадку аповеды саміх дзекабрыстаў і звяртаем галоўным чына ўвагу на людзей да гэтага часу не вельмі вядомых. Звернем увагу яшчэ на токога, да апошняга часу мала вядомага дзекабрыста, як Пятро Кахоўскі. Згодна слоў яго біёграфа ў сваіх лістах із крэпасьці пра недахопы рускай рэчаіснасьці і захады для іхнага выпраўлення Кахоўскі паказаў сябе адукаваным чалавекам. Ён добра знаёмы з эканамічнымі навукамі, дзяржаўным правам і палітычнай гісторыяй. Сучаснае яму ўладкаванне заходне-еўрапейскіх дзяржаў Кахоўскі ўяўляе сабе ў дастаткова вызначаным выглядзе. Ён заявіў камісіі, што вывучаў палітычныя навукі і на пытанне, адкуль у яго з’явілася вальнадумства, Кахоўскі напісаў: “Думкі фарміруюцца з цягам часу; вызначана я не магу сказаць, калі мае разуменні сфарміраваліся. З дзяцінства вывучаючы гісторыю грэкаў і рымлян і быў у захапленні героямі старажытнасьці. Нядаўнія перавароты ў формах кіравання ў краінах Яўропы моцна ўздзейнічалі на мяне. Нарэшце, чытанне ўсяго таго, што было вядома ў свеце па палітычнай частцы, дало накірунак маім думкам. Будучы ў 1823 і 1824 гадах за мяжой я меў шмат нагод чытаць і вучыцца: адзінота, назіранні і кніжкі былі маімі

[220] “Успаміны пра перажытае і адчутае”, “Руская старына”, 1880, 834-835.
[221] Сведчанні Аляксандра Мураўёва.

настаўнікамі”[222]. У гэтым тлумачэнні Кахоўскага вельмі цікава яго прызнанне ў тым, што ён захапляўся героямі класічнай старажытнасьці. Сапраўды, антычнай старажытнасьцю захапляліся і некаторыя іншыя дзекабрысты: яна вабіла іх рэспубліванскай свабодай. “Я згадваў блажэнныя часы Грэцыі, -



апавядаў пра сябе Пестэль, - калі яна складалася із рэспублік і далейшае яе жаласлівае становішча. Я параўноўваў вялічавую славу Рыма пад час рэспублікі з яе сумным становішчам пад уладай імператараў”[223]. Пра тое ж апавядаюць і сведчанні Бацянкова; ён нават лічыць, што вывучэнне гісторыі наогул уплывае на абуджэнне думак аб перавазе формаў вольнага кіравання: “Першыя думкі пра выгоды вольных формаў кіравання і захапленне імі, як гэта звычайна бывае, я атрымаў пад час вывучэння гісторыі. Старажытныя грэкі і рымляне захапілі мяне з дзяцінства”[224]. Згодна слоў Ліхарава, старажытныя грэкі і рымляне ўяўляліся яму яшчэ ў самым раннім юнацтве ўзорам рэспубліканскіх дабрачыннасьцей[225].

Аднак, было б памылкова думаць, што знаёмства з палітычнымі і эканамічнымі творамі замежных пісьменнікаў было адзінай навуковай крыніцай адукацыі даў. У тыя часы Расія была яшчэ мала вядомай ў навуковым дачыненні, у гістарычным, экамічным, пабытовым. Нават сама думка вывучэння свайго народу тады была вялікай навіной. Больш-менш адукаванае рускае грамадства знаходзілася пад вялікім уплывам французкай літаратуры; яно размаўляла па-французку, чытала французкія кніжкі, думала па-французкі і ведала Францыю лепш, чым Расію. З гэтай нагоды вельмі цікавая тая абставіна, што менавіта із асяроддзя дзекабрыстаў выйшаў заклік да вывучэння народнага побыту, рускай гісторыі. Гэты закліч да вывучэння рускай нацыянальнасьці быў вельмі далёкі ад Шышкоўскага стараверства. З гэтым нам яшчэ давядзецца пазнаёміцца больш падрабязна. Зараз звернем увагу толькі на некаторыя факты, якія сведчаць нам пра тое, што Расія не была забытай пры навуковых



занятках дзекабрыстаў. Нават чалавек які шмат часу правёў на чужыне, цалкам прыстасаваны да Захаду, Д. Я. Завалішын, сведчыць, што ён, знаёмячыся з featured рознымі формамі дзяржаўнага ўладкавання і грамадзкага побыту, “патрабаваў перш за ўсё знаёмства з жаданнямі, разуменнем і пабытовымі ўмовамі народа”[226]. Пра Рылеева вядома, што ён сябраваў з вядомым археолагам Строевым і, магчыма, гэтае сяброўства дало яму магчымасць пазнаёміцца са шмат якімі бакамі рускай гісторыі. Паведамляючы гэты факт Кропатаў, аўтар які наогул ставіцца да дзекабрыстаў не вельмі добразычліва, аднак, прызнае, што веды Рылеева ў дачыненні айчыннай гісторыі былі дастаткова грунтоўнымі[227].

[222] Шчогалеў, “Пятро Рыгоравіч Кахоўскі”, “Былое”, студзень, 1906, 136.
[223] Сведчанні Пестэля, “Былое”, 1906 год, люты, 137.
[224] “Мемуары дзекабрыстаў”, I, 159.
[225] Сведчанні Ліхарава, стр. 6 об., 23 красавіка 1886 г.
[226] Нататкі, т. I, 247.
[227] Кропатаў, “Некалькі звестат пра Рылеева”, “Рускі веснік”, 1869. Сакавік, 237.

Дарэчы, пра стаўленне дзекабрыстаў да Расіі, да яе гісторыі, нам яшчэ давядзецца гаварыць.

Перад намі прайшоў доўгі шэраг фактаў, якія паказваюць на заходне-еўрапейскі ўплыў, як на штуршок, які быў для шмат каго пачатковым у пошуках грамадзянскай і палітычнай праўды. Але із гэтага зусім нельга рабіць выснову, што ўвесь рух дзекабрыстаў можа быць прыпісаны выключна знешнім ўплывам. Гэта не было пераймannем у еўрапейцаў. Да снежаньскай рэвалюцыі рэвалюцыйны рух на Захадзе меў ужо трыццаці пяці гадовую гісторыю. За яго развіццём сачылі і ў Расіі, але гэтыя назіранні не прыводзілі да спроб дзейнічаць адкрыта. У гэты час у Расіі існаваў шэраг умоў, пры якіх уплыў заходне-еўрапескіх падзей знайшоў прыдатную глебу. Гэтыя ўмовы заключаліся ў сумным унутраным становішчы краіны. Мы ўжо бачылі наколькі гэтае становішча заклапочвала дзекабрыстаў. Такім чынам, снежаньскую рэвалюцыя ні ў якім разе нельга прызнаць простым

-220-

адлюстраваннем еўрапейскіх падзей. Гэта не было таксама рэвалюцыяй, якая выходзіла іх тэарытычных меркаванняў, вычытаных із той ці іншай кніжкі. Кніжкі былі толькі сродкам зразумець рэчаіснасць. Кніжкі толькі адшліфоўвалі разуменні. Было б неправільна думаць пра снежаньскую рэвалюцыю, як аб адлюстраванні тэарэтычных высноў, - так жа як неправільна прыпісваць кніжкам французскую рэвалюцыю, як пра гэта заяўляў Луі Блан. З другога боку, неправільна было б думаць, што штуршком да чытання і вывучэння дзекабрысты атрымалі выключна пад уздзеянем асабістага знаёмства з Заходняй Еўропай. Бяспрэчна, гэты ўплыў нельга адмаўляць для вельмі шмат каго. Але нельга таксама забывацца пра тое, што шмат хто із дзекабрыстаў былі ў складзе замежнага войска ў дастаткова юнацкім узросце, калі людзі яшчэ не звяртаюць увагі на складаны дзяржаўны механізм і якраз пад час паходаў перажывалі той узрост, калі юнак упершыню засвойвае грамадзянскія разуменні. Магчыма, гэтая апошняя абставіна і была падставай таго, што шмат хто із дзекабрыстаў прыпісваюць заходне-еўрапейскаму ўплыву вельмі вялікае занчэнне.

Думаць, што адзін толькі ўплыў захадне-еўрапейскіх падзей быў штуршком для дзекабрыстаў, каб узняць сцяг паўстання, – гэта азначала б прызнаць у іх недастатковую папярэднюю падрахтоўку, недахоп папярэдняй адукацыі, ведаў. Такая думка, якая, дарэчы, не аднойчы выказвалася ў варожай дзекабрыстам літаратуры (напрыклад,  у Багдановіча, Кропатава, Грэча і шмат інш.), было б у вышэйшай ступені неправільнай. Бяспрэчна, у вялікім гурту людзей, якія былі далучаны да следства за ўдзел у Таемным Таварыстве, былі і людзі так-сяк адукаваныя; але ў

-221-

пераважаючай большасьці асяроддзе дзекабрыстаў уяўляе із сябе цьвет тагачаснага інтылігентнага рускага гарамадства. І, зноў такі, гэтае выключнае становішча дзекабрыстаў зусім не з’яўляецца следствам знаходжання іх у Заходняй Яўропе і кароткага ўплыву на іх заходне-еўрапейскіх падзей. Высокая адукаванасць дзекабрыстаў, асноўнага іхнага ядра, тлумачыцца, перш за ўсё,

выдатнай навукова-асветніцкай падрыхтоўкай, якую яны атрымалі яшчэ на школьнай лаўцы, перад сваім уступленем у жыццё і, як следства, да свайго знаёмства з Заходняй Яўропай.

На самай справе, нават з вонкавага боку, адукацыйны цэнз дзекабрыстаў для таго часу патрэбна прызнаць высокім. Мы добра ведаем тагачасную Расію з яе невялікімі адукацыйнымі сродкамі. Універсітэцкія выхаванцы лічыліся дзесяткамі ў кожным універсітэце, Царскасельскі ліцэй толькі нараджаўся, нават сярэдніх школ было вельмі мала і тыя не вызначаліся шматлюдствам. Тагачаснае войска і канцылярыі былі перапоўнены людзьмі, у фармулярах якіх пазначалася, што яны атрымалі “хатнюю адукацыю”, г. зн. неяк і нечаму вучыліся ў сямейных гувернёраў. Між іншым, калі ўзяць сведчанні пра адукацыйны цэнз дзекабрыстаў, то ён выяўляецца для таго часу вельмі высокім. Разгледзім частку толькі тых дзекабрыстаў, якія былі пакараны, г. зн. сто дваццаць адзін чалавек. Выяўляецца, што шэсць чалавек із іх атрымалі адукацыю ў Маскоўскім універсітэце, адзін у Харкаўскім і адзін у Гецінгемскім[228]. У Маскоўскім універсітэцкім пансіёне



навучалася восем чалавек[229]. У Царскасельскім ліцэі закончылі курс двое із дзекабрыстаў[230]. У Горным корпусе і шляхоў зносін атрымалі адукацыю трое[231]. У знакамітым вучылішчы калонаважатых, якое ў той час мела значэнне вайсковай акадэміі і было выдатна ўладкавана ў дачыненні выкладання, атрымалі адукацыю адзінаццаць дзекабрыстаў із якіх двое перайшлі ў гэта вучылішча із універсітэта[232]. У Адэскім ліцэі атрымаў адукацыю адзін дзекабрыст (Карніловіч), адзін у Лясным інстытуце (Фаленберг) і адзін у медыка-хірургічнай акадэміі (доктар Вольф).

Такім чынам, са ста дваццаці чалавек 25 атрымалі вышэйшую адукацыю; да іх патрэбна далучыць і выхаванцаў універсітэцкіх пансіёнаў. Із гэтага можна зрабіць выснову, што нават са знешняга боку адукацыйны цэнз дзекабрыстаў быў вельмі высокім; гэтая абставіна атрымлівае яшчэ большае значэнне ў нашых вачах, калі мы не будзем забывацца на крайнюю нешматлікасць адукаваных людзей у асяроддзі тагачаснага грамадства. Із астатніх – шаснаццаць чалавек атрымалі адукацыю ў прыватных пансіёнах як пецярбургскіх, так і замежных.

Так Сяргей і Мацвей Мураўёвы-Апосталы выхоўваліся ў Парыжы у пансіёне Гікса, дзе набылі выдатную адукацыю. Шмат хто із гэтай катэгорыі асоб

[228] Мікіта Мураўёў (курс не скончыў), Якушкін. Муханаў, Загарэцкі, Юшнеўскі (курс не скончылі), Артамон Мураўёў і Шымкоў (Харкаўскі ўніверсітэт); Мікалай Тургенеў скончыў Гецінгемскі ўніверсітэт.

[229] Кахоўскі, Сутгоф, Якубовіч, Міхал Фон-Візін, Крыўцоў, Глебаў (у Пецярбургскім пансіёне), Павала-Швейкоўскі, Вадкоўскі, Паліванаў.

[230] Вільгельм Кюхельбекер і Ян Пушчын.

[231] Аляксандр Бястужаў і Цэбрыкаў, не закончылі тут курс і Бацянкоў, які здаў іспыты на інжынера ўжо будучы афіцэрам у войску.

[232] Муханаў і Загарэцкі із Маскоўскага ўніверсітэта перайшлі ў вучылішча калонаважатых. Абодва Бобрышчавы-Пушкіны перайшлі ў гэтае вучылішча із Маскоўскага ўніверсітэцкага пансіёна; нарэшце, Чарнышоў, Крукаў 2-гі. Басаргін, Заікін, Ян Аўрамаў, Чаркасаў, Ліхараў прыйшлі ў вучылішча пасьля хатняй падрыхтоўкі ці прыватных пансіўнаў.

атрымалі адукацыю ў знакамітых у свой час пецярбургскіх пансіёнах Жакіно, Мікаля і ў іезуіцкім; у іх выхоўваўся ў тыя часы цьвет пецярбургскай арыстакратыі[233]. Нарэшце, пятнаццаць чалавек атрывалі хатняе выхаванне[234]. Астатнія сорак адзін чалавек атрымалі адукацыю ў пажаскім корпусе, у кадзецкіх карпусах, у марскім корпусе, у дваранскім палку і ў пецярбургскай гімназіі[235]. Але патрэбна адзначыць, што із тых хто ў фармулярных спісах пазначаны, як выхаванцы кадзецкіх карпусоў ці хатнія, шмат хто атрымалі выдатную адукацыю, так як яны карысталіся прыватнымі лекцыямі тагачасных прафесароў. Гэта быў у той час дастаткова распаўсюджаны звычай у асяроддзі заможнага дваранства. Так, напрыклад, Пестэль атрымаў выдатную адукацыю ў Дрэздэне, вытрымаў іспыты ў пажаскім корпусе і пасьля атрымання афіцэрскага звання слухаў курс юрыдычных

навук у знакамітага акадэміка і прафесара Германа[236]. Кн. Фёдар Шахоўскі скончыў навучанне ў пансіёне Жакіно ўжо будучы на службе ў Маскве, вывучэннем курса палітычных навук у прафесара Шлёцэра; у яго ж научаўся і кн. Валерыян Галіцын. Атрымліваючы хатнюю адукацыю Аляксандр Міхайлавіч Мураўёў слухаў курсы ў прафесароў Куніцына, Германа і Салаўёва, Брыген – у прафесара Раупаха; Міхал Бястужаў-Румін навучаўся дома ў прафесароў: Мерзлякова, Цвятаева, Чумакова, Камянецкага і інш. выкладчыкаў. Рылееў слухаў прыватныя[237] курсы палітычнай эканоміі ў прафесара Плісава.

Із гэтага пераліку дадзеных, якія сведчаць пра атрыманую дзекабрыстамі першапачатковую адукацыю, можна зрабіць бяспрэчную выснову, што мы маем справу з гуртом вельмі адукаваных для свайго часу людзей. Бяспрэчна, гэтым яшчэ не тлумачыцца іхная большая успрымальнасць (у параўнанні са шматлікімі іншымі афіцэрамі) да ўсяго таго, што яны бачылі за мяжой пад час паходаў і, нарэшце, іхнае далейшае імкненне да набыцця ведаў. Такім чынам, назіральнікамі заходне-еўрапейскіх падзей, людзьмі, якія вывучалі палітычную эканомію ці юрыстпрудэнцыю па творах тагачасных лепшых прадстаўнікоў

[233] Так у Жакіно навучаліся: Рэпін, Шахоўскі; у абата Мікаля: Ваўконскі; там жа першапачаткова навучаўся і Давыдаў; у іезуіцкім пансіёне: Аржыцкі, князь Барацянскі, Іосіф Паджыо; у розных іншых пансіёнах і ў нямецкім Петрапаўлаўскім вучылішчы навучаліся: Брыген, Лаппа, Чыжоў, Назімаў, Кажэўнікаў, Вадкоўскі, Враніцкі (у Багеміі), Крукаў 1-шы, Ентальцаў.

[234] Трубяцкі, Абаленскі, Папоў, Адаеўскі, Аляксандр Мураўёў, Лунін, Аненкаў, карнет Аляксандр Міхайлавіч Мураўёў, Нарышкін, Фок, Канаўніцын, Таўсты, Бястужаў-Румін, Аляксандр Паджыо, Фохт.

[235] Так із пажаскага корпусу выйшлі: Нораў, Івашоў, гр. Булгары, Пестэль, кн. Валерыян Галіцын, Свістуноў; із марскога корпуса выйшлі: кн. Шчэпін-Растоўскі, Міхал, Мікалай і Пятро Бястужавы, Арбузаў, Завалішын, барон Штэйнгель, Тарсон, абадва браты Бяляевы, Бадзіска 1, Міхал Кюхельбекер, гр. Мусін-Пушкін, Акулаў, Вішнеўскі, Бадзіка 2, Цютчаў, з 1-ага і 2-ога кадзецкіх карпусаў: Шахіраў, Берстэль, Грамніцкі, Андрэеевіч 2, Павел Аўрамаў, Краснакуцкі, Цізенгаўзен, Міхал Пушчын, Міцькоў, Рылееў.

[236] “Былое”, 1906, люты, стр. 134.

[237] Крапаткоў “Некалькі сведчанняў пра Рылеева”, “Рускі Веснік”, 1869 год, сакавік, 237. Звесткі пра адукацыйны цэнз астатніх дзекабрыстаў надрукаваны ў дадатку да кнігі Багдановіча на аснове іхных фармулярных спісаў: “Гісторыя царавання імператара Аляксандра І”, дадаткі, стр. 62.

заходне-еўрапейскай навукі, былі не неафіты, упершыню абдзіўшыяся, выпадкова зацікавіўшыяся тымі ці іншымі пытаннямі,

-225-

але людзі, дастаткова падрыхтаваныя, меўшыя звычку думаць самастойна. Калі заходне-еўрапейскія падзеі ўздзейнічалі на іх мацней, чым на массу іншых, то гэта цалкам зразумела: таму што і ў нашы дні барацьбу за свабоду вядуць лепшыя элементы грамадства, якія ўразумелі перавагу грамадзянскіх свабод для дзяржавы значна раней, чым пачалася барацьба.

Але, ва ўсякім разе, просты пералік атэстатаў, хаця для таго часу маючы і вялікае значэнне, усётакі яшчэ не можа быць відавочным доказам вышыні інтэлектуальнага асяроддзя, пра якую тут ідзе гаворка. Для падцверджання той жа думкі гісторыя мае не малы арсенал іншых доказаў: ён складаецца з твораў разумовай дзейнасьці, пра якія можна базпамылкова разважаць без браня да ўвагі школьных дыпломаў, ці сведчанняў пра чытанне той ці іншай кніжкі. у асяроддзі дзекабрыстаў мы сустракаем некалькі выбітных талентаў на ніве рускай літаратуры. Значэнне вялікага літаратурнага таленту не выклікае сумненняў: стаяць побач з Пушкіным гэта высокі гонар для паэта, але папярэдзіць Пушкіна цэльнасьцю ідэй, закладзеных у паэтычныя творы, складае вялікую заслугу пісьменіка. Праўда, меншае значэнне ў гісторыі рускай літаратуры, крытыкі і публіцыстыкі маюць такія пісьменнікі, як Вільгельм Кюхельбекер, кн. Адоеўскі, Аляксандр Бястужаў-Марлінскі, але, тым не менш, іхнае заначэнне ў гісторыі развіцця рускай літаратуры далёка не іх апошніх; Марлінскі ў свой час быў адным із папулярных раманістаў, а як крытык, ён з’яўляецца папярэднікам Бялінскага. Акрамя гэтых імёнаў, заслугі якіх агульпрызнаны, нагадаем яшчэ, што ў асяроддзі дзекабрыстаў сустракаем шэраг пісьменнікаў менш выбітнога кшталту: такімі з’яўляюцца паэтычныя творы Бобрышчава-Пушкіна, Уладзіміра Раеўскага, Бацянкова; Мікалай Бястужаў быў

-226-

вядомы сваімі “Нататкамі аб Галандыі” і “Натакамі старога марака”. Сярод дзекабрыстаў вылучыўся шэраг пісьменнікаў па пытанях навуковых ці, нарэшце, складальнікаў капітальных праектаў, якія мелі дачыненне да разнастайных бакоў дзяржаўнага жыцця. Большасць з іх пачалі сваю навуковую дзейнасць яшчэ да рэвалюцыі і потым працягвалі яе і ў гады высылкі. Пакажам некалькі прыкладаў, наперад робячы заўвагу, што яны далёка не поўныя: у дадзеным выпадку ў нас няма намеру даваць характарыстыку навукова-літаратурнай дзейнасьці дзекабрыстаў, што можа быць задачай толькі асобнай манаграфіі. Ужо не раз даводзілася спасылацца на “Вопыты тэорыі падаткаў” Мікалая Тургенева – выдатны твор для свайго часу. Навуковая дзейнасць Тургенева працягвалася і за мяжой. Акрамя сваіх мемуараў “La Russie et les russes”, прысвечаных не толькі ўспамінам але і змяшчаючых шэраг палітыка-юрыдычных арыкулаў, ён на працягу паловы стагоддзя выдаў шэраг іншых прац; апошнім па часу яго творам з’яўляецца “Пра маральныя адносіны Расіі да Яўропы” (1869).

Карніловічу належыць шэраг прац пераважна гістарычнага зместу. Карніловіч наогул шмат часу аддаваў гісторычным пытанням, працаваў у архівах

як пецярбургскіх, так і маскоўскіх, першапачаткова па даручэнню вядомага ваеннага гісторыка Бутурліна, які тады вывучаў паходы Пятра Вялікага і гісторыю 1812 г. Карніловічу належаць некалькі перакладзеных артыкулаў з галанскай мовы, надрукаваных у “Рускім Архіве” 1822-1824 гадоў. (“Першы вопыт караблебудавання ў Расіі”. “Пасольства рускіх у Галандыю” і інш.); у 1824 годзе ён разам з гісторыкам Данскога казачага войска Сухарукавым выдаў альманах пад назвай “Руская Старына”. У ім яму належыць артыкул “Аб звычаях рускіх пры Пятру Вялікім”. Згадаем пра лейтэнанта Чыжова,

-227-

які размясьціў у тагачасных часопісах “Тапаграфічнае апісанне новай зямлі” і шэраг іншых артыкулаў (пра гэта Чыжоў апавядае ў сваіх сведчаннях). Барон Штэйнгель адзін із ліку пладавітых пісьменнікаў пібліцыстаў. Першы яго твор выйшаў у 1814-1815 гадах пад назвай “Нататкі маючыя дачыненне да самой нагоды санкт-пецярбургскага апалчэння супраць ворагаў айчыны ў 1812 і 1813 гадах, з кароткім аглядам усіх адбыўшыхся падзей пад час бедстваў і выратавання нашай айчыны і з падрабязным апісаннем асады Данцыга”; дзве часткі. Потым Штэйнгелю належаць артыкулы ў “Сыне Айчыны” 1820 года (“кароткія сведчанні пра жыцё, характар і самой канчынебылга маскоўскага ваеннага генерал-гебернатара ргафа А. П. Тармасава”), артыкул у “Весніку Яўропе” (“Гістарычная спраўка пра падставы і час усталявання крэстнага ходу ў Навадзевічы манастыр”). Ужо ў Сібіры барон Штэйнгель супрацоўнічаў з часопісамі “Маяк” і “Часопіс Міністэрства Ўнутраных Спраў”з артыкуламі статыстычнага і геаграфічнага характару. Дарэчы, яго літаратурная дзейнасць моцна абмяжоўвалася Трэццім Аддзяленнем і шмат якія яго працы былі ім забаронены і засталіся ў архівах гэтага Аддзялення; некаторыя яго артыкулы, пераважна геаграфічнага накірунку, толькі пазней з’явіліся ў часопісах “Век” і “Зара”[238]. Генерал Міхал Фон-Візін з’яўляецца аўтарам паважнага шэрагу навукова-публіцыстычных прац, напісанных ім у 1840-50 гадах. Так, акрамя “Агляд праяў палітычнага жыцця ў Расіі”, ім напісаны яшчэ да гэтага часу не надрукаваныя трактаты: “Аб прыгонным стане земляробаў у Расіі”, “Запіска аб указе 2 красавіка 1842 г.”, “Аб камунізме і сацыялізме”, “Аб перайманні рускімі еўрапейцаў”

-228-

і некаторы іншыя. Нораў у 1829 годзе надрукаваў “Нататкі пра паход 1812-1813 гадоў”. Міхал Арлоў вядомы сваім творам “Пра ўзяцце рускімі Парыжа”. Мікіце Мураўёву належыць крытычная запіска аб гісторыі Карамзіна з вельмі дэталёвымі заўвагамі[239]. Мы ўжо згадвалі пра літаратурныя працы Мікалая Бястужава. Ён працягваў сваю пісьменніцкую дзейнасць і ў Сібіры. Тут ён напісаў трактаты: “Пра свабоду гандлю”, “Сістэма міра”, “Спрошчанае ўладкаванне хранометраў”[240]. Нагадаем пра шэраг гісторыка-геаграфічных артыкулаў

[238] “Грамадзкія рухі”, 310.
[239] Мілюкоў “Галоўныя плыні рускай гістарычнай думкі”, 194.
[240] “Руская Старына”, 1881 г. т. I, 632.

Завалішына, не гаворачы ўжо пра тыя артыкулы, якіямаюць характар успамінаў[241]. Складаючы пералік твораў дзекабрыстаў, апускаем тыя із іх, якія маюць характар мемуараў, хаця, бяспрэчна, і гэтыя апошнія, як і кожны літаратурны твор, адлюстроўваюць у сабе разумовы кругагляд іхных аўтараў. Нагадаем таксама, што такія трактаты, як канстытуцыя Мікіты Мураўёва і асабліва “Руская Праўда” Пестэля, уяўляюць значныя палітыка-юрыдычныя творы. Гэта асабліва мае дачыненне да “Рускай Праўды”, пра змест якой нам яшчэ давядзецца гаварыць. У паперах Пестэля, якія захоўваліся пры следчай справе маецца шэраг вялікіх запісак і трактатаў па вайсковай справе; вельмі магчыма, што з гэтымі трактатамі не безкарысна будзе пазнаёміцца тым, хто займаецца ваеннай справай: вялікі розум Пестэля, бяспрэчна, знайшоў адлюстраванне ў гэтых запісках.

Бацянкоў, які меў таксама шырокія веды і вялікі розум, праявіў свае здольнасьці пры супрацоўніцтве са Сперанскім у Сібіры. Падобна Пестелю, Бацянкоў накіроўвае свае разумовыя здольнасьці на пытанні



маючыя дачынене да розных частак дзяржаўнага кіравання. Калі Сперанскі быў у Сібіры генерал-губернатарам, Бацянкоў даслаў яму адну запіску наконт шляхоў зносін. Гэтая запіска звяртае на сябе ўвагу творчымі ідэямі і бліскучымі здольнасьцямі яе аўтара і Сперанскі наблізіў да сябе Бацянкова. Па даручэнню Сперанскага, бацянкоў збіраў матэрыялы для мясцовай статыстыкі, затым даслаў яму ў выглядзе навуковых аглядаў запіскі па наступных накірунках: 1) Пра сухапутныя шляхі зносін. 2) Аб уладкаванні этапаў. 3) Пра сасланых. 4) Пра іншародцаў. 5) Пра сібірскіх казакаў. 6) Аб заняцці кіргізкага стэпу Сярэдняй арды. 7) аб вывучэнні зямель у Сібіры. (Гэтая запіска пазней была забрана із агульнага збору спраў, перададзена начальніку галоўнага штаба, князю Ваўконскаму і ў далейшым была выкарыстана пры вывучэнні паврхні). Акрамя вышэйзгаданых прац, Бацянкоў занімаўся вышукам шляхоў каля вазера Байкал з вывучэннем мясцовасьці і разгляданнем справы аб шляхах да Ўсходняга акіяна, таксама ўладкаваннем першай у Сібіры ланкастарскай школы і напісаннем для яе падручнікаў, із якіх самым выдатным быў геаметрычны. Пасьля вяртання Сперанскага ў Пецярбург Бацянкоў шмат працаваў пад яго старшынством па складанню Сібірскага Статуту і, акрамя таго, друкаваў артыкулы пра Сібір у “Сыне Айчыны”, адкуль яны перакладаліся ў нямецкія часопісы[242]. Торсан быў вядомы як дасведчаны ў марской справе. “Торсан быў баярд ідэальнага сумлення, - апавядае пра яго Міхал Бястужаў, - і практычнай карысьці: гэта рыцар без страху і дакору ў яго службовым і прыватным жыцці. Маючы неймаверную магутнасць волі ў дасягненні высокародных мэт, ён разам з



гэтым валодаў вялікім запасам цярпення пры няўдачах і ў гэтым быў процілегласьцю з пылкай і падзвіжнай дзейнасьцю брата Мікалая Бястужава.

[241] Спіс артыкулаў Завалішына пералічаны ў дадатку да мюнхенскага выдання яго нататкаў.
[242] “Руская Старына”, 1889 г. жнівень, 309-311, Гаўрыла Сцяпанавіч Бацянкоў, біяграфічны нарыс.

Mais les extremitès se touchent і ў іхным сяброўстве недахопы аднаго папаўняліся лішкамі другога. Яго галава ўвесь час была занятай разнастайнымі праектамі перабудоў выключна маючых дачыненне да флота. Першы яго праект пра матэрыяльнае ўдасканаленне нашага флота быў добразычліва ўспрыняты нябожчыкам імператарам Аляксандрам I, і быў атрыманы загад перадаць пад яго кіраванне новазбудаваны карабель "Эмгейзен" для здзяйснення мяркуемых перамен. Ён шмат пісаў із Петрапаўлаўскай крэпасьці да Мікалая I, і ўсе яго паперы гаспадар загадаў паведаміць складзенаму згодна яго волі марскому камітэту і шмат пераўтварэнняў, вельмі карысных, былі ўладкаваны на флоце. У Чыце Торсан шмат часу аддаваў тым жа заняткам"[243].

Наогул, у нататках сучаснікаў можна знайсьці доўгі шэраг бліскучых характарыстык розуму і ведаў, якія былі ўласьцівы ўдзельнікам снежаньскага паўстання. Гэтыя водгукі маглі б стаць матэрыялам для асобнага артыкула. Той із сучаснікаў, хто меў нагоду сустракацца з дзекабрыстамі, той не мог не адзначыць іхных выдатных якасьцей. Бяспрэчна, іхныя здольнасьці былі рознымі і накіраванымі ў розныя бакі; іхныя характары былі, бяспрэчна, рознымі, але як іхны розум, так веды і адукацыя не выклікаюць сумненняў. Нават у злобных нататках Грэча, для якога былі незразумелымі падставы ўзнікненя ўсяго руху (што натуральна для чалавека вельмі блізкага да Трэццяга Аддзялення), і тут мы сустракаем пахвальныя для большасьці характэрызуемых ім



дзекабрыстаў адозвы. Пра Мікалая Бястужава ён апавядае як пра чалавека разумнага, разважлівага і як аб аўтары цікавых артыкулаў[244]. Згодна назіранняў таго ж мемуарыста, Мікіта Муаўёў быў прыстойным і адукаваным чалавекам[245]. Бацянкаў меў славу разумнага і ведаюшчага чалавека[246]. Непрыхільны да дзекабрыстаў князь Вяземскі дае самыя найлепшыя водзывы пра М. Я. Тургенева: "Тургенеў валодаў здольнасьцямі, якія давалі яму магчымасць стаць выдатным дзеячом. Нельга не пашкадаваць, што яго ўдзел, ці, лепш сказаць, злопалучны ўдзел яго ў Таемным Таварыстве пазбавіў яго магчымасьці быць карысным айчыне. Ён любіў дзейсную службу. Да яе яго цягнула гарачае жаданне дзейснай працы, няўмольная яго правата, веды ў справе дзяржаўнага кіравання. Гэтыя веды з кожным годам удасканальваліся і павялічваліся; вопыт завершыў бы іх поўным поспехам. У сваім безкарысным выгнанні ён сумаваў ад бяздзейнасьці, тужыў па сваёй працы ў канцылярыі Дзяржаўнай Рады"[247]. Сам Тургенеў, у будучым згадваючы ў сваіх мемуарах пра генерала Арлова, аддае павагу вялікаму прыроднаму розуму апошняга, прыстойнаму і ўзвышаннаму характару; ён не лічыў Арлова чалавекам трывалых перакананняў, але, тым не менш, адзначае яго імкненне да ўладкавання школ, яго ўважлівыя адносіны да

[243] Нататкі Міхала Аляксандравіча Бястужава (К. П. Торсан) "Руская старына", 1881 г., лістапад, стр. 606.
[244] Нататкі пра маё жыццё Грэча, 397.
[245] Там жа, 404.
[246] Там жа. 420.
[247] "Рускі Архіў", 1876 г., з нагоды папер А. А. Жукоўскага, стр. 261.

побыту жаўнераў сваёй дывізіі і г. д[248]. Акрамя ведаў, якія характэрызавалі адукаванасць дзекабрыстаў, можна пазначыць тое, што шмат хто валодаў чыста тэхнічнымі ведамі.

-232-

Напрыклад, Карніловіч ведаў амаль усе еўрапейскія мовы[249]. Веданне моваў Завалішыным агульнавядомы факт. Не дзіўна пагэтаму, што калі дзекабрысты апынуліся на катарзе, то ў ішным асяроддзі знайшліся настаўнікі і лектары, якія навучалі сваіх сябраў па нядолі разнастайным навукам і тым прыхарошвалі агульнае не вельмі прывабнае жыццё. Наогул, у Сібіры дзекабрысты выкарыстоўвалі свае веды ў самых розных накірунках. Нагадаем для праклыду хаця б пра заняткі Мікалая Бястужава. За ўвесь час свайго знаходжання ў Сібіры ён не толькі не ўпаў духам, але яшчэ і шмат каго із сваіх сябраў па выгнанню падтрымліваў словам і справай, лічачы не лішнімі, асабліва для маракоў, разнастайныя механічныя заняткі, разганяць дакучаючыя думкі разнастайнымі справамі. Ён паблізу свайго жытла ў Селянгінску зладзіў маленькую лабараторыю для метэрыялагічных назіранняў, прысвячаў шмат часу для вынаходніцтва спрошчаных і танных хранометраў для не вельмі заможных уладальнікаў судоў і таксама прыдумаў спрошчаны курок для стрэльбы. Ён быў добры аграном, фізік, механік, мастак, токар, майстар залатых вырабаў, слесар, навучаў бурат майстраваць акуляры, рамантаваў ім стрэльбы і нават быў шаўцом[250].

На папярэдніх старонках быў сабраны шэраг сведчанняў, якія характарызуюць разумовыя здольнасьці дзекабрыстаў. Гэтыя сведчанні відавочна паказваюць, што мы маем справу з гуртом асоб, якія атрымамі ў тыя часы, калі адукаваных людзей было вельмі мала, вельмі добрую папярэднюю адукацыю. Больш таго, гэты гурт асоб вылучыў із свайго асяроддзя шэраг таленавітых дзеячоў на ніве літаратуры, публіцыстыкі і навукі. Можна і яшчэ нагадаць,

-233-

што дзекабрысты-літаратары былі із таго вытанчанага гурта прадстаўнікоў тагачаснай літаратуры, як Жукоўскі, Пушкін, Грыбаеў, Дэльвіг, Баратынскі, Крылоў і інш.; і калі гэтыя пісьменнікі ацалелі пад час вышуку, то для некаторых гэта была чыстая выпадковасць. Грыбаедаў, дарэчы, можа быць далучаны да шэрагу дзекабрыстаў: ён нават быў пад следствам, але змог пазбернуць асуджэння; магчыма, толькі аддаленасць яго месца службы, была нагодай таго, што ён не мог браць значнага ўдзлу ў дзейнасьці Таемнага Таварыства.

Вось абставіны, якія заахвочваюць аднесьціся з вялікім даверам да сцверджанняў аб сталасьці дзекабрыстаў у палітычным дачыненні; гэтыя абставіны заахвочваюць бачыць у дзекабрыстах людзей, якія мелі поўную магчымасць свядома адносіцца, і да сучаснага ім дзяржаўнага ўладкавання, і да

[248] Карнілаў, “Нарысы па гісторыі грамадзкага руху”, 68.
[249] Багучарскі, “Із мінулага рускага грамадства”, 103.
[250] Зборнік старынных папер, якія захоўваюцца ў музеі Шчукіна, ч. X, 287.

заходне-еўрапейскай палітыка-юрыдычнай літаратуры, і да сваіх асабістых уражанняў, якія былі вынесенымі імі са свайго знаходжання ў Заходняй Яўропе.

# V.
# Імкненне выпрацаваць ідэалы.

Знаходжанне ў Заходняй Яўропе, а затым і чытанне кніжак для пераважаючай большасьці дзекабрыстаў было толькі адным са стымулаў у іхным імкненні выпрацаваць асабісты светапогляд. Прыклад князя Ваўконскага можа быць дастаткова пераканаўчым доказам таго, што не за мяжой дзекабрысты ўзненавідзелі існуючае дзяржаўнае ўладкаванне; замежныя ўражанні часам давалі толькі матэрыял, які пры параўнанні з рускай рэчаіснасьцю і ўжо на рускай глебе садзейнічаў выпрацоўцы палітычнага светапогляду. Для шмат каго, як быўшых за



мяжой, так і для тых хто не назіраў заходнееўрапейкага ўладавання, гаворка ішла якраз пра выпрацоўку, шляхам самаадукацыі, агульнага светапогляду: палітычнага, філасофскага і рэлігійнага. Людзі праходзілі перыяд сумненняў, ваганняў, узмоцненага пошуку ісьціны, пакуль, нарэшце, не српыніліся на некаторых поглядах. Для таго, каб прасачыць гэты складаны разумовы і душэўны шлях, спынімся на вялізным сведчанні Крукава пра тое, як паступова, з вялікай цяжкасьцю, з вялікімі ваганнямі ён выпрацоўваў свой светапогляд. Гэты прыклад тым больш можа лічыцца ўдалым, што Крукаў 2-гі не быў у замежным паходзе і нідзе не спасылаецца на ўплыў заходне-еўрапейскіх падзей на выпрацоўку яго палітычнага светапогляду. Відаць, гэта быў чалавек замкнёны, не схільны падпарадкоўвацца староннім уплывам.

Згдна асабістага прызнання Крукава, ён чытаў мала да свайго выхаду іх корпуса. Маладым афіцэрам ён быў накіраваны ў галоўную кватэру 2-ой арміі. Тады ён пачаў “разважаць пра лепшую для сябе адукацыю”. Ён не вельмі ахвона сыходзіўся з людзьмі, кніжак было мала і таму ён задавальняўся выпадкова трапіўшымі яму ў рукі кніжкамі. Так жа выпадкова, пад час хваробы, будучы ў звальнені і, верагодна, у вёсцы, ён выпадкова прачытаў некалькі кніжак, якія абудзілі ў ім "імкненне да заняткаў”. Гэта былі творы Русо, Дэліля, Дэсаля. “Тут у ва мне нарадзілася жаданне вывучыць чалавека і ўсё тое, што можна назваць яго шчасьцем”, апавядае ён. Тады ён пачаў чытаць кніжкі па філасофіі і палітыцы. Ён прачытаў Вейса, Філанджыеры, Мантэск’е, Бюрламакі, Лакрэтэля і інш. Ён ужо “гарэў любоў’ю да чалавецтва”. Чытане наблізіла яго да рыдігійных пытанняў і ён “смела пайшоў наперад” да крытыкі хрысьціянскай рэлігіі. “Па-першае; адкінуў шмат якія богашанавальныя звычаі, як недарэчныя, заснаваныя толькі на



забабонах”. Потым з’явіліся сумненні ў іпастаснай Троіцы, як “незразулай для чалавечага розуму”. У яго выпрацоўваецца асабісты рэлігійны светапогляд, які вызначаецца наступнай формулай: “Усявышні, думаў я, - апавядае пра сябе

Крукаў, - узнагародзіў нас розумам для таго каб адрозніваць дабро ад шкоды; значыць, гэта і ёсць адзіны арыентыр якім мы павінны кіравацца ў гэтым нашым жыцці, а пагэтаму першы наш абавязак складаецца ў тым, каб асьвяціць свой розум, ачысьціць яго ад шкодных забабонаў. Такім чынам, пераконваючы сябе ў тым у што хацеў верыць, я адчыныў дзверы да вальнадумства”. Праз чытанне Крукаў атрымаў ужо дастатковую падрыхтоўку і толькі тады стаў сябрам Таемнага Таварыства. Гэты момант для яго быў вельмі радасны; яго радасць падтрымлівалася ўсведамленнем, што ён можа “падобным чынам садзейнічаць дабрабыту сваёй айчыны”.

Уступленне ў Таемнае Таварыства зрабіла на Крукава вялікі ўражанне. Мы бачылі, што ён ўжо паспеў выпрацаваць у сябе вальнадумства як у палітычным дачыненні так і рэлігійным. Ён з натхненнем аддаецца далейшай самаадукацыі, якую ён лічыць яшчэ недастатковай. Зараз ён вывучае палітычныя і гістарычныя навукі, але не цураецца і філасофіі. Зараз ён знаёміцца з творамі Беккарыа, Дзету-дэ-Трасі, Гельвецыя, Бентама, Кандзільяка, Сэя, Гольбаха, Вассэля, Сміта, Макіявелі і інш. “З дапамогай усіх гэтых аўтараў, - апавядае Крукаў, - я яшчэ больш пераканаўся ў папярэдніх сваіх меркаваннях, згадзіўся на падманчывае правіла (падманчывае таму, што Крукаў піша прызнанне для сваіх следчых і згадкамі пра раскайванне разлічвае палепшыць сваю долю), што сродкі робяцца высакароднымі праз мэту і атрымаў вызначае ўяўленне аб уладкаванні прадстаўнічага кіравання”. Сумныя факты рускай рэчаіснасьці, напрыклад,



прыгоннае права, вырабляюць зараз на яго моцнае ўражанне. Але ў Крукаве прадаўжае ўплываць філосаф і рэлігійны вальнадумец: ён высока ставіць адукаванасць і прыходзіць да думкі, што рабства і невуцтва знаходзяць падтрымку ў рэлігійных забабонах, між іншым, у спадзяванні на будучае існаванне, грамадства ж можа стварыць толькі добры прыклад і добрае заканадаўства. “Цалкам адчуваючы гаротнасць рабства і невуцтва, - тлумачыць ён, - усё больш і больш пераконваўся ў тым, што толькі адна агульная асвета можа зрабіць дзяржаву заможнай і абураўся рэлігійнымі забабонамі, якія перашкаджалі яе распаўсюджванню. Надзея на будучае жыццё, - думаў я, - адварочвае ад адукацыі, жывіць эгаізм, садзейнічае прыгнёту і перашкаджае людзям убачыць, што выратаванне можа існаваць і на зямлі. І так, рэлігія здавалася больш шкоднай, чым карыснай. Пры гэтым, бачучы, што людзі ў сваіх паводзінах, кіруючыся ёю, адначасова захапляюцца таксама звычкамі і жаданнямі, - гаварыў я, - а ўсё залежыць ад выхавання, добрага прыкладу і добрага заканадаўства”.

На прыканцы сваіх пошукаў ісьціны Крукаў прыходзіць да атэізма, хаця папярэдне праходзіць праз доўгае ўнутранае змаганне. “Доўга я не адважваўся, – апавядае Крукаў, - адкінуць Бога; нарэшце, адушавіў матэрыю і прыпісаў усё існуючае ў свеце дзейнасьці выпадку, патушыў нараджаючаяся святло чыстай рэлігіі, якая была створана мной самім. Аднак жа я ніколі не мог канчаткова пераканаць сябе ў гэтым памылковым меркаванні, таму што часта сустракаў важкія доказы адваротнага, на якія не знаходзіў ніводнага адказу. Але лічыў, што

мае сумненні маюць падставай доўгачасовую звычку думаць адваротным чынам; так як Дух, так і матэрыя аднолькава былі незразумелымі для мяне”.

-237-

Такім чынам адбываўся працэс разумовага развіцця ў Крукава. Зробім выснову гэтай з споведзі, у якой Крукаў, пад уплывам навісшай над галавой бяды, гатовы пайсьці назад. “Такім чынам, ціхі агеньчык маёй павагі да чалавецтва разбудзіў у ва мне імкненне да асветы, якая, не будучы асвечана святлом хрысьціянскай рэлігіі, ператварылася, нарэшце, у пякельнае полымя вальнадумства, якое зрабіла мяне нагодай для няшсчасьця маіх бацькоў, сястры, а, магчыма, і ўсёй радні”[251].

Прыклад Крукава, яго шчырая споведзь, раскрывае перад намі той шлях ваганняў і шукання ісьціны, які прайшлі шмат хто з дзекабрыстаў, незалежна ад старонніх уплываў. Споведзь Крукава выяўляе ў ім чалавека, які больш схільны да абстракных роздумаў і да заняткаў філасофіяй. Кола яго палітычных назіранняў і разважанняў не вельмі шырокае. У гэтым дачыненні ён саступае вялізнай колькасьці сваіх таварышаў. Але, ва ўсякім выпадку, у шчырых прызнаннях Крукава нельга не заўважыць вялікай разумовай і душэўнай працы. А, між іншым, у асобе Крукава мы маем перад сабой чалавека з сярэднімі здольнасьцямі, як у дачыненні розуму, так і энергіі: ён мала прыкметны ў асяроддзі такіх постацей як браты Бястужавы, Арлоў, Фон-Візін, не згадваючы ўжо пра Пестэля і інш.

Настойваючы на сур’ёзнасьці і значнасьці падрыхтоўкі, з якой пераважная большасць із дзекабрыстаў пачала браць удзел у дзейнасьці Таемнае Таварыства, ці якую яна ў сабе выпрацавала, імкнучыся па магчымасьці прасачыць працэс гэтай разумовай працы, мы, бяспрэчна, не будзем адмаўляць, што і ў асяроддзі дзекабрыстаў былі людзі, якія выпадкова захапіліся, выпадкова паддаліся ўплыву навакольнага асяродзя ці ўплыву першых прачытаных кніжак, з невызначыўшыміся думкамі. Справядлівасць патрабуе

-238-

пазначыць і такія з’явы. Характэрным прыкладам такога становішча з’яўляецца Аляксандр Сямёнавіч Гангеблаў, які трапіў у шэрагі дзекабрыстаў, дарэчы, амаль выпадкова і мала быў звязаны з важакамі руху. Няма падстаў не верыць яго пазнейшаму прызнанню. Маладым афіцэрам, пад час пераходаў гвардыі на Беларусі з адно месца стаянкі на другое, Гангеблаў захапіўся чытаннем. Першай кніжкай, якія трапіла яму ў рукі была знакамітая прамова Русо: “Аб уплыве навук і мастацтваў на звычаі”. У далейшым ён з цікавымі падрабязнасьцямі ўспамінае пра тое ўражанне, якое зрабіла на яго гэтая прамова. “Гэтая кніжка, - апавядае ён, - адчыніла неаглядны прастор для думак; яна ўразіла мяне навізной і смеласьцю поглядаў на тую прыступку скажэння сваёй натуры, да якой, як пераконваў Русо, дайшоў чалавек праходзячы праз лабірынт цывілізацыі. Бяспрэчна, усе сцвярджэнні, усе высновы філасофа я прыняў на веру і засвоіў без пярэчанняў і гэта тым лягчэй, што пасярод бесперапыннага для мяне

[251] Сведчанні Крукава 2-ога.

адасаблення нішто із паўсядзённага жыцця не магло засланіць тыя ідэі, якія яскрава адлюстраваліся ў маёй свядомасьці. Калі б мне тады спатрэбілася намяваць сановішча сваёй душы, я, бяспрэчна, выказаўся б зусім інакш, ці наогул не змог бы выказацца; але зараз, пасьля прайшоўшых 60-ці гадоў, яно выяўляецца мне ва ўсёй сваёй выразнасьці"[252].

Бяспрэчна, ва ўсякім гурце людзей, больш ці менш шматлікім, магчымы адхіленні. Але ў асяроддзі дзекабрыстаў, ва ўсякім выпадку, пераважаючым элементам былі людзі свядомыя. Сярод дзекабрыстаў мы сустракаем людзей з рознай адукаванасьцю, людзей розных грамадзкіх станаў. Заможныя арыстакраты мелі поўную магчымасць атрымаць добрую для таго часу



адукацыю яшчэ ў юнацтве; больш старэйшыя мелі магчымасць зрабіць назіранні ў еўрапейскіх паходах. Іхнае згуртаванне магло мець уплыў на тых із малодшых таварышаў, якія выйшлі із карпусоў з запасам ведаў, які можна было здабыць іх бедных падручнікаў. Такая бедная адукацыя, як мы бачылі, была ў Крукава; ён самастойна нешта прачытаў і пашырыў свае веды ўжо пасьля ўступлення ў Таемнае Таварыства. Але ў асяроддзі дзекабрыстаў быў гурт людзей, якія выпрацавалі ў сябе свядомае стаўленне да рэчаіснасьці, якія таксама хварэлі шуканнем ісьціны, якія таксама імкнуліся да набыцця ведаў, але якія ў сваіх пошуках знаходзіліся ў вельмі неспрыяльных умовах. Гэтыя людзі былі падрыхтаваны да змагання з урадам не залежна ад староннiх уплываў. Мы маем на ўвазе сябраў таварыства Аб'яднаных Славян.

Сведчанні гэтага гурта дзекабрыстаў з'яўляюцца пераканаўчым доказам таго, што непасрэднае назіранне над рэчаіснасьцю можа прывесьці да крытыкі існуючага ўладкавання, што захапленне палітычнымі навукамі у той час не было прывілегіяй асоб, які пабывалі за мяжой. Можна прывесьці некалькі біяграфічных звестак пра сябраў таварыства Аб'яднаных Славян. Гэта простыя вайсковыя афіцэры, нават не наведваўшыя адну са сталіц. Із іхных сведчанняў не відаць, каб яны ўдзельнічалі ў еўрапейскім паходзе. Бяспрэчна, яны атрымалі вельмі кволую хатнюю адукацыю, так як навучанне нават у корпусе ў тыя часы было прывілегіяй арыстакратыі.

Між іншым, у простых, так сказаць, жаўнерскіх сведчаннях гэтых вайсковых афіцэраў мы бачым, што яны самастойна, без староннiх намаганняў сталі разбірацца ў акружаючай іх рэчаіснасьці і звярнулі ўвагу на тыя ж палітычныя навукі, якія вывучалі іхныя арыстакратычныя таварышы, знаёмыя



з універсітэцкім выхаваннем і заходне-еўрапейскай навукай. "Ад майго дзяцінства, - апавядае пра сябе Люблінскі, - меў імкненне да навук; сам сябе навучыў расійскай (па паходжанню ён быў паляк), лацінскай, французкай, часткова італьянскай і нямецкай мовам, без настаўнікаў, таму што я быў не вельмі заможны. Ад дзяцінства ж дух цікаўнасьці і самастойнага разважання, з нагоды слабога здароўя, якое не дазваляла мне занімацца фізічнымі заняткамі,

[252] "Успаміны дзекабрыста А. С. Гангеблава", 29-30.

карыснымі для яго, схіліў мяне да чытання кніжак і разгляданню складу ўрада". Люблінскі сведчыць, што чытанне твораў Бекарыа і Філанджыеры ўпершыню дазволілі даведацца пра магутнасць чалавекашанавання; далей ён шчыра прызнаецца, што разважанні прывялі яго да таго, што ён ніколі "не быў за рэспубліку": ад гэтагу шляху перасьцерагла яго французкая рэвалюцыя[253].

Другі таварыш Люблінскага, такі ж самы правінцыял, Барысаў 2, на пытанне камісіі, адкуль ён запазычыў ліберальныя ідэі, адказаў: "Ніхто не пераконваў мяне ў вальнадумстве і лібералізме. Чытанне грэцкай і рымскай гісторыі і жыццяапісанняў вялікіх мужоў Плутарха і Карнэлія, некалі з дзяцінства уклалі ў маю душу павагу да вольнасьці і народаўладдзя; потым жорсткасьці ў адносінах камандзіраў да сваіх падначаленых павялічвалі яе усё больш і больш". Гаворачы далей пра свае заняткі і разважанні, Барысаў піша: "Мне падабалася чытаць і разважаць, усякую новую думку, перш чым зрабіць яе сваёй, разабраць і даказаць яе праўдзівасць самаму сабе. Але, будучы асьлеплены павагай да дэмакратыі і свабоды, кожную вольную думку знаходзіў справядлівай і нічым не мог яе адрынуць. Для чытання выбраў творы толькі тых пісьменнікаў, думкі і дух якіх былі

-241-

падобны да маіх". Вось той шлях, ідучы па якому Барысаў "неўзабаве зрабіўся лібералам". Ён сціснута і яскрава малюе назіраемыя ім сумныя з'явы рускага жыцця: жорсткія цялесныя пакаранні ў войску, аднаго толькі відошвішча якіх ён не мог выносіць і зыходзіў із шэрагу, насільствы і прыгнёт паноў у дачыненні да сваіх сялян. Лёгка здагадацца, што і сама дзейнасць урада выклікала ў яго незадавальненне, хаця пра гэта ён не знайшоў патрэбным згадваць у сваім сведчанні таму ўраду, супраць якога ён паўставаў са зброяй у руках. Адным словам, назіранні над навакольным жыццём, згодна слоў Барысава, "заўсёды нараджалі ў мяне подлыя думкі (відавочна, ён хоча дагадзіць следчай камісіі), і зацвярджалі ў маім розуме ліберальныя думкі". Усе гэтыя назіранні, роздумы, чытанні выклікалі ў Барысава адно жаданне – "быць карысным чалавецтву цікавіла мяне заўсёды, я вызначыў сабе за правіла, пошукі ісьціны". І на заключэнне свайго сведчання Барысаў выказвае тую асноўную ідэю, грамадзкую і рэлігійную, яку ён распрацаваў для сябе. Гэтае сведчанне з'яўляецца зборнікам яго рэлігійна-палітычных поглядаў. Ён лічыў: "*Агульная карысць ёсць Вярхоўны закон*. Вось максіма, якая была ў аснове як маёй рэлігіі так і маёй маральнасьці. Мой бацька не імкнуўся выхаваць у мяне залішнюю пабожнасць, ён часта гаварыў мне, што для Божа больш прыемна замест усіх ахвяраванняў бачыць чалавека сумленным і робячым дабро, што Бог глядзіць не на поўныя, але на чыстыя рукі, а яшчэ больш на шчырае сэрца, аднак ён не ўкладаў у маю душу вальнадумства; маім меркаванням адносна некаторых месцаў Старога Запавета і некаторых звычаяў, зацверджаных Царквой, пра якія не згадвае Ісус Хрыстос, я абавязаны некаторым французкім аўтарам і свайму асабістаму розуму, які ва



[253] Сведчанні Люблінскага.

ўсім памыляўся. У маім вальнадумстве мяне умацоўвалі ўціскі з боку шмат якіх святароў, як нашай, так і каталіцкай царквы, накіраваныя на сваіх прыхажанаў, так сама як і не вельмі сумленныя паводзіны шмат каго з іх. Аднак я не без веры”[254].

І так, вайсковы афіцэр, які служыў у глыбокай правінцыі, імкнуўся да выпрацоўкі свайго ўласнага цэласнага светапогляду: рэлігійнага, філасафічнага і палітычнага.

Што назіранні над навакольным жыццём прывялі шмат каго із сябраў таварыства Аб’яднаных Славян да высновы аб неабходнасьці барацьбы з урадам, мы маглі заўважыць па тых характарыстыках дзяржаўнага ўладкавання, якія нам ужо даводзілася паказваць: такія характарыстыкі, як, напрыклад, належачая Андрыевічу II, гэта крык замардаваных душ: яны напісаны не чарніламі, а крывёй; у іх больш непасрэдных пачуццяў, чым халоднага разважання.

З усяго сказанага відавочна, што для вялізнай большасьці перахад у шэрагі сябраў Таемнага Таварыства для барацьбы з урадам і яго рэжымам было справай свядомай, глыбока прадуманай – гэта жарэбій які кідаецца пасьля працяглых душэўных хваляванняў і разважанняў.

Для падцверджання той жа думкі пра ўплыў навакольных з’яў на станаўленне рэвалюцыйнага руху спынімся яшчэ на адной споведзі падпалкоўніка Паджыо. Яго сведчанні – сапраўдная споведзь, пры чытанні якой выразна бачны той шлях, якім прайшоў не адзін Паджыо, а шмат якія і іншыя дзекабрысты, перш чым прыйсьці да вызначанай высновы. Гэта – споведзь дзекабрыста, які знаходзіцца пасярэдзіне паміж тымі яго таварышамі, якія, падобна таварыству Аб’яднаных Славян, шляхам непасрэднага назірання, шляхам унутранай прыхільнасьці прыйшлі да сваіх высноў,



і тымі, якія мелі магчымасць шырока карыстацца як папярэднім навучаннем так і назіраннямі над заходне-еўрапейскім жыццём.

Шлях, па якому прайшоў Паджыо, з’яўляецца, ў вядомым дапушчэнні, шляхам па якому прайшло Таемнае Таварыства ў яго разнастайных выявах. На гэта звярнуў увагу і сам аўтар сведчанняў: “Выкладаннем пераменаў маіх разуменняў выяўляецца і вобраз пераменаў разуменняў усяго Таварыства ў цэлым”. Паджыо разумее, што апавяданне пра тыя “нязгоды”, якія існавалі ў Таварыстве і якімі перапоўнены ён сам, далёка не паслужыць да паляпшэння яго долі, але, тым не менш, ён лічыць сваім абавязкам выказаць свае погляды. “Добра разумею, - апавядае ён, - наколькі падставы растлумачаныя ніжэй, не будуць схіляцца ні да майго апраўдання, ні да апраўдання іншых, ні да той неабходнасьці выкарыстаць тыя сродкі, якія мы выбралі для дасягнення нашых мэт; але буду гаварыць у сваёй папярэдняй манеры і апавядаць пра тыя незадавальненні на якіх мы заснавалі свае погляды”.

---

[254] Сведчанні Барысава II.

Да 1819 года думкі Паджыо, згодна яго прызнання, былі чужымі ўсяму таму, што патрабавала заняткаў і роздумаў. Із гэтага прызнання зразумела, што пераварот у думках Паджыо адбыўся позна і без уплыву еўрапейскіх падзей, так як ён не быў разам з войскам за мяжой. Назіранні над жыццём, пераважна над замежнай палітыкай Расіі, якая вельмі цікавіла Паджыо, відавочна, былі першым штуршком, з якога ў 1819 годзе пачалося яго "незадавальненне". У 1820 годзе у яго ўжо нарадзілася "папярэдняе вальнадумства". Толькі каля гэтага часу ён знаёміцца з сябрамі Таемнага Таварыства і гэтыя стасункі садзейнічаюць развіццю ў ім вальнадумства. У стасунках з сябрамі Паджыо цалкам праўдзіва заўважае два бакі: "Не адны толькі незавальненні, не адны нязгоды, але і высілкі

-244-

для дасьледвання разумення добрага і кепскага". Але ў асяроддзі сваіх новых знаёмых, разважаючых "словам навукоўцаў", Паджыо выявіўся ў цяжкім становішчы: ён адчуваў сябе "невукам", які ні аб чым не мае разумення, выдаткаваўшым шмат часу на дарэмныя франтавыя заняткі. Але ён "імкнуўся быць карысным". Гэта вымусіла яго заняцца навукамі. "Я ўзяўся за вывучэнне ўсяго, што толькі мог, і тут кніжкі пачалі ўплываць на розум, які ўжо меў напрамакі". Ён пачаў вывучаць права, палітычную эканомію, вывучаў дзяржаўнае права кожнай асобнай дзяржавы, між іншым, чытаў Бенжаміна Канстана, Філанджэры і інш. Тут  ён "пачаў параўноўваць і пераконвацца ў неабходнасьці бачыць і сваю айчыну ў шэрагу асвечаных народаў". Тады ён пачаў сачыць за вызваленчымі рухамі ў Гішпаніі, Неапале, П'ямонце, Грэцыі. Выказванні ў французкай палаце дэпутатаў, у ангельскім парламенце, чытанне палітычных часопісаў – вось што яго цікавіла. Тады яшчэ Паджыо "прытрымліваўся манархічнага прадстаўнічага кіравання" ў дачыненні да Расіі. Але тады яшчэ быў вельмі далёкі ад думкі пра гвалтоўны пераварот. Але ўважлівае назіранне паступова падрыхтавала яго і да гэтай думкі. Знешняя руская палітыка не адпавядала інтарэсам народа. Польша атрымлівае канстытуцыю. Уладкоўваюцца вайсковыя паселішчы і іхнае ўладкаванне суправаджаецца жорскімі ўціхамірваннямі паўстанняў. Урад не падтрымлівае паўстаўшых грэкаў. Гаспадар не цікавіўся ўнутранным кіраваннем, а ў знешніх стасунках выявіўся падпарадкаваным Венскаму ўраду. У 1822 годзе Паджыо ўжо схіляецца да думкі пра гвалтоўны пераварот. У 1823 годзе ён ужо станавіцца сябрам Таемнага Таварыства і дзейна выконвае яго загады. "Я узяў яе (г. зн. рэспубліку), - апавядае ён, - таксама за

-245-

сваю мэту, прыняў таксама мэту і злачынныя захады злачынства і не адным... (шматкроп'е належыць Паджыо, ёнківае на намер царазабойства). Так прыняў, што падцвержу сваім апошнім дыханнем".

Так паступова адбываўся пераварот у душы Паджыо. І лёгка прадбачыць, што кожны із дзекабрыстаў, ва ўсякім разе, кожны свядомы із іхнага асроддзя, перажыў падобную душэўную драму. Гэта была сур'ёзная барацьба. Таму што патрэбна памятаць, што пад час вывучаемай эпохі традыцыі неабмежаванага самаўладдзя былі вельмі моцныя. Руская гісторыя васемнаццатага стагоддзя

ведае факты барацьбы паміж асобамі за пасад. У гэтай барацьбе брала ўдзел і грамадства, але яно змагалася супраць асоб і за асоб. Ідэя барацьбы з самаўладным рэжымам з’явілася ў васемнадццатым стагоддзі вельмі кволай і то толькі на арыстакратычным падмурку. Пра правы народа ніхто і не згадваў. У гэтым жа выпадку паднімаўся сцяг барацьбы за правы народа, за абсалютную грамадзянскую роўнасць, за рэспубліканскую форму кіравання і вылучалася пытанне пра жыццё шматлікай царскай дынастыі і гэтая пытанне вылучалася ў асяроддзі асоб блізкіх да дынастыі, яшчэ бацькі якіх былі цесна злучаны з ёю. Таму што пераважаючая колькасць дзекабрыстаў – прадстаўнікі радавітых сямей, афіцэры прэтарыянскай гвардыі, якія атачалі пасад у васемнаццатым і на пачатку дзевятнаццатага стагоддзяў. Для людзей гэтай эпохі пераход ад прыгонніка, пераход ад царашанавальніка да рэспубліканца – такі пераход не мог быць адбыцца без цяжкай душэўнай драмы. Тут рыхтавалася барацьба не толькі за прынцып, але і супраць асоб, з якімі пераважаючая большасць змоўшчыкаў мела выпадкі не аднойчы сустракацца. Прыклады XVIII ст. у дадзеным выпадку не падыходзяць. Калі некалькі гвардэйцаў кінуліся на Пятра III, ці рыхтавалі змовы супраць Паўла, то абедзве царскія асобы выклікалі жах і агіду дзякуючы сваім



асабістым якасьцямі. Гэта былі змовы, бяручы ўдзел у якіх людзі хацелі захаваць сваё жыццё. Гэта былі змовы супраць цара на карысць падобнага ж самаўладнага цара. У дадзеным жа выпадку рыхтавалася больш складаная змова супраць шматлікіх асоб, асабіста дастаткова прывабных, нават здольных зачараваць, якімі якасьцямі вызначаўся Аляксандр I, і не на карысць іншага цара, а на карысць усяго народа. Калі спатрэбілася болей чым за тры чацвёртых стагоддзя, перапоўненых новымі і вельмі вялікімі памылкамі ўрада для таго, каб грамадства прыйшло да разумення неабходнасьці барацьбы з самаўладным урадам, то гісторык не можа не разумець тых душэўных мучэнняў, якія давялося перажыць дзекабрыстам.

Пры такіх умовах міжволі ўзнікае пытанне, ці мог утварыцца сам рух пад уплывам адных толькі знешніх уражанняў, пад уплывам кніжных тэорый?

Той жа падпалкоўнік Паджыо, чалавек думаючы і назіральны, дае нам адказ на гэтае пытанне. Ён, як быццам бы, прадпачыць спрэчкі, якія могуць узнікнуць у гістарычнай навуцы ў дачыненні да дадзенага пытання.

Паведаўшы развіццё сваіх думак, шлях свайго пераходу ў шэрагі рэспубліканцаў, ён просіць следчы камітэт выслухаць яго разважанні, ці мог падсудны запазычыць із кніжак і лекцый сваё вальнадумства. І адказвае. Мы амаль цалкам працытуем гэтую частку споведзі Паджыо.

“Кніжкі навучаюць розум, але яны адны не абуджаюць чалавечыя жаданні, чалавека не натхняюць, чалавека не адхіляюць ад яго абавязкаў грамадзянскіх; а што яшчэ больш у парушэннях усіх дабрачыннасьцей грамадзкіх, на якіх пакоіцца дабрабыт усіх народаў! Колькі людзей сярод нас, якія не атрымалі такой адукацыі, якія нічога не чыталі і

кніжак новых сваім розумам не прабягалі! Колькі зноў жа людзей дастаткова адукаваных, не менш чым мы разумеючых і Сэя і Бентама, не менш чым мы аддаючых часу палітычным заняткам, не менш за нас разумеючых, што ёсць дух перабудовы! Але чаму гэтыя людзі не рабілі нашай справы? Бяспрэчна, незадавальненне чалавека адукаванага будзе больш пераканаўчае і грунтоўнае чым невука, але незадавальненне не прыводзіць да беззаконня! У якіх кніжках мы знайшлі перакананне ў неабходнасьці ўладкавання менавіта рэспубліканскага кіравання, гэтага ўладкавання, якое яшчэ не мае прыкладаў адносна да насельніцтва, духу рознаплямённых нашых народаў і вялікасьці абшараў нашай дзяржавы? У якіх кніжках запазычылі тую лютую неабходнасць выкарыстаць наўмыснае злачынства? Якія народныя летапісы маглі мы дапасаваць да летапісаў нашага народа? Якія пераўтварэнні дзяржаўнага ўладкавання можна было б дапасаваць да нашай дзяржавы, каб пераканацца ў неабходнасьці запазычанай? Не, уся наша справа з’яўляецца нашай, маючая адбітак, цалкам адрозны ад усіх астатніх, якія можна параўнаць з нашай! Няўжо, чытаючы якога-небудзь Вардэна, мы маглі запазычыць у яго перакананне і ўладкаваць у Расіі рэспубліку, падобную той, пра якую ён разважае. Аб’яднаным ісьцінам складанай служыць падмуркам і апірышчам; мы гэтага пазбягалі, баючыся, каб наша дзяржава не распалася на часткі пасьля ўсталявання федэральнага ўладкавання. Там жыхароў дзевяць мільёнаў, у нас – сорак. Там англійскія перасяленцы – у нас расіяне. Ці можна параўнаць іхныя сродкі пераўтварэння з нашымі надуманнымі? Там помста была накіравана на знешніх ворагаў, а мы ворагаў шукалі сярод нас. Там адхілялі зло – мы яго прызывалі; там зло выкуплялася – мы зладзействамі заахвочвалі! Дзе падобнасць, дзе параўнальнасць? Бяспрэчна, із кніжак запазычылі ўсе ўстановы,



суд прысяжных і таму падобнае; але думкі пра паўстанне, рашучасць, адвага – вось гэта як растлумачыць, як не тым, што ўсё гэта паўстала не із кніжак, але із сэрцаў нашых, пасярод усіх жаданняў існуючым у іх! Вось гнёзды, дзе пачыналіся ўсе задумкі, адкуль яны выходзілі разам з паглынаючых іх полымем”[255].

У асобах Крукава, Паджыо і шмат іншых мы бачым сябраў Таемнага Таварыства, які дзейнічалі ў ім на працягу доўгага часу. Яны прыйшлі да разумення неабходнасьці рэвалюцыі шляхам доўгай і складанай душэўнай барацьбы. Але пасярод удзельнікаў снежаньскага руху была некаторая колькасць асоб, якая была захоплена гэтай хваляй у самы апошні момант. Было б вельмі памылкова лічыць, што гэтыя людзі трапілі выпадкова ў лік змоўшчыкаў. Для падцверджання гэтай думкі можна было б спаслацца на такія прыклады, як Бацянкоў, барон Штэйнгель: яны далучыліся за змовы незадоўга да яе вырашэння, але гэты прыклад будзе не вельмі ўдалы ў тым сэнсе, што абодва гэтыя дзекабрысты былі людзьмі ліберальна накіраванымі яшчэ задоўга да іхных стасункаў з сябрамі Таемнага Таварыства. Бяспрэчна, яны свядома ўвайшлі ў яго асяроддзе. Але вось прыклад чалавека, якога б, са знешняга боку, можна было б

[255] Сведчанні Паджыо. “Мемуары дзекабрыстаў”, I, стр. 188.

прызнаць асобай, якая выпадкова трапіла ў асяроддзе змоўшчыкаў і ледзь не меўшым у ім дастаткова значнай ролі. Мы маем на ўвазе палкоўніка Булатава.

Булатаў – смелы жаўнер, прасякнуты ваеннай дысцыплінай. Гэта чалавек без адукацыі, далёкі ад усякай палітыкі, нічога не разуючы ў ліберальных ідэях. Прамата яго душыназвычайная. Ён выпадкаўся апынуўся ў Пецярбурзе, калі пачыналася рэвалюцыя, выпадкова сустрэўся раз-другі з Рылеевым

-249-

у тэатры і таксама выпадкова для сябе апынуўся на кватэры Рылеева. Сутнасьці змовы ён не разумеў, ды і не было ў Рылеева часу яго інфармаваць. Для Булатава было зразумела толькі адно, што змова можа паслужыць на карысць дзяржаве. Аднак, якая менавіта карысць будзе для айчыны, калі пераменіцца ўрад, Булатаў, верагодна, не мог сабе высветліць да канца сваіх сумных дзён. Выклікае цікавасць размова гэтага жаўнера ў гуртку іншых афіцэраў. Гаварылі пра тое, што граф Аракчэеў перастаў цікавіцца дзяржаўнымі справамі, пасьля таго як біла забіта яго Настасся. Булатава гэта абурала: “Для карысьці айчыны чалавек не павінен шкадаваць сваё жыццё”, гаварыў ён і, трымаючы ў руцэ зараджаны пісталет, сказаў суразмоўцам: “Вось, сябры мае, калі б айчына для сваёй карысьці запатрабавала маё жыццё – і мяне б не стала”. Гэта не было проста фразай: і папярэдняе вайсковае жыццё Булатава і яго далейшыя паводзіны, якімі б яны не выглядалі дзіўнымі, даказваюць у ім прамату і сумленнасць. Не звяртаючы ўвагі на адсутнасць разумення, у чым жа менавіта будзе карысць для айчыны, Булатаў аднак, згадзіўся дзейнічаць, таму што ён “гарэў” на карысць айчыны і можна знайсьці падставу, якая падказвала яго простаму жаўнерскаму разуменню неабходнасць дзейнічаць. Булатаў перажыў страшэнную душэўную драму на працягу дня 14 снежня. Ён не выйшаў да паўстаўшага войска, але хадзіў з цяжкімі роздумамі сярод натоўпу. Ён стаяў каля імператара, добра памятаў нечыя словы, што для карысьці айчыны патрэбна забіць гаспадара, але не забіў, таму што гэтая карысць для айчыны была яму ўсётакі не зразумелай. Калі будучая карысць для айчыны яму не была зразумелай, то затое шкода, зробленая той жа айчыне Аракчэеўскім рэжымам для Булатава была цакам відавочнай. У сваім перадсмяротным лісьце да вял. князя Міхала Паўлавіча ён намаляваў сумныя бакі папярэдняга царавання. Гэты ліст

-250-

выклікае вялікую цікавасць, таму што у ім сканцэнтравалася ўся горыч незадавальнення чалавека сумленнага, адданага сваёй айчыне, але цалкам не падрыхтаванага для разумення дзяржаўных пытанняў. Назіранне над рэчаіснасьцю пакінула ў душы Булатава горкі асадак; бясспрэчна, гэты накіп мае дачыненне да тых пытанняў зразумелых яго не шырокаму кругазору. І Булатаў умаляе новага гаспадара выклікаць да сябе любоў норода. Ён папярэджвае новага гаспадара, каб ён падпарадкоўваўся ўплывам царавых дагаджальнікаў, на падобе Аракчэева. Булатаў вызначае, у чым праяўляецца “незадавальненне народа” супраць нябожчыка гаспадара: уплыў Аракчэева, уладкаванне ваенных паселішчаў, адсутнасць праўды ў судах, недахопы ва ўладкаванні вайсковай

часткі і г. д. – адным словам, Булатаў намаляваў тую ж выяву, якая нам знаёма згодна крытыкі дзекабрыстаў[256].

Выпадак Булатава паказвае нам прыклад, процілеглы таму складанаму шляху, які прайшлі шмат хто із дзекабрыстаў. Але паміж імі і Булатавым ёсць і вялікае падабенства: на працягу некалькіх дзён Булатаў перажыў цяжкі для яго пераход у шэрагі рэвалюцыі і падстава гэтага пераходу – уразуменне правоты “народнага незадавальнення” і гарачае жаданне прынесьці карысць айчыне.

Гарачая любоў да айчыны, жаданне прынесьці ёй карысць выказаліся ў дзекабрыстаў і тады, калі яны апынуліся ў цямніцы, калі шмат для каго было цалкам відавочна, што іхны лёс вырашаны, калі не ў сэнсе смяротнага пакарання, то, ва ўсякім разе, яны прадбачылі шматгадовае турэмнае зняволенне ці катаргу. Тым не менш, яны знайшлі ў сабе мужнасць звярнуцца з прашэннямі да новага гаспадара не пра сябе, а пра лёс радзімы. Некаторыя



дзекабрысты ў сваіх лістах да імператара Мікалая І паказвалі ўраду шлях неабходных першапачатковых рэформаў. Разгром рэвалюцыянераў разбурыў іхныя мары пра канстытуцыйную манархію ці пра рэспубліку, асабістае жыццё зняволеных паламана; і, усётакі, прамень надзеі не пакінуў некаторых, і яны звяртаюцца да самаўладнага кіраўніка з пералікам неабходных рэформаў, буквальна просячы яго правесьці хаця б паляпшэнні, якія маглі б мірыцца з самаўладдзем. “Не адна толькі нахабная дзёрзкасць, - піша гаспадару Якубовіч, - ці мова лісьлівасьці будзе выкладаць мае думкі і заўвагі; не; адну толькі ісціну пакажу перад вачамі вашымі Ваша Вялікасць! Не маючы зараз нічога агульнага з чалавекамі, у каземаце, калі меч правасуддзя занесены над маёй галавой, хачу хаця б ісцінай служыць айчыне і, як узнагароду за такі ўчынак, прашу ў гаспападара даверу да маіх слоў: яна прывядзе да шчасьця мільёны грамадзян і дасць вам трывалую славу праз удзячнасць падданых і шанаванне нашчадкаў”[257]. Дарэчы, гісторыя паказала, што гэтыя прызывы былі накіраваны не па адрасу.

Так, барон Штэйнгель апісваў такую выяву рэформаў у лісьце да гаспадара:

“Вам спатрэбіцца: дараваць святарству маральнае выхаванне; падмацаваць падаючае і праз 24-гадовы заём цалкам збяднеўшае дваранства; аднавіць камерцыю і прамысловасць з дапамогай нязменных статутаў; усталяваць правасуддзе шляхам уладкавання лепшага судовых устаноў; аднавіць гарады шляхам усталявання грамадзянскіх правоў, падобных іншым асвечаным дзяржавам; даць іншую паступовую асвету для юнакоў усіх станаў; палепшыць становішча земляробаў; знішчыць ганебны для нацыі гандаль людзьмі – пра просты сродак для гэтага я меў



[256] Ліст Буланава надрукаваны ў “Мемуарах дзекабрыстаў, выпуск І.”
[257] Ліст у справе № 470.

шчасьце паказаць нябожчыку гаспадару; аднавіць флот; заахвоціць да мораплавання прыватных асоб, да чаго натхняе прыклад Амерыкі і Гаіці”[258].

Якубовіч у лісьце із крэпасьці да гаспадара ў змрочных фарбах суміруе высновы із зробленага ім жа агляду становішча Расіі. “Дзесяць гадоў мірнага існавання не палегчылі ў Расіі падаткавы цяжар, не уладкаваны лепшыя спосабы збірання падаткаў і цяжар дзяржаўных абавязкаў не размеркаваны роўна паміж усімі станамі, іншыя законы не запяспечылі кожнага, гандаль не квітнеў, выяўленчае мастацтва не ўпрыгожыла айчыну; але народная адукацыя значна пасунулася наперад і жаданне лепшага зрабілася першым адчуваннем кожнага”. І далей Якубовіч паказвае на самую неабходную рэформу: “*Састарэлы будынак дзяржаўнага кіравання патрабуе значных перамен.* Імперыя, якая трохі больш чым сто гадоў таму выйшла із цемры глыбокага невуцтва, кожную чвэрць стагодззя  цалкам змяняецца ў дачыненні ідэй і маральных патрабаванняў. Забяшпечце і палегчыце становішча хлебаробаў. Зраўняёце перавагамі вашыш вайскоўцаў, паменшыце тэрміны службы; рашучымі законамі і дакладным іх выкананнем акрэсліце кожнаму яго абавязкі; распаўсюдьце свет навукі і адукацыі; дайце штуршок гандлёвай дзейнасьці, адобрыце вашай прыхільнасьцю баязлівую дабрачыннасць; і незадаволеныя ці карбанарыі знікнуць, як цемра перад сонцам. Вы будзеце дабрачыннейшым выратавальнікам айчыны ад шматлікіх бедстваў і павага ўдзячных пяцідзесяці двух мільёнаў вашых падданых будзе толькі пачаткам вашай безсмяротнай славы”[259].

Вільгельм Кюхельбекер у сваіх сведчаннях такім чынам сумуе свае спадзяванні: “Вось чым абмежаваліся



мае спадзяванні: вызваленнем сялян, паляпшэннем судовай справы, выбраннем прадстаўнікоў із усіх станаў, непахіснасьцю законаў”[260].

Але, бяспрэчна, шчырасць дзекабрыстаў і іхныя парады ўраду траплялі на непрыдатную глебу і шмат каму з іх толькі нашкодзілі.

Для характарыстыкі тых першых рэформаў, пра якія марылі дзекабрысты, паказам яшчэ вытрымку із пазнейшых запісак Завалішына: “Яны былі перакананы, што, як бы не думалі б пра іхнае пачынанне, яно непазбежна як у народнай тоўшчы, так і ў асяроддзі самаго ўрада абудзіць рух, які будзе ўжо немагчыма спыніць, у якім бы выглядзе ён не выяўляўся, што прынёсшы ідэю свабоды з усімі яе непазбежнымі наступствамі – вызваленнем сялян, самакіраваннем, судом прысяжных, перабудовай войска, адменай цялесных пакаранняў, народнай палітыкай, абаронай аднапляменнікаў і аднаверных народаў і нават аб’яднаннем з імі і інш., яны, вымусіўшы думаць пра ўсе гэтыя пытанні, вывучаць іх, вымусяць сам урад паступова здзясняць усе гэтыя пытанні і тым хутчэй, што развіццё ўсіх злоўжыванняў, пагражаючых непазбежна і

[258] “Грамадзкія рухі”, стр. 492.
[259] Справа № 470.
[260] Сведчанні Кюхельбекера.

натуральна спробамі да пераваротаў, каб пазбавіцца ад іх, пакажа ўраду неабходнасць рэформаў, як адзінага сродку папярэдзіць небяспеку. А было таксама бяспрэчным, што адна рэформа заўсёды цягне за сабой другую, што, ва ўсякім выпадку, пагубны застой перапыніцца”[261].

# Частка трэццяя

## Свабода і канстытуцыя

“Народ расійскі не з’яўляецца прыналежнасьцю ці ўласнасьцю нейкай асобы, ці сямейства. Насупраць таго, урад з’яўляецца ўласнасьцю народа, ён зацверджаны для дабрабыту народнага, а не народ існуе для дабрабыту ўрада.”

**Руская Праўда.**

## I.
## Шчасьце айчыны і прагненне свабоды.

-257-

Усё папярэдняе выкладанне падрыхтоўвае нас да той высновы, што сябры Таемных Таварыстваў, добра разумеючы рэчаіснасць, уяўлялі сабе іншае ўладкаванне дзяржавы, пры якім народ браў бы шырокі ўдзел у палітычным жыцці краіны. Такое выйсьце яны бычылі ў будучым канстытуцыйным ці рэспубліканскім уладкаванні дзяржавы. Як быццам бы ў адказ на змрочную рэчаіснасць, у розумах дзекабрыстаў вымалёўвалася ідэя дзяржавы з прадстаўнічымі дзяржаўнымі ўстановамі, з безкарысьлівымі суддзямі і судом прысяжных, з шырокай асветай народных мас пры іхнай палітычнай роўнасьці, узбагачаючай краіну фінансавай і эканамічнай палітыкай, дакладна нацыянальным арыентаваннем дзяржаўная палітыка, свабодай слова, свабодай асобы. Седзячы ў каземаце, пазбаўлены фізічнай свабоды, перакананы ў немінучым пакаранні, Аляксандр Бястужаў у сваім лісьце да імператара Мікалая I шчыра перадае свае мары пра будучае Расіі, які вывялі яго і яго таварышаў на Сенацкую плошчу.

“Вось нашыя мары пра будучае, - піша ён гаспадару, - Мы збіралі ўладкаваць Сенат із старэйшых і разумнейшых асоб рускіх, у які і спадзяваліся прыцягнуць усіх значных людзей цяпрашняга ўрада, таму што лічылі, што ўлада і славалюбства заўсёды мелі б сваю прывабнасць. Палату ж прадстаўнікоў скласьці згодна народнага абрання із усіх станаў. Бяспрэчна, што ўладкаваць агульнае меркаванне ці надаць яму магутнасць нельга інакш, як звязаўшы яго з

[261] “Нататкі дзекабрыста Д. Я. Завалішына”, т. I, стр. 254.

інтарэсамі кожнага, то на гэтым бы правіле было б занавана безкарыслівасць суддзяў. Кожная інстанцыя мела б у нас сваё пастаяннае кола

-258-

абавязкаў, пры гэтым судзячыяся маглі б выбіраць па жаданню суддзю із вызначанага ліку суддзяў, так што гонар і выгада вымусілі б іх быць праўдзівымі адзін перад адным, а публічнасць судовых працэсаў, абмежаванне тэрмінаў і свабода друку выкрывалі б нерадзівых ці крывадушных. Для асветы ніжэйшых станаў народа хацелі паўсюдна ўладкаваць ланкастарскія школы. А каб выправіць яго маральнасць, то ўзвысіць белае святарства, даўшы яму спосабы для жыцця. Пазбаўленне амаль ад усіх земскіх павіннасьцей, свабода вінакурэння і паляпшэнне казённымі сродкамі дарог паміж беднымі і багатымі збожжам мясьцінамі, заахвочванне земляробства і наогул заахвочванне прамысловасьці прывяло б да заможнасьці сялянства. Забеспячэнне і пастаянства правоў прывабіла б у Расію шмат вытворчых іншаземцаў. Фабрыкі б памножыліcь з павышэннем попыту на штучныя вырабы, а спаборніцтва заахвоціла б іх да ўдасканалення, якое павышалась бы да узроўню народнага дабрабыту, таму што патрэбы на рэчы давольства і раскошы павышаюцца безперапынна. Капіталы, якія застаяліся ў Англіі, пры ўмове бяспрэчнасьці прыбытку на шмат гадоў наперад, палілісь бы ў Расію, таму што ў гэтым новым нераспрацаваным свеце яны маглі б быць выкарыстаны з большай карысьцю чым у Вест-Індыі ці Амерыцы. Знішчэнне ці, ва ўсякім разе, абмежаванне забарончай сістэмы і ўладкаванне шляхоў зносін не там дзе лягчэй, (як было раней) а там, дзе неабходна, таксама як і ўладкаванне купечанкага казённага флоту, каб не плаціць чужаземцам дарагі фрахт за свае вырабы і забраць транзітны гандаль у рускія рукі, дало б магчымасць квітнець гандлю – гэтаму, так сказаць, мязу дзяржаўнай магутнасьці. Фінансы ж выправіць праз змяншэнне на траціну войска, і наогул усіх чыноўнікаў, якія маюць заробак, але непатрэбныя. Што да знешняй палітыкі, то

-259-

дзейнічаць адкрыта, жыць мірна з усімі, не залазячы ў чужыя справы і не дазваляючы залазіць у свае, не слухаць перасудаў, не баяцца пагроз, таму што Расія самадастатковая і можа абысьціся ў выпадку пагаршэння адносін і без старонняй дапамогі. У ёй змяшчаецца цэлы свет, ды і гандлёвыя выгады іншых нацый ніколі б не дапусьцілі да таго, што яна у нечым бы адчувала б недахоп”[262].

Наогул, мары дзекабрыстаў былі непарыўна звязаны з марай аб велічы Расіі пры прадстаўнічым уладкаванні кіравання. “Я бачу сабе Расію, - пісаў Фёдар Глінка, - як магучую жанчыну, спакойна, насуперак усяму спачываючую. Пад яе галавой замест падушкі Каўказ, нагамі трапечацца ў Балтыйскім моры, правая рука закінута на Ўральскі хрыбет, а левая раскінутая за Віслу, пагражае пальцам Яўропе. Я ведаю, я ўпэўнены, што перакрываць стараўняе цячэнне рэчаіснасьці, тое ж самае, што саваць пальцы ў млынарнае кола: пальцы паламаюцца, а кола будзе ісьці сваёй хадой. Вось мая палітычная вера, вось мае адчуванні”. І далей

[262] Справа № 11.

Глінка ўяўляе сабе Расію і будучае дзяржаўнае ўладкаванне ў наступным некалькі сінтыментальным выглядзе: “Паспяховая тая краіна, дзе турмы пустыя, жытніцы поўныя, лекары ходзяць пешу, а хлебаробы верхам; дзе на прыступках Божых храмаў шмат народу, а прыступкі судзілішч зараслі травой”[263].

Гэтыя дастаткова туманныя нацыяналістычныя мары ў большасьці дзекабрыстаў замяніліся на вызначаныя перакананні у перавазе канстытуцыйных формаў кіравання. “Распаўсюджваліся і падтрымліваліся перакананні, - апавядае Завалішын, - што толькі ў вядомых канстытуцыйных формах, што толькі ў падобным дзяржаўным уладкаванні змяшчаюцца дастатковыя гарантыі супраць злоўжыванняў улады і гарантыя



яе жыватворнага дзеяння, як для ўнутранага развіцця дзяржавы, та і для абароны яе годнасьці і народнай карысьці рацыяльным накірункам яго знешняй палітыкі”[264].

Уся ўвага ліберальна-настоеных людзей таго часу была накіравана на тое, каб знайсьці палітычны і нацыянальны ідэал. Людзі жылі ў пошуках праўды і палітычнай веры. “Усё здзяйснялася пад уплывам шукання праўды, - піша Завалішын, - (як у ведах так і ў жыцці), і ўнутрана неабходнага імкнення да барацьбы супраць усяго ілжывага і несправядлівага... Я амаль з дзяцінства, яшчэ ў перыяд несвядомых дзеянняў, не пераносіў злоўжыванняў, бязладдзя, няпраўды, да балючага раздражнення супраць іх і выказваўся заўсёды прама, чаму і ўвесь час чуў папрок на свой адрас за празмерную шчырасць. Гатовы да ахвяр у барацьбе з няпраўдай, з несправядлівасьцю, шукаючы больш дзейсныя сродкі для гэтай барацьбы, я захапляўся пачарзе двума пераважаючымі ў той час накірункамі... Потым у сваёй дзейнасьці, я не абмяжоўваўся толькі адмоўным накірункам, адной барацьбой супраць зла, але і выказваў садзеянне ўсяму дадатнаму, усякаму ўладкаванню і выпраўленню; нарэшце, лічыў сябе чалавекам рэлігійным і імкнуўся быць такім згодна сваіх унутраных схільнасьцей”[265].

Адзін із таварышаў Завалішына па службе, таксама марскі афіцэр, Бяляеў, апавядае пра размовы, надзеі і жаданні, якімі былі перапоўнены як ён, так і яго таварышы: “адзін із нашых афіцэраў



гвардэйскага экіпажа, лейтэнант Арбузаў, які падзяляў тагачасны вольны настрой, але так як ён быў вельмі суровага характару і яго меркаванні заўсёды былі крайнімі да пошласьці ва ўсім, то мы, згодныя з ім у запаветных жаданнях і надзеях калі-небудзь пабачыць сваю айчыну вольнай, добраўладкаванай і счаслівай, разыходзіліся з ім у яго крутых захадах, якія ён ухваляў у французкай рэвалюцыі і ўсіх гвалтоўных, янычарскіх праваротах. Другім нашым суразмоўцай быў лейтэнант Д. Я. Завалішын... Ад яго мы даведаліся, што ўся Яўропа

---

[263] Свдчанні Ф. Глінкі.

[264] Завалішын. “Нататкі дзекабрыстаў”, I, 190.

[265] “Дзекабрысты”, Д. Я. Завалішына, “Рускі Веснік”, 1884 г., люты, стр. 824-827.

перablытана сеткай таемных таварыстваў, якія імкнуліся да вызвалення ўсіх народаў із-пад прыгнёту дэспатызма, які тады цараваў амаль па ўсёй Яўропе”[266].

І так, жаданне барацьбы з няпраўдай, імкненне прыйсьці на дапамогу свайму народу, імкненне вызваліць сваю айчыну ад умоў, пры якіх яна не магла пайсьці далей у накірунку вольных установаў – усё гэта прывяло дзекабрыстаў да думкі пра неабходнасць усталявання канстытуцыі. Спачатку гурток, яз якога ў далейшым паўстала Таемнае Таварыства, спадзяваўся, што сам урад пойдзе па шляху рэформаў і гатовы быў яму садзейнічаць. “Яны далі адзін аднаму абяцанне словам і справай садзейнічаць гаспадару ва ўсіх яго пачынаннях на арысць свайго народа. Іх было мала, але яны былі перакананы, што іхны гурток будзе з кожным днём павялічвацца, што і іншыя не захочуць абмежавацца славай ваенным подзвігаў, але пажадаюць выказаць сваю стараннасць і павагу да айчыны не адным толькі выкананнем ускладзеных на іх, згодна службы, абавязкаў, але і прысвячэннем усіх сродкаў і здольнасьцей на садзеянне агульнай карысьці



ва ўсіх яе выглядах”[267]. Але, бяспрэчна, гэтыя надзеі былі кароткатэрміновымі і тыя ж асобы хутка пачалі самастойную працу па падрыхтоўцы Расіі да канстытуцыйнай формы праўлення. Для нас маюць значэнне толькі тыя матывы, праз якія дзекабрысты звярнуліся да рэвалюцыйнай дзейнасьці. “Я быў перапоўнены, - піша ў сваім сведчанні Мікіта Мураўёў, - вялікім жаданнем бачыць Расію на найвялікшым узроўні дабрабыту праз установы, аднолькава дабрадзейныя для ўсіх станаў людзей, якія яе складалі; трывалае ўладкаванне судовай часткі ў ніжэйшых установах і галоснаць у дзеяннях урада, нападобе Ангельшчыны”[268].

Перакананне ў тым, што ўрад не можа пайсьці па шляху рэформаў, прывяло ліберальна накіраваных людзей таго часу да думкі пра неабходнасць заснавання Таемнага Таварыства. “Маладыя людзі, - піша ў сваім сведчанні Сяргей Мураўёў, - якія цікавіліся падобнымі пытаннямі (г. зн. палітычнымі навукамі), хутка адчулі жаданне бачыць у сваёй айчыне прадстаўнічае ўладкаванне, паведамлялі адзін аднаму свае думкі, аб’ядноўваліся адзінствам жаданняў – і вось зародак палітычнага Таемнага Таварыства”[269]. Людзі адчувалі, што існуе вышэйшая праўда, магчыма і неабходна лепшае дзяржаўнае ўладкаванне, да якога патрэбна імкнуцца ўсімі сродкамі і якое не можа быць здзейснена пры існуючым дзяржаўным уладкаванні. У адных гэтае разуменне вылівалася ў вызначаныя формы, у другіх яно было больш ці менш неакрэсленай марай.



Пры такіх умовах, натуральна, людзі былі гатовы прысвяціць сябе служэнню на карысць айчыны, не звяртаючы ўвагу на асабістую небяспеку і асабістыя выгоды. “Ці дзіўна, - піша Басаргін, - што гэтыя людзі, большай часткай

[266] “Успаміны пражытога і адчутага”, 1881 год, сакавік, стр. 491.
[267] Із ненадрукаваных нататкаў князя Трубяцкога. Дубровін, “Руская Старына”, 1904 сакавік, 487.
[268] Сведчанні Мікіты Мураўёва, стр. 11.
[269] Сведчанні Сяргея Мураўёва-Апостала.

маладыя, ахвотна аддзяляліся ад массы і з захапленным былі гатовы прысвяціць сябе на карысць айчыне, не звяртаючы ўвагі на пагражаючую ім асабістую небяспеку ў выпадку няўдачы ці памылковага разліку. Спачатку, дзейнічаючы ў гэтым сэнсе, яны ўзялі за мэту намеры самаго нябожчыка імператара Аляксандра; але потым, калі ён здрадзіў ім і перайшоў на бок рэакцыі, то вырашылі стварыць таемныя таварыствы і такім шляхам дасягнуць сваёй мэты"[270]. Калі Якушкіна спыталі пад час следства пра падставы ўтварэння таемных таварыстваў, ён напісаў: "Падставы, нарадзіўшыя гэтую думку, наколькі магу згадаць былі наступнымі: па-першае, відавочнасць незлічоных заганаў у Расіі, якія большай часткай паходзілі, як здавалася мне і іншым, ад вузкага бачання, наогул, усіх прыватных асоб, якія мелі на мэце адну толькі асабістую выгаду; гэта прывяло да ўзнікнення намеру звярнуць, на колькі магчыма, увагу кожнага на грамадзкія выгады і, тым самым, прасвяціць грамадзкае меркаванне. Па-другое, прыклад таемных таварыстваў, якія мелі вялікі ўплыў у шмат якіх дзяржавах і асабліва ў Швецыі і Прусіі, даў надзею, што ўладкаванне такіх таварыстваў магло было быць паспяховым і ў Расіі"[271].

Падобныя сведчанні і шмат каго із іншых дзекабрыстаў пра падставы іхнага ўступлення ў Таемнае Таварыства. "Маладосць, ідэя пра канстытуцыю і вызваленне сялян прывабіла мяне і я палічыў сябе абавязаным далучыцца да таварыства, якое мне здавалася імкнуўшымся



да дабрабыту маёй айчыны", сведчыў пра сябе князь Барацянскі[272]. Паслухаем споведзь яшчэ аднаго із малодшых сябраў Таварыства, які мей да яго дастаткова нязначнае дачыненне да моманту рэвалюцыі – паручніка Гангеблава. Ён прызнаецца, што жахі прыгоннага права, неўладкаванасць адміністрацыі, амаральнасць святарства, выклікалі ў яго думкі, якія заахвоцілі яго далучыцца да дзейнасьці Таемнага Таварыства. "Падставы, заахвоціўшыя мяне, - піша Гангеблаў, - далучыцца да Таемнага Таварыства, былі наступнымі: 1) неабмежаваная ўлада землеўладальнікаў, адно із галоўных наступстваў якой гаротнае становішча шматлікага стану пасялян, сведкам чаго я быў у мінулым 1822 годзе ў беларускіх губерніях, дзе паны, даўшы поўную волю ўчынкам жыдоў, не звяртаюць ніякай увагі на маральнасць сялян, а, між іншым, адносяцца да іх вельмі жорстка, калі справа даходзіць да іхных асабістых выгад. Із гэтага я зрабіў выснову і пра усіх астатніх землеўласнікаў, із якіх, верагодна, большая частка турбуецца пераважна пра павелічэнне свайго багацця, чым пра счасьце сваіх сялян. 2) Невуцтва белага святарства ў невялікіх гарадах і вёсках і ўчынкі, якія не адпавядаюць высокаму іхнаму прызначэнню – адна із галоўных нагод амаральнасьці пасялян і, як следства, ндбайнасць у хатняй гаспадарцы. 3) Сквапнасць грамадзкіх чыноўнікаў, якая, нават, увайшла ў пагаворкі"[273].

[270] "Дзевятнаццатае стагоддзе" Барценева, I, 70.
[271] Сведчанні Якушкіна, стр. 10 об.
[272] Сведчанні князя Барацянскага ад 26 студзеня, стр. 16.
[273] Сведчанні Гангеблава, стр. 8.

І да прыгнятальнікаў пагарду

Не забудземся, што вершы Рылеева прызначаліся для друку, які знаходзіўся пад наглядам тагачаснай цэнзуры. Магчыма, гэтая абставіна вымусіла Рылеева выбіраць такія тэмы, якія яму давалі магчымасць прызываць да барацьбы з тыранамі, не наклікаючы на сябе пераследу цэнзуры. Дарэчы, гэтая абставіна гарманіравала з павагай Рылеева да роднай краіны: Рылееў яшчэ верыў у магутнасць вечавога колакала. У думе "Дзімітрый Данскі" паэт укладае свайму герою такі прызыў да войска:

Ляцім – і вернем народу
Залог дабрабыту чужых краін:
Святую прабацькоў свабоду
І старадаўнія правы грамадзян.
Туды – за Дон... настаў час.
Надзея наша – Бог і меч.
Паб'ем манголаў і як брэмя
Ярмо Мамая скінем з плеч.

І войска адказвае свайму важаку:

Да ворагаў! За Дон! – закрычала войска. –
За вольнасць, праўду і закон!

Так у думе "Багдан Хмяльніцкі" казацкі правадыр прызывае сваіх сябраў да барацьбы за радзіму ў імя свабоды:

За мной чыё сэрца хвалюе помста,
Хто замест рабства аддае перавагу смерці,
Каму за усё даражэй гонар.

І далей паэт з цеплынёй апісвае вынікі той свабоды, якой дабіліся ўкраінскія казакі пад кіраўніцтвам Хмяльніцага:



І ўсталявалася свабода
З той пары ва ўкраінскіх стэпах,
І пачала народным шчасьцем
Цвісьці радасць у вёсках і гарадах!

Па магутнасьці паэтычнага пафасу найбольшай увагі заслугоўвае выдатны ўрывак незакончанай паэмы "Налівайка", якую паэт збіраўся прысвяціць знакамітаму правадыру Украіны. "Споведзь Налівайкі" напісана ў 1825 годзе, пад час калі паэт рыхтаваўся сам і заахвочваў сваіх сяброў да барацьбы за свабоду супраць ціраніі. Часам напісання тлумачацца і ўзвышаныя вершы, якія апавядаюць пра смерць за радзіму і свабоду. Заклікаючы да барацьбы, Рылееў мала спадзяваўся на яе шчаслівае заканчэнне: ён, як быццам бы, прадчуваў свай асабісты лёс і лёс таварышаў, але ў барацьбе з тыраніяй ён бачыў выкананне свайго грамадзянскага абавязку. "Споведзь Налівайкі" адлюстроўвае настрой паэта ў апошнія гады яго жыцця:

"Не гавары, святы айцец,
Што гэта грэх! Дарэмныя словы:
Няхай грэх люты, грэх жахлівы...

Каб роднай Маларосіі,
Каб толькі рускаму народу
Зноў вярнуць яго свабоду
Грахі татар, грахі жыдоў,
Адступніцтва ўніятаў,
Усе злачынствы сарматаў
Я на душу прыняць гатовы.
І так, ужо не старайся болей
Мяне страшыць. Не пераконвай!
Для мяне пекла – Украйну бачыць у няволі,
Яе свабоднай бачыць – рай!..
Яшчэ ад самай калыскі
Да свабоды імкненне з’явілася ў ва мне;
Мне маці і сёстры спявалі песьні
Пра незабыўную старыну.
Тады, запоўнены нізкай баязлівасьцю,
Ніхто не рабстваў прад ляхам;
Ніхто дзён цяжкіх не цягнуў
Пад ігам цяжкім і не ганаровым:
-296-
Казак у хаўрусе з ляхам быў,
Як вольны з вольным, роўны з роўным.
Але ўсё знікла, як прывід.
Ужо даўно зведаў казак
У сваіх хаўсніках тыранаў.
Жыд, уніят, ліцвін, паляк,
Як статкі крыважадных воранаў
Раздзіраюць без літасьці нас.
Даўно закон у Варшаве драмае,
Дарма народны чутны голас:
Яго ніхто, ніхто не слухае.
Да палякаў нянавісць з той пары
У ва мне кіпіць і кроў бушуе.
Хмурны, суровы і дзікі позірк мой
Душа без волі тужыць.
Адна мара і ноч і дзень
Мне не дае спакою
Ні ў цішыні родных стэпаў,
Ні ў табары, ні ў віхуры змагання,
Ні ў час мальбы ў святых цэрквах:
“Пара! – мне шэпча голас тайны. –
Пара губіць ворагаў Украйны!”
Вядома мне: чакае пагібель
Таго, хто першым паўстае

На прыгнятальнікаў народа;
Лёс мне ўжо наканаваў.
Але дзе, скажы, калі было
Без ахвяр здабыта свабода?
Загіну я за родны край, -
Я гэта адчуваю, я ведаю,
І радасна, айцец святы,
Свой жрэбій я благаслаўляю!”

Кліч да барацьбы пад сцягі свабоды з’яўляецца тэмай шматлікіх дробных твораў Рылеева, асабліва яго пасланняў да сваіх сяброў і таварышаў па Таварыству. Яшчэ ў 1823 годзе Рылееў пісаў свайму сябру Кахоўскаму ў адказ на яго параду застацца назаўсёды жыць на Украіне:

Каб я маладыя годы
Забіваў лянівым сном!

-297-

Каб я не паспяшаўся
Пад сцягі свабоды!
Не, не быць таму вавек
Са мной такога не здарыцца...

Гэта было да таго як Рылееў пачаў браць удзел у дзейнасьці Темнага Таварыства. У апошнія гады гэты прызыў станавіцца ўсё часцей і больш выразным. У маленькім вершы “Веры Мікалаеўнай Сталыпінай” ён пераконвае маці не сумаваць: перад ёй святы абавязак адукаваць дзяцей:

Няхай іх суграмадзяне пабачаць
Гатовымі загінуць за родны край,
Няхай яны ўзненавідзяць
Няпраўду палкай душой!

Да таго ж перыяду адносіцца яго выдатны верш “Грамадзянін”. Паэт заяўляе, што ён не здольны цягнуць свой век пад цяжкім ігам самаўладдзя, ён рыхтуецца да барацьбы за свабоду чалавека і намякае на сваё рашэнне быць Брутам ці Рэгіо:

Ці буду я ў ракавы час
Ганьбіць грамадзяніна званне
І перанімаць у цябе, спешчанае племя
Перарадзіўшыхся славян?
Не, не здольны я ў абдымках задавальнення,
У ганебнай бяздзейнасьці цягнуць свой малады век
І нудзіцца кіпячаю душой
Пад цягкім ігам самаўладдзя.
Няхай юнака не разгадаўшы лёс,
Не хочуць зразумець накаванні стагоддзя
І не рыхтуюцца для будучай барацьбы
За прыгнечаную свабоду чалавека;
Няхай без запалу кідаюць халодны позірк

На бедствы пакутуючай айчыны
І не чытаюць у іх будучы свой пазор
І справядлівыя папрокі нашчадкаў.
Яны раскаюцца, калі народ, паўшы,
Застануць іх у абдымках бяздзейнага лашчання,
І, у бурным мяцежы шукаючы свабодных правоў,
У іх не найдзе ні Брута, Рыэгі.

-298-

Ужо ў вершы “На смерць Чарнова” (1825 г.) паэт вельмі невызначана кліча да барацьбы з дачаснікам і тыранам, які ненавідзіць Святую Русь

Клянёмся гонарам і Чарновым,
Варажнеча і нараканні дачаснікам,
Цароў баючымся рабам,
Тыранам, гатовым нас прыгнятаць.

Пад час гэтага перыяду паэт цалкам захапіўся думкай пра выкананне свайго грамадзянскага абавязку. У адным вельмі маленькім вершы, які адносіцца да яго жонкі, паэт заяўляе, што не жадае яе кахання: сяброўка паэта цураецца яго бурных пачуццяў, яна даруе ворагам, у той час, калі паэт пылае помстай. Ён марыць пра вайну за свабоду радзімы:

Толькі часова я здаюся слабым;
Рухамі душы валодаю,
Не хрысьціянін і не раб,
Мне не каханне зараз патрэбны.
Заняткі патрэбны мне іншыя,
Да спадобы мне адна вайна,
Адны трывогі баявыя.
Каханне ніяк не ідзе ў галаву.
Увы! Мая айчына чакае;
Душа ў абдымках цяжкіх думак
Зараз жадае адной свабоды.

Але цікава пазначыць, што пасярод гэтых прызываў гучыць поўная ўпэўненасць у нешчаслівым зыходзе барацьбе. Паэт як быццам бы прадбачыў сваю смерць, але смерць за народ натхняла паэта. У думе “Валынскі” паэт з захапленнем гаворыць пра слаўную смерць за народ:

Але будзе жыць
У сэрцах і памяці народнай
І ён і натхнёны парыў
Душы цудоўнай і свабоднай.

-299-

Слаўная смерць за народ!
Песняры, герою ў падзяку,
Са стагоддзя ў стагоддзе, із роду ў род
Перададуць яго здзяйсненні.

Рылееў, быццам бы прадбачыць магчымасьць праліцця рэк крыві, але прызнаецца, што іншага выйсьця няма, што неабходна падняць вайну за родны край. У адным высокапаэтычным, пабодным на малітву, звароце да Бога, Рылееў спавядае свае пачуцці:

Я не вінаваты, Божа правы,
Калі тут хлыне кроў ракой;
Вайну пачаў я не для славы,
Я падняў меч за родны край[318].

Але ўсе ахвяры патрэбны для абароны народных правоў, для безсмяротнай павагі да радзімы. У адным урыўку незакончанай паэмы Рылееў такім чынам выказвае сваю думку:

Ці даўно
Казак са смутку вянуў,
Стагнаў і пад ярмом няволі
У сабе ўсе пачуцці заглушаў?
Возьме свае правы прырода;
Бязсмяротная да радзімы павага,
Пачуўся голас святой свабоды,
І раб зноў прачнецца да жыцця[319].

Вось чаму Рылееў кліча да барацьбы за свабоду. Гэты кліч часам чуецца ў яго вершах асабліва моцна. Пакажам яшчэ ўрывак, песня прыхільнікаў Мазепы, якіх натхніла на паўстанне павага да радзімы.

З самапалам і булатам,
З пылкай смеласьцю ў сэрцах,
Смела, таварышы, брат за братам,
На ліхіх сваіх канях!

-300-

Смела грымнем за свабоду,
Абараніўшя сябе храстом!
Вернем правы народу
Ці са славаю памрэм!
Няхай суправаджаемая хуткай славай
Разнясецца паўсюдна чутка,
Што мячом у бітве крывавай
Набыў казак права[320]!

Сапраўднай паэзіяй прасякнуты мары Рылеева пра радзіму і яе свабоду. Ён надаваў сваім думкам форму вершаў. Але іншыя яго таварышы перажывалі падобныя ж пачуцці, ту ю ж палымяную павагу і таксама былі гатовы памерці для карысьці айчыны. Пакажам яшчэ адзін характэрны ўрывак із ліста Кахоўскага, такога ж палямянага патрыёта: “Не пра сябе хачу гаварыць я, але пра

[318] “Веснік Яўропы”. “Із гісторыі літаратуры дваццатых гадоў”, Я. Д. Якушкін, лістапад, 1888 г., стр. 589.
[319] “Веснік Яўропы”. “Із гісторыі літаратуры XX годоў”. Новыя матэрыялы для біяграфіі К. Ф. Рылеева. Якушкін, стр. 586-587.
[320] Там жа, стр. 581-582.

сваю айчыну, якая, пакуль будзе біцца маё сэрца, будзе даражэй усіх багаццяў свету і самаго неба... Я за першае блага лічыў патрэбным ахвяраваць не толькі жыццём, - гонарам ахвяраваць на карысць маёй айчыны. Памерці на пласе, быць разарваным і памерці ў самую хвіліну асалоды, ці не ўсё роўна. Але што можа быць прыемней, чым памерці, прыносячы карысць. Чалавек, перапоўнены чысцінёй, ахвяруе сабой не з тым, каб заслужыць славу, радок у гісторыі, але рабіць дабро для яе без узнагароды. Так я думаў, так і рабіў. Захоплены палымянай павагай да радзімы, імкненнем да свабоды, я не бачыў злачынства ў імкненні да агульнага дабрабыту. Для дабрабыту айчыны я гатовы быў прынесьці ў ахвяру і майго бацьку. Сагрэты палымянай павагай да айчыны: адна думка пра карысць ёй сілкуе маю душу. Я раздражняюся, калі ўяўляю сабе ўсе беды, якія раздзіраюць маю айчыну”[321].

-301-

# II.
# Адносіны да самаўладдзя.

І так, у светапоглядзе дзекабрыстаў, ва ўсім іхным душэўным складзе адлюстроўвалася гарачая павага да радзімы, настойлівае імкненне працаваць на яе карысць, жаданне прынесьці сябе ў ахвяру, калі інтарэсы айчыны таго патрабуюць. Дзекабрысты выпрацавалі ідэал пры якім, згодна іхнага разумення, Расія можа быць шчаслівай. Для адных такое шчасьце можа наступіць пры канстытуцыйнай форме кіравання, ва ўяўленні іншых такой формай можа быць рэспубліка, таму што яны не давяралі абяцанням манархаў. Згодна слоў Пестэля, ён знаходзіць “бяспрэчныя доказы трываласьці манархічных канстытуцый і дастатковыя падставы для недаверу ў шчырасьці згоды манархаў на канстытуцыі прымаемыя імі”[322]. “Манарх, - тлумачыць Пестэль, - змяняе канстытуцыю як тарыф, таму што ён заўсёды адчувае варожасць да яе”[323]. згодна меркавання Мацвея Мураўёва, нельга нават “верыць прысягненню тырана”[324]. Гэта былі ўжо крайнія меркаванні. Але, ва ўсякім выпадку, да якой высновы не прыходзілі б тыя ці іныя сябры Таемнага Таварыства, відавочна, што яны павінны былі пачаць барацьбу з галоўнай прашкодай, якая сустракалася на іхным шляху да галоўнай мэты, вызначанай імі. На гэтым хляху стаяла рускае самаўладдзе. Вельмі зразумела, што яно было аб’ектам іхнай нянавісьці і іхнай барацьбы. Лунін апавядаў у сваіх пазнейшых нататках, што Таемнае Таварыства выявіла “самім фактам свайго існавання і

-302-

агульнасьцю сваіх памкненняў, што самаўладдзе ўжо не адпавядае сучаснаму становішчу народа і што ўрад, заснаваны на законах справядлівасьці і розуму,

[321] Пятро Рыгоравіч Кахоўскі, “Былое”, 1906 г., студзень, стр. 141.
[322] “Былое”, 1906, люты, 138.
[323] Справа № 5, сведчанні Брыгена.
[324] “Мемуары дзекабрыстаў”, вып. І, 92.

адзін у стане падняць яго на прыступку, вызначаную яму ў сям'і народаў адукаваных"[325].

Самаўладдзе выяўлялася той магутнасьцю, у барацьбе з якой яны рыхтаваліся пакласьці сваё жыццё. Рылееў не аднойчы зваў да гэтай барацьбы.

Не, не нявольнікі не ў стане
Пылаць агнём высокіх дум;
Не кроў – вада цячэ ў іх жылах,
Іхныя пачуцці спяць, іхны розум драмае.
Няма прымірэння, няма ўмоўленасьці
Паміж тыранам і рабом:
Тут патрэбны не чарнілы, а кроў,
Мы павінны дзейнічаць мячом[326].

Такая форма ўлады бачылася дзекабрыстам у самых змрочных фарбах. Раеўскі із турмы ў сваім пасланні да Пушкіна раіць свайму сябру пакінуць апавяне кахання:

Пакінь іншым песнярам каханне:
Ці апавяць пра каханне там дзе ільецца кроў,
Дзе кат з усмешкай і кпінамі
Мучыць нас крывавым катаваннем[327].

У сваіх шматлікіх размовах з сябрамі Рылееў называў манархічную ўладу не інакш, як "тыранскай" і імкнуўся выклікаць да яе нянавісць[328]. У гэтым дачыненні выклікаюць вялікую цікавасць уводзіны да канстытуцыі, знайдзеныя ў паперах кн. Трубяцкога (менавіта гэта адна із рэдакцый канстытуцыі Мікіты Мураўёва), якія тлумачаць падставы адмены



самаўладнай улады. "Вопыт усіх народаў, - гаворыцца тут, - і ўсіх часоў даказаў, што самаўладная ўлада аднолькава пагібельная як для ўрада, так і для грамадства, што яна не спалучаецца ні з правіламі нашай святой веры, ні з высновамі здаровага разважання. Нельга дапусьціць каб асновай дзейнасьці ўрада было самавольства аднаго чалавека, нельга пагадзіцца з тым, што ўсе правы знаходзяцца на адным баку, а ўсе абавязкі – на другім. Сляпое падпарадкаванне можа быць заснавана толькі на баязьні і не годна як для разумнага кіраўніка, так і для разумных выканаўцаў. Гаспадары спасылаюцца на законы, калі справа мае дачыненне да іншых і не прызнаюць законаў, калі яна мае дачыненне да іх самых. Тут заўважаецца неадпаведнасць: калі яны справядлівыя, то ім патрэбна падпарадкоўвацца законам, калі яны не справядлівыя, то яны не павінны падпарадкоўваць сабе іншых"[329]. Канстытуцыйныя праекты дзекабрыстаў катэгарычна вызначаюць, што рускі народ не можа быць маёмасьцю нейкай асобы, ці сям'і.

[325] Погляд на Таемнае Таварыства ў Расіі (1816-1826). С. Луніна, "Палярная зорка", 1859 г., 5 стр. 233.
[326] Якушкін, Мтэрыялы для біяграфіі Рылеева, "Веснік Яўропы", стр. 589.
[327] "Руская старына", 1890 г., т. 66, стр. 368.
[328] Апавяданне Булатава, "Мемуары дзекабрыстаў", вып. I, 225.
[329] "Мемуары дзекабрыстаў", вып, I, стр. 6.

Але, дарэчы, следчая справа, згодна з цалкам зразумелымі нагодамі, дастаткова слаба адлюстроўвае ў сабе тыя характарыстыкі самаўладнай улады, якія выходзілі з асяродку дзекабрыстаў. Найлепшым адлюстраваннем іхных поглядаў служаць два творы, якія трапілі ў рукі Следчай Камісіі. Гэта – катэхізіс Сяргея Мураўёва і “Цікавая Размова” Мікіты Мураўёва. Абодва творы – пракламацыі, складзеныя ў форме пытанняў і адказаў.

У “Цікавай Размове” Мікіта Мураўёў так апавядае пра самаўладдзе (дарэчы, заўважым, то на следстве ён прызнаў, што пазначаны твор належыць яму). Мы пакажам тыя пытанні і адказы, якія маюць дачынене да вызначэння самаўладдзя:

“Пытанне. што азначае гаспадар самаўладны?”

-304-

“Адказ. Гаспадар самаўладны той, які сам па сабе ўтрымлівае зямлю, не прызнае ўлады розуму, законаў Божых і чалавечых; сам ад сябе, г. зн. без падставы, па свайму капрызу ўладарыць ”.

“Пытанне. Хто ж прызначыў самаўладных гаспадароў?”

“Адказ. Ніхто. Нашы бацькі гаварылі: пашукаем сабе князя, які б кіраваў па праву, а не самавольна, згодна свавольствам і капрызам. Але гаспадары паціху, рознымі ашуканствамі, прысвоілі сабе бязмежную ўладу, бяручы прыклад з хана татарскага і султана турэцкага”.

“Пытане. Ці не сам Бог усталяваў самаўладдзе?”

“Адказ. Бог па дабраце сваёй не мог усталяваць зло”.

“Пытанне. чаму ж кажуць: няма ўлады не ад Бога?”.

“Адказ. Злая ўлада не можа быць ад Бога. Усякае добрае дрэва нараджае добрыя плады, усякае ж дрэва, якое не прыносіць добрых пладоў, будзе ссечана і кінута ў полымя. Драпежным ваўкам, у авечых скурах, якія распаўсюджваць слова Божае, мы нагадаем словы Выратавальніка: ніколі не ведаў вас, адыдзіце ад мяне, робячыя беззаконні”.

“Пытанне. Ці ёсць самаўладныя гаспадары ў іншых землях?”

“Адказ. Няма, усюды самаўладдзе лічыцца вар’яцтвам, беззаконнем, усюды ўсталяваны неабходныя правілы ці законы”.

“Пытанне. Ці не могуць быць усталяваны пастаянныя законы пры самаўладдзі?”

“Адказ. Самаўладдзе іх не церпіць; для яго неабходна бязладдзе і пастаянныя перамены”.

“Пытанне. Чаму ж самаўладдзе не церпіць законаў?”

“Адказ. Таму што гаспадар вольны рабіць усё, што захоча. Сення яму ўздумаецца адно, а заўтра – іншае,

-305-

а да нашай карысьці яму справа малая, таму і пагаворка: бліз цара, бліз смерці”.

“Пытанне. Якім было на Русі кіраванне без самаўладдзя?”

“Адказ. Заўсёды існавалі народныя вечы”.

Патлумачыўшы далей значэнне народнага веча і спосабы яго збірання, аўтар “Цікавай Размовы”, таксама ў форме пытанняў і адказаў, тлумачыць, што

падставай падзення веча было татарскае нашэсьце і што далейшая тыранія татар прывучыла рускі народ схіляца перад тыранамі. У супрацьлегласць самаўладдзю і рабству, “Цікавая размова” развівае разуменне свабоды. Бог дараваў чалавеку свабоду. Чалавек вольны “рабіць усё тое, што не шкодзіць іншаму”, гэта яго права. Усе людзі павінны быць вольнымі. Дарэчы, малая колькасць людзей падпарадкавала большую, чаму і не ўсе людзі вольныя. Нагодай гэтага з’яўляецца тое, што “адным прыйшла подлая думка валадарыць, а другім – подлая думка адмовіцца ад прыродных правоў чалавека, дараваных Самім Богам”. Але свабоду належыць аднавіць: яна заснавана на пастаянных правілах ці законах, як гэта было на Русі ў старыну.

Праваслаўны катэхізіс Сяргея Мураўёва тлумачыць гэтае пытанне падобным жа чынам. Бог стварыў чалавека каб ён быў вольны і шчаслівы. Без волі шчасьця няма. І далей тлумачыцца, чаму ж рускі не шчаслівы:

“Пытанне. Чаму ж рускі народ і рускае войска не шчаслівыя?”

“Адказ. Таму што цары ўкралі ў іх свабоду”.

“Пытанне. Значыць цары дзейнічаюць насупрак Божай волі ”

“”Адказ. Так, бяспрэчна. Наш Бог гаварыў: “Воля ў вас ды будзе для вас служкай”. А цары прыгнятаюць толькі народ”.

-306-

“Пытанне. Ці патрэбана падпарадкоўвацца царам, калі яны робяць учынкі супярэчачыя волі Божай?”

“Адказ. Не. Хрыстос сказаў: “Не можаце служыць Богу і мамоне”. Пагэтаму рускі народ і рускае войска пакутуе, што падпарадкоўваюцца царам”.

“Пытанне. Што ж святы закон наш раіць рабіць рускаму народу і войску?

“Адказ. Пакаяцца ў доўгім паслушэнстве і, выступіўшы супраць тыранства і ганьбавання, даць клятву: ды будзе ўсім цар адзін на небе і на зямлі Ісус Хрыстос”.

Але  Сяргей Мураўёў рэспубліканец і пагэтаму ён дае параду “ўзяць зброю і, скінуўшы няпраўду і паганства тыраніі, аднавіць кіраванне, адпаведнае закону Божаму”. На закон Божы падобна тое кіраванне, “дзе няма цароў”, таму што Бог стварыў усіх роўнымі.  Бог не паважае цароў. “Яны пракляты па-сутнасьці ім жа, як прыгнятальнікі народа, а Бог ёсць чалавекалюбівы”. На пытанне, што ж патрэбна рабіць хрысьціянскаму рускаму войску, аўтар катэхізіса адказвае: “Для вызвалення пакутуючых сямей сваіх і сваёй радзімы і для выканання святога закона хрысьціянскага, памаліцца цёплай надзеяй Богу, пабараючаму па праўдзе і, хутчэй за ўсё, заступаючамуся за цвёрда веруючых ў яго, выступіць усім разам супраць ціранства і аднавіць веру ў свабоду ў Расіі. А хто застанецца той, як Іўда-здраднік будзе анамефа, пракляты”.

Такі кульмініцайны пункт, да якога падыйшлі дзекабрысты, пачаўшы з крытыкі існуючага ўладкавання.

# III.

# Папярэднія заўвагі аб канстытуцыйных праектах.

Праз увесь светапогляд дзекабрыстаў чырвонай ніткай праходзіць адна рыса – менавіта крайне адмоўнае стаўленне да сучаснага ім дзяржаўнага і грамадзкага ўладкавання. На самай справе, калі б некаторыя з іх маглі б прымірыцца з прывілегіямі дваранскага стану, то ніхто з іх не мірыўся з рабскім становішчам сялян і з асновай дзяржаўнага ўладкавання – з самаўладным рэжымам. Такое адмоўнае стаўленне не было вынікам хутказнікаючага захаплення. Цалкам не справядліва было б бачыць у ім толькі перайманне еўрапейскай думкі. Пры папярэднім выкладанні дастаткова выразна паказана, што ў дадзеным выпадку мы маем справу з высокім культурным асяроддзем, цалкам свядома ставіўшымся да з'яў як рускага, так і заходне-еўрапейскага жыцця. Із таго факта, што гэтае асяроддзе складалася із людзей, атрымаўшых шырокую заходне-еўрапейскую адукацыю, ні ў якім разе не можа быць зроблена выснова, што менавіта пад уплывам чытання і асветы ў гэтым асяроддзі выспела ўпэўненасць у неабходнасьці рэвалюцыйнай дзейнасьці. Але справа ў тым, што тагачасная адукацыя, і асабліва палітыка-юрыдычная, была амаль выключна французкай. Як следства, палітычная думка, у якой бы краіне яна ў той час ні працавала, натуральна абапіралася на гэтую крыніцу палітычнай і навуковай думкі. Такім чынам, гэтая крыніца была агульнай і для разважаючай часткі рускага грамадства. Ды і, наогул, навука таго часу была інтэрнацыянальным набыткам.



Калі дзекабрысты звярталіся да гэтай крыніцы, шукаючы асветы і апырышца для сваіх палітычных меркаванняў, то тут, паўтараем, не было захаплення. Насупраць, гэта толькі паказвае на тое, што дадзены асяродак вельмі сур'ёзна ставіўся да справы.

Рускае дзяржаўнае і грамадзкае жыццё для назіральнага чалавека таго часу давала шмат самых разнастайных доказаў непрыдатнасьці тагачаснага дзяржаўнага ўладкавання. Для гэтага зусім не было вялікай неабходнасьці знаёміцца з заходне-еўрапейскімі канстытуцыямі ці з парламенскім рэжымам. А дзекабрысты былі менавіта тымі людзьмі, якія вельмі ўважліва назіралі за навакольным жыццём. Можна выказаць пярэчанне, што яны пачалі назіраць навакольнае жыццё ўжо пасля знаёмства з заходне-еўрапейскім уладкаваннем. Бяспрэчна, чалавек таго часу не мог не ведаць пра барацьбу за свабоду ў Францыі ці ў Нямеччыне. Але ведаць пра барацьбу за свабоду і прыняць рашэнне самаму пачаць барацьбу з урадам, гэта – з'явы зусім розныя і мала звязаныя адна з другой. Нам давялося паказаць шэраг пераканаўчых доказаў таго, што рэвалюцыйная думка, разуменне неабходнасьці рэвалюцыйнай барацьбы, развівалася цалкам незалежна ад нейкай старонняй агітацыі. Гэта было адлюстраваннем непасрэднага разумення чалавечай годнасьці і высокага патрыятызма.

На самай справе, які б бок тагачаснага дзяржаўнага жыцця мы б не ўзялі і калі ўзважыць стаўленне да яго дзекабрыстаў, то ў іхнай крытыцы мы сустракаем трапныя заўвагі. Былі, бяспрэчна, з’явы, відавочныя для ўсяго тагачаснага грамадства, нападобе Аракчэеўскага рэжыма, ваенных паселішчаў і г. д. Але ў шэрагу з’яў дзяржаўнага жыцця былі і такія, заўважыць якія было не так ужо і проста. У крытыцы дзекабрыстаў мы, напрыклад, сустракаем выразнае ўяўленне адмоўных бакоў адміністрацыйнага механізма

-309-

як цэнтральнага, так і мясцовага, адпаведную ацэнку эканамічных захадаў урада і г. д. Нарэшце, патрэбна было высокае развіццё грамадзянскіх разуменняў для таго, каб адмовіцца ад такой з’явы, як прыгоннае права.

Увесь светапогляд дзекабрыстаў прасякнуты адчуваннем глыбокай павагі да радзімы і імкненнем даць ёй волю, забяспечыць палітычны і матэрыяльны дабрабыт. Няхай нашчадкі паказваюць на недахопы дзекабрыстаў, няхай пазначаюць тыя або іншыя адмоўныя рысы асабістых якасьцей той ці іншай асобы; можна паказаць на шэраг, магчыма, не самых прывабных бакоў у дзейнасьці Таемнага Таварыства, але ніяк не магчыма адмовіць ім у тым, што іхныя памкненні выходзілі із цёплага пачуцця павагі да айчыны, із высокіх патрыятычных памкненняў, із павагі да абяздоленай брацii. У іхных памкненнях няма эгаізму: таму што гэта былі людзі, жыццёвы дабрабыт якіх менавіта пры самаўладным рэжыме мог быць забяспечаны найлепшым чынам: для славалюбівых эгаістычных мэт такі рэжым мог даць усё, асабліва для асоб, ужо і без таго стаяўшых высока дзякуючы паходжанню, сувязям і службоваму становішчу.

У выніку ідэал дзекабрыстаў зводзіцца да простай высновы: самаўладдзе ёсць тыранія; ніякія паляпшэнні ў дзяржаве пры такім спосабе кіравання немагчымыя. Для таго, каб накіраваць дзяржаву ў напрамку прагрэсу, спачатку неабходна знішчыць тыранію. Для гэтага існуе толькі адзін шлях – шлях рэвалюцыйнай барацьбы; але да рэвалюцыі патрэбна доўга рыхтавацца, патрэбна падрыхтаваць як рэвалюцыянераў, так і шырокія грамадзкія кругі, наогул малаадукаваныя.

Праўда да такой высновы, ва ўсёй яе паўнаце, дзекабрысты прыйшлі не адразу. Таемнае Таварыства пачало ствараццa на прыканцы 1816 года, г. зн. у той час,

-310-

калі яшчэ верылі апошнім ліберальным абяцанням Аляксандра I. Здавалася, сам урад гатовы стаць на шлях вольнага развіцця краіны. З боку ліберальна настроенай часткі грамадства было б цалкам натуральным падтрымаць урад на гэтым шляху. Але хутка стала відавочным, што ліберальныя запэўніванні заканчваюцца самым цяжкім рэжымам. Узмацненне рэакцыі супадае з рашэннем сябраў Таемнага Таварыства не спадзявацца на ўрад, рыхтаваць пераварот рэвалюцыйным шляхам.

З іншага боку развіццё Таемнага Таварыства ішло такім шляхам. На прыканцы 1816 года ствараецца Хаўрус Выратавання. Але ён працягвае сваё

існаванне не вельмі доўга і ўжо на наступны год гэтае таварыства выпрацоўвае новы статут і арганізуецца пад імем Хаўрус Дабрабыту. На пачатку 1821 года дзейнасць гэтага Хаўрусу была спынена самімі сябрамі, праз разнагалоссі, якія ўзніклі ў іхным асяроддзі, і таму, што сабраўшыяся ў Маскве на сход прадстаўнікі таварыства даведаліся, што ўрад ведае пра існаванне Хаўруса. Але дзякуючы гэтаму, найбольш перакананыя сябры атрымалі магчымасць, не будучы абцяжаранымі больш умераннымі, прыступіць да больш інтэнсіўнай палітычнай дзейнасьці. Сапраўды, хутка пасьля тэтага ў Тульчыне пад уплывам Пестэля пачынае дзейнасць Таемнае Таварыства. Праз год аднаўляецца Таварыства ў Пецярбурзе. Зараз паўстала два самастойных таварыствы, Паўднёвае і Паўночнае. Але ў сваёй аснове абодва таварыствы складаюцца із тых жа самых людзей, якімі былі заснаваны як Хаўрус Выратавання так і Хаўрус Дабрабыту. Гэта, так сказаць, аснова таварыства. Але паралельна з Хаўрусам Выратавання і Хаўрусам Дабрабыту ўзнікалі і іншыя таемныя таварыствы, маючыя, дарэчы, непрацяглае



існаванне і ў далейшым далучыўшыяся да асноўных таварystваў.

Гэта знешні бок развіцця таемных таварystваў. З моманту свайго заснавання Таемнае Таварыства ставіла перад сабой дзве мэты. Па-першае, падрыхтоўчая дзейнасць да пераходу Расіі на аснове прадстаўнічай формы кіравання, па-другое, шырокія культурныя задачы для падрыхтоўкі разнастайных станаў рускага грамадства да прыняцця думкі пра неабходнасць пераходу Расіі да канстытуцыйных форм кіравання. Такая пастаноўка справы заўважаецца ўжо ў статуце Хаўруса Выратавання, асабліва моцнае развіццё атрымала ў статаце Хаўрусу Дабрабыту. Паўночнае Таварыства засвоіла такую ж думку, але Паўднёвае не вызначала сваёй мэтай падрыхтоўчую дзейнасць, таму што яно бачыла выратаванне Расіі ў хутчэйшым пераварoце. Гэтае аб’яднанне двух задач вельмі цікавае. Яно паказвае, што дзекабрысты былі далёкія ад думкі сілай навязаць дзяржаве канстытуцыю, чаму і імкнуліся да таго каб падняць культурны ўзровень насельніцтва, пашырыць у яго асяроддзі асвету і шляхам перакананння выклікаць у ім упэўненасць у перавазе канстытуцыйных формаў кіравання. Пастаноўка падобнай задачы, характэрызуыючы стаўленне да справы саміх дзекабрыстаў, вельмі цікавая. Але, зразумела, што падобная задача вельмі шырокая па свайму аб’ёму і невыканальная для невялікай купкі сябраў Таемнага Таварыства; яна можа быць выканана з дапамогай школ і друку на працягу дзесяціцгоддзяў.

Але, побач з культурна-асветніцкай дзейнасьцю Таемным Таварыствам паднімаецца і палітычны ідэал. Хаўрус Выратавання імкнецца да канстытуцыі, але яе формы ў яго асяроддзі застаюцца не вызначанымі. Гурт асноўных сябраў Хаўруса Дабрабыту ўжо падыходзіць да думкі пра перавагу рэспубліканскай формы кіравання параўнальна з канстытуцыйна-манархічнай.



Першым праваднікам гэтай думкі з’яўляецца відны сябра Таемнага Таварыства Новікаў, хутка, дарэчы, памёршы. У 1820 годзе ў Пецярбургу сабралася Карэнная

Дума Хаўрусу Дабрабыту і на гэтым сходзе было вырашана, што ў дачыненні да Расіі неабходна імкнуцца да ўсталявання рэспублікі. Такое рашэнне было прынята пад вялікім уплывам Пестэля.

Пасьля ўтварэння Паўночнага і Паўднёвага таварystваў палітычныя тэндэнцыі абодвух таварystваў выявіліся не аднолькавымі. Пестэль па-ранейшаму адстойваў рэспубліканскае ўладкаванне, а паміж пецярбурскіх сябраў пачаў пераважаць канстытуцыйна-манархічны накірунак. Натхняльнікам Таварыства тут, у Пецярбургу, выяўляецца Мікіта Мураўёў. Спачатку ён прытрымліваецца, падобна іншым сябрам Карэннай Думы, рэспубліканскіх перакананняў. Але ён сам апавядае пад час следства, што абмяркоўваючы пытанне пра разнастайныя формы кіравання, ён прыйшоў да высновы аб перавазе канстытуцыйнай манархіі, абапіраючайся на фэдэральнае ўладкаванне, параўнальна з рэспубліканскай формай кіравання. І Мікіта Мураўёў пачаў распрацоўваць праект канстытуцыі падобнага накірунку. У Песталя ж адбылася супрацьлеглая перамена ў перакананнях. Спачатку ён спыніўся на той думцы, што для Расіі дастаткова ўсталяванне канстытуцыйна-манархічнага ўладкавання, але затым перайшоў на рэспубліканскую платформу. Да гэтага перакананне яго прывёў шэраг сур’ёзных высноў і ён пачаў працу над сваім праектам канстытуцыі, які ён назваў “Руская Праўда”. У сваіх сведчаннях на следстве ён патлумачыў той працэс, згодна якому ён стаў перакананым рэспубліканцам. “Я згадваў шчаслівыя часы Грэцыі, калі яна складася із рэспублік і стан яе варты жалю ў далейшым. Я параўноўваў велічную славу Рыма пад час Рэспублікі з яе жаласлівым становішчам пад час кіравання



імператараў. Гісторыя Вялікага Ноўгарада таксама схіляла мяне да рэспубліканскага ўладкавання. Я знаходзіў, што ў Францыі і Ангельшчыне канстытуцыі па сутнасьці толькі пакрывалы, ніяк не перашкаджаючыя міністэрству ў Ангельшчыне і каралю ў Францыі рабіць усё, што яны пажадаюць і ў гэтым дачыненні я аддаваў перавагу самаўладдзю перад такой канстытуцыяй, таму што ў самаўладным урадзе, разважаў я, неабмежаванасць улады бачна ўсім, між тым як пры канстытуцыйных манархіях таксама існуе неабмежаванасць, хаця і дзейнічаючая больш павольна, але затое не даючая магчымасьці нешта хутка выправіць. Што ж да абодвух палат, то яны існуюць толькі для пакрывала. Мне здавалася, што галоўнае памкненне цяпершняга стагоддзя заключаецца ў барацьбе народных мас з самымі рознымі арыстакратыямі, заснаванымі як на заможнасьці, так і на спадчынных правах. Я лічыў, што гэтыя арыстакратыі, на прыканцы зробяцца больш магутнымі чым манарх, як то ў Ангельшчыне і што галоўнай перашкодай да дзяржаўнага дабрабыту з’яўляюцца менавіта яны і яны могуць быць адхілены адным толькі рэспубліканскім уладкаваннем дзяржавы. Падзеі ў Неапалі, Гішпаніі і Партугаліі мелі на мня вялікі ўплыў. Я знаходзіў у іхных прыкладах бяспрэчныя доказы нетрываласьці манархічных канстытуцый і падставы для недаверу ў шчырасьці згоды манархаў на канстытуцыю, імі ж прынімаемую. Гэтыя апошнія меркаванні моцна зацвердзілі ў мяне рэспубліканскія і рэвалюцыйныя пракананні. Із гэтага

Камітэт мае ласку зрабіць выснову, што падобныя думкі зацвердзіліся ў мяне як праз чытанне кніжак, так і праз разважанні пра розныя падзеі, а таксама той абставінай, што мае думкі падзяляліся шматлікімі людзьмі, сябрамі Таварыства. Усё гэта прывяло да таго, што ў глыбіні душы я зрабіўся рэспубліканцам і ні ў чым іншым не бачыў

-314-

лепшага шчасьця для Расіі, як толькі ў рэспубліканскім уладкаванні".

Дзякуючы вялікаму ўплыву Пестэля, яго перакананні атрымалі перавагу ў асяродку сябраў Паўднёвага Таварыства і рыхтуемая на поўдні рэвалюцыя мела на мэце менавіта ўладкаванне ў Расіі рэспублікі. Такім быў канчатковы ідэал Паўднёвага Таварыства.

У Паўночным Таварыстве Мікіта Мураўёў спачатку меў пераважаючы ўплыў, чаму выпрацаваны ім праект канстытуцыі атрымаў тут больш менш агульнае прызнанне і з'явіўся пагэтаму канчатковым ідэалам сябраў Паўночнага Таварыства. Дарэчы, склад гэтага Таварыства быў значна больш разнародным і ў ім, пад уплывам сябраў Паўднёвага Таварыства: Мацвея Мураўёва-Апостала, Паджыо, якія жылі некаторы час у Пецярбургу і асабліва пад уплывам самага Пестэля, заўсёды існаваў гурт, спачуваўшы рэспубліцы. Але, побач з гэтым, у ім быў дастатковa шматлікі гурт, які быў гатовы задаволіцца дастаткова ўмеранай канстытуцыяй і нават з арыстакратычнымі тэндэнцыямі. З'яўленне ў Паўночным Таварыстве Рылеева і яго праважаючае значэнне, асабліва пасьля ад'езду Мікіты Мураўёва із Пецярбурга на самым пачатку 1825 года, прывялі да таго, што і Вярхоўная Дума Паўночнага Таварыства пачала вагацца ў пытаннях пра рэспубліку і канстытуцыйную манархію.

Так выпрацоўваліся канчатковыя мэты абодвух таварыстваў. Патрэбна заўважыць, што Паўднёвае Таварыства настойвала на прыняцці сваіх ідэалаў сябрамі Паўночнага Таварыства і выказвала гатоўнасць зліцця з імі ў адну арганізацыю, але пры ўмове прызнання ў Пецярбурзе рэспубліканскага ўладкавання. Князь Барацянскі, князь Ваўконскі, Васіль Давыдаў і Мацвей Мураўёў-Апостал былі ў Пецярбурзе для перамоваў з сябрамі Паўночнага Таварыства менавіта з гэтай нагоды. Але ўплыў Мікіты Мураўёва стрымліваў

-315-

Паўночнае Таварыства ад канчатковага зліцця з Паўднёвым. У 1824 годзе з той жа мэтай у Пецярбургу быў Пестэль. Ён знайшоў туту сабе хаўрусніка ў асобе сябра Паўночнай Думы князя Абалнnскага, меў вялікі ўплыў на перамену думак Рылеева, але канчатковага поспеху не дабіўся: зліцця таварыстваў не адбылося, хаця абодва таварыствы ўмовіліся дзейнічаць сумесна. Гэтая абставіна тлумачыцца тым, што абодва таварыствы не знайшлі паразумення менавіта ў пытанні формы кіравання. Пры перамовах пастаянна абмяркоўвалася пытанне аб перавагах той і другой формы кіравання і пра тыя ці іншыя бакі будучай канстытуцыі. Шмат пярэчанняў у Пецярбурзе сустракаў аграрны праек Пестэля, а таксама яго думка аб неабходні часовага ўраду.

Мы не будзем разглядаць пытанне аб тым, ці належала сябрам Таварыства да рэвалюцыі падрыхтаваць у падрабязнасьцях праект канстытуцыі;

заўважым толькі на заключэнне гэтага схематычнага агляду, што на прыканцы абодва таварыствы прыйшлі да высновы аб перадачы пытання пра форму канстытуцыі будучаму першаму сходу народных дэпутатаў ці вялікаму земскаму сходу, як называў яго Рылееў. Да гэтай думкі прыйшлі на прыканцы, не задоўга да рэвалюцыі, сябры абодвух таварystваў, да якіх у 1825 годзе перайшло фактычнае кіраўніцтва Таварыствам, Рылееў і Трубяцкі з аднаго боку і Сяргей Мураўёў і Бястужаў-Румін – з другога.

Пераход да рэспублікі ці канстытуцыйнай манархіі патрабаваў выпрацоўкі самага плана рэвалюцыі. Для Паўднёвага Таварыства гэты план, выпрацаваны Пестэлем, быў цалкам відавочным: знішчэнне ўсёй дынастыі і абвяшчэнне новай формы кіравання, падтрыманае паўстаннем войска. Паўночнае Таварыства так відавочна пытанне не паднімала. Для пачатку рэвалюцыйных

-316-

дзеянняў яно было схільна чакаць перамены гаспадара для таго, каб запатрабаваць ад яго пераемніка прызнання канстытуцыі. У выпадку ўпартасьці з боку дынастыі прапаноўвалася арыштаваць яе і выслаць за мяжу. Рылееў вагаўся паміж гэтым планам і планам царазабойства.

Такі, выказаны ў кароткай форме, ход развіцця рэвалюцыйнай думкі ў асяроддзі сябраў таемных таварystваў. Зараз для нас відавочна, што складзеныя праекты канстытуцый з’яўляюцца канчатковымі ідэаламі гэтых таварystваў. З гэтымі праектамі мы зараз можам пазнаёміцца. Пачнем з “Рускай Праўды” Пестэля.

Патрэбна заўважыць, што рэсубліканская канстытуцыя Пестэля з’яўляецца ўжо другім праектам, які выйшаў із асяроддзя сябраў Таемнага Таыварыства. У паперах графа Дзьмітрыева-Мамонава, які быў таксама сябрам Таемнага Таварыства, знаходзяцца яшчэ некалькі праектаў рэспубліканскай канстытуцыі. Гэта найбольш ранні праект, складзены да 1817 года (у гэтым годзе Дзьмітрыеў-Мамонаў захварэў псіхічнай хваробай) і па некаторых меркаваннях яго прыпісваюць згаданаму вышэй Новікаву[330]. Перш чым перайсьці да “Рускай Праўды” мы зробім адну заўвагу. Згодна меркаванняў Пестэля, у выпадку поспеху пераварота, улада павінна перайсьці да вярхоўнага часовага ўраду. Ён абавязаны абвясьціць рэспубліку у той форме, як яна выкладзена ў “Рускай Праўдзе” і потым правесьці ў дзяржаве ўсе вызначыныя “Рускай Праўдай” рэформы. Згодна меркаванняў Пестэля для поўнага ўладкавання дзяржавы спатрэбіцца восем, дзесяць ці нават пятнаццаць гадоў. На гэты час улада пераходзіць да Вярхоўнага Часовага Ўрада. Пестэль

-317-

заснаўваў сваю думку пра неабходнасць прамежкавага перыяду на тым, што рэвалюцыйныя буры, суправаджаемыя анархіяй, вельмі шкодна адлюструюцца на ўсім уладкаванні краіны і могуць прывесьці да вынікаў, радыкальна супраглеглых тым мэтам, якія ставіліся на пачатку рэвалюцыі. “Жудасныя падзеі,

[330] Гэты праект надрукаваны ў артыкуле В. Я. Сямоўскага “Пытанне аб пераўтварэнні дзяржаўнага ўладкавання ў Расіі”, “Былое”, 1906, люты.

- апавядае ён у сваіх сведчаннях, - здарыўшыяся ў Францыі пад час рэвалюцыі, вымусілі мяне шукаць сродак для таго каб пазбегнуць падобнага і гэта прывяло мяне да думкі ад Часовым урадзе і яго неабходнасьці і заўсёдныя мае размовы аб парэджванні магчымым міжусобіц”. Пестэль імкнуўся не толькі да таго, каб напісаць праект канстытуцыйнага закона. У яго было жаданне напісаць такі палітычны трактат, які б пераканаў вызваленых ад тыраніі грамадзян у неабходнасьці і мэтазгоднасьці як самой формы рэспубліканскага кіравання, так і тых радыкальных рэформаў, якія Пестэль прапаноўваў правесьці ў сваёй будучай рэспубліцы. У “Рускай Праўдзе” ён дае толькі асноўныя вызначэнні канстытуцыі і ў ёй няма заканадаўчага праекта ў паўным значэнні гэтага слова.

Пры вывучэнні “Рускай Праўды” вялікае значэнне мае той знешні выгляд, у якім гэты помнік знаходзіцца ў цяперашні час. Яна не была цалкам напісана Пестэлем. Калі ён быў арыштаваны, то яго сябры закапалі “Рускую Праўду”. Перад тым як закапаць некаторыя паперы былі знішчаны. Калі Заікін і браты Бобрышчавы-Пушкіны нарэшце прызналіся дзе закапана “Руская Праўда”, то аднагачасова яны распавялі  і пра спаленне некаторых папер. Тыя паперы, змест якіх яны выклалі на следстве, да “Рускай Праўды” дачынення не мелі. Але



няма ўпэўненасьці ў тым, што падсудныя не схавалі ад камісіі спаленне і частак “Рускай Праўды”: следчую камісію вельмі цікавіла пытанне пра “Рускую Праўду” і пра яе паўнату. У сучасным выглядзе толькі першыя 120 старонак ідуць па парадку. Потым ідуць не пранумараваныя сшыткі ўжо нескончаных главаў і не ў той пасьлядоўнасьці ў якой яны павінны былі б быць. Некаторыя сшыткі пераблытаны, затым сустракаюцца нават асобныя лісты. І так, рукапіс дайшоў да нас не ўпарадкаваным. Праўда, і сам Пестэль гаворыць, што некаторыя главы напісаны не ім. Але яго сведчанне пра склад “Рускай Праўды” дадзена 13 студзеня, калі “Праўда” яшчэ не была знойдзена[331].

---

[331] З нагоды значнасьці самага складу “Рускай Праўды” пакажам сведчанне самага Пестэля: “Маё ўяўленне пра дзяржаўнае ўладкаванне складалася большай часткай із адных толькі ўрыўкаў. Цэлага я яшчэ не зрабіў. Я збіраўся мой твор пасьля заканчэння вынесьці на суд грамадства. Ён павінен быў складацца із дзесяці частак.

Першая частка разважала пра межы дзяржавы і пра падзел яе зямельнай прасторы на вобласьці, абласьцей – на акругі ці губерніі, акруг на ўезды, уездаў на воласьці і вызначала значэнне і склад валасьцей.

Другая частка разважае пра жыхароў Расіі, падзяляляючы іх на карэнны народ рускі і на падначаленыя і далучаныя і паказвае на сродкі, з дапамогай якіх можна аб'яднаць усё гэтае разнароддзе ў адзін агульны склад такім чынам, каб усе жыхары Расіі праз нейкі час складалі па сутнасьці толькі адзін народ.

Трэццяя частка разважала пра ўсе розныя станы, якія меліся ў дзяржаве, паказваючы на правы, перавагі і недахопы кожнага із іх і прапануючы захады і дзеянні, якія патрэбна было б здзейсніць для кожнага з іх, каб аб'яднаць усе станы ў адзін агульны стан – грамадзян.

Чацвертая частка разважала пра палітычнае ці грамадзкае становішча народа, пра правы грамазян, пра роўнасць усіх перад законам і пра парадак якім уладкоўваўся прадстаўнічая форма ў вырарчых сходах.

Пятая частка разважала ра грамадзкае ці прыватнае становішча народа, г. зн. пра асноўныя правілы і пастановы, так званай грамадзянскай часткі права ў дачыненні да асоб, маёмасьці і ўзаемадачыненняў грамадзян.

-319-

Калі параўнаць сведчанні Пестэля з дайшоўшымі да нас часткамі “Праўды”, то выявіцца наступнае. Тры часткі дайшлі да нас цалкам упарадкаваныя. Чацвёртая і пятая, сапраўды, носяць сляды неўпарадкаванасьці. Хаця, згодна слоў Пестэля, астатнія пяць частак складаліся із розных урыўкаў, але із шостай часткі, самай цікавай, як раз не захавалася нічога. А, між іншым, із сёмай і восьмай частак захаваўшыяся часткі дастаткова значныя, напрыклад, частка пра ваенны прыказ ці частка пра прыказ прыстойнасьці. Паказваючы на той факт, што некаторыя часткі

-320-

“Рускай Праўды” маглі да нас не дайсьці, можна яшчэ звярнуць увагу на зноскі ў тэксце. Напрыклад, у частцы пра утварэнне прыказа правасуддзя ўтрымліваецца спасылка на тое, што было “гаворана аб утварэнні ўездных, губернскіх і абласных упраў”, ці спасылкі на частку аб судаводстве. А, між іншым, гэтых частак, верагодна напісаных, не захавалася. З іншага боку, была вядома і дайшла да нас скарочаная “Руская Праўда” ці Дзяржаўны Запавет, які тэрмін надаваў ёй Бястужаў. Гэта – кароткае выкладанне ўсёй канстытуцыі. Верагодна, Дзяржаўны Запавет быў складзены згодна “Рускай Праўды” Бястужавым-Руміным.

Як следства, яна б утрымлівала хаця б чарнавік не дайшоўшых да нас частак. Далей, ужо на кантрактах 1822 года адбывалася абмеркаванне некаторых пытанняў, маючых дачыненне да вышэйшага кіравання. Гэтыя пытанні прадаўжалі абмяркоўвацца ў асяроддзі сябраў Паўднёвага Таварыства ў Каменцы і на кіеўскіх кантрактах 1823 года. Наогул, відаць, усе контуры канстытуцыі Пестэля былі закончаны абмеркаваннем у 1824 годзе; ва ўсякім разе, на нарадах гэтага і наступнага гадоў пытанні пра канстытуцыю ўжо не падніmаліся. З іншага боку, ужо ў 1820 годзе, згодна слоў Якуўшкіна, Пестэль працаваў над сваёй “Рускай Праўдай” і ужо тады дзяліўся яе зместам. У

---

Шастая частка павінна была разважаць пра вярхоўную ўладу і была напісана удвайне: адна ў манархічным, а другая ў рэспубліканскім значэнні; можна было выбраць кожную із іх і ўключыць у агульны твор.

Сёмая частка павінна была разважаць пра ўладкаванне кіруючых устаноў і падначаленасьці адна адной у валасьцях, уездах, акругах, і абласьцях, а таксама паказаць агульнае ўладкаванне міністэрстваў, даказваючы, што такіх павінна быць дзесяць, не больш і не менш.

Восьмая частка павінна быра разважаць пра часткі кіравання, уладкоўваючыя дзяржаўную бяспеку як знешнюю так і ўнутраную, г. зн. аб юстыцыі, паліцыі, знешніх стасунках, ваенных сілах і марскіх сілах, гаворачы пры гэтым асобна пра кожную із галоўных галін кожнай із гэтых частак кіравання.

Дзевятая частка павінна была разважаць пра часткі кіравання, маючых дачынене да грамадзкага дабрабыту, г. зн. пра фінансы, народную гаспадарку ці ўнутраныя справы, асвету і навучальную сістэму, духоўных справах і агульным справаводстве, гаворачы падобным жа чынам асобна пра кожную із галоўных галін кожнай із гэтых частак кіравання.

Дзесятая частка, нарэшце, павінна ўтрымліваць наказы для складання агульнага дзяржаўнага зборніка законаў ці загадаў і пазначыць галоўнейшыя правілы ці, так сказаць, змест гэтага новага і агульнага дзяржаўнага звода.

Першая, другая і большасць трэццяй часткі былі закончаны; чацвёртая і пятая былі напісаны ў чарнавым варыянце; а пяць апошніх складаліся із розных урыўкаў. Артыкул пра фінансы і народную гаспадарку павінен быў напісаць Сяргей Мураўёў”.

некаторых сведчаннях дзекабрыстаў можна знайсьці сцвярджэнні, што Пестэль працаваў над “Праўдай” на працягу дзесяці гадоў. У самой “Праўдзе” можна знайсьці сведчанні, што некаторыя яе часткі напісаны да таго моманту, калі Пестэль канчаткова спыніўся на рэспубліканскім уладкаванні. Напрыклад, частка пра ваенны прыказ згадвае пра ахоўнікаў царскай асобы. Акрамя таго, нельга сабе ўявіць, каб Пестэль не зрабіў накідкі, хаця б у агульным выглядзе, тых частак канстытуцыі, якія, напрыклад, маюць дачыненне да

-321-

вярхоўнага кіравання і змест якіх існуе ў Дзяржаўным Запавеце. Пра гэтыя пытанні яму даводзілася пастаянна спрачацца. А, між іншым, Пестэль нават пры абмеркаванні пытанняў, маючых меншае значэнне, з’яўляўся на сход маючы запіску пра тыя рэчы, пра якія патрэбна было мецць думку. Нарэшце, вось яшчэ адна цікавая заўвага. Пестэль прачытаў некаторыя часткі сваёй “Рускай Праўды” начальніку штаба другой арміі генералу Кісялёву і Кісялёў аднойчы заўважыў яму, што ён “свайму цару”, пад якім разумелася вярхоўнае кіраўніцтва, пакідае вельмі мала ўлады.

Із усяго гэтага відаць, што складанне “Рускай Праўды” было пачата Пестэлем, ва ўсякім разе, да 1820 года, што яна была значна больш упарадкавана, чым той выгляд, у якім яна дайшла да нас і, нарэшце, што некаторыя із напісаных частак да нас не дайшлі. Вось і ўсё, што сёння можна сказаць па гэтаму пытанню.

Толькі што давялося паказаць на тое, што разнастайныя бакі рэспубліканскай канстытуцыі абмяркоўваліся на нарадах сябраў Паўднёвага Таварыства, якія адбываліся ў Кіяві на кантрактах і ў Каменцы. Дарэчы, гэта не азначае, што на “Рускай Праўдзе” адлюстраваўся уплыў таго ці іншага сябра. Пра гэтыя нарады мы добра ведаем, меркаванні Пестэля на іх прымаліся і, хаця Сяргей Мураўёў і Бястужаў-Румін на гэтых нарадах часам выказвалі сваё меркаванне (напрыклад, пра двухпалатную сістэму), але большасць сябраў заўсёды была на баку Пестэля і прымаліся яго меркаванні[332]. Дарэчы, ёсць сведчанні Ларэра пра тое, што блізкі сябар Пестэля і другі дырэктар Паўднёвага Таварыства генерал-інтэндант Юшнеўскі “шмат садзейнічаў сваімі парадамі Пестэлю для складання “Рускай

-322-

Праўды”[333]. Бяспрэчна, із гэтага сведчання нейкіх вызначаных высноў зрабіць нельга. Пестэль, бяспрэчна, вывучаючы тое ці іншае пытанне раіўся з дасведчанымі асобамі[334]; ён не грэбаваў

---

[332] Доўнар-Запольскі, “Тамнае Таварымтва дзекабрыстаў” стр. 97 і інш.

[333] “Рускае багацце”, 1904, сакавік, 75.

[334] Ёсць і яшчэ адно пытанне, якое патрэбна паставіць, але адказ на якое пакуль не вызначаны. С. Г. аўконскі ў сваіх нататках паведамляе, што “ў папярэдніх статутах розныя часткі кіравання былі раздадзены для распрацоўкі розным асобам: адміністрацыйная частка і вышэйшае кіаванне былі даручаны Пестэлю; судовая і фінансавая часткі былі даручаны Тургеневу па першаму разраду “Рускай Праўды”. Пры абнародаванні, калі яно наступіць, выявіцца, якая вялікая праца і з якім дакладным і свежым поглядам была выканана Пестэлем. Працы Тургенева не трапілі ў рукі ўрада, але не буду хаваць тое, што ўсё надрукаванае ім пра фінансы і судовую справу для Расіі пад час яго безтурботнага жыцця ў

нават матэрыялам, які мог атрымаць ад малодшых афіцэраў квартырмейстэрскай часткі[335].

Вось і усё, што можна паведаміць пра знешні бок "Рускай Праўды". І так, яна не дайшла да нас у поўным выглядзе і для знаёмства з яе адсутнічаючымі часткамі можа быць выкарыстаны ў азнаямленчых мэтах Дзяржаўны Запавет.

Зараз пяройдзем да знаёмства са зместам гэтага помніка[336].

# IV.
# Вучэнне "Рускай праўды" аб дзяржаве.

У сваім увядзенні да "Рускай Праўды" Пестэль ставіць пытанне такім чынам. Вызначыўшы мэты дзяржавы і суадносіны ў ёй урада і народа, ён звяртае ўвагу на тое, што гэтыя адносіны ў



чужых краях, ёсць звод таго, што ім было падрыхтавана для выканання пры пераварoце, ім і намі створаным для Расіі і ў гэтым я завяраю з усім сумленнем". "Нататкі Ваўконскага", 422.

Ужо са слоў Пестэля, падцверджаных Бястужавым-Руміным, нам вядома што частку аб фінансах павінен быў напісаць Сяргей Мураўёў. Пагэтаму ў паведамленні Ваўконскага ўтрымліваецца недакладнасць. Але, сапраўды, ёсць паведамленні із іншых крыніц, што Тургенеў збіраўся пісаць праект статута аб судовай справе. Апавядаючы пра гэта ў сваіх сведчаннях Мацвей Мураўёў не звязвае гэтую прапанову Тургенева менавіта з "Рускай Праўдай". Але, не гледзячы на адмоўны адказ Тургенева ("Руская Старына", 1901, кастрычнік, 216), нічога не было б дзіўнага ў тым, што Пестэль звярнуўся б да Тургенева, як да юрыста, з прапановай скласьці гэтую частку "Рускай Праўды". Гэта мы гаворым, аднак, зусім не для таго каб у тых або іншых захаваўшыхся тастках бачыць саўдзел Тургенева. Нам здаецца, што ўсе гэтыя факты даказваюць толькі тое, што сапраўды магла існаваць думка аб размеркаванні некаторых частак "Праўды", менавіта частак пра кіраванне, паміж рознымі асобамі. У "Рускай Праўдзе" ёсць адна цікавая частка, якая мае наступны загаловак: "Кароткі тэарэтычны агляд Дзяржаўнага Кіравання. Твор Рускага Гусара. 1820 г. Грамадзянскі Судзебнік". Гэтая частка "Праўды" не закончана, але і тут планавалася дзесяць частак. Так як Пестэль ніколі не служыў у гусарах, то гэтая згадка вельмі дзіўная. Калі гэтая частка названа творам Рускага Гусара для канспірацыі на выпадак арышту папер, то такая канспірацыя не мела б ніякага значэння і, акрамя таго, на руках у Пестэля ў 1820 годзе былі больш сур'ёзныя паперы, напрыклад, статут Хаўруса Дабрабыту, які ён даваў чытаць палкоўніку Камарову. Што да почырка, якім напісаны гэты грамадзянскі судзебнік, то паміж ім і почыркам Пестэля, пры ўсім іх вялікім падабенстве, існуе нейкае цяжказаўважаемае адрозненне. Калі гэта почырк, то, ва ўсякім выпадку, гэтая частка "Праўды" не чарнавы варыянт, а канчаткова перапісаны. Але ў такім выпадку ўзнікае пытанне, для чаго Пестэлю спатрэбілася перапісваць, бяспрэчна незакончаную частку працы, нават ў чарнавым варыянце напісаную беспарадкава; падобнага Пестэль не рабіў з часткамі, маючымі закончаны выгляд.

[335] "Мемуары дзекабрыстаў", 227.

[336] "Руская праўда" нядаўна выдадзена сп. Шчогалевым, але н вельмі удала. Мы карыстаемся рукапісам "Рускай праўды". Пра "Рускую Праўду" намі быў надрукаваны артыкул у сакавіку 1906 г. у "Кіеўскіх Водгуках" і наст. частка з'яўляецца некалькі пашыранай перадрукоўкай перадрукоўкай гэтага артыкула. Акрамя таго, В. Я. Сямоўскі ў пазначаным артыкуле ў "Былым" распавёл пра асноўныя рысы "Рускай Праўды" і паказаў на тых аўтараў, тэорыі якіх мелі ўплыў на тыя ці іншыя бакі поглядаў аўтара "Рускай Праўды". Мы даём толькі выкладанне помніка, адпаведна нашай галоўнай задачы; згаданы артыкул сп. Сямоўскага робіць залішнім параўнанне думак "Праўды" з сучаснай ёй літаратурай.

рускім варыянце цалкам не адпавядаюць выказанным ім разуменням. Пагэтаму, усё уладкаванне Рускай дзяржавы патрэбна карэнным чынам перабудаваць у сэнсэ вызначаных ім суадносін паміж народам і ўладай.

Але да такіх карэнных пераўтварэнняў у дзяржаве патрэбна падыходзіць з вялікай асьцярожнасьцю і паступова; еўрапейская гісторыя сведчыць, што раптоўныя пераўтварэнні прыводзілі да жудасных бедстваў. Каб папярэдзіць апошнія, Пестэль прапануе зараз жа пасьля перавароту стварыць часовы вярхоўны ўрад і даць яму для кіравання правілы, якім ён абавязаны падпарадкавацца пры дзяржаўным уладкаванні. Такія правілы, акрамя станоўчых патрабаванняў, павінны ўключаць у сябе і іхныя тэарэтычныя тлумачэнні. Такім наказам і павінна была быць “Руская Праўда”.

Мэта “Рускай Праўды”, яе змест і прызначэнне Пестэль вызначае наступным чынам: “Руская Праўда” з’яўляецца вярхоўнай усерасійскай граматай, якая вызначае ўсе перамены, якія павінны будуць здзейснены ў дзяржаве, усе ўстановы і артыкулы, якія належыць адмяніць і, нарэшце, карэнныя правілы і пачатковыя асновы, якія павінны служыць нязменым кіруючым напрамкам пры ўладкаванні новага дзяржаўнага ўпарадкавання і складанні новага дзяржаўнага заканадаўства. Яна змяшчае вызначэнне некаторых важнейшых палітычных законаў і пастаноў будучага ўладкавання, пералік галоўных плануемых пераходных мерапрыемстваў і разам з тым тлумачэнне карэнных высноў, якія даказваюць неабходнасць плануемага для Расіі дзяржаўнага ўладкавання. І так, “Руская Праўда” ёсць наказ часоваму вярхоўнаму ўраду для яго дзеянняў, а, разам з тым, і абвяшчэнне народу, ад



чаго ён будзе вызвалены і чаго можа чакаць. Яна ўтрымлівае абавязкі, якія ўскладаюцца на часовы вярхоўны ўрад і служыць гарантыяй, што часовы вярхоўны ўрад будзе дзейнічаць на карысць айчыны”.

Згодна пераканання Пестэля, адсутнасць падобнай граматы прывяла шмат якія народы да вялікай бяды і міжусобіц, таму што ўрады, якія ўзніклі пасьля пераваротаў, маглі дзейнічаць самавольна, згодна асабістых захапленняў і прыватных выгад; народ жа, не бачучы вызначанай мэты, да якой імкнецца ўрад і хвалюемы жахамі, часта пачынаў міжусобіцы. Для папярэджвання ўсіх гэтых бедстваў Пестэль лічыў неабходным як уладкаванне часовага вярхоўнага ўраду, так і наказ для яго.

І так, будучая дзяржава – новая дзяржава. Перш за ўсё, на чым павінна засноўвацца дзяржава з тэатэтычнага боку гледжання?

Аб’яднанне некалькіх асоб для дасягнення якой-небудзь мэты прыводзіць да стварэння грамадства. Натхняючай асновай для такога аб’яднання бывае імкненне да задавальнення агульных патрэб. Але пры вызначэнні сродкаў, якімі павінна быць дасягнута мэта, сярод людзей могуць узнікнуць спрэчкі, у залежнасьці ад асабістых якасьцей і меркаванняў асобных індывідаў. У такім выпадку, каб пазбегнуць распадзення грамадства, яго сябры, нарэшце, прыходзяць да згоды, шляхам узаемных саступак і, такім чынам, выпрацоўваецца агульнае меркаванне. Пры выпрацоўцы апошняга здараецца,

што адна ці некалькі асоб захапляюць за сабой усё грамадства і яно аддае ім права распрацоўкі спосабаў здзяйснення прызначаных мэт, ці грамадства са свайго асяроддзя выбірае адну ці некалькі асоб. У абодвух выпадках грамадства падзяляецца на *ўзначальваючых*

-326-

і *выконваючых*. Такі падзел натуральны, ён заснаваны на чалавечай прыродзе.

Цывільнае грамадства, г. зн. дзяржава, у сваім уладкаванні падобна ўсякаму іншаму грамадству, г. зн. яна мае сваю мэту і выбірае сродкі для яе дасягнення. Мэта дзяржавы заключаецца *ў дабрабыце ўсяго грамадства і кожнага із яго сябраў асабіста*. Для дасягнення мэты ў дзяржаве выбіраюцца *ўзначальваючыя*, г. зн. кіраўніцтва; *выконаючыя* складаюць народ. І так, галоўныя складовыя часткі ўсякай дзяржавы – кіраўніцтва і народ.

Кіраўніцтва мае на абавязку распараджацца агульнымі здабыткамі і выбіраць лепшыя сродкі для дасягнення дабрабыту ўсіх і кожнага; на аснове гэтага яно мае права патрабаваць падпарадкавання народа. Народ абавязаны падпарадкавацца кіраўніцтву, але затое ён мае права патрабаваць, каб кіраўніцтва імкнулася да грамадзкага і асабіста кожнага дабрабыту. Згодна меркавання Пестэля, такім шляхам дасягаецца раўнавага паміж кіраўніцтвам і народам.

Усякае права чалавека заснавана на абавязку. Так, чалавек абавязаны, перш за ўсё, захоўваць “сваё існаванне”. Адсюль узнікае права карыстацца для ежы здабыткамі прыроды. Гэтая аксіёма ў Пестэля мае вялікае значэнне: ад гэтага бяруць пачатак яго сацыялістычныя погляды.

*Захаванне існавання* – адзін із абавязкаў чалавека. Другім абавязкам з’яўляецца той, які вызначаны для чадавека *ад Бога праз веру*. Такім чынам, звязваецца духоўны свет з прыродным. “Бог, Творца сусвету, з’яўляецца творцай і законаў прыроды, натуральных патрэбаў”. Такім чынам, тлумачацца дваякана накірунку абавязкі, якія вызначаюцца самім фактам грамадзянскага хаўруса. Да гэтага далучаецца трэцці накірунак абавязкаў, якія нараджаюцца самім фактам утварэння дзяржавы.

-327-

Із гэтай схемы вынікаюць тыя асноўныя правілы, якія абавязана здзейсніць дзяржава: *яна павінна імкнуцца да дабрабыту, згодна з законамі духоўнымі і прыроднымі*; усё супярэчачае агульнаму дабрабыту, павінна быць прызнана злачынным; грамадзкі дабрабыт павінен праважаць над дабрабытам прыватных асоб; пад грамадзкім жа дабрабытам разумеецца дабрабыт массы народа, г. зн. “шматлікая колькасць людзей у дзяржаве”; пры гэтым дабрабыт адной асобы не павінен шкодзіць дабрабыту іншай.

Із папярэдняга разважання аўтар “Рускай Праўды” робіць такую выснову, што *кіраўніцтва існуе для народнага дабрабыту*, а *народ існуе для асабістага дабрабыту*, і усе ў дзяржаве маюць роўныя правы на здяйсненне гэтага дабра. “А пагэтаму народ расійскі не з’яўляецца прыналежнасьцю ці прыватнасьцю якой бы то ні было асобы ці сямейства. Больш таго, кіраўніцтва ёсць прыватнасць

народа, яно ўладкавана для народнага дабрабыту, а не народ існуе для дабрабыту кіраўніцтва".

І так, кіраўніцтва мае абавязкі, із якіх ужо вынікаюць яго правы. Для выканання сваіх абавязкаў кіраўніцтву надаецца вярхоўная ўлада. Гэтай вярхоўнай уладзе, ураду, падпарадкаваны выканаўчыя ўстановы, што і з'яўляецца дзяржаўным кіраўніцтвам. Мэта кіраўніцтва – дасягненне народнага дабрабыту; у прыватнасьці дабрабыт дзяржавы распадаецца на дзве асобныя задачы – на бяспеку дзяржавы і на яе дабрабыт.

Такія тэарэтычныя погляды аўтара "Рускай Праўды". Яны выкладзены Пестэлем у кароткіх сказах.

Некаторая залежнасць поглядаў Пестэля ад палітыка-філасафічных вучэнняў канца XVIII ст. і пачатку XIX ст. відавочна. У яго светапоглядзе дактрына натуральнага



права мае вялікае значэнне і пры гэтым, не толькі для вызначэння палітычных правоў народа, але з'яўляецца асновай і для сацыялістычных прынцыпаў. Мы не будзем спыняцца на пытанні, да якога із вядомых вучэнняў бліжэй стаяць погляды Пестэля. Іхная крыніца знаходзіцца ў той філасафічна-палітычнай і эканамічнай літаратуры, на якую спасылаецца сам Пестэль, як на крыніцу сваіх поглядаў. Яго погляды, коратка выкладзеныя, толькі сумуюць агульныя высновы да якіх ён прыйшоў шляхам вывучэння і роздумаў. Дарэчы, і не мае асаблівага значэння выяўленне асноўнага твору, які быў галоўнай крыніцай агульнай схемы Пестэля, так як асноўная задача "Рускай Праўды" – вызначыць перабудовы неабходныя для Расіі. У апошнім дачыненні Пестэль прытрымліваецца крайніх поглядаў, якія нагадваюць нам літаратуру памфлетаў якабінскага клубу. Новае ўладкаванне дзяржавы павінна знішчыць усе рэшткі папярэдняга рэжыма і дзяржава для дасягнення агульнага дабрабыту павінна быць магутнай і раўнапраўнай, як у палітычным дачыненні, так і, ў вядомай меры, у эканамічным дачыненні. Для дасягнення тэарэтычнага дабрабыту пры новым уладкаванні дзяржавы, няма патрэбы лічыцца з гістарычнымі традыцыямі народа.

Пераходзячы да Расіі, Пестэль паказвае на неабходнасць яе перабудовы на падставах, на якіх павінна быць уладкавана, жыццё і існаванне кожнай добраўпарадкаванай дзяржавы. Небходна, каб Руская дзяржава "знаходзілася пад уладай і кіраваннем законаў грамадзкіх, а не асабістых жаданняў уладароў і давала б магчымасць дабрабыту ўсім і кожнаму, а не злоўжывала ўсімі для карысьці аднаго ці некалькіх. Усё, што аддаляецца ад гэтых правілаў, а тым больш супярэчыць ім – ёсць злоўжыванне ўладай, прыніжэнне правоў і шлях да знішчэння."



Тэарытычныя разуменні дзяржавы, згодна пераканнанняў Пестэля, цалкам супярэчаць існуючаму дзяржаўнаму ўладкаванню Расіі. Пагэтаму навае ўладкаванне павінна быць заснавана "на адных толькі справядлівых законах і пастановах; новае ўладкаванне не павінна нічога аддаваць на асабістае

самавольства” і, насупраць, павінна сцвярджаць, што рускі народ “не з’яўляецца і ніколі не можа быць чыёй-небудзь маёмасьцю ці прыналежнасьцю”.

Новы дзяржаўны лад павінен дастаткова радыкальна перамяніць існуючае дзяржаўнае ўладкванне. Ён не павінен утрымліваць ні ўспамінаў пра зараз існуючае ўладкаванне, таму што ён спыніць сваё існаванне; у ім не можа быць захадаў пераходных ці падрыхтоўчых, таму што гэтае ўладкаване павінна ўяўляць із сябе цэльнасць; у новым зводзе не павінна ўтрымлівацца і тэарэтычных разважанняў, таму што сюды будуць уведзены толькі станоўчыя законы.

Вось тая агульная задача, якую ставіць перад сабой Пестэль.

Для апісання канкрэтных бакоў будучага ўладкавання спачатку патрэбна высветліць, якія правы надаюцца грамадзянам. Будучая дзяржава павіна існаваць для грамадзян, для іхнага матэрыяльнага і палітычнага дабрабыту, на тое і другое сябра дзяржавы мае права. Сапраўды, сярод правоў грамадзян сустракаем як звычайныя палітычныя правы, так і рысы, якія павінны надаць дзяржаве новы характар.

Аўтар падзяляе правы грамадзян, згодна звычайнай тэрміналогіі ўваходзячых у кола наогул палітычных правоў, на дзве часткі: на правы палітычныя і на правы грамадзянскія. Да часткі палітычных правоў згодна яго тэрміналогіі адносіцца права ўдзелу ў палітычным жыцці краіны, права быць сябрам валаснога грамадства



і карыстацца дзялянкамі зямлі. Гэтая – два віды прававого жыцця грамадзяніна, не аддзялімыя адзін ад аднаг, згодна ўяўленняў Пестэля. Ім папярэднічае вызначэнне ўсеагульнай грамадзянскай роўнасьці. Да грамадзянскіх правоў, згодна Пестэля, адносяцца такія правы, як свабода асобы і інш.

# V.
# Раўнасць станаў.

Пестэль з’яўляецца праціўнікам якога б то ні было падзялення грамадзян на станы, класы і г. д., аддзяляючыя адзін гурт людзей ад іншых. У частцы пра грамадзкія станы ён аддае гэтаму пытаню шмат увагі. Згодна яго меркавання такое падзяленне было створана для прыгнёту народнай массы і для карысьці прывілегіяраванай меншасьці. “Цывільныя грамадствы, - піша ён, - а, значыць, і дзяржавы складаюцца для магчыма большага дабрабыту ўсіх і кожнага, а не для дабрабыту некаторых”. Пагэтаму ўсе людзі маюць аднолькавыя правы на выгоды, якія можа даць дзяржава і маюць абавязкам несьці цягаты на крысць дзяржавы. Пагэтаму “усе людзі ў дзяржаве павінны абавязкова быць перад законам цалкам роўнымі і што ўсякая пастанова, парушаючая гэтую раўнасць усіх перад законам, ёсць несцярпімае зло і павінна быць знішчана”. Падзел на станы яму ўяўляецца згубным, таму што станы “толькі адной прадузятасьцю перапоўнены, што некаторым асобам із народа даюць выгоды, ад якіх іншыя

пазбаўляюцца без усякай падставы і без усякай дзяржаўнай карысьці, што дзеля перанасычэння карысьцю некаторых асоб выяўляюць жорсткую несправядлівасць у дачыненні да пераважаючай часткі народа”. Пагэтаму Пестэль рашуча выказваецца за поўную

-331-

роўнасць усіх грамадзян. Усе жыхары павінны складаць толькі адзін стан грамадзян і ўсе грамадзяне павінны мець адны і тыя ж правы і быць роўнымі перад законам.

Высветліўшы агульнатэарэтычны бок, Пестэль лічыць патрэбным аправергнуць тыя доказы, якія часам вылучаліся ў абарону падзелу грамадства на станы. Так, сцвярджалася, што падзел на станы ўтварае некаторую паступовасць у дзяржаве, з’яўляючыся залогам грамадзкага спакою. Але ў гэтым імкнуцца пераканаць толькі людзі “схільныя да злоўжывання ўладай” (славамі злоўжыванне ўладай Пестэль абазначае тыранію). Такі погляд – рэшткі феадальнай сістэмы і выказваюцца тымі, хто мае ў дзяржаве перавагамі, а іншыя такіх не маюць. Думка Пестэля зводзіцца да таго, што тыя хто абапіраюцца на падобныя думкі бачаць у станах вядомага роду “чынаначальства” і ўрад абапіраецца на вышэйшыя станы ў справе кіравання дзяржавай. Пестэль заўважае, што для кіравання падзяленне на станы не патрэбна, таму што такое “чынаначальства”, неабходнае для захавання спакою ў грамадстве ствараецца адміністрацыйнай сістэмай.

Іншыя абаронцы падзелу грамадства на станы паказваюць на тое, што ён абапіраецца на эканамічнае дзяленне розных гуртоў насельніцтва. Але ў такім выпадку падзел прыватных асоб па разнастайных галінах прамысловасьці з’яўляецца “безрассудным і шкодным”, падобная выключнасць можа шкодзіць поспехам прамысловасьці. Такі падзел можа прывесьці да таго, што вызначаны гурт людзей атрымае ўплыў на народ ”не дзякуючы агульнаму меркаванню але дзякуючы золату і срэбру, з дапамогай якога падпарадкуе сабе агульнае меркаванне”. Арыстакратыя багацця, згодна меркавання Пестэля, значна больш шкодная чым феадальная арыстакратыяі, таму што такая арыстакратыя ў багацці знаходзіць моцную падтрымку для таго, каб уплываць на меркаванне грамадства.

-332-

Выказаўшы агульны погляд пра непрымірымасць будучага дзяржаўнага ўладкавання з падзелам на станы, Пестэль пераходзіць да разгляду асобных станаў рускага грамадства. І на гэтым аглядзе імкнецца даказаць адмоўныя бакі падзелу на станы.

Ён пачынае са *святарсва*. Гэты стан патрабуе “моцных дабрачыннасьцей”. Але кожны стан мае свае выгады. А, між іншым, святарства не можа імкнуца да зямных выгод. Святарства павінна складаць найбольш ушаноўваемую частку ўрада. Пагэтаму духоўныя асобы павіны ўвайсьці ў склад усяго грамадства. Пестэль адмоўна ставіцца да таго, што вышэйшае кіраванне царквой знаходзіцца выключна ў руках чорнага святарства. Гэта не пагадняецца з царкоўнымі звычаямі старажытнейшых часоў, калі белае святарства занімала архіяпіскапскія

пасады. Пагэтаму часовы ўрад будзе абавязаны аддаць беламу святарству з цягам часу ўсе вышэйшыя пасады ў цяржаве. Чорнае ж святарства, як адракаючаеся ад усяго мірскога, не можа занімаць вышэйшых пасад у царкоўнай іерархіі. Наогул Пестэль варожа ставіўся да мнішаства; так ён прапануе нават выдаць закон, згодна якому ў манастыр могуць ісьці толькі асобы не маладзей за шасьдзесяцігадовы ўзрост. Сучаснае становішча святарства яму бачыцца дастаткова "гаротным і вартым жалю", а погэтаму часовы ўрад абавязуецца палепшыць матэрыяльнае становішча святарства.

Потым Пестэль пераходзіць да дваранскага стану. У характарыстыцы гэтага стану найбольш рэльефна выказваюцца асноўныя погляды Пестэля.

Паказаўшы на перавагу дваранскага стану ў Расіі, Пестэль падрабязна тлумачыць дзяржаўную шкоду дваранскіх прывілегій. Дваране валодаюць прыгоннымі людзьмі. Але "валодаць іншымі людзьмі, як сваёй маёмасьцю, прадаваць, закладваць, дараваць і



ашчаджаць людей пабодна рэчам, выкарыстоўваць іх згодна свайго жадання, без папярэдняга з імі пагаднення і адзіна для свайго асабістага прыбытку ёсць справа пастыдная, праціўная чалавецству, праціўная прыродным законам, праціўная святой хрысьціянскай веры".

Пагэтаму прыгоннае рабства павінна быць знішчана. Аўтар выказае нават надзею, што наўрад ці знойдзецца хоць адзін "злосумленны" дваранін, які б не садзейнічаў знішчэнню рабства. Але калі б пасьля скасавання прыгоннага права часовым урадам знайшоўся б хаця адзін падобны "ізувер", які словам ці справай надумаўся б праціві́цца знішчэнню рабства, то такі павінен быць арыштаваны і пазнаць строгае пакаранне, як вораг айчыны. Наогул, часоваму ўраду вызначаецца ў абавязковы і святы абавязак знішчэнне прыгоннага права.

Дваране валодаюць майяратамі. Вярхаўны ўрад павінен скасаваць гэтае права, вызначыўшы кожнаму нашчадку яго долю ў спадчыне.

Дваране маюць падатковыя ільготы. "Толькі злоўладдзе можа ўсе цяжкасьці ўскласьці на плечы адных, а другім дараваць усе выгоды: шчыры чалавек без дакораў сумлення не можа карыстацца працай і ахвяраваннямі бліжніх, без усякай са свайго боку падзякі ці спачування". Пагэтаму дваране не могуць быць вызваленымі ад падаткаў.

Дваране карыстаюцца некаторымі перавагамі пры судовым вырашэнні справы і пры прызначэнні пакаранняў. Гэта не справядліва. "Дваранства павінна на роўні з усімі іншымі расіянамі за аднолькавыя злачынствы атрымліваць аднолькавыя пакаранні і калі цялесныя акаранні будуць прызнаны неабходнымі, то павінны будуць падвяргацца ім так жа як і ўсе астатнія людзі".



Дваране не адбываюць вайсковай павіннасьці і маюць выключнае права занімаць усе пасады. Гэтыя перавагі павінны будуць знішчаны. Вайсковая павіннасць павінна будзе адбывацца па чарзе, ці згодна жараб'ёйкі. Дарэчы, усім грамадзян даецца магчымасць адбываць вайсковую службу ў якасьці

афіцэра пасьля праходжання адпаведных іспытаў. Урадавыя пасады павінны замяшчацца ўсімі грамадзянамі, адпаведна іхнаму навучанню і здольнасьцям.

Дваранства лічыцца высокародным станам і мае права на тытулы і гербы. Усё гэта "пустыя гукі, якія задавальняюць толькі адно надутае славалюбства і гардыню самалюбства. Калі з тытулам злучаны перавагі, то гэта шкодна, згубна для дзяржавы і супярэчыць прынцыпу роўнасьці; калі тытулы не даюць параваг, то яны – дзіцячае пустаслоўе, але знішчыць нават гэты пусты намёк – неабходна". "Хаця, - апавядае аўтар "Рускай Праўды", - некаторыя людзі і будуць лічыць, што пасьля скасавання першых чатырох дваранскіх пераваг, пятая можа быць захавана ў надзеі на тое, што, з'яўляючыся следствам аднаго толькі пустога славалюбства яна не будзе істотна шкодзіць, але падобная думка цалкам недарэчная, таму што ўсякае існаванне асобнага ад агульнай масы гурта ёсць рэч пагубная і небяспечная з той нагоды, што такі гурт не доўга будзе задавальняцца адным толькі самалюбствам. Ён хутка пачне шукаць нейкіх выгод і, аднойчы аддзяліўшыся ад народнай масы, будзе заўсёды ахвяраваць агульным дабрабытам для насычэння сваёй карысьці і для набыцця больш істотных пераваг, якія будуць парушаць роўнасць усіх перад законам: гэтага пярвейшай, галоўнейшай і істотнейшай падставы дзяржаўнага дабрабыту. Чаго не рабілі старажытнейшыя козні дваранскія?" Дарэчы, гярбы могуць быць пакінуты, пры ўмове, што



кожнамы грамадзянін будзе мець права прыдумляць для сябе які заўгодна герб.

Аўтар "Рускай Праўды" лічыць галоўнейшай задачай часовага ўраду знішчэнне ўсіх адзнак дваранскага стану. "Без гэтых мерапрыестваў законы заўсёды будуць зброяй злоўжывання некаторых асоб над народнай массай, для агульнай пагібелі ўсёй дзяржавы. Дастатакова працяглы час існавала магчымасць для некаторых прыгнятаць усіх астатніх; зараз прыйшла пара пакласьці канец падобнай рэчаіснасьці. Добрыя дваране, сапраўдныя сыны айчыны з задавальненнем прымуць падобныя пастановы, у перакананні, што ім не патрэбны ні згаданыя вышэй перавагі, каб карыстацца агульнай павагай і даверам, каб з іхнай дапамогай занімаць розныя дзяржаўныя пасады, удзельнічаць у розных частках і галінах кіравання, прадаўжаць мець выпадак і магчымасць здзяйсняць паслугі для айчыны, асабістымі годнасьцямі набываць павагу суайчыннікаў і, нарэшце, самім карыстацца ўсімі грамадзянскім выгодамі і прыватнымі дабротамі, набытымі праведымі сродкамі і нікога не крыўдзячымі. Яны будуць адчуваць, што выгоды, якія даюцца дваранству нараўне з іншымі расіянамі новым дзяржаўным уладкаваннем, вызначаемыя гэтай "Рускай Праўдай", непараўнальна больш шырокія і значныя тых пераваг, якія яны страцілі і што яны, як следства, перамяняюць малое на больш вялікае, ужо не гаворачы пра тое, што пазбаўляюцца ад ганебнага, а набываюць годнае і пахвальнае. Што да дваран, закаснеўшым у сваіх варожых забабонах супраць народнай масы і думаючых, што ўся Расія існуе толькі для іх адных, то можна спадзявацца, што такіх дваран выявіцца вельмі мала, аднак, калі насуперак чаканням

знойдуцца такія недастойныя сыны айчыны, то супраць іх патрэбна будзе прыняць рашучыя захады, каб цалкам скарыць іхны люты нораў і паставіць ва ўмовы, у якіх яны не змогуць шкодзіць айчыне, хаця б для гэтага і былі патрэбны захады хуткія і строгія".

Так жа Пестэль разлядае становішча і іншых станаў. Намаляваўшы замкнутае становішча, ён настойвае на вызваленні прамысловасьці і гандлю ад саслоўных тармазоў. Часовы вярхоўны ўрад аб'яўляе купецтва скасаваным станам  і ўсе яго сябры распісваюцца па валасьцях. Усе грамадзяне маюць права вольнага гандлю і промыслаў. Акрамя таго, вярхоўны ўрад павінен "прыкласьці ўсе намаганні да знішчэння ўсіх тых шматлікіх перашкод і нязручнасьцей, якія зараз моцна прашкаджаюць гандлю і ўціскаюць гандляроў, а, разам з тым, і перагледзець усе тарыфы, каб яны як мага больш заахвочвалі гандаль, і садзейнічалі лепшаму яго развіццю і пры гэтым не перашкаджалі астатнім галінам прамысловасьці". У дачыненні да гандляроў павінны быць выпрацаваны новыя правілы падаткаабкладання.

Прамысловасць, у яе асабістым разуменні, таксама павінна быць свабоднай. Яе свабода вызначаецца трымя наступнымі ўмовамі: 1) Каб кожны грамадзянін меў права на дазвол занімацца той ці іншай дзейнасьцю, якую ён захоча выбраць, толькі б быў шчырым і выконваў законы. 2) каб кожнаму было дазволена занімацца якой заўгодна прамысловай дзейнасьцю не толькі ў гарадах і прызначаных месцах, але таксама і ў паселішчах рознага тыпу і, наогул, усэды, дзе толькі пажадае. 3) Каб сама прамысловасць была вызвалена, "як мага больш ад усякіх цяжкасьцей, якія вынікаюць не толькі ад

дрэнна абдуманных пастаноў, але і староннiх дзеянняў і нагод, так каб яна знаходзіла ў пастановах урада не перашкоды сваёй дзейнасьці, але, насупраць таго, абарону і садзейнічанне".

Што да ніжэйшага гарадзкога стану, мяшчанства, то ў дачыненні да яго Пестэль адмоўна глядзіць на ўсе перагародкі, якія аддяляюць яго ад іншых станаў. Ён з'яўляецца вялікім праціўнікам цэхавага ўладкавання і тых перашкод, якімі абстаўлены дробны гандаль, і вырабы дробных рамеснікаў. Цэхі павінны будуць быць знішчанымі, усе абмяжоўвачыя пастановы для развіцця гандлю таксама і мяшчане пераводзяцца і адзіны стан расійскіх грамадзян.

Такія погляды Пестэля на вышэйшыя і гарадзкія станы дзяржавы, ва ўсіх выпадках ён прапануе ўраўнаванне станаў. Але найбольшую цікавасць выклікаюць тыя старонкі "Рускай Праўды", якія прысвечаны сялянству. Бяспрэчна – сялянска пытанне найбольш складнае і адказнае пры тагачасным становішчы Расіі. Агульная думка Пестэля заключаецца ў параўнанні правоў сялянскага насельніцтва Расіі з астатнім яе насельніцтвам. Сяляне таксама будуць раўнапраўнымі грамадзянамі Расіі. Але, праводзячы сваю агульную думку, прапануючы захады да здзяйснення паказанага пераходу, аўтар "Рускай Праўды" дае сцíслыя, але вельмі трапныя характарыстыкі сучаснага яму становішча розных разрадаў сялянства. Пачнем з дзяржаўных сялян.

Пестэль дае красамоўную характарыстыку таго становішча ў якім знаходзяцца ваенныя паселішчы. “Адна думка пра ваенныя паселішчы, уладкаваныя папярэднім урадам, перапаўняе кожную разумеючую душу жахам і пакутамі. Колькі непавінных ахвяр для задавальнення таго нечувалага

-338-

злоўладарання, якое з ярасьцю мучыла няшчасныя паселішчы, прызначаныя для гэтай задумы. Колькі грошай, выдаткаваных на гэтае пачынанне – усе магчымасьці дзяржавы нарочыта аб’ядноўваючы да пагібелі дзяржаўнай: і усё гэта для задавальнення нечуванай упартасьці аднаго чалавека”.

Ён разглядае тыя выгады, якія былі абяцаны дзяржаве завядзеннем ваенных паселішчаў і адну за другой абвяргае гэтыя надзеі, якія ўскладаліся на іх. Ваенныя паселішчы не пазбаўлялі дзяржаву ад рэкруцкай павіннасьці, так як пад час вайны войска павіна папаўняцца рэкрутамі з іншых станаў насельніцтва. Для войска шкодна аседласць і “бесперапыннае знаходжанне жаўнера ў атачэнні сваёй сям’і”. Гэта знежвае ваяра і пазбаўляе яго вайсковага духу. Пасяленні не прыносяць скарбу матырыяльных выгод, таму што калі казна не выдаткоўвае на іхнае ўтрымане, то затое насельніцтва іх абслугоўваючае, вызваляецца ад падаткаў, што пакрываецца адно другім. Але ёсць падстава і маральнага кшталту, якая павінна не дапускаць урад да вылучэння адной часткі насельнцтва выключна для выканання вайсковай службы. “Ніякі ўрад ніколі не можа мець права вылучыць із агульнай масы народа яго частку з тым, каб на гэтую частку ўскласьці самую цяжкую і жорсткую павіннасць, якой з’яўляецца вайсковая. Як можна да такой ступені адкінуць усе пачуцці сумлення і справядлівасьці, каб навекі некаторыя сямействы былі прызначаны для вайны з іхнымі дзецьмі і ўнукамі і наогул нашчадкамі; выключна на гэтыя сямействы ўскласьці павіннасць вайсковай службы і праліццё крыві за ўвесь народ, да якога яны будуць мець дачыненне толькі таму, што за яго павінны губляць сваіх дзяцей, гэтых самых каштоўных прадметаў. Хіба ваенныя пасяляне маюць не такія ж пачуцці, хіба яны не такія ж грамадзяне

-339-

нашай айчыны, хіба яны маюць не такія ж самыя правы на дабрабыт, як і іншыя расіяне, хіба іншыя расіяне маюць не такія ж самыя абавязкі да айчыны, як і яны і хіба абарона айчыны не з’яўляецца святым абавязкам усіх і кожнага? Пагэтаму, із усяго сказанага можна зрабіць выснову, што ваенныя паселішчы з’яўляюцца самай жорсткай несправядлівасьцю, якую толькі распаленае злоўладдзе можа прыдумаць”. Але, з іншага боку і ваенныя паселішчы вельмі небяспечныя для дзяржавы: яны ўтвараюць дзяржаву ў дзяржаве. “Лёгка можна ўявіць, што, калі б усё войска было паселена і падобны парадак быў бы ўжо цалкам уладкаваны так, каб паселенае войска прызвычаілася да аднаго і із іхнай памяці зніклі б усякія ўспаміны пра еднась народа і войска, то вельмі хутка паселішчы захацелі б кіравацца сваімі начальнікамі і чыноўнікамі выбранымі із іхнага ж асяроддзя, ад чаго не змагла б утрымаць іх ніякая дысцыпліна і потым хутка пачалі б глядзець на дзяржаву як на сваю бліжэйшую здабычу і, ведаючы сваю магутнасць,

завалодалі б ёй цалкам і падзялілі яе паміж сабой, як варвары дзялілі заваяваныя землі”.

Ўсе падобныя меркаванні прыводзяць Пестэля да думкі пра неабходнасць неадкладнага скасавання вайсковых паселішчаў, аддзялення войскоўцаў ад пасялян і перавядзенне апошніх у стан расійскіх грамадзян. Пестэль не ўхваляе таксама захады, якія робіць дзяржава ў дачыненні да дзяцей жаўнераў. Згодна заведзенага звычая хлопчыкі забіраюцца ў войска. Такі парадак павінен быць знішчаны, а ўжо забраных дзяцей патрэбна выхоўваць у асобных педагагічных інстытутах і із іх падрыхтаваць першых настаўнікаў уездных і губернскіх навучальных установ.

Разнастайныя разрады дзяржаўных сялян, як то: разрад казённых сялян, удзельных, а таксама і разрад вольных хлебаробаў



разам з іншымі грамадзянамі пераходзяць у склад валасной арганізацыі.

Вялікую цікавасць выклікае стаўленне Пестэля да прыгоннага сялянства. Стаўленне да яго Пестэля ужо часткова нам вядома. Ён змрочнымі фарбамі малюе становішча прыгонных. “Лёс прыгонных людзей цалкам залежыць адзіна ад думак і жаданняў іхных гаспадароў”. Няма ніякай пастановы, якая б вызначала дачыненні паміж панам і сялянамі. Дваровыя людзі знаходзяцца ў самым гаротным становішчы: “дваровыя людзі па-сутнасьці знаходзяцца ў самым гаротным становічы ва ўсёй Расійскай дзяраве... сутнасць яго жыцця цалкам залежыць ад волі пана”. Для прыгоннага права не існуе ніякага апраўдання. “Патрэбна таксама і пра тое ў сваім сумленні памысліць, што права валодаць іншымі людзьмі, як сваёй маёмасьцю – прадаваць, закладваць, дараваць і атрымліваць у спадчынну людзей як нейкія рэчы, выкарыстоўваць іх згодна свайго жадання без папярэдняй з імі дамоўленасьці і адзіна толькі для свайго прыбытку, выгады і капрызу ёсць справа пастыдная, супярэчачая чалавечым законам у веры хрысьціянскай і запаведнай волі Ўсявышняга Творцы, гаворачага ў Святым Пісанні, што ўсе людзі перад ім роўныя, і адрозніваюцца яны толькі сваімі ўчынкамі і дабрачыннасьцямі”. Пагэтаму Пестэль з’яўляецца прыхільнікам неадкладнага вызвалення сялян. Неабходнасць пераходу сялян у стан вольных грамадзян ён бачыць у неадпаведнасьці рабства адной часткі насельніцтва з духам часу: “Паспехі агульнай адукацыі, - апавядае ён, - паўсюдна больш-менш пашыраючыяся, лепшае разуменне пра ўзаемаадносіны ўсіх асоб і частак дзяржавы, дух часу, які імкнецца да свабоды, заснаванай на законах – усё гэта вымушае жадаць, каб рабства цалкам было знішчана ў Расіі і каб карысны стан сялян не быў забыты,



асабліва у той час, калі Расія імкнулася да трывалага законнага ўладкавання”.

І так, сяляне павінны быць вызвалены і не павінны быць пакінуты ўрадам. Вызваленне сялян і для Пестэля з’яўляецца пытаннем не толькі сацыяльным, але і эканамічным. Згодна думкі Пестэля, пры вызваленні сялян вярхоўная ўлада павінна кіравацца трымя галоўнымі правіламі: 1) Вызваленне сялян ад рабства не павінна пазбавіць дваран прыбыткаў, якія яны атрымліваюць ад сваіх

маёнткаў. 2) Вызваленне не павінна выклікаць хваляванняў і бязладдзяў у дзяржаве, для чаго вярхоўны ўрад і абавязваецца выкарыстаць безлітасную строгасць супраць усякіх парушэнняў агульнага спакою. 3) Вызваленне павінна гарантаваць сялянам лепшае становішча “супраць існуючага, а не дараваць ім уяўную свабоду”.

Пестэль мяркуе, што дваранскія сходы самі выпрацуюць праекты вызвалення сялян, якімі можа скарыстацца і вярхоўны ўрад. Аднак, не спадзяючыся на будучыя дваранскія праекты, Пестэль паказвае на лепшыя спосабы вызвалення сялян. Так, у дачыненні да дваровых, можна прызначыць ім выкуп у пана, адпаведна мясцовым умовам і тым рамёствам, якім дваровыя навучаны; патрэбна таксама вызначыць колькасць гадоў службы, пасьля якіх дваровы вызваляецца без выкупа. Дарэчы, для вызвалення дваровых, вярхоўным урадам могуць быць прыняты і іншыя захады.

Сялянскае пытанне не можа лічыцца дэтальна распрацаваным у “Рускай Праўдзе”. Галоўным чынам не дастаткова распрацаваны працэс вызвалення сялян. Больш таго, асноўны тэзіс Пестэля, згодна якога вызваленне сялян не павінна пазбавіць землеўладальнікаў іхнага прыбытку ад маёнткаў, стаіць ў відавочнай супярэчнасьці з праектам аграранай рэформы.

-342-

Апошні прадугледжвае шырокую экспрапрыяцыю прыватнай зямельнай маёмасьці, нават не на карысць сялян, але, наогул, на дзяржаўныя патрэбы. Само сабой зразумела, што такі пераход прыватнай маёмасьці пад уладу дзяржавы, хаця і суправаджаемы грашовай кампенсацыяй за забраныя землі, пазбаўляе аднак уладальнікаў прыбыткаў з яе. Акрамя таго, прыгоннае сялянства з цягам часу павінна перайсьці ў склад расійскага грамадзянства і атрымаць дзяржаўную дзялянку. Такім чынам, павінны спыніцца адносіны паміж землеўласнікамі і іхнымі былымі прыгоннымі. Як следства, асноўны працэс пераходу сялян у вольны стан застаецца цалкам невызначаным. Мяркуючы па асобных урыўках, якія знаходзяцца ва неўпарадкаваных частках “Рускай Праўды” Пестэль узмоцнена распрацоўваў гэтае пытнне. Ва ўсякім выпадку, цалкам зразумела, што згодна думкі Пестэля, вызваленне сялян павінна адбыцца з надзяленнем сялян зямлёй і што сяляне павінны аб’яднацца з астатнім складам расійскага грамадзянства.

І так, агульная выснова, якая вынікае із толькі што зробленага агляду сацыяльнага ўладкаваня дзяржавы, тая, што адрозненні паміж станамі павінны быць знішчаны і будучая дзяржава асноўным законам прызнае грамадзянскую і палітычную роўнасць усіх станаў насельніцтва. Усе будуць павінны, як выказваецца Пестэль “пераіменаваны ў расійскіх грамадзян”.

Ён спыняецца таксама і на цыраманіяле, якім суправаджаецца ўступленне ў грамадзянства. Гэты цыраманіял, бяспрэчна, навеяны вывучэннем антычнай гісторыі. Дзеці расійскіх грамадзян уступаюць у правы грамадзянства у пятнаццігадовым узросьце. Валасное праўленне штогадова збірае ў вызнчаны дзень у прыходзкай царкве ўсіх дзяцей, якія дасягнулі пятнаццігадовага

ўзросту; сюды ж збіраюцца іхныя бацькі і сваякі і, наогул, жадаючыя прыхажане. Пасьля малебна святар вымаўляе адпаведную прамову і “тлумачыць недараслям усю важнасць становішча і ўсю святасць той прысягі айчыне, якую яны патым і вымаўляюць”. Затым валасны старшыня ўсіх частуе і гэты дзень для воласьці з’яўляецца днём радасьці і вяселля. Такім чынам “недараслі” ўспутаюць у лік рускіх грамадзян. Але цалкам грамадзянскімі правамі яны пачынаюць карыстацца пасьля дасягнення дваццацігадовага ўзросту. Верагодна, такі узрост вызначаўся для асоб абодвух станаў.

Такім чынам вызначаецца склад расійскіх грамадзян. І так, першае права расіійскага грамадзяніна гэта – усеагульная роўнасць. Зараз мы можам перайсьці да вызначэння іншых правоў, сцвярджаемых “Рускай Праўдай”.

# VI.
# Аграрная рэформа.

На першае месца патрэбна паставіць права кожнага на вызначаную зямельную дзялянку для яе апрацоўкі. З боку гледжання Пестэля, дзяржава павінна даваць грамадзянам не толькі палітычныя і грамадзянскія даброты, але таксама і матэрыяльныя, ва ўсякім разе, у тым памеры які неабходны для выжывання кожнага. Такім чынам, права карыстання зямельнай дзялянкай із дзяржаўнага зямельнага фонду з’яўляецца складовай часткай палітычных правоў грамадзян. Пестэль прытрымліваецца менавіта такіх поглядаў і пра сваю аграрную рэформу гаворыць у незакончанай частцы, якая мае назву “Пра народ у палітычным дачыненні”.

Перш за ўсё, Пестэль імкнецца выпрацаваць агульныя погляды. Яму вядомы дзве асноўныя тэорыі размеркавання



пазямельнай маёмасьці. Першая заснавана на тым перакананні, што чалавек знаходзіцца на зямлі, жыць можа толькі на зямлі і толькі ад зямлі можа здабываць сродкі падтрымання жыцця. Ад гэтага паўстае патрабаванне, што “зямля з’яўляецца агульнай маёмасьцю ўсяго роду чалавечага, а не прыватных асоб і пагэтаму не можа быць падзелена толькі паміж некоторымі асобамі, выключаючы іншых”. Калі хоць адзін чалавек карыстаецца выключным правам валодання зямлёй, то такім чынам парушаецца воля Творцы, закон прыроды і натуральнае права чалавека знішчаюцца “насільствам і злоўладдзем”. Другая тэрыя прызнае працу крыніцай маёмасьці. Тая ж тэорыя бярэ ў разлік і значэнне капітала для земляробства: уладальнік капітала згадзіцца выкарыстаць свой капітал для апрацоўкі зямлі толькі ў тым выпадку, калі будзе пераканаы ў пазямельнай маёмасьці.

Абодва меркаванні Пестэль лічыць крайнімі. Гэтыя крайнасьці можна прымірыць, калі стаць на бок тых асноўных высноў, якімі раіць карыстацца аўтар “Рускай Праўды”. Гэта наступныя высновы. Пестэль прызнае, што чалавек можа

жыць толькі на зямлі і яе ж стварэннямі падтрымлівае сваё існаванне; значыць, “зямля ёсць маёмасць усяго рада чалавечага і ніхто не павінен быць адлучаны ад гэтага валодання ні прамым ні ўскосным чынам”. Разуменне аб прыватнай зямельнай уласнасьці ўзнікае толькі са з’яўленем дзяржавы. Ахова маёмасьці з’яўляецца святым абавязкам урада, але прызнанне апошняй высновы яшчэ не павінна весьці да парушэння божых законаў і законаў прыроды, таму што “яны прызначаны Богам і прыродай і, па-сутнасьці, нязменныя, між тым як палітычныя прызначаны людзьмі і часта змяняюцца”. Пагэтаму магчымы сярэдні варыянт. Перш за ўсё, патрэбна даць людзям усё неабходнае для



жыцця, і на другое месца паставіць “набыццё ізлішкаў”; на першае мае права ўсякі чалавек, на другое – толькі той, які паспее нешта набыць. Калі засноўвацца на гэтых асноўных высновах, то і можна прыйсьці да той высновы, што кожны чалавек мае права карыстацца дарамі прыроды ў той ступені, у якой гэта неабходна для яго выжывання і ў гэтым дачыненні ён залежыць ад іншых; гэтая залежнасць, відавочна, мяркуецца ва ўсім тым што мае дачыненне да спосабаў выкаыстання зямлі. Але калі ўсе маюць магчымасць у вызначанай ступені карыстацца гэтым дарам прыроды, то для астатніх патрэбна забяспечыць “поўную свабоду набыцця і захавання ізлішкаў”.

І так, Пестэль лічыць, што ўсе грамадзяне маюць неад’емнае права выкарыстоўваць зямлю ў ступені, неабходнай для іхнага існавання. Дзяржава павінна забяспечыць гэты памер карыстання. Значыць, дзяржава павінна мець грамадзкія землі. карыстанне імі можа і абмяжоўвацца. Але, з іншага боку, у дзяржаве можа існаваць і прыватная пазямельная маёмасць. Аднак агульныя інтарэсы павінны стаяць на першым месцы і, як следства, прыватныя ўладальнікі павінны саступіць сваё права ў тым выпадку, калі яно парушае прыродныя законы, згодна якім, кожнаму чалавеку надаецца права ўдзелу ў валоданні зямлёй.

Зараз, перш за ўсё, высветлім прызначэнне і значэнне дзяржаўнага зямельнага фонда.

У кожнай воласьці зямля дзеліцца на дзве роўныя часткі: на грамадзкую валасную зямлю і на прыватную пазямельную маёмасць ці на “казённую” – у валасьцях, якія складаюцца із паселішчаў дяржаўных сялян. Валасная зямля належыць усяму валасному грамадству і складае яго недатыкальную



маёмасць. Астатняя частка зямлі належыць прыватным асобам ці скарбу. Апошнія землі назначаны “да набыцця ізлішкаў”. Валасная зямля забяспечвае ўсё неабходнае для існавання тых, хто не мае іншых крыніц для існавання. Кожны, такім чынам, будзе забяспечаны. Зразумела, усталяваць такое ўладкаванне не лёгка. Але Пестэль нагадвае, што ў Расіі народныя звычкі вельмі схільны да такога землеўладкавання, г. зн. абшчыннай маёмасьці. Нарэшце, падобнае ўладкаванне будзе праводзіцца на працягу пятнаццаці гадоў і за гэты перыяд могуць быць вырашаны розныя прыватнасьці, якія могуць сустрэцца на шляху падобнага размеркавання зямель.

Парадак карыстання грамадзкай зямлёй бачыцца Пестэлю ў наступным выглядзе. Валасная зямля дзеліцца на дзялянкі. Кожная дзялянка павінна быць такога памеру, “каб неабходнае для жыцця аднаго цягла магла даваць”. Пад цяглам разумеецца чалавек з жонкай і трое дзяцей. Заўважым, што, згодна слоў Рылеева, такі надзел, згодна разлікаў Пестэля, павінен быў раўняцца пяці дзесяцінам зямлі[337]. Гэтыя зямельныя дзялянкі раздаюцца ў карыстанне сябрам валасной адшчыны на гадавы тэрмін. Пасьля заканчэння гэтага тэрміну дзялянка можа быць перададзена ў іншыя рукі, ці пакінута за папярэднім гаспадаром. Кожны грамадзянін воласьці мае права патрабаваць для сябе столькі надзелаў колькі пажадае. Ад карыстання надзеламі не выключаюцца і тыя асобы, якія маюць прыватную пазямельную маёмасць. Калі ў воласьці застаюцца неразабраныя дзялянкі, то яны здаюцца ў арэнду староннім асобам. Але калі дзялянак выявіцца менш і заяўленыя патрабаванні не могуць быць задаволены, то ў такім выпадку пакідаюцца без задавальненя патрабаванні найбольшай колькасьці ўдзельнікаў і ім прапануецца

-347-

меншая колькасць. Уладальнікі прыватных зямель таксама могуць быць пакінуты без задавальнення, потым маюць перавагу тыя, хто займаецца выключна земляробчай справай, перад тымі, хто побач з земляробчай справай займаецца нейкімі промысламі.

Грамадзкая зямля прызначана для даравання кожнаму неабходных сродкаў для жыцця. Пагэтаму воласць павінна сачыць за тым, каб кожны апрацоўваў сваю дзялянку з руплівасьцю і старанна; у адваротным выпадку яна можа пазбавіць права выкарыстання дзялянакі.

У кожнай воласьці ўладкоўваецца банк і страхавая ўстанова. Банк дае неабходную дапамогу для першапачатковага ўладкавання.

Пестэль быў перакананы, што прапануемая ім аграрная рэформа будзе мець “вялікія выгады”. Кожны грамадзянін будзе забяспечаны і будзе ўпэўнены ў тым, што ў сваёй воласьці ён знойдзе кавалачак зямлі, які дазволіць яму існаваць. Жабрацтва не будзе, а гэта – важнейшая падстава падняцця маральнасьці ў краіне. Нацыяналізацыя пазямельнай маёмасьці не можа перашкаджаць развіццю прамысловасьці і, наогул, імкненню да павелічэння багацця, звязаннаму з існаваннем прыватнай маёмасьці, таму што для апошняй аграрная рэформа не стварае перашкод. Аграрная рэформа знішчыць папрэбу ў перасяленнях, якія згубна адбіваюцца на перасяленцах, як следства разнастайнасьці глебаў і клімата ў Расіі. Павелічэнне насельніцтва паменшыць колькасць вольных валасных надзелаў. Але гэта прывядзе да павелічэння кошту прыватнай зямлі, а павелечэнне коштаў на іх будзе заахвочваць да накіравання капіталаў на ўладкаванне мануфактур, заводаў і розных іншых камерцыйных накірункаў. Аграрная рэформа будзе мець і маральныя наступствы. Кожная воласць утворыць “палітычнае адзінства і сувязь паміж яе сябрамі будзе вельмі моцнай.

---

337 “Рускі архіў” 1875 год, 436.

Дабbooты, даваемыя дзяржавай павялічаць патрыятызм. Уся дзяржава падзеліцца на дробныя абшчыны-воласьці і кожны грамадзянін атрымае ад воласьці, як матэрыяльнае забеспячэнне, так і здзейсніць у ёй свае палітычны правы.

Такой шырокай бачыць Пестэль аграрную рэформу. Але ўзнікае пытанне, якімі шляхамі можа быць утвораны неабходны фонд валасных зямель? Адказ на гэта пытанне мы знаходзім як у тых артыкулах “Рускай Праўды”, якія апавядаюць пра розныя гурты сялянства, так і ў адной заўвазе, якая знаходзіцца ў нераспрацаванай частцы “Рускай Праўды”.

Так, зямля казённых сялян і ўдзельных дзеліцца на дзве часткі. Адна станавіцца валасной зямлёй, другая пераходзіць у склад дзяржаўнай маёмасьці. так робіцца ў кожнай нанова створанай воласьці. Сяляне дадзенай воласьці аднолькава карыстаюцца як адной часткай зямлі, так і другой падзеленай на надзелы. У першыя дзесяць ці пятнаццаць гадоў сяляне проляць аброк як за адну так і другую зямлю ў памеры не перавышаючымвызначанага да рэформы. Але калі ўся дзяржаўная рэформа будзе завершана, то плацёж у скарб з гарамадзкай зямлі спыняецца, аброк будзе збірацца толькі з казённай часткі зямлі.

У дачыненні да дзяржаўных сялян, аграрнае пытанне вырашаецца проста, таму што яны мелі ў той час дастаткова вялікія дзялянкі зямлі і, акрамя таго, зямля не належала ім на праве прыватнай маёмасьці. Значна складаней вырашалася пытанне ў дачыненні да тых зямель, якія знаходзіліся ў прыватнай маёмасьці.

У дачыненні да невялікага гурта вольных сялян, якія валодалі зямлёй на абшчынным праве ці на прыватным, аўтар “Рускай Праўды” таксама патрабуе



падзелу гэтых зямель на дзве роўныя часткі. Але прыватныя ўладальнікі гэтых зямель павінны быць узнагароджаны ці грашовай выплатай за забраныя дзялянкі ці адпаведнымі дзялянкамі із казённай часткі зямель, не ўвайшоўшых у валасное дзяленне. Землі, якімі сяляне валодаюць на абшчынным праве, таксама дзеляцца на дзве часткі, із якіх адна палавіна пераходзіць у валасны фонд, а другая размяркоўваецца пасярод аднаабшчыннікаў на праве прыватнай маёмасьці.

Такім чынам Пестэль вырашае аграрнае пытанне ў дачыненні да адной часткі зямель. Але, зразумела, самую вялікую складанасць гэтае пытанне набывала ў дачыненні да вялікага землевалодання з прыгоннымі сялянамі. Ужо даводзілася гаварыць, што распрацоўка аграрнага пытання не была закончана аўтарам “Рускай Праўды”. Аднак яго канчатковая схема высвятляецца із пазначанага ўжо ўрыўка, які знаходзіцца пасярод рукапісаў. Няма толькі тэхнічных тлумачэнняў, якія Пестэль звычайна дадае да кожнага свайго праекта. Але, дарэчы, у дадзеным выпадку тэарэтычныя асновы цалкам відавочны із агульных пастаноў “Рускай Праўды”: інтарэсы прыватных асоб павінны падпарадкоўвацца агульным інтарэсам, пагэтаму ўладальнікі прыватных зямель

павінны аддаць частку сваіх зямель на карысць дзяржавы. Із гэтага выцякае права дзяржавы экспрапрыіраваць частку пазямельнай маёмасьці.

Так, у дачыненні да прыватных уладальнікаў, якія валодаюць населенымі маёнткамі, Пестэль прапануе такую схему падзелу зямлі паміж дзяржавай і панамі; разлік робіцца адносна ўладальнікаў, якія маюць не менш чым тысяча душ прыгонных. Калі ў землеўласніка на кожнага прыгоннага прыходзіцца дзесяць ці больш дзесяцін, то палавіна зямлі пакідаецца землеўладальніку, а палавіна экспрапрыіруецца на карысць воласьці без

-350-

усякай кампенсацыі ўладальніку. Калі ж землеўладальнік мае зямлі менш чым дзесяць дзесяцін на прыгоннага, то пры надзяленні зямлёй сялян ён мае права на ўзнагароду з такім разлікам, што палавіна зямлі пераходзіць да воласьці, палавіна пакідаецца ў землеўладальніка, пры гэтым землеўладальнікі, якія маюць зямлі ў памеры ад пяці да дзесяці дзесяцін, за ўступку палавіны сваёй зямлі атрымліваюць із дзяржаўнага зямльнага фонда ці адпаведную грашовую кампенсацыю ці прыбаўку зямлёй так, каб у агульнай колькасьці у іх атрымлівалася пяць дзесяцін. Так, напрыклад, калі ўладальнік мае шэсць тысяч дзесяцін, то яму пакідаецца тры тысячы і дзве тысячы дзесяцін надаецца із казённай зямлі натурай, ці ў выглядзе грашовай кампенсацыі. Уласнікі, якія маюць менш пяці тысяц дзесяцін, атрымліваюць дадатковую зямлю ў поўным памеры.

Гэтыя разлікі знаходзяцца ва ўрыўку сярод рукапісаў “Рускай Праўды” і не суправаджаюцца дэтальнымі тлумачэннямі. Ён зроблены толькі для сярэдніх і вялікіх уладанняў (больш тысячы дзесяцін), але агульная думка аўтара бачыцца дастаткова выразна. Буйныя ўладальнкі, якія маюць больш чым дзесяць тысяч дзесяцін зямлі, без кампенсацый аддаюць сялянам палавіну сваёй зямлі. Тыя, хто мае менш чым пяць тысяч дзесяцін, аддаюць за ўзнагароду. Відавочна, што такі прынцып мае дачыненне і да больш дробных уладальнікаў. Нарэшце, уладальнікі, якія маюць ад пяці да дзесяці тысяч дзесяцін безвыплатна аддаюць толькі частку сваёй маёмасьці. Такім чынам, Пестэль спыніўся на сярэднім варыянце ў пытанні аб нацыяналізацыі пазямельнай маёмасьці.

Лёгка здагадацца, што, згодна агульнай думкі Пестэля, атрыманыя шляхам экспрапрыацыі землі не пераходзяць у прыватнае карыстанне, але складаюць грамадзкія землі. Згодна думкі Пестэля, усе грамадзяне распісаныя па валасьцях, у тым ліку і гаражане.

-351-

Пестэль бачыць воласць вельмі падобнай на фалангу Фур’е. Воласць утварае невялікая колькасць асоб, якія маюць права на карыстанне, у памеры дастатковым для падтрымання фізічнага існавання, прыпісанай да воласьці зямлёй.

# VII.

# Далейшы агляд палітычных правоў.

Калі прытрымліваццца схемы Пестэля, то зараз патрэбна было б спыніцца на праве грамадзян браць удзел у дзяржаўных справах. Але гэта звязана з іншымі бакамі дзяржаўнага ўладкавання. Пагэтаму зручней папярэдне разгледзець тут іншыя складовыя часткі палітычных правоў, якія Пестэль называе “грамадзянскімі” і разглядае ў частцы “пра народ у грамадзянскім дачыненні”. Аўтар дае такі пералік правоў, хаця і не поўны, згодна яго меркавання. Так, такія бываюць “правілы для дзеянняў грамадзян у розных абставінах”: “1) Правілы, якія вызначаюць асабістую свабоду і ўпэўненасць у справядлівасьці суда. 2) Правілы, вызначаючыя ўдзел у асабістых і грашовых павіннасьцях. 3) Правілы, вызначаючыя ўдзел грамадзян у дзяржаўнай службе. 4) Правілы, якія зацверджваюць свабоднае веравызначэнне і маючыя дачыненне да духоўных дзеянняў і, нарэшце, 6) Правілы, якія зацверджваюць вольны ход прамысловасьці і маючыя дачыненне да гаспадарчых і богашанавальных спраў. Першыя тры раздзелы маюць дачыненне пераважна да грамадзкага ўладкавання, а апошнія тры пераважна да ўладкавання прыватнага.

Пачнем з вучэння аб *недатыкальнасьці асобы*: “Асабістая свабода ёсць першае і найважнейшае права кожнага

-352-

грамадзяніна і святы абавязак кожнага ўрада. На ёй заснавана пабудова ўсяго грамадзкага будынка і без яе няма спакою і дабрабыту”, піша Пестэль. З мэтай забеспячэння асабістай свабоды грамадзян павінны быць уладкаваны наступныя правілы. “Ніхто із грамадзян не можа быць пазбаўлены свабоды і арыштаваны ніякім іншым чынам як толькі пазначаным у законах. Усякае дзеянне, якое супярэчыць гэтаму, выклікае строгае пакаранне парушальнікаў”. Законны парадак пазбаўлення свабоды, перш за ўсё вызначаецца тым, што грамадзянін можа быць арыштаваны толькі паліцэйскай установай; калі ж, у выпадку крайняй неабходнасьці, іншая ўстанова, прыватная асоба ці вайсковая частка, дапамагаючыя паліцыі былі вымушаны каго-небудзь арыштаваць, то пазбаўлены волі павінен быць як мага хутчэй перададзены паліцыі. Гэтая падрабязнасць не павінна нас здзіўляць: “Руская Праўда” стваралася ў той час, калі асабістая свабода грамадзяніна магла быць парушана кожнай магутнай асобай ці ўстановай. Месца жыхарства кожнага грамадзяніна абвяшчаецца недатыкальным: туды ніхто не можа ўвайсьці без згоды гаспадара, у тым ліку і паліцыя; калі паліцыя з’яўляецца ў месца жыхарства грамадзяніна з мэтай арыштаваць яго, то яна павінна паказаць пісьмовую пастанову адпаведнай установы з тлумачэннем падстаў для арышту. Верагодна, згодна думкі Пестэля, нават і для арышту паліцыя не можа ўвайсьці ў месца жыхврства грамадзяніна без дазволу гаспадара. На вуліцы яна можа арыштаваць грамадзяніна, пры ўмове пісьмовага тлумачэння падстаў для арышту не пазней чым праз дваццаць чатыры гадзіны пасьля арышту. Арыштаваныя могуць утрымлівацца толькі ў

дзяржаўных установах для арыштаваных, ім надаецца магчымасць быць узятымі на парукі і амаль неабмежаванае права сустрэч з наведвальнікамі

-353-

Асабістая бяспека ўсіх грамадзян вызначаецца яшчэ і агульным для ўсіх судом: ніколі не павінны дзейнічаць ніякія надзвычайныя судовыя камісіі ці суды. Выключэнне складаюць толькі злачынствы па вайсковай службе, якія падлягаюць вайсковаму суду. Суды павінны дзейнічаць згодна дакладнага тэкста закона, не дапускаючы адхіленняў.

Зараз пяройдзем да іншых правоў, якія надаюцца ўсім грамадзянам. Патрэбна спыніцца на стаўленні Пестэля да рэлігійных перакананняў. Ён адрознівае *свабоду сумлення і свабоду рэлігіі*. "Унутраная вера ёсць неабмежаваная ўласнасць кожнага чалавека, як разумнай істоты, не маючая ніякай неабходнасьці даваць справаздачу камуб то ні было, але, разам з тым, не маючая права ад іншых патрабаваць падобнай справаздачы". Гэта – свабода сумлення ў яе прыватным сэнсе. Яна аддаецца на разумене кожнай асобы. Але адносна Царквы, як установы, Пестэль прытрымліваецца іншага погляду. Для яго не ўсе рэлігіі аднолькавыя і праваслаўная рэлігія прызнаецца асноўнай. Але, дарэчы, ён не вызначае, якія перавагі яна мае, так як побач з праваслаўнай рэлігіяй усякае іншае веравызнанне карыстаецца правам свабоднага існавання ў межах дзяржавы, калі яно не парушае правілаў маральнасьці, палітычных і прыродных законаў.

У дачыненні да свабоды слова Пестэль згодзен з прынцыпам свабоды друку і судовым пераследаванні злачынстваў у гэтым накірунку[338]. Аднак перыядычныя выданні могуць выходзіць у свет толькі пасьля папярэдняй заявы аб гэтым выхадзе вярхоўнаму ўраду. Вось як вызначае Пестэль правілы пра свабоду

-354-

друку: "Карэнныя правілы ў дачыненні да свабоды друку наступныя: 1) Кожны грамадзянін мае правав пісаць і друкаваць усё тое, што ён лічыць патрэбным, з патрабаваннем, каб на творы было пазначана яго імя. Выключэннем із гэтага правіла з'яўляюцца толькі асабістая лаянка, якая не павінна дапускацца. 2) Кожны грамадзянін карыстаецца правам мець тыпаграфію з той толькі ўмовай, каб аб гэтым урад быў папярэдне паведамлены і каб на кожным надрукаванай рэчы значылася імя ўладальніка тыпаграфіі. 3) За кожную думку і выснову, якія змяшчаюцца ў творы, нясе адказнасць аўтар на падставе вышэйпазначаных правілаў аб вучэнні і выкладанні; калі яны супярэчаць законам і маральнасьці нясе судовую адказнасць у вызначаным парадку. 4) Калі ў творы апавядаецца пра нейкія падзеі ці нешта сцвярджаецца, то аўтар абавязаны іх даказаць, у выпадку калі будзе пакліканы ў суд пакрыўджаным. Калі ж даказаць не можа, то прыцягваецца да крымінальнай адказнасьці і суду прысяжных, судзячыся звычайным парадкам, і 5) Гэтым

[338] Гэта – пазнейшае меркаванне. У частцы аб прыказе благачыннасьці, якая адносіцца да больш ранейшых частак "Праўды", прадбачыцца цэнзура.

правілам падпарадкоўваюцца ўсе творы. Вялікія і малыя, усе пераклады, усе ведамасьці і тэрміновыя выданні, усе выявы, гравіроўкі, адным словам усё тое, што ўяўляе нейкі твор. Вярхоўнаму ўраду дазваляецца ўдакладняць усе падрабязнасьці: тэрміновыя ж выданні павінны выдавацца не інакш, як пасьля папярэдняй заявы ўраду аб гэтым намеры".

Акрамя правоў, якія звычайна адносяцца да разраду палітычных правоў, Пестэль лічыць неабходным усталяваць некаторыя агульныя грамадзянскія правы, якія ён, згодна сваёй тэрміналогіі, адносіць да разраду правоў "грамадзянскіх". Асобная частка "Рускай Праўды" прысвечана гэтым пытанням; яна мае загаловак "аб народзе ў грамадзянскім дачыненні". Да

-355-

ліку гэтых грамадзянскіх правоў Пестэль адносіць, як ужо разгледжаныя аб свабодзе друку і сумлення, так і некаторыя іншыя. да іх ліку адносяцца права на маёмасьць – "права свяшчэннае і недатыкальнае". Пагэтаму, напрыклад, дзяржава ніколі не павінна дапускаць канфіскацыі прыватнай маёмасьці. Але яе экспрапрыяцыя дапускаецца на мэты агульнага дабрабыту пры ўмове "поўнага замяшчэння экспрапрыіруемай маёмасьці".

Да гэтага ж гурта правоў прылічваецца і свабода прамысловасьці. Кожны можа занімацца ўсякай прамысловай дзейнасьцю. Наогул, Пестель прытрымліваецца меркавання пра свабоду прамысловай дзейнасьці ўнутры краіны, яе ахову і падтрымку яе дзейнасьці з боку ўрада. Так знешнія мытныя зборы павінны прызначацца з мэтай падтрымкі народнай прамысловасьці, але не для павелічэння прыбыткаў скарбу. У Пестэля ўсюды заўважаецца адна рыса: імкненне не дапусьціць назапашвання багаццяў у асобных індывідаў. Манаполіі, як прыватныя так і ўрадавыя не павінны быць дапускаемы. Асабліва характэрна, што Пестэль прапануе дазволіць "часовыя таварыствы" з прамысловымі мэтамі, але выступае супраць "пастаянных кампаній", падобна Амерыканскай ці Вест-Індыйскай. У гэтай не вызначана сфармуляванай думцы магчыма патрэбна бачыць жаданне Пестэля перашкодзіць назапашванню вялікіх багаццяў у руках асобных гандлёва-прамысловых прадпрыемстваў, так як арыстакратыю заможных людзей ён лічыць горшай нават чым феадальную арыстакратыю.

Нарэшце, да гэтага ж гурта правоў прылічваюцца і такія правы, якія з'яўляюцца наступствам пагадненняў паміж прыватнымі асобамі, ці вынікам сямейнага права, напрыклад, атрыманне ў спадчыну, апякунства, адружанне, стасункі паміж бацькамі і дзецьмі. Мы не будзем разглядаць гэты бок развaжанняў Пестэля, так як, па сутнасьці, ён не ўяўляе вялікай цікавасьці.

-356-

Даючы поўную свабоду дзейнасьці асоб, Пестэль, аднак, лічыць патрэбным вызначыць некаторыя абмежаванні на грамадства. Згодна яго ўяўленням гэтыя абмежаванні вынікаюць як із дзяржаўных інтарэсаў, так і із патрабаванняў аховы маральнасьці. Так, "усякае навучанне, прапаганда і дзейнасць, якія супярэчаць законам і нормам чыста маральным, а тым больш распушчанасць, павінны быць цалкам забаронены". Пестэль сам разумее, што такое не вельмі вызначанае правіла можа прывсьці да такіх жа злоўжыванняў, з

якімі ён змагаецца. Пагэтаму ён лічыць, што часовы ўрад выпрацуе такія правілы якія не вельмі абмяжуюць грамадзянскія свабоды. Ва ўсякім выпадку, ён раіць строгі нагляд за забавамі і спыненне двухбоеў.

Але самае цікавае, што кіраўнік Таемнага Таварыства выказваецца супраць якіх бы то ні было прыватных таварыстваў. “Якія б то ні было таварыствы, якія ўтвараюцца з пастаяннай мэтай, павінны быць цалкам забаронены, як легальныя, так і таемныя, так як першыя не маюць ніякай карысьці, а апошнія шкодныя. Першыя непатрэбны таму, што яны маюць дачыненне да такіх пытанняў, якія павінны вырашаць урадавыя ўстановы і для вырашэння якіх урадавыя ўстановы і ствараюцца з усімі іхнымі часткамі і накірункамі, асабліва пры існаванні валасных таварystваў. Другія ж шкодныя таму, што яны будуць мецъ дачыненне толькі да такіх пытанняў, якія не могуць быць вырашаны галосна, а такія пытані павінны быць прызнанымі як пытанні шкодныя, таму што дзяржаўнае ўладкване, вызначаемы ў гэтай “Рускай праўдзе” не толькі не прымушае хаваць нешта добрае і карыснае, але нават насупраць таго, заахвочвае да ўладкавання такіх прапаноў законным чынам і запрашае



ўсіх і кожнага да абнароднавання і прынароднага абмеркавання такіх захадаў. Як следства, хаваць нешта добрае няма падстаў”.

Вызначаючы правы грамадзян Пестэль рэгламентуе і абавязкі грамадзян у дачыненні да дзяржаўнай улады. Із абавязкаў цікавы рэкруцкі. Пестэль прапануе ўсеагульную рэкруцкую павіннасць, пры гэтым служыць павінны маладыя людзі якія дасягнулі узросту дваццаці гадоў і служба працягваецца пятнаццаць гадоў. Ад абавязковай вайсковай службы пазбаўляе адукацыйны цэнз, універсітэцкі ці гімназістцкі дыплом, ад сужбы таксама вызваляецца адзіны сын у бацькоў. Пестэль патрабуе ад грамадзян у дачыненні да дзяржавы абязковага падпарадкавання законам і выканання загадаў вярхоўнай улады.

# VIII.
# Дзяржаўнае ўладкаванне.

Пазнаёміўшыся з правамі, якія Пестэль у сваёй канстытуцыі прапануе распаўсюдзіць на ўсё насельніцтва краіны, пяройдзем зараз да найбольш значных палітычных правоў насельніцтва, менавіта да права яго ўдзелу ў палітычным жыцці краіны.

І да гэтага пытання Пестэль падыходзіць, перш за ўсё, з тэарэтычнага боку. У старажытнасьці маленькія дзяржавы мелі магчымасць вырашаць справы на народных вечах, якія складаліся із усіх грамадзян. Але з цягам часу дэмакратычныя дзяржавы знікаюць і замяняюцца феадальнай арыстакратыяй, якая прыгнятала насельніцтва Яўропы. Але, нарэшце, палітычныя розумы вылучылі думку аб магчымасьці замены веча ў вялікіх дзяржавах прадстаўнічым кіраваннем. Гэта – самае лепшае вырашэнне пытання. Але тут узнікае новае пытанне пра спосаб выбрання, так як

увесь народ не можа сабрацца на агульнае веча. Немагчыма таксама выбраць столькі народных выбраннікаў колькі можна было б сабраць народных сходаў, таму што атрымалася б вельмі вялікая колькасць прадстаўнікоў, што зрабіла б немагчымым вырашэнне імі дзяржаўных пытанняў. Пестэль, бяспрэчна, лічыў, што народны абраннік павінен быў быць абраным адным выбарчым сходам. Ён не ўяўляе сабе магчымасьці, калі некалькі выбарчых сходаў маглі б абіраць аднаго і таго ж кандыдата. Вось чаму ён не бачыць іншага выйсьця як толькі не прамое абранне ў склад народнага веча.

Удзел народа ў палітычным жыцці краіны Пестэль уяўляе сабе наступным чынам. Асноўнай ячэйкай палітычнага жыцця краіны з’яўляецца воласць; у воласьці кожны яе удзельнік можа выяўляць свае палітычныя правы. Гарады і мястэчкі таксама падзяляюцца на воласьці. Бяспрэчна, да такой гарадзкой воласьці таксама належыць зямля. У кожнай воласьці існуюць два спісы сяброў: грамадзянскі і скарбавы. Згодна скарбавага спісу кожны грамадзянін можа быць запісаны у некалькіх валасьцях, так як гэта спіс маёмасны і падатковы і, як следства, тыя хто мае маёмасць у некалькіх валасьцях запісваецца ў іхныя скарбавыя спісы. Але ў грамадзянскі спіс кожны грамадзянін уключаецца толькі ў якой-небудзь адной воласьці. Воласць – невялікае аб’яднанне, здаецца яна павінна была ўтрымліваць каля 1000 душ мужчынскага насельніцтва. Такім чынам, воласць гэта палітычная і аграрная адзінка, яна ж і самакіруемая адміністрацыйная адзінка. Мы ўжо ведаем, згодна меркаванняў Пестэля, што валасное жыццё будзе аб’ядноўваць сяброў воласьці матэрыяльна і маральна.

Зараз разледзім у чым жа вызначаецца палітычнае жыццё воласьці.



Тут палітычнае жыццё выяўляецца ў земскім народным сходзе. Сход складаецца із усіх грамадзян, якія прыпісаны да гэтай воласьці. Земскі народны валасны сход збіраецца адзін раз на год і працягваецца шэсць дзён, ад адной нядзелі да другой. Час сходаў вызначаецца законам і сходы адбываюцца адначасова ва ўсіх валасьцях дзяржавы. У земскім народным сходзе старшынствуе валасны галава. Земскі сход з’яўляецца такім чынам выбранніцкім сходам. Яго задача зводзіцца да выбрання намесных прадстаўнічых і палітычных устаноў, а менавіта: сяброў намесных валасных сходаў, намесных уездных сходаў і акруговых ці губернскіх намесных сходаў. Ва ўсе гэтыя ўстановы сябры выбіраюцца праз прамое выбранне, але сама працэдура абрання не вызначана – уяўлялася яна адкрытай ці таемнай? Колькасць сяброў выбіраемых у кожны із намесных сходаў павінна было вызначыць будучае заканадаўства. Ва ўсякім выпадку намесны валасны сход меркавалася вызначыць у колькасьці ад ста да двухсот сяброў, што з’яўляецца дастаткова значнай часткай ад усёй колькасьці выбраннікаў, якая павінна была складацца із 1000 грамадзян.

Ва ўсе намесныя сходы сябры выбіраюцца штогадова з правам перавыбрання. Намесныя сходы штогадова ў адзін і той жа вызначаны тэрмін збіраюцца па ўсёй дзяржаве і іхныя паседжанні доўжацца столькі часу скольki патрэбна для вырашэння таго ці іншага пытаня. У валасных намесных сходах

старшынствуе валасны галава, а ва ўездных і акруговых – уездны і акруговы пасаднікі. Пестэль прыводзіць графічную схему падпарадкавання сходаў.

Кампетэнцыя валаснога і ўезднага намесніцкіх сходаў падзяляецца на тры гурты спраў. Перш



за усё сходы заслухоўваюць справаздачы валаснога ці ўезднага кіраўніцтва, а таксама скаргі прыватных асоб на дзейнасць тых жа асоб. Выслухаўшы справаздачы, сход выносіць рашэнне якое адабрае ці крытыкуе дзейнасць адпаведных устаноў. Другім гуртам спраў з'яўляецца замяшчэнне вакантных пасад у валасных і ўездных кіруючых установах, выбранне новых службовых асоб і прысяжных суддзяў. Вырашыўшы гэтыя пытанні валасны ці ўездны намесны сход занімаецца "вырашэннем агульных спраў якія маюць дачынене да воласьці ці ўезда, дазваляе разнастайныя захады, здзяйсняемыя для агульнай карысьці, размяркоўвае ў валасьцях грамадзкія землі, разглядае прашэнні іншаземцаў аб набыцці расійскага грамадзянства і шмат якія падобныя справы."

Акруговы намесны сход мае падобныя функцыі ў дачыненні да акругі ці губерніі, але звыш таго, ён выбірае прадстаўнікоў на народнае веча. Такім чынам, аўтар "Рускай праўды" адмаўляе



грамадзянам у прамым выбранні сябраў заканадаўчага сходу ўсёй дзяржавы, надаючы ім шырокія правы ў мясцовым кіраванні. Дарэчы, нельга не адзначыць, што кампетэнцыя намесных сходаў вызначана у вельмі агульных межах. Але відавочна, што справы якія яны павінны былі вырашаць, перш за ўсё павінны былі мець дачыненне да гаспадарча-адміністрацыйнай дзейнасьці.

Патрэбна яшчэ заўважыць, што сябры валасных сходаў не атрымліваюць ніякай ўзнагароды за сваю дзейнасць; сябры ж больш высокіх устаноў атрымліваюць кампенсацыю за выдаткі на праезд і харчаванне.

Вызначыўшы ўладкаванне мясцовага самакіравання і палітычныя правы грамадзян, аўтар "Рускай праўды" лічыць неабходным патлумачыць выпрацаваную ім схему. У гэым тлумачэнні ён абараняе два тэзісы: па-першае, тое што яго схема надае грамадзянам шырокія і роўныя правы на ўдзел у палітычным жыцці; па-другое, той што яго праект ніяк не пагражае ўнутранымі хваляваннямі ў дзяржаве. Гэтыя тлумачэнні вельмі важныя, чаму мы лічым неабходным паказаць іх цалкам. "Такім чынам, увесь народ будзе размяркаваны па земскіх сходах для усеагульнага ўдзелу ў фарміраванні намесных сходаў. А з другога боку дзякуючы такому ўладкаваню намесныя сходы будуць прадстаўляць усіх грамадзян без выключэнняў. Ніхто не будзе свавольна выключаны ад удзелу ў дзяржаўных справах, а, паколькі гэты ўдзел будзе ўладкаваны праз парадак прадстаўнічы і пасрэдны, то і будзе ў поўнай меры выкарыстана для грамадзян магчымасць сабрацца на адным месцы і такім чынам забяспечыць аднолькавыя правы на ўдзел для ўсіх грамадзян. Заможныя не будуць пазбаўлены сваіх правоў, а бедныя набудуць іх.

Згубны звычай дараваць некаторым людзям перавагі за кошт іншых будзе знішчаны. Выбары, не будучы кіруемымі ніякімі прымусовымі захадамі, будуць накіраваны на самым дастойных і адукаваных мужоў. Дваране і заможныя будуць, верагодна, выбірацца часьцей за ўсіх іншых грамадзян, калі будуць больш асвечанымі чым іншыя; але такі выбар, заснаваны на ўсеагульным даверы, не зяўляецца палітычным правам асобы, а з'яўляецца абавязкам. Выгада для ўсёй дзяржавы будзе тым больш вялікая, што будзе дасягнута правільным чынам, выключаючы разнастайныя прымусовыя захады. Што да асьцярогі, што так званая чэрнь будзе хваляваць дзяржаву, калі яна будзе браць удзел у выбрані, то гэтая асьцярга цалкам дарэмная і не маючая падстаў. Чэрнь вырабляе бязладдзі толькі тады, калі яе прыгнятаюць, ці калі заможныя, зыходзячы са сваіх уласных інтарэсаў, падкупляюць і падбухторваюць яе, сама ж яна заўсёды знаходзіцца ў спакойным стане. Усе летапісы сведчаць пра тое, што хваляванні ў дзяржаве ніколі не пачыналіся самой чэрньнню, а заўсёды заможнымі і арыстакратамі. Пры ўладкаванні выкладзенага тут упарадкавання нават у заможных не будзе падстаў хваляваць чэрнь, таму што ў выбранні сябраў акруговых і ўездных намесных сходаў будуць удзельнічаць усе воласьці адначасова і немагчыма будзе адначасова падкупіць грамадзян у розных валасьцях. Звыш таго, нічога значнага не будзе вырашацца падчас валасных земскіх сходаў, а на паседжаннях намесных уездных і акруговых сходаў. На намесныя сходы вырабіць націск будзе немагчыма таму, што не маючы магчымасьці ўплываць на валасныя земскія сходы нельга будзе перашкодзіць грамадзянам абраць у намесныя сходы менавіта ганаровых людзей і непадкупных. Праз гэта тым больш будзе забяспечана немагчымасць



хваляваць намесныя сходы і што усе іхныя захады будуць схіляцца да агульнай карысьці і толькі яе мець на ўвазе. А з гэтага робіцца відавочным, што падзяленне народных сходаў на земскія і намесныя усе небяспекі і непрыемнасьці засьцерагае, колькі наогул гэта можна запяспечыць уладкаваннем ўлады, прядноўваючы да гэтага ўсе выгоды і зручнасьці".

"Руская праўда" не дастаткова вызначае функцыі воласьці. Пра воласьці Пестэль гаворыць у той частцы, у якой разважае пра палітычныя правы насельніцтва. Але месца якое мае дачыненне да мясцовага кіравання да нас не дайшло. Таксама згублена частка, у якой разважалася пра вярхоўнае кіраванне дзяржавай. Пра яго можна скласьці ўяўленне толькі дзякуючы скарочнаму выкладанню ў Дзяржаўным Запавеце і па некаторых сведчаннях асоб, якія былі знаёмы са зместам "Рускай Праўды". Але апошнія звесткі ўтрымліваюцца пераважна ў сведчаннях сябраў Таварыства Аб'яднаных Славян; яны ж былі знаёмы з Дзяржаўным Запаветам з дадаткам каментарыяў Бястужава. Пагэтаму пра вярхоўнае кіраванне можа скласьці уяўленне згодна Дзяржаўнага Запавета.

Пестэль адкідвае правіла Мантэск'е пра раўнавагу ўлад і прытрымліваецца правіла "вызначанасьці кола абавязкаў". Верагодна Пестэль выпрацаваў сваю тэорыю дзейнасьці ўлады ў дзяржаве і магчыма ў недайшоўшай да нас частцы "Рускай Праўды" змяшчалася тэарэтычнае

абгрунтаване гэтай думкі. Згодна Дзяржаўнага Запавета дзяржаўная ўлада падзяляецца на заканадаўчую і вярхоўна-выканаўчую. Із гэтага відаць, што судовая ўлада не вылучалася ў самастойную галіну; дарэчы, такое сцвярджэнне патрэбна прынімаць з вялікай асьцярожнасьцю, так як дакладна погляды Пестэля высветліць немагчыма. Акрамя гэтых двух галін вярхоўнай улады, ён прапануе



уладкаваць яшчэ назіральную галіну.

Заканадаўчую ўладу мае *народнае веча*. Яно складаецца із дэпутатаў, абраных народам на пяць гадоў. Штогадова некаторая частка дэпутатаў здымае із сябе дэпутацкія паўнамоцтвы і замяняецца новымі народнымі выбранікамі. Народнае веча валодае заканадаўчай уладай: абвяшчэнне вайны, заключэнне мірных пагадненняў. Веча праводзіць паседжанні вызначаны перыяд на працягу года, а пад час адсутнасьці паседжанняў яго замяняе часовая камісія. Функцыі гэтай камісіі невядомы. Веча самастойна выбірае сабе старшыню із шэрагу сябраў, якія з’яўляюцца дэпутатамі апошні год. Веча працуе ў поўным складзе і не падзяляецца на камеры. Яно ўяўляе сабой “думу народа” і ніхто не мае права скасаваць яго ўладу.

Вярхоўная выканаўчая ўлада належыць Дзяржаўнай Думе, якая складаецца із пяці асоб, выбіраемых народам тэрмінам на пяць гадоў.

Штогадова адзін із пяці сябраў Думы заканчвае свой тэрмін і замяняецца іншым выбраннікам. Кандыдатаў у сябры думы вылучае кожная губернія і із гэтага спіса выбіраецца адзін сябра. У Думе старшынствуе сябар, які выконвае свае абавязкі апошні год.

Дзяржаўная Дума мае вельмі вялікую ўладу: яна з’яўляецца вярхоўнай выканаўчай установай краіны, вядзе войны і стасункі з іншымі дзяржавамі; усе міністэрствы і наогул урадавыя ўстановы падпарадкоўваюцца ёй, дзейнічаюць згодна яе дазволу і выконваюць яе загады.

Назіральная ўлада складаецца із Вярхоўнага Сабора із 120 баяр. Баяры выбіраюцца наступным чынам. Губерніі вылучаюць кандыдатаў, а іхнае выбранне робіцца Народным вечам. Баярская годнасць пажыццёвая, але яны не могуць браць удзел ні ў заканадаўчым сходзе, ні занімаць пасады ва ўстановах



выканаўчай улады. Народнае Веча накіроўвае для зацверджвання Вярхоўным Саборам ухваленыя ім законы. Сабор не вядзе спрэчак па сутнасьці разглядаемага пытання, але назірае за выкананнем формы. Закон прынімаецца да выканання толькі пасьля ўхвалення Вярхоўным Саборам. Сабор самастойна выбірае старшыню са свайго асяроддзя тэрмінам на адзін год.

Вярхоўны сабор мае свае асобныя назіральныя ўстановы. Са свайго асяроддзя ён выбірае па аднаму генерал-пракурору (прыказны назіральнік згодна тэрміналогіі Пестэля) у кожнае мінстэрства і па аднаму генерал-губернатару (абласны пасаднік згодна той жа тэрміналогіі) у кожную вобласць. Генерал-пракурор разглядае журналы палат міністэрства і зацверджвае іхныя вызначэнні, назіраючы за законнасьцю пастаноў і за захоўваннем фармальнага

парадку ён не паглыбляецца ў разгляданне сутнасьці самой справы. Без яго ухвалення пастанова міністэрства не дзейснае. Службовыя злачынствы разглядаюцца Вярхоўнай Думай, а ў суд накіроўваюцца Вярхоўным Саборам. Генерал-губернатар мае такія ж абавязкі ў вобласьці ў дачыненні да абласных накірункаў дзейнасьці, якія генерал-пракурор у дачыненні да міністэрстваў.

Такім чынам Вярхоўны Сабор трымае у межах законнасьці Вярхоўвае Веча і Дзяржаўную Думу, а пры дапамозе сваіх агентаў і ўсю адміністрацыю. Пастанаўляючых жа функцый Сабор не мае. Назіральная рыса Вярхоўнага Сабора выяўляецца і яшчэ ў адным напрамку: ён прызначае галоўнакамандуючага войскам, у выпадку калі войска знаходзіцца за межамі дзяржавы, пасьля вяртання войска ў межы дзяржавы яго паўнамоцствы заканчваюцца.

Ужо із таго факта, што Вярхоўны Сабор з'яўляецца ахоўнікам законнасьці ў дачыненні да Народнага Веча, сведчыць, што згодна ўяўленням Пестэля Народнае Веча не з'яўляецца абсалютным уладаром дзяржаўнай улады: кола



яго законнай дзейнасьці вызначаецца канстытуцыйнымі пастановамі – яно не мога перамяніць канстытуцыю. На самай справе, у Дзяржаўным Запавеце сустркаецца на гэты конт лаканічная заўвага: "Адрозненні ў прыняцці законаў запаветных і ўсіх астатніх законаў. Першыя абнародуюцца і выносяцца на абмяркаванне ўсёй Расіі". Ітак, прапануецца народны плэбісцыт па пытанню аб змяненні запаветных законаў. Больш падрабязна гэтую думку Пэстэль нідзе не разглядае. Адзін із паважных сябраў Таварыства Аб'яднаных Славян каментуе гэтую думку наступным чынам: "да ведама кожнага грамадзяніна было б даведзена пра прапануемы для зацверджання закон і ён меў бы магчымасць зрабіць заўвагі". Верагодна гэта мае дачыненне менавіта да плебісцыта.

Вось усё што можна даведацца із дастаткова ўрыўчатых звестак пра праектуемае Пестэлем дзяржаўнае ўладкаванне.

Што да заканадаўчай ініцыятывы, то можна сказаць, што старшыні прыказаў, г. зн. міністры, маглі даваць свае праекты на разгляд Веча. Што да сябраў Веча, то пра гэта нічога нельга сказаць, таму што адпаведныя часткі "Рускай Праўды" да нас не дайшлі.

# IX.
# Кіраванне і суд.

Асобныя галіны кіравання павінны былі ўзначальваць старшыні прыказаў, г. зн. міністры. Згадваецца пра палаты прыказаў, із чаго патрэбна зрабіць выснову, што пытанні ў міністэрствах павінны былі вырашацца калегіяльна. Асноўвы кіравання меркавалася распрацаваць падрабязна, пра што і сведчаць дайшоўшыя да нас урыўкі частак пра прыказы



прыстойнасьці, судовы, вайсковы, марскі і знешніх стасункаў.

Зараз пяройдзем да мясцовага кіравання. Асновай тэрытарыяльнага падзелу з'яўляецца воласць. Воласьці аб'ядноўваюцца ва ўезды, уезды утвараюць акругі ці губерніі. Усіх губерній меркавалася пяцьдзесят тры, із якіх тры называюцца удзеламі: Сталічны, Данскі і Аральскі. Кожныя пяць акруг утвараюць вобласць. Вобласьці меркаваліся наступнымі: Чудзкая, Холмская, Паўночная, Сібірская, Уральская, Славянская, Вершынская, Чарнаморская, Украінская і Каўказкая.

На чале кіравання кожнай вобласьцю стаіць генерал-губернатар ці галоўны абласны пасаднік, які з'яўляецца "галоўным адказным за вобласць". На яго абавязку было назіранне за дзейнасьцю абласных упраў. У кожнай вобласьці існуюць наступныя ўстановы кіравання: судовая ўправа, управа прыстойнасьці, управа духоўных спраў, управа асветы і скарбавая ўправа. Кожная ўправа складаецца са старшыні, пракурора і трох пасаднікаў. Вырашэнне пытанняў мяркавалася калегіяльным.

Згодна прапаноў Пестэля, сталічны горад вылучаецца ў асобную акругу, пад назвай сталічнага ўдзелу. Такім удзелам меркавалася зрабіць Ніжагародзкую губернію выключаючы ўезды Сергачскі, Лукаянаўскі, Арзамаскі, Ардатаўскі і частку Гарбатаўскага. Ніжні Ноўгарад прызнчаецца сталіцай пад назвай Уладзімір, у гонар Уладзіміра Святога (існуючы горад Уладзімір атрымлівае назву Клязьмін). Перанясенне сталіцы ў Ніжні Ноўгарад Пестэль тлумачыць наступнымі матывамі, часткова эканамічнымі, часткова гісторыка-нацыянальнымі: 1) Гэты горад знаходзіцца пасярэдзіне Расіі, 2) Размяшчаючыся на Волзе і Ацэ, ён самы зручны для ўнутранага гандлю і прывозу вялікай колькасьці разнастайных прыпасаў



неабходных для сталіцы. 3) Макар'еўская ярмарка злучае Яўропу і Азію ў сухапутных гандлёвых зносінах. 4) Вызваленне ад іншаземнага іга праз Мініна і Пажарскага пачалося із гэтага горада і 5) Усе ўспаміны пра ніжагародзкую старажытнасць перапоўнены свабодай і непасрэднай павагай да айчыны, а не да яе тыранаў.

Мы не будзем разглядаць усе падрабязнасьці мяркуемага Пестэлем падзелу Расіі на вобласьці. Пра гэта можна скласьці ўяўленне па прыкладаемай мапе[339]. (Гл. стр. 376-377.)

[339] Для разумення дадаваемай мапы неабходна зрабіць наступныя заўвагі: Пестэль дэтальна вызначае геаграфічнае становішча кожнай із будучых абласьцей і на заключэнне дае агульную характарыстыку маючым адбыцца пераменам у размеркаванні абласьцей. Гэта наступныя перамены: 1) Фінляндыя, Сібір і Каўказ атрымліваюць новы падзел. 2) Часткі польскіх і літоўскіх губерній якія застаюцца ў Расіі, уключаюцца: ад Віленскай губерніі ў Мітаўскую акругу; ад Менскай губерніі у Віцебскую і Чарнігаўскую акругі; а ад Валынскай губерніі ў Кіеўскую акругу. 3) Малдавія і Бесарабія складаюць Ясскую акругу, вылучаючы некаторыя часткі ў Магілёўскую (Падольскую) акругу. 4) Вяцкая, Магілёўская і Таўрычаская губерніі скасуюцца і падзяляюцца паміж іншымі акругамі. 5) Эстляндыя і Ліфляндыя аб'ядноўваюцца ў адну акругу пад назвай Дерптская акруга. 6) Новая Адэская акруга ўтвараецца із частак Херсонскай, Кіеўскай і Падольскай губерній. 7) У шмат якіх губерніях адбываюцца перамяшчэнні уездаў для зручнасьці акруглення.

Вялікую цікавасць выклікалі б падрабязнасьці мясцовага кіравання. Але гэтае пытанне цалкам адсутнічае ў дайшоўшай да нас “Праўдзе”. Дарычы, захаваўся самы цікавы яго бок: артыкул пра валасное ўладкаванне. Кожная воласць складаецца із прыкладна 1000 душ мужчынскай стаці. Калі паселішча ці мястэчка мае менш чым адну тысячу мужчынскага насельніцтва, то некалькі паслішчаў утвараюць адну прыпісную воласць. Пестэль нават раіць із прыпісных валасьцей утвараць цэльныя воласьці, аб’ядноўваючы некалькі вёсак

-369-

у адну, дарэчы не выкарыстоўваючы прымус. Ён асьцерагае ад шматлюдных валасьцей. У шматнаселенай воласьці абцяжарваецца кіраванне, таксама ўзнікаюць цяжкасьці сабрацца ўсім грамадзянам на земскі сход; нарэшце, у вялікай воласьці палеткі будуць знаходзіцца далёка ад жылля, што прыводзіць да нязручнасьцей у правядзенні сельскагаспадарчых прац. Ён раіць утвараць воласьці ўтрымліваючыя, ва ўсякім разе, не больш чым з 1000 мужчынскіх душ. Гарады таксама ператвараюцца ў воласьці. Дарэчы у горадзе можа жыць і большая колькасць жыхароў, калі яны не з’яўляюцца сябрамі дадзенай воласьці. Кожная воласць атрымлівае такую колькасць зямлі якая неабходна для забяспячэння жывучага ў ёй насельнцтва.

Мы пазнаёміліся з самымі асноўнымі бакамі зместу “Рускай Праўды”. Такія пытанні, маюць дачыненне да правоў грамадзян, эканамічнага і адміністрацыйнага ўладкавання. Нам застаецца яшчэ разгледзець пытанне, якому “Праўда” надае шмат увагі – менавіта пытанням суда і пакаранняў. Гэтыя пытанні разглядаюцца ў той частцы “Рускай Праўды”, якая мае назву “Кароткі разумовы агляд дзяржаўнага кіравання. Твор рускага гусара.” Яна ўтрымлівае падзагаловак “Грамадзянскі судзебнік”. Падобна асноўнай частцы “Рускай Праўды” Грамадзянскі судзебнік падзяляецца на дзесяць частак. У змесьце гэтыя часткі маюць такія назвы: агульныя разважанні, справы духоўныя, справы прыстойнасьці, справы ўладанняў, справы гаспадарчыя, разнастайныя павіннасьці, выкананне пісьмовых спраў, справы сямейныя, справы пагадненняў, іншаземцы. Але не ўсе гэтыя часткі напісаны. Тэкст пачынаецца з другой часткі, якая выкладае “пра часткі кіравання, адказныя за дзяржаўную бяспеку”.

Мы не будзем падрабязна разглядаць змест гэтай часткі “Праўды”. Спынімся на некаторых яе баках і, перш за ўсё, на вучэнні пра законы.

-370-

Аўтар падзяляе ўсе законы на дзве галоўныя часткі. Першая частка законаў утварае дзяржаўны статут ці канстытуцыю; другая частка вызначае парадак і межы дзейнасьці урада, а таксама парадак і межы дзейнасьці народа і прыватных асоб. Ад законаў аўтар патрабуе наступных якасьцей: законы павінны быць адпаведнымі, г. зн. цалкам адпавядаць прыродным якасьцям, карэнным уласьцівасьцям і сутнасьці з’яваў для якіх яны выдаюцца. Пры выкладанні кожнага закона патрэбна “звяртаць увагу адзіна на гэтую сутнасць, толькі з ёю пагадняць усе вызначэнні, даваемыя законам і не толькі не замяняць гэтую сутнасць пабочнымі разважаннямі, але нават злучаць пабобныя разважанні абапіраючыся на якія б то ні было падставы, якімі б яны не здаваліся моцнымі”.

Як бачым, гэтыя вызначэнні і падзел не выклікаюць асаблівай цікаўнасьці.

Зараз пяройдзем да пакаранняў. Перш за ўсё, аўтар патрабуе аднолькавых пакаранняў за падобныя злачынствы для усіх грамадзкіх станаў, без выключэнняў. Мэтай пакарання з’яўляецца не пакута злачынцы, а стрыманне яго ад злачынных дзеянняў. Пакаранне павінна быць усенародным і адбыцца як мага хутчэй пасьля здзяйснення злачынства. Аўтар наогул вельмі сурова ставіцца да злачынцаў. Ён раіць падтрымліваць упэўненасць у немінучасьці пакарання на той падставе, што нават самае нязначнае пакаранне падтрымлівае баязнь нават у большай ступені, чым суровае пакаранне, якога злачынцы маюць надзею пазбегнуць. “Вось падстава, - апавядае аўтар, - чаму злачынцы ніколі не павінны атрыліваць дараванне, тым больш, што такое дараванне мае два згубныя наступствы: па-першае, тое, што абуджаючы надзею на



безпакаранасць, знішчае самую магутную перашкоду для парушэння законаў, а, па-другое, таму што падобныя прыклады надаюць здзяйсняемаму пакаранню выгляд небезстароннасьці і асабістай злобы, а не правасуддзя”.

Далей аўтар даводзіць, што прынароднасць пакаранняў з’яўляецца неабходнай, як захад папярэджваючы. Пакаранне павінна адбывацца па магчымасьці адразу ж пасьля здзяйснення злачынства. “Выкананне гэтага правіла – тлумачыць аўтар – мае два станоўчыя бакі: па-першае, яно не дае магчымасьці грамадзянам згубіць цікавасць да злачынства і дае, як следства, ураду сапраўдны выгляд барацьбы са злачыннасьцю, а, па-другое, яно, такім чынам, аб’ядноўвае разуменне злачынства і разуменне пакарання, што апошняе можа быць толькі абавязковым следствам першага і вынікам дзейнасьці не столькі ўрада, колькі самаго злачынцы. У адваротным выпадку пакуты злачынцы выклікаюць спачуванне і дзейнічаюць на розумы не столькі як пакаранне, а як відовішча. Для гэтага законы павінны быць паблажлівымі і суддзі непахіснымі і толькі справядлівымі”.

Але затое аўтар рашуча выступае супраць жорсткасьці пакаранняў. Калі злачынцы пагражае вельмі жорсткае пакаранне ён гатовы зрабіць яшчэ некалькі злачынстваў, каб пазбегнуць пакарання. Жорсткія пакаранні шкодна ўплываюць на маральны стан народа, схіляюць урад часта выкарыстоўваць дараванні, ці суддзяў – да спачування. “Чым больш жорсткія пакаранні – тлумачыць сваю думку аўтар – тым больш жорсткім робіцца і сам народ для выпраўлення якога яны выкарстоўваюцца і, як следства, яны не прыносяць не толькі ніякай карысьці, але нават, насупраць таго, прыніжаюць народную маральнасць. Жорсткасць пакаранняў прыносіць яшчэ і тую шкоду, што прыводзіць да частых дараванняў ці выканання карніцкіх пастаноў і такім чынам голас закона



замяняецца самаўладным дзеянем сябраў урада і справядлівасць судзяў замяняецца староннасьцю. Пры гэтым, патрэбна заўважыць, што жорсткасць пакаранняў у меншай ступені дзейнічае на розум, чым іхная працягласць і што большая частка самых жудасных злачынцаў будзе аддаваць перавагу сьмерці перад цяжкім і пажыццёвым зняволеннем. Моцныя ўражанні выклікаюць жах,

але дзейнічаюць не доўга, між тым як невялікія пакуты, але працягваючыяся доўга непараўнальна мацнейшыя і, як следства, больш адварочваюць ад злачынстваў”.

Што да уладкавання судоў, то ў гэтым дачыненні можна адзначыць, што “Руская Праўда” раіць суд прысяжных, публічныя судовыя паседжанні і ўмоўнае пакаранне. Суд прысяжных уладкоўваецца для разглядання сутнасьці справы і вырашэння пытання аб вінаватасьці ці невінаватасьці: вызначэнне пакарання залежыць ад суддзяў. Прысяжныя прызначаюцца згодна з чарговым спісам. Але ў судовых справах аўтар раіць захаваць адну старую рысу. Параўноўваючы годнасьці і недахопы вуснага і пісьмовага судавядзення, аўтар выказвае занепакоенасць, што вуснае судавядзенне можа мець недахопам красамоўства адвакатаў і іх уздзеянне на суддзяў. Пагэтаму ён прапануе захаваць пісьмовае судавядзенне.

Цікавы погляд Пестэля на парадак абрання прысяжных. Гэты абавязак ён лічыць вельмі важным, але прысяжныя абіраюцца па чарзе, згодна са апісам із шэрагу грамадзян. Бакі маюць права выказваць недавер таму ці іншаму прысяжнаму. Колькасць прысяжных залежыць ад значнасьці справы, але не можа быць больш за 10. Іхныя рашэнні адзінагалосны. Акрамя рашэнняў дадаткага ці адмоўнага, Пестэль лічыць карысным дадаць трэцці від высновы “у тлумачэнні сумненні” тое, што рымляне вызначалі тэрмінам non liquet.

-373-

Пра судовыя ўстановы дакладнага уяўлення скласьці нельга, таму што менавіта гэтая частка “раўды” да нас не дайшла, хаця, хутчэй за ўсё, была напісана. Пестэль спасылаецца на ўсіх “прававедаў”, якія даводзяць неабходнасць трох судовых інстанцый. Можна толькі знайсьці ўказанні на спосаб вышэйшага нагляду за дзейнасьцю судовых установ. Назіральнай установай з’яўляецца старшыня прыказа правасуддзя, г. зн. міністр юстыцыі. Ён назірае над “дзеяннямі законаў”, наглядае за судовымі ўстановамі і наглядае за правільнасцю судовых мерапрыемстваў. Яму надаецца вельмі шырокае і невызначанае поле дзейнасьці, так як ён нават абавязаны рабіць высновы: наколькі законы адпавядаюць свайму прызначэнню у сэнсе ўзаемаадносін паміж асобнымі грамадзянамі ці паміж грамадзянамі і ўрадам і пра свае назіранні ён дае справаздачы заканадаўчай уладзе, якая пераглядае законы. Таму ж кіраўніку судовых спраў належыць назіранне над усімі судовымі чыноўнікамі. У правінцыях па пытаннях нагляду за дзейнасьцю судовых установ дзяржаўнаму старшыні судовых спраў дапамагаюць уездныя губернскія правадыры і абласныя намеснікі.

Акрамя незакончанай часткі пра прыказ судовых спраў у “Рускай Праўдзе” захаваліся часткі пра прыказ дабрадзейнасьці, прыказ знешніх стасункаў, вельмі маленькі ўрывак пра прыказ марскіх магутнасьцяў і дастаткова вялікі ўрывак часткі пра вайсковыя магутнасьці. Апошняе пытанне распрацавана дастаткова старанна, але яно не з’яўляецца цікавым для грамадства. Заўважым толькі, што ўся замежная тэрміналогія, якая мела дачыненне да вайсковай справы,

заменена на рускамоўную тэрміналогію, часткова старажытную, часткова распрацаваную самім Пестэлем.

-374-

# X.
# Дзяржава Пестэля.

Мы пазнаёміліся са зместам “Рускай Праўды”. Сам яе аўтар не адмаўляўся на следстве ад знаёмства са шматлікімі палітычна-юрыдычнымі і эканамічнымі творамі таго часу. Ён чытаў творы Дзецю-дэ-Трасі, Філанджыеры, Бэтмана, Бенжамэна, Канстанта, Сэя, не кажучы ўжо пра творы французскіх энцыклапедыстаў. Больш таго, ён цікавіўся антычнай старажытнасьцю і вялікую ўвагу надаваў рускай гісторыі. Мы нават ведаем, што Пестэль меў шматлікую бібліятэку і, наогул, кабінетныя заняткі ў яго раскладзе стаялі на першым месцы. Такі накірунак яго заняткаў цалкам адпавядаў тэарэтычнаму розуму Пестэля. Менавіта ён, перш за ўсё, быў тэарэтыкам і гэтая рыса выявілася як у ягоным праекце канстытуцыі, так і ў тым плане рэвалюцыйных дзеянняў які быў ім распрацаваны. Схільнасць да агульных разважанняў і здольнасць да глыбокага аналізу давалі Пестэлю разумовую перавагу ў асяроддзі сябраў Паўднёвага Таварыства. Але такога першынства ён не атрымаў у справе практычнай падрыхтоўкі рэвалюцыі, хаця Следчая Камісія менавіта ў яго асобе бачыла галоўны рухавік рыхтуемага пераварату. Пестэль, калі можна так сказаць, захапіўся распрацоўкай праекта канстытуцыі і плана пераварату.

Так і “Руская Праўда”, перш за ўсё, выклікае цікавасць з боку тых тэорый, якія вылучаў і абгрунтоўваў іхны аўтар. У шматлікай літаратуры, якой карыстаўся Пестэль, можна знайсьці тыя ці іншыя бакі яго тэарэтычных поглядаў. Гэтаму факту не патрэбна асабліва здзіўляцца і не патрэбна надаваць

-375-

вялікага значэння. Лёс усіх трактатаў, якія мелі на мэце тэарэтычна высветліць самыя лепшыя формы дзяржаўнага ўладкавання, быў больш ці менш аднолькавы: усе мысляры гэтага накірунку, абапіраліся у той ці іншай ступені на папярэдні вопыт, які ўвасабляўся ці ў навуковых трактатах ці ў сведчаннях гісторычнага вопыту. Пагэтаму цікавасць у дачыненні да кожнага асобнага падобнага трактата, асабліва навейшага часу, можа заключацца ў большым ці меншым практычным выкарыстанні вылучаемых імі палітычных і грамадзянскіх ідэалаў і ў большай ці меншай самастойнасьці тых штрыхоў палітычнага і грамадзкага добраўпарадкавання, якія дадзены аўтар уключае ў сваю тэорыю.

Як цалкам справядліва пазначана, што некаторыя рысы сваіх поглядаў Пестэль грунтуе на поглядах Дзецю-дэ-Трасі. Гэты аўтар наогул меў самы вялікі ўплыў. Але цікавасць і значэнне разглядаемага трактата змяшчаюцца не ў тых асобных рысах, якія яго аўтар грунтуе на тым ці іншым папярэдніку, а ў агульным дапасаванні рускай рэчаіснасьці да агульнай тэорыі. Бясспрэчна, Пестэль у гэтым дачыненні і нават ў распрацоўцы асобных пытанняў выяўляецца цалкам

самастойным аўтарам. Але тут паўстае кардынальнае пытанне – што ўяўляе із сябе тая дзяржава, тэорыю якой распрацоўвае Пестэль.

Асноўны тэзіс Пестэля – ставарэнне новай дзяржавы, усё папярэдняе ўладкаванне якой павінна будзе перабудаваць.

Асноўныя рысы гэтай дзяржавы заключаюцца ў наступным. Гэтая дзяржава павінна існаваць для даброт грамадзян – матэрыяльных, маральных і палітычных. Дзяржава абавязана стварыць для сваіх грамадзян такія даброты. Але грамадзяне абавязаны падпарадкоўвацца дзяржаўнай уладзе. Гэтая дзяржава,



імкнучыся да дабрабыту асобы, у той жа час накладае на кожнага свайго грамадзяніна суровыя патрабаванні, якія здольны нават падпарадкаваць сваім інтарэсам, г. зн. інтарэсам грамадзкага дабрабыту, асабістую свабоду і матэрыяльны дабрабыт асобнага індывіда. Новая дзяржава павінна быць дзяржавай моцнай, магутнай, цэльнай і непадзельнай. Яна павінна быць злучана моцным патрыятычным духам.

Пестэль як быццам бы нагадвае, што яго дзяржава павінна парваць з гістарычнай традыцыяй народнага жыцця. Для асобных нацыянальнасьцей, якія ўваходзяць у склад Расіі ён нават патрабуе разарвання з іхнай папярэдняй нацыянальнай годнасьцю. Але, бяспрэчна, немагчыма ўявіць сабе такі разрыў у вялікай асноўнай народнасьці, якая утварае дзяржаву. І Пестэль імкнецца, з аднаго боку, падняць патрыятызм, падтрымліваемы ўжо новымі ўстановамі, а з другога  імкнецца злучыць будучую дзяржаву з гістарычнымі традыцыямі і ён пераноcіць сталіцу ў Ніжні Ноўгарад, дзе пачуўся магучы голас у абарону рускай народнасьці. Ён хоча злучыць новую дзяржаву толькі з тымі гістарычнымі традыцыямі народнага жыцця, якія нагадвалі б сваім грамадзянам пра свабоду іхных продкаў.

Калі сабраць усе рысы дзяржавы Пстэля, то яны адзеляцца на тры асноўныя тыпы: дзяржава антычнага тыпу, дзяржава сацыялістычная і дзяржава напалеонаўскага тыпу. Грунтуючыся на рысах дзяржаваўнага ўладкавання такіх разнастайных эпох і з такімі рознымі задачамі, Пестэль не з’яўляецца толькі пераймальнікам якога-небудзь канкрэтнага меркавання.

Не мае значэння, ці сам Пестэль запазычыў са знаёмства з антычным светам некаторыя рысы для сваёй дзяржавы, ці на яго ўздзейнічалі Жан-Жак Руссо, Сент-Жуст ці нехта іншы, але, ва ўсякім



Выпадку, аўтар “Рускай Праўды” далёка не лічыць магчымым запазычыць усе рысы антычнага свету ў Расію. Ён імкнецца не быць утапістам. На самай справе, такія рысы, як грамадзкія святкаванні, урачыстае ўступленне ў лік грамадзян, імкненне прышчапіць новай дзяржаве моцную патрыятычную афарбоўку і асабліва – гэта падзел на маленькія абшчыны-валасьці, якім ён гатовы нават прышчапіць характар антычных дэмаў – вось тыя рысы ад якіх вее антычным светам. Народ вялізнай дзяржавы жыве ў сваіх валасьцях-дэмах поўным палітычным і мясцовым жыццём. Гэта адна вялікая сям’я, злучаная ў грамадзкім

дачыненні, маральна і матэрыяльна. Пестэлю не падабаецца сучасная яму дзяржава. З яе моцна развітым індывідуалізмам асоб, з яе барацьбой партый, з яе уплывам асобных станаў грамадства. І ён імкнецца выраўняць будучых расійскіх грамадзян так, каб ніякія элементы грамадства не змаглі мець пераважаючага ўплыву, каб воля грамадзян выказвалася цалкам незалежна. Гэтае імкненне схіляе яго да адмовы ад прамых выбараў і рапрацоўкі складанага механізму абрання Дзяржаўнай Думы ці Вярхоўнага Сходу. Правільна ці не разважаў Пестэль, у дадзеным выпадку не мае значэння, але яго думка была менавіта такой.

Поглядам Пестэля ў значнай ступені характэрны сацыялістычныя рысы. У сваёй будучай дзяржаве ён не распрацоўвае падобныя погляды да канца. І ў гэтым заўважаецца яго самастойнасць. Прызнаючы магчымасць найлепшага дзяржаўнага ўладкавання пры ўсеагульнай роўнасьці грамадзян, ён мае вельмі адмоўныя пачуцці да самых разнастайных арыстакратый, як феадальных, так і капіталістычных; але да апошніх ён ставіцца яшчэ больш пагардліва чым да першых. На самай справе, радавіты феадал



можа быць пазбаўлены сваіх тытулаў і гербаў заканадаўчым дэкрэтам; яго маёнткі тым жа дэкрэтам могуць быць забраны на карысць дзяржавы. Але з арыстакратыяй капіталу барацьба значна больш цяжкая, без парушэнняў элементарнай справядлівасьці і ўплыў гэтай арыстакратыі можа выяўляцца больш тонкімі шляхамі. Але, з іншага боку, Пестэль разумее, што ўсеагульная матэрыяльная роўнасць і ўтапічная і можа шкодна адбіцца на ўсім уладкаванні дзяржавы; ён ахвотна гатовы ўсімі магчымымі захадамі падтрымліваць намаганні індывідаў ў той ці іншай галіне прамысловасьці, але баіцца назапашвання значных багаццяў у адных руках. З другога боку, ён выказвае той прынцып, што дзяржава абавязана запяспечыць памер сродкаў, якія задавальняюць мінімальна вызначаныя патрэбы сям'і. І так, будуючая дзяржава не павінна даваць перавагу капіталізму, але, з іншага боку, абавязана забяспечыць мінімум сродкаў для існавання тых хто працуе: “усе рускія людзі будуць землеўладальнікамі”- вось мэта Пестэля.

Такая дзяржава ў стане даць грамадзянам, згодна з глыбокім пераканнем Пестэля, найвялікшыя даброты. Але карыстанне падобнымі дабротамі патрабуе ахвяр – у вядомай ступені самаахвяравання з боку кожнага індывіда. Заможны ахвяруе частку сваіх сродкаў на карысць дзяржавы; гэта мае дачыненне да буйнога землеўладання. Усе маюць абавязак падпарадкоўвацца суроваму рэжыму дзяржаўнага жыцця і нават погляды Пестэля на маральнасць адгукваюцца моцным пурытанствам.

Пестэль вельмі клапоціцца пра строгае падпарадкаванне грамадзян адзін раз вызначым правілам і законам. Гэтым вызначаецца яго суровы погляд на пакаранні.

Ды і наогул, у дзяржаве Пестэля вярхоўны ўрад у межах закона павінен быў бы карыстацца дыктатарскімі магчымасьцямі. Ён разумее, што пераўтварэнне

дзяржавы ў пажаданым накірунку, які пераменіць усё яе ўладкаванне, справа вельмі цяжкая. Але будучая дзяржава зможа даць грамадзянам незлічоныя даброты і Пестэль не спыняецца перад думкай пра неабходнасць усталявання часовай дыктатуры ў асобе часовага вярхоўнага ўрада.

Наколькі Пестэль быў схільны да ўсталявання суровага рэжыму, можна зрабіць выснову із недайшоўшай да нас у поўным выглядзе часткі пра дзяржаўны прыказ добраўпарадкавання, г. зн. міністэрства ўнутраных спраў. Патрэбна, аднак, тут зрабіць заўвагу, што гэты твор Пестэля, бяспрэчна больш ранняга паходжання, як і іншыя часткі пра прыказы. Ён утрымлівае рысы, якія Пестэль адкінуў у больш пазнейшых рэдакцыях “Праўды”. Напрыклад, тут мяркуецца папярэдняя цэнзура выданняў, якую Пестэль катэгарычна адкідвае ў пазнейшай рэдакцыі “Праўды“, дзе прызнаеццца свабода друку. Але, магчыма, частка пра гэты прыказ, можа сведчыць, што Пестэль быў схільны выкарыстоўваць у дзяржаве суровую ўладу, сваімі рысамі нагадваючую дзяржавы напалеонаўскага ўзору. На самай справе, тут Пестэль выяўляецца прыхільнікам дастаткова вялікай цэнтралізацыі. Міністэрства ўнутраных спраў назірае за дастаткова дробязнымі праявамі жыцця насельніцтва, якія нават ва ўмовах тагачаснай Расіі знаходзіліся ў межах улады мясцовага самакіравання, напр. гарадзкога. Напрыклад, цэнтральная ўстанова вялізнай дзяржавы назірае за якасьцю харчавання, за гандлёвымі цэнамі. За пабудовамі, за чысьцінёй і прыбіраннем вуліц, за спраўнасьцю мастоў і г. д. Тое ж міністэрства мае дастаткова шырокую чыста паліцэйскую ўладу: назіранне за перамяшчэннямі жыхароў, назіранне за гандлем кнігамі і друкам; пад яго кіраваннем знаходзіцца пакаранне за дробныя ўчынкі, следства па судовых справах, у шмат якіх выпадках яму надаецца права захоўваць


унутраную бяспеку ў выпадках, не вызначаных законам, узмоцнены нагляд за “зламыснымі людзьмі”. Паўтараем, што гэты твор – адзін із самых ранніх. Шмат ад чаго Пестэль адмовіўся пры далейшай распрацоўцы сваёй “Праўды”. Але, бяспрэчна, ён толькі падмацоўвае меркаванне, што Пестэль быў гатовы ўсталёўваць у сваёй дзяржаве даброты, якія яна павінна была даць, суровымі захадамі, нагадваючымі захады напалеонаўскага рэжыму. Пестэль быў вельмі заклапочаны, як мы ўжо ведаем, трываласьцю дзяржавы ў палітычным дачыненні. Дзяржава дае грамадзянам вялікія даброты. Але за гэта асобныя нацыянальнасьці, якія ўключаны ў склад Расійскай дзяржавы, павінны адмовіцца ад сваёй нацыянальнай гісторыі і ўвайсьці ў склад вялікай расійскай народнасьці для таго, каб забяспешыць палітычную бяспеку новай дзяржавы.

Да пытання пра геаграфічныя межы дзяржавы Пестэль, перш за ўсё, імкнецца падыйсьці тэарэтычна.

Ён стварае дзве тэорыі: права народнасьці і права добраўпарадкавання, якія, згодна з яго меркаваннем, павінны вызначыць геаграфічны склад дзяржавы.

Згодна з меркаваннем аўтара "Рускай Праўды" руская дзяржава вельмі прасторная і пагэтаму няма нікай патрэбы пашыраць далей яе межы[340]. Але, з іншага боку, руская дзяржава вельмі разнастайная па складу свайго насельніцтва. Усякая асобная народнасць натуральна імкнецца да незалежнасьці. Гэтае імкненне грунтуецца на праве народнасьці. Але вялікая дзяржава, якая складаецца із шэрагу прямёнаў, павінна турбавацца

-383-

пра бяспеку сваіх межаў. Такое турбаванне вынікае із права добраўпарадкавання. Гэтыя два імкненні вынікаючыя із права народнасьці і добраўпарадкавання – супрацьлеглыя. Пры разгляданні пытання якое права павінна саступіць, неабходна браць да ўвагі як становішча межаў вялікай дзяржавы так і тую абставіну, ці зможа канкрэтная народнасць захаваць сваю самастойнасць. Маламоцныя народнасьці не могуць існаваць самастойна, таму што яны заўсёды патрапяць пад уладу суседніх вялікіх дзяржаў. Для такіх народнасьцей права народнасьці ўяўнае і неіснуючае. Акрамя таго, маленькі народ, які знаходзіцца паміж двума вялікімі народамі служыць арэнай вайсковых дзеянняў паміж двума суседнім вялікімі дзяржавамі. Карацей, такому народу неабходна аб'яднацца з пераважаючай народнасьцю і адмовіцца ад самастойнага існавання. Аднак моцная дзяржава "заўсёды павінна памятаць, што магутнасць ёй дадзена Ўсявышнім не для заціскання суседзей, але для дзеянняў правядных і пагадняючыхся з чыстай справядлівасьцю".

У дачыненні да падначаленых народаў дзяржава павінна турбавацца, "каб яны былі ў дзяржаве не толькі дрэнна прыклееными да яе часткамі, але цалкам зліліся б з яе асноўнай часткай, забыліся б пра сваю папярэднюю не маючую моцы народнасць і з задавальненнем уступалі б у сваю новую вялікую народнасць і, нарэшце, не патрэбна працівіцца варожымі пачуццямі і дзеяннямі правільнаму асобнаму існаванню народа, які можа карыстацца поўнай палітычнай незалежнасьцю".

З гэтай тэорыяй Пестэль падыходзіць да разгляду народнасьцей, якія насялялі Расію. У яе склад уваходзяць шмат якія народнасьці, якія ніколі не мелі палітычнай незалежнасьці і не ў стане ёю карыстацца з

-384-

нагоды сваёй слабасьці. Так Фінляндыя, Эстляндыя, Ліфляндыя, Курляндыя, Беларусь, Маларосія, Новаросія, Бесарабія, Крым, Грузія, увесь Каўказ, землі кіргізаў і сібірскія інародцы, таксама як і некаторыя іншародныя плямёны, якія жывуць унутры Расіі, са старажытных часоў знаходзіліся пад уладай аднаго із суседніх народаў – самой Расіі, Швецыі, Даніі, Прусіі, Польшчы, Турцыі, Персіі. Яны не здольны праз сваю слабасць падтрымліваць самастойнае існаванне. Усе гэтыя плямёны згодна з правам добраўпарадкавання для рускай дзяржавы павінны быць яе складовымі часткамі.

[340] Для спрашчэння межаў ён прапануе далучыць да Расіі Малдавію, увесь Каўказ, землі Кіргіз-кайсакаў да Аральскага мора і Манголію ўключна з Амурам.

падобных руйнуючых як для землеўладальнікаў, так і для сялян пераходаў не было". Што да эканамічных і ўдзельных сялян, то аўтар правільна заўважае, што ўзнагародай за невыплату падаткаў тых хто пакінуў абшчыну застаецца яго зямельны надзел і што плацёж абцяжарыць міграцыю насельніцтва і промыслы. Аўтар заўвагі, нарэшце, выказваецца супраць захавання абшчыны. Згодна з яго меркаваннем, гэта "верны спосаб да застою ў земляробстве – пры агульнай маёмасьці яно ніколі не зможа развівацца".

Відаць Рылееў вельмі ўважліва вывучаў канстытуцыю Мураўёва і зрабіў некалькі заўваг. На жаль, гэтыя заўвагі дайшлі да нас ва ўрыўках, ва ўсякім выпадку, ны вядомы толькі ў такім выглядзе. Мы пакажам асноўную рысу гэтых заўваг. Рылееў лічыў наяўнасць цэнза не адпавядаючым законам маралі, а пры вызваленні сялян лічыў неабходным надзяленне іх не толькі агароднай зямлёй,

-414

але таксама і ворнай[343]. Акрамя таго, у справе Трубяцкога захавалася яшчэ некалькі заўваг на праект Мураўёва, якія належаць невядомаму аўтару. Сутнасць гэтых заўваг зводзяцца да наступнага. Перш за ўсё, аўтар выказваецца супраць сістэмы цэнзаў. Ён выказвае шэраг пярэчанняў супраць таго артыкула канстытуцыі, які вызначае, што цэнз для сяброў верхняй палаты нават больш высокі, чым для сяброў ніжняй палаты. Ён пытаецца: "Што можна чакаць ад палаты, калі ў ёй палавіна сяброў будзе із людзей толькі заможных, а не такіх. Якія сваім розумам, годнасьцямі,і вопытам і павагай да радзімы павінны былі б быць падобнымі на рымскі сенат часоў Піра". Такім чынам, аўтар рэзка падкрэслівае сваё непагадненне з вызначэннем больш высокага цэнза для сяброў верхняй палаты. Ён выказваецца за двухпалатную сістэму, але згодна з яго ўяўленнем верхняя палата складаецца із людзей "адрозніваючыхся розумам, заслугамі, маючых вопыт у выкананні дзяржаўных спраў і адданых айчыне". Такую палату лепш скласьці із пажыццёвых сяброў, "хаця і не заможных, але ўшанаваных". Такая верхняя палата павінна мець вызначаную колькасць сяброў. Новых сяброў на вакантныя месцы прапануе імператар і кожная із палат і абранне павінна быць зацверджана як імператарам так і двумя патамі. "Гэтая палата складаецца із людзей вядомых і будзе лаўравым вянком для ўшаноўваемых людзей. Яна не будзе змяняцца згодна з жаданнем заможнай часткі насельніцтва, не будзе прынімаць і пагаджацца з наяўнасьцю ў сваім асяроддзі невукаў і толькі ў гэтым выпадку будзе цвёрдым абаронцам ад дэспатызму і свавольстваў. Але калі хто-небудзь із яе сяброў будзе западозраны ў супрацьзаконных учынках, тады сябры ніжэйшай палаты

-415-

павінны яму, падобна міністрам, вылучыць абвінавачванне і патрабаваць суду".

Але асабліва цікавыя шэраг заўваг невядомага аўтара па пытанню кантралявання дзейнасьці міністраў і пра памеры ўлады імператара.

Згодна з яго меркаваннем, імператар павінен быць прадстаўніком народа і пагэтаму павінен узначальваць палітычную ўладу. Ён павінен ўзначальваць

[343] "Дзевятнаццатае стагоддзе", т. I, стр. 360.

сухапутнае і марское войска, прызначаць на пасады і, наогул, імератару павінна быць дазволена больш шырокая свабода дзеянняў. У палітычных справах ён не павінен раіцца з сябрамі верхняй палаты. Але, так як асоба імператара ў вачах народа вельмі шанаваная, то сапраўдная ўлада ў яго руках вельмі небяспечная. Пагэтаму імператар павінен дзейнічаць толькі праз пасярэдніцтва сваіх міністраў, якія адказваюць за сваю дзейнасць галавой. Ні адзін загад імператара не можа мець значэння без подпісу міністра. Так, у дачыненні да войска імператар лічыцца яго галоўным начальнікам, але асабіста кіраваць ім не можа, велічыню войска вызначаюць палаты. У абласьцях павінна быць створана асобая міліцыя пад кіраўніцтвам абласных кіраўнікоў. Гэтая міліцыя падпарадкоўваецца выключна парламенту і ён можа абаперціся на яе.

Наогул, заўвагі невядомага аўтара выяўляюць існаванне ў яго вялікай здольнасці да разважанняў і веданне заходне-еўрапейскага ўладкавання. Ён добра прыкмеціў слабыя бакі канстытуцыі М. Мураўёва. Імператарская ўлада ў Мураўёва з’яўляецца ўладай бязлікай. Яна пазбаўлена як адпавядаючага канстытуцыйнаму манарху даверу, так і нават знешняга ўшанавання. Яна вельмі кантралюецца з боку абодвух палат, нават знаходзіцца пад іхным наглядам, а, між іншым, адказнасць міністраў у Мураўёва далёка не вызначана. Выканаўчая ўлада, па сутнасьці, нідзе



не сканцэнтравана. Калі прыняць да ўвагі той недавер, які мела сучасная яму ўлада, то такое стаўленне да яе цалкам зразумела. Але Мураўёў выпусьціў із пад увагі тое, што ён складае канстытуцыю для ўладкавання будучай дзяржавы. Наогул, уся гэтая канстытуцыя з’яўляецца вельмі недасканалым праектам. Адно толькі існаванне цэнза, і пры тым дастаткова высокага, для выбрання на пасаду павінна лічыцца вялікім яе недахопам. Уся сялянская масса аўтаматычна пазбаўлялась бы магчымасьці ўдзельнічаць у палітычным жыцці дзяржавы. Не згадваем ужо пра шматлікія не высветленыя аўтарам пытанні, хаця б, напрыклад, такія кардынальныя пытанні, як вызваленне сялян, склад воласьці і г. д. У ёй не хапае цэласьці светапогляду аўтара. Калі параўнаць уладу ўрада ўсёй краіны і ўладу ўрадаў асобных дзяржаў, то застаецца ўражанне нейкай невызначанасьці. Згодна з духам канстытуцыі дзяржавы павінны мець вельмі шырокую заканадаўчую і адміністрацыйную ўладу, але ў сапраўднасьці канстытуцыі дзяржаў былі вельмі звужаны і не ішлі далей за мясцовую адміністрацыю і гаспадарчыя патрэбы, верагодна, не маючы нават права, напрыклад, выдання мясцовых грамадзянскіх і крымінальных законаў. Цікава, што ў будучым самаму М. Мураўёву правы дзяржаў бачыліся менавіта ў такім выглядзе, а правы імператара, між іншым, уяўляліся яму дастаткова шырокімі, чаго, як мы бачылі, не было на самай справе. У дачыненні да камісіі ён гаварыў, што “яна не заўважыла, што незалежнасць абласьцей не пагаджаецца з манархічнай формай кіравання, зацверджанай гэтай канстытуцыяй і не звяртае ўвагі, не без мэтанакіраванасьці, на тое, што абласныя сходы не былі недзелены дзяржаўнай уладай. Абласныя сходы сярод блізкіх губерній, ведаючы толькі

мясцовымі справамі, садзейнічалі адзінству дзяржаўнага кіравання. Гэтая канстытуцыя не толькі не абмяжоўвала выканаўчую

-417-

ўладу (імператара), але давала ёй свабоду дзеянняў, неабходную для ўсеагульнай карысьці, даручала ёй здзяйсненне дзяржаўных выгод; прызнавала яе неабходны ўдзел у заканадаўчай уладзе і наглядзе за агульным станам судовай справы. Падзяляючы галіны ўлады, яна толькі пазбаўляла выканаўчую ўладу ад пасрэдніцства паміж прыватнымі асобамі, што перадавалася самастойнай судовай уладзе. Такім чынам, спынілася б перамешванне ўладаў, вельмі згубнае ў грамадзкім уладкаванні расійскай дзяржавы”[344].

Зараз мы можам спыніцца на характарыстыцы палітычных поглядаў іншых дзекабрыстаў, якія былі сябрамі таго ж Паўночнага Таварыства. Мы ўжо адзначалі, што тут, побач з рэспубліканскім накірункам не заўсёды падтрымліваемым[345], пераважаў канстытуцыйна-манархічны накірунак. М. Фон-Візін у сваіх нататках так характэрызуе настрой Таварыства: “Большая частка сяброў жадала для Расіі манархічнага ўзору кіравання, абмежаванага прадстаўнічымі інстытуцыямі, на ўзор Англіі і Францыі, але былі і прыхільнікамі рэспубліканскай свабоды Паўночна-Амерыканскіх Штатаў, знаходзячы, што Расія падобна да іх сваімі вялікімі прасторамі і неадпаведнай ім малой колькасьцю насельніцтва, а таксама вядомымі тапаграфічнымі ўмовамі і самім кліматам з паўночнай палавінай Амерыканскага хаўруса”[346].

Ва ўсякім выпадку ў асяроддзі сяброў ішлі вельмі напружаныя спрэчкі з нагоды той ці іншай формы кіравання.

-418-

“Паўночнае Таврыства – апавядае Завалішын – было схільна да манархічнага кіравання і да неабходнасьці сабраць земскі сабор для асьвячэння пераварота агульнай народнай згодай, Паўднёвае патрабавала рэспублікі і дзесяцігадовай дыктатуры, для падрыхтоўкі народа да вольных устаноў. Адны гаварылі, што для народа неабходны тытул цара, іншыя пярэчылі, што рускія самы дэмакратычны народ, што доказваецца перавагай веча над княжай уладай у старажытнасьці і непперайманнем майярата ў навейшыя часы, не гледзячы на ўсе намаганні нават такога гвалтоўнага рэфарматара якім быў Пятро І. Карэнныя рускія абаранялі форму ўнітарызма, поўнага дзяржаўнага адзінства, гаворачы што будзе немагчыма жадаць меншага і горшага, калі ўсім будзе даравана большае і лепшае. Людзі ж нерускага паходжання і некаторыя сябры таварыства Аб’яднаных Славян, якія далучыліся да Паўднёвага Таварыства, патрабавалі федэральнага ўладкавання і, ва ўсякім разе, мясцовага партыкулярызма”[347].

Але, наогул, пераважалі манархісты. Іхныя тэарэтычныя погляды вызначаліся дакладнасьцю, аргументы больш распрацаванымі. Так, згодна з

---

[344] Разгляд справаздач Следчай Камісіі ў 1826 г. М. Мураўёва, “Палярная Зорка”, 1859 г. №5, стр. 60.
[345] Пра гэта глядзіце ў частцы пра Паўночнае Таварыства ў нашай кнізе “Таемнае Таварыства дзекабрыстаў”.
[346] “Грамадзкія рухі ў Расіі ў першай палавіне XIX ст.”, том I, стр. 187.
[347] Нататкі, I, 247.

меркаваннем барона Штэйнгеля, “у Расіі рэспубліка немагчыма і рэвалюцыя з падобнай мэта будзе згубнай”; яго палохала анархія, між іншым, ён лічыў, што дваровыя людзі нават у сталіцы неадкладна накінуцца на сваіх гаспадароў[348].

Але, зразумела, няма ніякай магчымасьці дакладна прасачыць за ўсімі плынямі ў асяроддзі Паўночнага Таварыства. Бяспрэчна толькі адно, што гэтыя плыні былі разнастайнымі і нават з вялікай верагоднасьцю можна выказаць здагадку, што ў асяроддзі гэтага Таварыства пераважаў умеранна-канстытуцыйны напрамак.

-419-

Так, напрыклад, такі значны сябар Таварыства, як М. Тургенеў, пры шырокай грамадзянскай свабодзе, свае жаданні не вёў далей за ўмераную канстытуцыю. Пакажам меркаванне яшчэ аднаго сябра таварыства – Назімава. Ён апавядае, што не аднойчы спрачаўся з князем Абаленскім пра канстытуцыю М. Мураўёва. Ён гаварыў пра апошнюю, што яна “не зручная ў выкананні”, што яна “мае непазбежным наступствам разбурэнне і знікненне Расіі”. Згодна з яго меркаваннем “прымусова ўладкоўваць канстытуцыю, якой бы яна ні была, акрамя ўрада ніхто не мае законнага права”. Пагэтаму Назімаў лічыў “пры ўсталяванні канстытуцыі спачатку захаваць існуючае кіраванне з невялікімі пераменамі; потым, сабраўшы прадстаўнікоў, прапанаваць ім праект канстытуцыі”[349]. На прыканцы і Рылееў спыніўся на меркаванні, што канстытуцыя павінна быць зацверджана на народным саборы.

Із ліку найбольш умеранных сябраў Паўночнага Таварыства, якія пакінулі контуры праекта канстытуцыі. Патрэбна згадаць Бацянкова. Погляды Бацянкова цалкам сфарміраваліся пад уплывам сябраў Паўночнага Таварыства. Рэвалюцыйная хваля захапіла яго не задоўга да 14 снежня. Не дзіўна пагэтаму, што ён стаіць асобна ад іншых дзекабрыстаў.

Бацянкоў быў перакананым манархістам-канстытуцыяналістам. Ён лічыў, што ў Расіі рэспубліка “не зможа ўсталявацца”: народ вельмі прызвычаіўся да манархіі.

-420-

Першапачаткова ён лічыў неабходным усталяваць у Расіі грамадзянскі парадак[350].

На заключэнне Бацянкоў накідаў асноўны план канстытуцыі, якая, згодна з яго меркаваннем, найбольш адпавядала б Расіі. Гэта вельмі ўмеранная канстытуцыя.

Перш за ўсё, ён выказаўся супраць рэспубліканскай формы кіравання. Ён “не вельмі паважае рэспублікі”, таму што ў іх валадарыць дэспатызм законаў. Кідаючы погляд назад на рускае мінулае, Бацянкоў прыходзіць да той высновы, што Расія квітнела тады, калі побач з рускім манархам мела магутнасць “вяльможаства”. Насупраць, калі манарх стаяў адзін на адзін з дэмакратыяй, то

[348] “Грамадзкія рухі”, I, 413.
[349] Сведчанні Назімава, стр. 26.
[350]

для яго знікалі ўсякія перасьцярогі і ён рабіўся тыранам. Просты народ заўсёды задавальняўся жаданнем асабістай свабоды, не шукаючы палітычнага ўплыву. Пагэтаму Бацянкоў лічыў, што ў Расіі патрэбна даць перавагу буйному дваранству шляхам стварэння палаты вяльмож. Яна павінна была б складацца часткова са спадчынных сябраў, часткова із прызначаных гаспадаром пажыццёва прадстаўнікоў свецкіх і духоўных колаў. Потым ён лічыў неабходным стварэнне ніжняй палаты, якая складалася б із дэпутатаў ад гарадоў, ад землеўласнікаў, ад трох універсітэтаў і ад трох акадэмій. Заканадаўчая палата павінна знаходзіцца ў імператара і абодвух палат.

Выканаўчая ўлада павінна знаходзіцца ў руках не адказваючага імператара, які дзейнічае праз адказваючых міністраў і рады.

У галіне суда Бацянкоў лічыў неабходным усталяванне суда прысяжных, пры гэтым судовай уладзе ён лічыў неабходным даць права рэвізіі справаздач, як у справах адміністрацыі, так і ў фінанасавых справах,



зацверджванне прывілегій, правоў маёмасьці і вызначэнне ўзнагароджваемых.

У губерніях Бацянкоў, лічыў неабходным існаванне асобных губернскіх палат, якія збіраліся губернатарамі.

Існуючае ўладкаванне і наогул канстытуцыю Бацянкоў прапаноўваў гарантаваць наступнымі пастановамі. Із гэтых пастаноў адны павінны былі б стымліваць манарха маральна, а другія матэрыяльна. Да ліку маральных гарантый Бацянкоў адносіць наступныя: свабоду друку, незалежнасць судовай улады, вызначэнне пераважаючага веравызнання, уладкаванне цэрыманіялаў, г. зн., верагодна, пад гэтым асярожным выразам патрэбна разумець прысягу імператара на вернасць канстытуцыі, закон пра спадкаемства пасада, закон пра спадкаемства вяльмож, адказнасць міністраў і імператарскай рады. Матэрыяльныя гарантыі захавання канстытуцыйнага ўладкавання выяўляюць існаванне ў Бацянкова крайняга недаверу да маральных абявазацельстваў, якія прынімаюць на сябе манархі. Яны заключаюцца ў наступным: ператварэнне вайсковых паселішчаў у народную стражу, перадача Петрапаўлаўскага ўмацавання пад нагляд горадзкіх уладаў, абмежаванне гаспадара ў магчымасьці самастойнага кіравання сухапутным войскам, заснаванне вяльможных радоў, права віцэ-прэзідэнта збіраць паседжанне палат, калі яны не будуць сабраны манархам на працягу вызначанага прамежка часу, незалежнасць трох універсітэтаў і трох акадэмій, заснаванне абласных палат, ператварэнне некаторых партоў у вольныя гарады, некаторыя асобныя правы горада Масква[351].

Погляды Бацянкова уяўляюць із сябе крайнія правыя погляды ў асяроддзі сябраў Паўночнага Таварыства. Сярод радавітых таварышаў ён адзін, паходзіўшы



іх дробнага нерускага дваранства, падтрымліваў вяльможнасць радоў.

[351] "Мемуары дзекабрыстаў", 144-148.

# Заключэнне.

Высвятляючы погляды декабрыстаў у дачыненні асобных пытанняў, мы рабілі высновы ў нашым выкладанні. Гэта дае нам магчымасць не паўтораць гэтыя высновы[352]. Нагадаем тут толькі ў некалькіх славах галоўныя высновы, якія выцякаюць із папярэдняга выкладання дзяржаўных і грамадзкіх поглядаў дзекабрыстаў.

Яны дзейнічалі ў адну із самых змрочных эпох рускага мінулага. Між іншым, тая ж эпоха для Заходняй Еўропы была калыскай свабоды. Асяроддзе дзекабрыстаў – гэта асяроддзе высока-культурнай часткі тагачаснага рускага грамадства. Гэта людзі – прасякнутыя глыбокім патрыятычным пачуццём, непахісныя прыхільнікі грамадзянскіх свабод. Адукацыя, схільнасць да свабоды і павага да айчыны выкрылі ім тое цяжкае становішча ў якім знаходзілася Расія. Не выпадкова дзекабрысты сталі на шлях рэвалюцыі: у асьвятленні дзекабрыстаў вельмі выразна выступаюць усе адмоўныя рысы тагачаснага ладу, дзекабрысты вынеслі прысуд эпосе, справядлівасць якога не можа аспрэчыць гісторык.

Выпрацаваўшы сваё стаўленне да рэчаіснасьці, думка дзекабрыстаў звярнулася да будучыні. У дадзеным дачыненні ідэалы сябраў Таемнага Таварыства падзяліліся: адны із іх імкнуліся стварыць тып новай дзяржавы, канчаткова парваўшы са старым строем, другія – задавальняліся свабодай канстытуцыйнай манархіі. Ідэалы рэспубліканскай дзяржавы,

-423-

ці канстытуцыйнай манархіі для нас цікавыя таму, што былі распрацаваны самімі аўтарамі праектаў. Мы бачылі, што гэтыя праекты змяшчаюць побач са слушнымі рысамі вольнай дзяржавы і такія бакі, да якіх шмат хто можа ставіцца адмоўна. Так, у канстытуцыі М. Мураўёва ні ў якім разе не могуць быць ухвалены нерашучая пастаноўка сялянскага пытання, невызначанае становішча выканаўчай улады і такое ж невызначанае тлумачэнне сутнасьці федэрацыі. Відаць Мураўёў, грунтуючыся на ўзоры канстытуцыі Паўночна-Амерыканскіх Штатаў блізка падышоў, магчыма падсвядома, да цалкам здаровай і прыймальнай для Расіі думкі пра аблысныя земствы. У дзяржаве Пестэля ўражвае шырыня задум, стройнасць ідэі, але дзяржава Пестэля, для свайго дабрабыту, цалкам падаўляе індывідуалізм нацыянальнасьцей.

---

[352] Не робім такой агульнаў заўвагі нават і для таго, каб не паўтарацца: агульную выснову чытач можа знайсьці ў апошняй частцы нашай кнігі “Таемнае Таварыства дзекабрыстаў”.